# МАЛАДОСЦЬ

ШТОМЕСЯЧНЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС
ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА ЛКСМ БЕЛАРУСІ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Год выдання XI


## У нумары







ЖНІВЕНЬ

1963

Выдавецтва «ЗВЯЗДА»
Мінск

**Пры гэтым нумары — бясплатны дадатак «А ГАРМОНІК ГРАЕ, ГРАЕ...»**

*Вокладка* **В. ШАРАНГОВІЧА.**

**НА ДРУГОЙ СТАРОНЦЫ ВОКЛАДКІ — піянеры электрыфікацыі Беларускай чыгункі. Маладыя камуністы электрамантажнікі Георгі Курыцын і Вячаслаў Сакалоў. Хутка на ўчастку Мінск — Аляхновічы пойдуць першыя ў рэспубліцы электрапаязды.**

**НА ТРЭЦЯЙ СТАРОНЦЫ ВОКЛАДКІ —** *сельскія паштальёны.* **Лена Таўпека** *(калгас* **«Ленінскі шлях»)** **і Тамара Асаевіч (калгас «Пераможца»). На Мядзельшчыне іх ведаюць як лепшых арганізатараў падпіскі.**

Фота **А. Дзітлава.**

Галоўны рэдактар **ПІМЕН ПАНЧАНКА.**


# ЯСНАСЦЬ ВЕЛІЧНАЙ МЭТЫ

Чэрвеньскі Пленум ЦК КПСС па ідэалагічных пытаннях адкрыў новую старонку ў духоўным жыцці савецкага народа. Як неадольная патрэба нашай штодзённасці акрэслена і ясна прагучала на Пленуме слова партыі аб выключнай ролі літаратуры і мастацтва ў барацьбе за розумы і сэрцы людзей, за ідэалы камунізма. У вялікім паходзе да светлай камуністычнай явы трэба пільна дбаць пра чысціню нашай ідэйнай зброі, заклікана гартаваць светапогляд і характар савецкага чалавека, яго маральны воблік і адносіны да жыцця.

Тытанічныя перамогі і здзяйсненні на рахунку савецкага чалавека. Ён першы ў сусветнай гісторыі ажыццявіў найвялікшую сацыяльную рэвалюцыю, знішчыў свет эксплуатацыі і прыгнёту, паказаўшы сваім гераічным прыкладам дарогу іншым народам. На недасяжную вышыню ва ўсіх галінах гаспадаркі і культуры ўзняліся мы за гады Савецкай улады. Новы сацыялістычны свет, аб якім марылі, нараджэнне якога прадбачылі, навукова прадказалі геніі чалавецтва Маркс і Энгельс, свет, ля калыскі якога стаяў вялікі Ленін, стаў рэальнасцю ў нашай краіне. У гарніле велізарных пераўтварэнняў, у бітвах за свабоду і незалежнасць сваёй Радзімы фармаваўся новы, савецкі чалавек, калектывіст па духу, патрыёт і інтэрнацыяналіст, непаўторная, усебакова развітая асоба. Таму вельмі справядлівыя словы Л. Ф. Ільічова, сказаныя ў яго дакладзе на Пленуме ЦК КПСС: «Нараджэнне новага чалавека — свядомага будаўніка камунізма — адно з галоўных дасягненняў партыі».

Новы чалавек!.. Ён сярод нас, ён на заводах і ў калгасах, на цалінных землях і будоўлях Сібіры. Колькі прыкладаў бязмернага, масавага гераізму савецкіх людзей прадэманстравала хоць бы апошняе дзесяцігоддзе нашага жыцця. Дзесяткі тысяч камсамольцаў і моладзі па закліку партыі рушылі на цаліну. Ім прыйшлося нялёгка сярод бяскрайняга, неабжытага стэпу, але яны не адступілі. Яны далі мільярд пудоў цаліннага хлеба, сваімі рукамі збудавалі сотні пасёлкаў, ператварыўшы пустынныя прасторы ў абжыты, культурны край.

Брацкая і Краснаярская ГЭС, Полацкі Нафтабуд, Салігорск і Светла-

горск — колькі такіх слаўных, новых назваў паявілася на карце нашай Радзімы за апошнія дзесяць год! А за кожнай з гэтых назваў жывыя людзі з гарачымі сэрцамі і імкненнямі, людзі, якія, прыехаўшы на будоўлю, меней за ўсё дбалі пра цяпло ўтульных кватэр, пра звычайныя бытавыя выгоды, бо іх, гэтыя выгоды, спачатку трэба было стварыць.

У дні, калі мы яшчэ і яшчэ раз перачытвалі матэрыялы гістарычнага Пленума ЦК нашай партыі, усю краіну абляцела радасная вестка — задзейнічала адна з ударных камсамольскіх будоўляў краіны Саветаў — Полацкі нафтаперапрацоўчы завод. На паўгода раней тэрміну пушчана яго першая тэхналагічная лінія. У адказ на гарачыя словы прывітання ЦК КПСС і Савета Міністраў СССР, што данёс тэлеграф з Масквы на берагі шумлівай Дзвіны, полацкія будаўнікі падмеліся на месяц раней перасунуць тэрмін завяршэння мантажу наступных установак па пераапрацоўцы нафты.

Новы, савецкі чалавек па-новаму думае і адчувае, па-новаму працуе і адносіцца да жыцця. Не вузкі эгаістычны інтарэс кіруе яго паводзінамі і ўчынкамі, а шчырая, свядомая зацікаўленасць грамадскай справай, усім тым, што дзеецца ў вялікім свеце. Толькі так можна зразумець подзвіг Валянціны Гаганавай і тысяч іншых гарачых патрыётаў, у якіх на першым плане — поспех калектыву.

Гэта знамянальна, што Пленум ЦК нашай партыі супаў з хвалюючай і радаснай падзеяй у нашым жыцці — памнажэннем сям'і савецкіх касманаўтаў. Вось яны, сапраўдныя героі нашай сучаснасці — Гагарын, Цітоў, Паповіч, Нікалаеў, Быкоўскі і першая ў свеце жанчына Валянціна Церашкова, што ўслед за сваімі зорнымі братамі ўзнялася ў касмічныя высі. Подзвігі савецкіх касманаўтаў як нельга лепш увасабляюць веліч і гераічнасць нашых дзён, наглядна сведчаць аб харастве і багацці душы нашага сучасніка.

На фоне велічных, радасных здзяйсненняў савецкіх людзей смешнымі і нікчэмнымі ўяўляюцца патугі некаторых, якія нават прэтэндуюць на выключную ўвагу чытача, літаратараў, што выдавалі за герояў сучаснасці так званых «зорных хлопчыкаў», людзей з мізэрнымі душэўнымі імкненнямі, капеечнымі страсцямі і кволымі сэрцамі. Не будзем спрачацца, «зорныя хлопчыкі», што праціраюць падэшвы модных туфель аб гарадскі асфальт, не перавяліся. Але ці ж яны вызначаюць магістральны шлях нашага кіпучага жыцця? І ці, урэшце, такія героі здольны запаліць сэрца чытача прагай подзвігаў, стаць прыкладам для пераймання. Душэўны багаж падобных герояў — панылы скепсіс, танны нігілізм мамчыных сынкоў, аплёўванне ўсяго светлага, што ёсць у нашым жыцці. Вось чаму Пленум ЦК КПСС звярнуў асаблівую ўвагу на неабходнасць паляпшэння ідэйна-выхаваўчай работы сярод моладзі і павышэння ролі ленінскага камсамола ў гэтай справе.

Правільна адзначалася на Пленуме, што сярод маладзёжных работнікаў можна яшчэ сустрэць людзей, якія заўчасна састарэлі, перасталі разумець і няўрымслівасць моладзі і яе імкненне да вялікіх спраў, яе высокую цікаўнасць да ўсяго новага і дапытлівасць. Выхаванне маладога пакалення будаўнікоў камунізма — адзін з галоўных клопатаў нашай партыі і яго баявога памочніка — камсамола. Выхаваць усіх працоўных у духу высокай ідэйнасці і адданасці камунізму, камуністычных адносін да працы і грамадскай гаспадаркі, поўнасцю пераадолець перажыткі буржуазных поглядаў і нораваў, забяспечыць усебаковае, гарманічнае развіццё асобы, стварыць сапраўднае багацце духоўнай культуры — так вызначана галоўная лінія ідэалагічнай работы на сучасным этапе ў Праграме партыі.

Выступаючы на чэрвеньскім Пленуме ЦК КПСС М. С. Хрушчоў з усёй рашучасцю падкрэсліў: «...Мы павінны вырошчваць і ахоўваць усё новае, усё рэвалюцыйнае, усё, што згуртоўвае народ, і рашуча змагацца з тым, што перашкаджае нашаму руху наперад, што перашкаджае згуртаванню нашага народа, што накіравана супраць нашай партыі, яе жыццесцвярджальнай ідэалогіі». Адзначыўшы, што «марксісцка-ленінская ідэалогія, арганізацыйнае адзінства партыі — гэта, вобразна кажучы, цэмент, які згуртоўвае партыю ў маналіт», М. С. Хрушчоў заявіў: «Мы змагаліся і надалей з усёй непрымірымасцю будзем змагацца не толькі з разбэшчанай буржуазнай ідэалогіяй, але і з яе агентурай у нашым асяроддзі, як з агентурай нашых класавых ворагаў».

У выхаванні маладога пакалення будаўнікоў камунізма адказная роля належыць літаратуры і мастацтву. Слова пісьменніка павінна весці і клікаць да новых жыццёвых вышынь. Пісьменнік не проста піша, у мастацкіх творах ён увасабляе свой эстэтычны ідэал, сваё разуменне жыцця і ўсяго таго, што ў гэтым жыцці з'яўляецца, на яго думку, найлепшым, вартым пераймання. У добрым мастацкім творы павінна быць выразна бачна грамадзянская, партыйная пазіцыя пісьменніка, г. зн. тое, што ён сцвярджае і што адмаўляе.

Ідэйныя хістанні, якія праявіліся сярод некаторай невялікай часткі літаратараў, сведчаць аб тым, што яны забылі простую ісціну — у свеце ідзе бязлітасная класавая барацьба. Літаратура, мастацтва — на пярэднім краі гэтай барацьбы, і нам ні на хвіліну нельга забываць аб тым, што мірнае суіснаванне ідэалогій немагчыма. У бітве за сэрцы і душы трэба ў чысціні трымаць ідэйную зброю, яшчэ вышэй узнімаць сцяг партыйнасці і народнасці савецкай літаратуры і мастацтва.

Партыя рашуча выкрыла і асудзіла культ асобы Сталіна. У нашым савецкім грамадстве пануюць ленінскія нормы жыцця, адносін да чалавека, сапраўдны сацыялістычны гуманізм. Барацьба ідзе не супраць людзей, а за людзей, супраць дрэнных, шкодных ідэй, за высокія камуністычныя ідэалы.

«Нідзе ў свеце няма такой магутнай жыццесцвярджальнай літаратуры і такога мастацтва, як у Савецкім Саюзе,— гаварыў М. С. Хрушчоў на Пленуме.— Вось чаму ідэолагі імперыялізму так настойліва спрабуюць уздзейнічаць на нашу творчую інтэлігенцыю, каб збіць яе з правільнай дарогі. Яны ідуць на розныя хітрыкі, каб усяліць у асяроддзе нашых пісьменнікаў, кампазітараў, мастакоў, дзеячоў тэатра, кіно няўпэўненасць у вялікай сіле іх творчасці». І пад бурныя, працяглыя воплескі ўдзельнікаў Пленума Мікіта Сяргеевіч заявіў: «Партыя ганарыцца савецкай творчай інтэлігенцыяй, гатова пастаяць за яе і ніколі не дасць яе ў крыўду».

Каб адказаць на гэты клопат партыі пра творчую інтэлігенцыю, яна павінна папрацаваць з новым напружаннем сваіх духоўных сіл. Чытач чакае ад савецкіх пісьменнікаў кніг, якія на поўную мастацкую сілу адлюстравалі б веліч гераічнай эпохі будаўніцтва камунізма, на поўны рост паказалі героя нашай сучаснасці. Найпершы абавязак пісьменніка — у мастацкіх вобразах адлюстраваць тое новае, што ўвайшло ў наша жыццё за апошнія гады, калі перад намі адкрылася эра светлай камуністычнай явы. Будзьма ж вартымі гэтай вялікай і высакароднай задачы!

**Іван НАВУМЕНКА.**



**Анатоль ГРАЧАНІКАЎ**

# СОНЕЧНЫ ЗВОН

Вяртацца да былога вельмі цяжка,
Дакладней, не вяртацца, а наведаць
Мясціну тую, дзе тваё дзяцінства
Знянацку сутыкнулася з няшчасцем.
А я прыйшоў. І ў памяці ўсплывае,
Адточаны бяссоннымі начамі,
Сямігадовай даўнасці малюнак.
... Лязо кастра галіны з трэскам рэжа,
І галасы сяброў не заціхаюць
Каля агню. Адкуль было нам ведаць,
Што пня сухога корань вузлаваты
Нясе агонь, як шнур вогнеправодны,
Ажно ў зямлю, да захаванай смерці.
— Талян, твая чарга...
Бягу я па ламачча. Цягну галлё.
Ды раптам яркім слупам
Касцёр імкліва шугануў угору,
Мяне, як быццам дошкаю наводмаш
Ударыла. І я, нібы асколак,
Са свістам рассякаючы паветра,
Лячу у цемрадзь ночы з кургана.



І знікла ўсё. Не бачыў і не чуў я,
Калі і як прыбеглі нашы маткі
І ўпалі скамянелыя ад гора...

★

Ачнуўся я ад холаду і болю
Паміж балотных парыжэлых купін.
Здзіўленне узняло мяне на ногі,
Ускрыкнуў я ад жудаснага страху,
Калі адчуў, што іх ужо ўсмактала,
Нібыта дзёгаць, ліпкая дрыгва.
Яшчэ курган, нібы вулкан, дыміўся,
І сонца, абапёршыся на промні,
Здавалася, вылазіла з яго.
Раса блішчэла буйная, як слёзы,
І вольхі з недалёкага узгорка
Працягвалі ка мне свае галіны
І голавы хілілі са спагадай.
Знямелы, я рвануўся ўсёй істотай,
І вырваўся, і выпаўз на пагорак...
Няўцям было мне, што цяпер ніколі
Сваіх сяброў не ўбачу. Не пачую
Іх галасы. Што з іх ніхто не прыйдзе
У хату нашу. І не запытае:
— А Толя дома?— як было раней.
Падняўся я, хоць галава звінела,
Звінелі рукі і звінелі ногі,
І сонца, быццам звон вялізны медны,
Звінела аднастайна і тужліва
У сіняй, сіняй, звонкай цішыні.
Падняўся я. Пайшоў насустрач сонцу,
Туды, дзе пакручастаю істужкай
Шаша вілася і за лугавінай,
Напэўна, прыліпала к небасхілу.

★

Успамінаю
Маці твар збялелы,
Суседкі плачуць на куце у хаце,
А на парозе, нібы з таго свету,
Запэцканы увесь з'явіўся я.
Дарэмна нешта у мяне пыталі,
Не мог я гаварыць, як ні стараўся,
А жэстамі яшчэ не навучыўся...
Я рос адзін. І спачувальна неяк
Дарослыя галовамі ківалі,
І ціха дзеці меншыя глядзелі,
Павольна абыходзячы мяне.
Я спаў трывожна. Часта сярод ночы,
Стаіўшыся пад саматканай коўдрай,
Я чуў, як маці плакала наўзрыд.
І мо таму я вырашыў падацца
І зараз сам не ведаю — куды.
Я помню, што да станцыі прыбіўся.
І грымнуў гром. Запозненым ён рэхам
Ад выбуху, які я чуў і бачыў,
Быў для мяне. І я, слабы і мокры,
Знайшоў сабе прытулак у вагоне.
І сталі дні пустымі, як вагоны,
На запасных рамонтных тупіках.

Грымеў, гудзеў, дрыжэў завод гарачы,
А я дрыжэў ад холаду ў вагонах,
А раніцаю тупаў да пасёлка.
Ў кішэнях вербалозныя свістулькі
Чакалі збыту. Я іх нёс падлеткам,
А самую званчэйшую трымаў я
У тонкіх, тонкіх, высахлых руках.
І жыхары рабочага пасёлка
Глядзелі на мяне, нібы на бога:
— Хлапчук нямы, а як цудоўна грае!..
Свістулькі — хлеб. Свістулькі — існаванне.
Відаць, я граў на ім так мілагучна,
Што дзеці на'т пераставалі плакаць,
Затое слёзы выцíралі цёткі...
Здарылася, што мой вагон падалі
У цэх аднойчы проста сярод ночы,
І я забегаў па пустым вагоне,
Як ваўчанё, зачыненае ў клетцы.
Ажно спужаўся незнаёмы дзядзька,
Якога я, напэўна, напалохаў,
Спрабуючы праскочыць непрыкметна
Да вузкіх, адамкнёных ім дзвярэй.
Хто я такі, ён, пэўна, здагадаўся,
Бо без ваганняў падхапіў на рукі,
Ды і панёс мяне у цемень ночы...
Гайдалася зямля, нібы калыска,
А ў небе пераміргваліся зоры.
Я на руках надзвычай цёплых, дужых,
Адчуў сябе бяссільнаю істотай,
Якая, на зямлі спазнаўшы гора,
Цяпер ступіць баіцца на зямлю.
Рабочы клапатліва, асцярожна
Прынёс мяне дамоў к сабе. Пад'еўшы,
Упершыню за час сваіх бадзянняў
Заснуў нарэшце сном спакойным я.

★

Я стаў чужому чалавеку сынам.
Усё мацней ён да мяне гарнуўся,
А я збіраўся ад яго ўцячы.
Аднойчы ён прыйшоў з работы позна,
Падвыпіўшы і вельмі гаварлівы,
Мяне узяў на моцныя калені
І гутарыць пачаў з самім сабой:
— Мінула мне сягоння паўстагоддзя,
Ці не таму, што я равеснік веку,
Мяне збярог ён, хоць пяць год я роўна
Быў на граніцы смерці і жыцця.
А для чаго?
Дадому каб вярнуцца
І стрэціцца з жахлівай цішынёю
Пустых пакояў? Як я спадзяваўся.
Як бег дадому... Толькі кожны крок мой
Мяне няўмольна аддаляў ад шчасця.
Мой сын!.. Ніколі я яго не бачыў,
Ды ён чамусьці сніцца мне начамі
Гарэзлівы, на матчыных руках...
Я слухаў гэту споведзь чалавека,
Прыпамінаў загінуўшага бацьку,
Якога б я напэўна не пазнаў,
І расціраў рукой па твары слёзы.
— Сынок, ты плачаш?
Значыць разумееш?
Сынок, ты чуеш?
Я ў адказ кіўнуў.

★

А потым у бальнічнае палаце,
Як крыж жывы, увесь забінтаваны,
Паўгода я, знямелы, праляжаў.
Аднойчы, каб не разбудзіць суседзяў,
Без стогну я прамовіў слова «мама»
Няўпэўнена, нібыта немаўля.
А потым гучна крыкнуў:—Мама, мама!
Я словы чуў. Я сам сабе не верыў.
Не памятаю — плакаў, ці смяяўся...
Успыхвалі здзіўленне і надзеі
Ў вачах такіх гаротнікаў, як я.
Я расказаў усё ўрачам уранні,
А днём машына «хуткай дапамогі»
Даставіла ў бальніцу маю маці.
— Не верыла, не верыцца, сынок мой,
Сыночак, бачыш, я ужо не плачу, —
Усе я слёзы выплакала ў горы.
Я рада так, як чалавек, якому
Зрок страчаны вярнулі нечакана...

★

Гудзеў гудок, гайдаючы фіранкі,
Гудзеў гудок і адгукаўся ў сэрцы,
І вось аднойчы раніцай паклікаў
Мяне ў прасторны механічны цэх.
Я вучань быў някемлівы, нясмелы,
Большназіраў за каляровай стужкай,
Чым за рукамі залатымі
Майго настаўніка. Ён мякка усміхаўся,
Прыкурваў ад нагрэтае дэталі
І гаварыў:— А ну-тка сам, сынок!..
А дні ішлі. І вось станок рахманы
Запеў нясмела па майму загаду.
Запеў станок. Запела маё сэрца.
Запелі птушкі за акном ля цэха.
Запелі хлопцы, ідучы з работы,
Якія хоць былі ужо са стажам,
За прахадной страчаліся з дзяцінствам,
Рабіліся зноў вучнямі у класах
Вячэрняй школы. Так жыццё ляцела
Напружана, нібыта скоры поезд,
Які з раскладу выбіла вайна.
Я нездарма лічыў сябе дарослым —
Упершыню пайшла на пошту маці,
Каб атрымаць не пенсію за мужа,
А дапамогу першую ад сына.

★

І вось я зноў у родны кут вярнуўся,
Вярнуўся для таго, каб развітацца,
Таму што я ў ваенкаматных спісах

Ў армейскае залічан папаўненне.
Які спакой і цішыня навокал!
Нібы ніколі не грымеў той выбух
І тут не абарвалася навечна
Гаворка і жыццё сяброў маіх.
Нібы ніколі не лавіў паветра
Я выкінутай рыбінай на бераг
Тут недзе на ускраіне балота.
А сонца толькі-толькі узыходзіць,
Выглядвае з-за кургана нясмела,
Бы ў роздуме: ці варта узнімацца?
Не бойся, сонца!
Выбуху не будзе,
Не прыйдзецца табе за хмары бегчы
На паламаных мыліцах-праменнях.
Ты мудрае. Ты добрае. Заўсёды
Чужынцаў ты няпрошаных сляпіла,
Заходзячы ж за небасхіл крывавы,
Ты зноў нам несла раніцы надзей.
А навакол і днямі і начамі
Гарэлі пушчы, гарады і вёскі.
Здаецца, й зараз асядае попел
Былых пажараў на маю зямлю...
О, як табе я радаваўся, сонца,
Калі ў зямлянцы, выбеленай цвіллю,
Знаходзіла ты хворага мяне!
Не крыўдаваў я, што гасціла мала,
Было зямлянак многа. І у кожнай
Жадала ты хоць крышку пабываць...
Мне не забыць, як людзі жартавалі
На уходзінах у новай нашай хаце:
— Калі і сонца ў госці завітала,
То ў хаце гэтай шчасцю векаваць!
І вось іду я, за спакой адказны,
І перад тымі, для каго зайшло ты,
І перад тымі, для каго ўзышло,
І перад тымі, для каго узыдзеш
Упершыню аднойчы ціхім ранкам...
Вы бачылі, як узыходзіць сонца?
Вы чулі, як звініць яно у небе
Жыццесцвярджальна, велічна, трывожна,
Працягвае да нас праменні-рукі
І дзеці ловяць промні і смяюцца?

доў. Здзіўляла не тое, што ў Гнілавостраве спынілася на сталае жыццё чужая жанчына. І раней бывалі выпадкі, калі тут хаваліся незнаёмыя людзі. Але ўсе яны былі падобны на саміх гнілавостраўцаў і таму не выклікалі асаблівай цікавасці. Жанчына ж, што паявілася ў вёсцы, была іншакшая, як бы з другога свету. Па-першае, і гэта асабліва кідалася ў вочы, яна была коратка падстрыжана і хадзіла без хусткі, з голай галавой. Па-другое, раніцай яна вядзьмарыла на Яўпраксіным гародчыку: махала рукамі, кланялася бярозе, не згінаючы ног у каленях, а пасля аблівалася халоднай вадой са студні. Мужчыны кляліся, што стрыжаная жанчына вядзьмарыць у чым маці нарадзіла. Але мы аднойчы, перамагаючы жудасны страх, падгледзелі, што чужая цётка сяк-так прыкрытая. Па-трэцяе, і гэта было самае страшнае, яна была прыгожая, зграбная, насіла не саматканую вопратку, а крамную: белую кофтачку і кароткую сінюю спадніцу, і гэта вельмі абурала гнілавостраўскіх жанчын.

Дзён тры гнілавостраўцы толькі і гаварылі, што пра гэтую незвычайную жанчыну. І хоць усе ведалі, што жанчына прыехала вучыць дзяцей, што ў яе недзе ў горадзе ёсць муж і дачка, неспакой і трывога апанавалі людзей. Асабліва ўстрывожыліся людзі пасля таго, як Еркаў дзед, белабароды і лысы Купрыян, вычытаў у бібліі, што настаў канец свету і на Гнілавостраў паслана богам блудніца вавілонская, каб помсціць людзям за іх грахі.

Пад вечар, калі чырвонае, яркае сонца хавалася за вяршаліны сосnaў на Ведзьмінай выспе і мільярды камароў таўклі над балотам мак, гнілавостраўскія жанчыны рушылі да Яўпраксінай хаты выганяць блудніцу вавілонскую з вёскі. Мы, вясковыя хлапчукі ў даўгаполых кужэльных кашулях, хаваючыся за плятнямі, цікавалі за сваімі маткамі.

Жанчыны, усе ў чорным, у нізка павязаных хустках, з-пад якіх злосна зыркалі вочы, ішлі па вуліцы моўчкі; так ходзяць за трунай. Наперадзе іх сунуліся па пяску такія ж чорныя злавесныя цені. На Яўпраксіным гуменцы яны спыніліся. Было вельмі ціха, нават глуха. Потым пранізліва зарыпелі дзверы, і на парозе Яўпраксінай хаты паявілася жанчына, Вера Мікалаеўна. Яна была ў той жа белай кофтачцы і ў кароткай, па калені, сіняй спадніцы.

Вера Мікалаеўна пайшла насустрач жанчынам, неяк вельмі лёгка прымінаючы доўгімі нагамі густую атаву гуменца. Крок у яе быў рашучы, а вочы жмурыліся, бо сонца сляпіла іх яркім святлом.

— Вельмі добра, што вы прыйшлі, — сказала Вера Мікалаеўна.

Голас у яе быў мяккі, напеўны, а не скрыпучы, як ва ўсіх вядзьмарак. Яна ішла проста на жанчын, і тыя пачалі адступаць, збівацца ў цесны, напуджаны гурт. Тады Вера Мікалаеўна загадала ім:

— Прашу сесці. Мне трэба з вамі пагаварыць. Ну-ну, сядайце, расы яшчэ няма.

Падуладныя яе голасу, мяккаму, але настойліваму, жанчыны неахвотна селі. А яна стаяла перад імі, і сонца асвятляла яе прыгожую постаць. Потым яна падняла руку, папраўіла валасы і пачала гаварыць умеру гучна, але не крыкліва:

— Мяне паслаў да вас пралетарыят Расіі, што скінуў цара, выгнаў буржуяў і паноў, а іх фабрыкі і землі аддаў рабочым і сялянам. Буржуі ўсяго свету хацелі знішчыць пралетарскую ўладу. Яны чатыры гады лезлі на нас са зброяй у руках, але ім не ўдалося вярнуць цара і старыя парадкі: пралетарыят перамог. І вось цяпер ён паслаў мяне вучыць вашых дзяцей. Пралетарыят хоча, каб усе дзеці ўмелі чытаць, пісаць і лічыць.

Мы ўсё смялей высоўваліся з-за платоў, і Вера Мікалаеўна нарэшце ўбачыла нас.

— Хадзіце сюды, дзеці, — паклікала яна, і мы, яшчэ баючыся і чамусьці ўпершыню саромечыся свайго несамавітага выгляду, нясмела падышлі да яе. — Хочаце вучыцца, дзеці?

Яна запыталася адразу ва ўсіх, і таму мы прамаўчалі. Вера Мікалаеўна адказала за нас:

— Вядома, хочаце. Вось вы, жанчыны, не ўмееце ні чытаць, ні пісаць. Усяго баіцёся, бо цёмныя людзі. У вас, Васіліна Захараўна, было адзінаццаць дзяцей, а засталося трое, — гэта яна сказала да маёй маці, і я вельмі здзівіўся, што настаўніца называе яе па імю і па бацьку.— А чаму яны памерлі? Бо вы іх не да ўрача, а да шаптухі насілі.

— Бог даў, бог і ўзяў, — сказала маці.

Настаўніца як бы не пачула гэтых слоў.

— Вывучыцца ваш сынок, Васіліна Захараўна,— гэта яна пра мяне сказала, і я затаіў дыханне, бо мне хацелася быць такім, як той гарадскі фокуснік, але Вера Мікалаеўна дадала, — на доктара. Будзе вас лячыць, каб вы і ў семдзесят бадзёра сябе адчувалі.

Потым Вера Мікалаеўна звярталася да кожнай жанчыны і абяцала вывучыць яе дачку або сына то на настаўніцу, то на швачку, то на лётчыка. Нашы маткі хутка заспрачаліся, бо ўсе хацелі, каб іх дзеці мелі самую выгадную прафесію, і ніхто не жадаў, каб сын лятаў у паднябессі, як анёл, таму што бог абавязкова раззлуецца і скіне на зямлю.

— Дык вось, жанчыны, рыхтуйце дзяцей у школу. Заўтра парты прывязуць, а паслязаўтра пачнем, — сказала яна на развітанне.

## 2

У школу нас не пусцілі. Помню, як мой бацька крычаў на маці, прыехаўшы з поля:

— ...А вы і раты паразяўлялі. Сягоння дзед Купрыян у скіце пабываў. Старац наказаў, каб нікога ў школу не пускалі. Усіх дзяцей на мыла варыць будуць, каб камісаравыя жонкі хадзілі з белымі тварамі. Во яна і стараецца...

Мы ўсё ж пабывалі ля школы. Стаіўшыся за густымі агрэставымі кустамі, глядзелі, як доўга стаяла настаўніца на ганку, выглядаючы вучняў. Але ніхто не пайшоў, бо баяліся не скіцкага старца, які жывы ляжаў у труне, а тых, хто хаваўся пры ім у скіце. Не дачакаўшыся вучняў, Вера Мікалаеўна пайшла ў хату. Праз акно мы бачылі, як яна стала ля дошкі і нешта пачала пісаць на ёй. Мы здагадаліся, што яна вучыць аднаго Цімоха, Яўпраксінага сына, і трохі зайздросцілі яму, але больш злаваліся на яго — здраднік.

Людзі заўважылі таксама, што Вера Мікалаеўна раз у тыдзень некуды адлучаецца з вёскі. Неўзабаве нехта дазнаўся, што настаўніца ходзіць у валасць на сходы. Гэта зноў здзівіла ўсіх: «Жанчына ды каб парцейная. Чакай цяпер якога ліха».

Гнілавостраўцы стаіліся. Нас, дзяцей, не выпускалі на двор. Школа пуставала, і ўсе чакалі, што настаўніца доўга не ўседзіць без работы, уцячэ з вёскі. А выйшла не так, як думалі.

Аднаго разу ў вёсцы паявіліся старшыня валвыканкома Ясючэня, начальнік часці асобага назначэння латыш Ланге і барадаты, у пенснэ на ланцужку, доктар Радзевіч.

Гнілавостраўцы сабраліся на Яўпраксіным гуменцы. Стаялі, зняўшы шапкі, як у даўнія часы, чакалі, пра што будзе гаварыць начальства.

Першыя замаразкі пачарнілі ўжо лістоту і траву. Затое на сугрэве



асабліва ярка чырванелі гронкі рабіны. Чырвоны колер як бы асвяжаў панылы Гнілавостраўскі пейзаж.

Чакаць давялося не доўга. Хутка з хаты паявіліся прыезджыя, а з імі Вера Мікалаеўна. Камлюкаваты дзябёлы Ясючэня гаварыў мала, але людзі зразумелі, што ўпарціцца далей не выгадна, бо можна зарабіць штраф, калі не пусціш дзяцей у школу. Затое другая аб'ява нарабіла шуму: Ясючэня абвясціў, што вось тут, проста на гуменцы, усе гнілавостраўцы павінны прывіць воспу.

Гэта, як і курэнне, лічылася ў гнілавостраўцаў вялікім грэхам. Але мне здавалася, што людзі больш баяцца не грэху, а болю і ўрача. Мабыць, адчула гэта і Вера Мікалаеўна, бо закасала рукаў блузкі і першая падышла да барадатага ўрача. За ёй зрабіў прывіўку Цімоша і яго маці Яўпраксія.

Навіны адна за другой абрушваліся на гнілавостраўцаў, нібы на лес вясновыя вятры, што разганяюць туманы. Не паспелі гнілавостраўцы ачомацца ад прывівак, як пранеслася чутка, што настаўніца пайшла ў скіт. Ніхто не хацеў верыць, што яна вернецца адтуль. Але назаўтра, у панядзелак, Вера Мікалаеўна, як і заўсёды, была ў школе. Мы пазіралі на яе з бояззю і недаверам: старыя людзі казалі, што ўсе, хто пабывае ў скіце, робяцца інакшыя. Вера Мікалаеўна, здаецца, не перайначылася.

А яшчэ дзён праз чатыры ў вёсцы паявіўся сівы і нейкі зеленаваты ад старасці скіцкі старац Амвросі. Ён ішоў з доўгай сукаватай палкай, і жанчыны, прыціскаючы да вачэй хусткі, кланяліся яму і галасілі на ўсю вуліцу.

Спыніўся дзед Амвросі ля хаты самага багатага ў Гнілавостраве мужыка Епафрадзіта Таркайлы, пастукаў кіем у сінія аканіцы. Спачатку ў акне паявілася доўгая, белая барада Епафрадзіта, потым усе ўбачылі яго напужаныя шэрыя вочы.

Пасля, калі Епафрадзіт паявіўся на ганку, — рукі за папругай, а на галаве малахай, — ён быў ужо спакойны, як бог перад сусветным патопам, калі загадваў Ною зрабіць каўчэг. Да самага таго часу Епафрадзіт быў для Гнілавострава богам, бо ён выконваў абавязкі стараверскага папа.

— Пашто мірам асквярняеш вочы свае і нагамі топчаш не кушчы райскія, а грэшную зямлю нашу? — пачаў ён і асекся, бо дзед Амвросі нечакана для ўсіх «асквярніў» вусны свае лаянкай, якой мы даўно ўжо не чулі.

Нас, дзяцей, прагналі, і толькі пазней мы даведаліся, што Амвросі са сваім братам Епафрадзітам у восьмым годзе абрабавалі і спалілі маёнтак панка Залуцкага. Іх злавілі, і тады Амвросі ўзяў усю віну на сябе. Яго саслалі на катаргу, а Епафрадзіта выпусцілі на волю. Золата памагло яму разбагацець, стаць папом у гнілавостраўскай царкве, рубленай з нячэсаных дубовых кражоў. Перад самай рэвалюцыяй Амвросі ўцёк з катаргі, і вось тады яго брат багацей пабудаваў яму скіт за Ведзьмінай выспай на ўскрайку Талынскага возера.

Амвросі не ведаў, што была рэвалюцыя, што цяпер яго не вернуць ужо на катаргу, таму і дажываў свой век, лежачы ў труне. Мабыць, Вера Мікалаеўна адкрыла яму вочы на праўду, і вось цяпер браты сышліся ў лютай сварцы.

## 3

Усю зіму гнілавостраўцы рубілі з соснаў будынак школы. Пасля урокаў мы беглі на будоўлю, збіралі тоўстыя смалістыя трэскі. Часам туды прыходзіла Вера Мікалаеўна. Яна моўчкі назірала, як доўгабародыя бо-

гападобныя браты Мініны распілоўваюць на высокіх козлах калоды. З-пад шырокай, крывазубай пілы сыпаліся на снег буйныя, як шрот, апілкі.

— Школа-та хвацкая будзе, на ўсю-та акругу, — крычаў зверху старэйшы Мінін, Нупрэй, і весела паблісквау белымі зубамі.— Шкада, што самі-та павырасталі, а то добра было б пасядзець за кнігай.

— З новага года ўсе вучыцца будуць, — абяцала Вера Мікалаеўна.

— Нам-та ўжо трохі позна,— няўпэўнена адказваў малодшы Мінін.— Мы-та і так веку дажывем...

Будаўніцтва школы на доўгія гады раздзяліла гнілавостраўцаў. Адны, такія, як Мініны, Смірновы. Канавалавы, сталі на бок настаўніцы, другія — Таркайлы, Іпатавы — толькі сціскалі зубы ад злосці. У вёсцы ішла непрыкметная воку, мірная вайна. Яе можна было заўважыць хіба па дзецях. Мы ваявалі ўсур'ёз, бо хітраваць, як дарослыя, не ўмелі. На прадвесні, калі мякчэў хрусткі снег, мы зацята біліся снежкамі. Здаровыя камлюкаватыя іпатаўцы закатвалі ў снег ледзякі. Ад такіх снежак мы ўцякалі, але не здаваліся.

Вайна спынілася нечакана, калі пачаліся работы ў полі. Школа таксама апусцела да самай восені. Вера Мікалаеўна паехала. Здавалася, усё вярнулася ў сваю звычную каляіну. Епафрадзіт Таркайла часцей, чым у мінулыя гады, правіў заутраны, абедні і навячэрні, а нас, хлапчукоў і дзяўчынак, што хадзілі ў школу, прымушаў спяваць трапары і каноны. Мы з нецярпеннем чакалі пачатку вучобы.

## 4

Новая школа была адчынена на пакровы. Раней гнілавостраўцы не пусцілі дзяцей на вучобу — нельга, пакуль не кончыцца ўборка.

У той год ужо было два класы. Памятаю, Вера Мікалаеўна, як бы памаладзелая пасля адпачынку, доўга расказвала нам пра дзіўнае мора, і кожны падоўгу слухаў, як яно шуміць у гладкай ружаватай ракавіне. Потым яна гаварыла пра тое, што будзе на месцы Гнілавострава, калі мы вывучымся і станем дарослыя: палі без межаў, а на асушаным балоце будуць працаваць машыны, што самі ўмеюць араць, сеяць і малаціць. Мы гатовы былі хоць зараз ісці руйнаваць межы, і толькі Лістрат Іпатаў усміхаўся сваёй дурнаватай недаверлівай ухмылкай. На перапынку мы добра палічылі яму рэбры, і ён здаўся.

Вера Мікалаеўна засталася жыць у Яўпраксіі, і кожны дзень дзяжурны па школе памагаў ёй адносіць вучнёўскія сшыткі дамоў. У той пахмуры, слотны дзень дзяжурства выпала на маю долю. Не помню чаму, але мы затрымаліся ў школе. Я быў у баковачцы, ставіў у шафу чарніліцы-невылівайкі, а Вера Мікалаеўна збірала ў стосік сшыткі, калі ў школу прыйшоў Епафрадзіт Таркайла.

На ім быў шырокі парусінавы балахон з башлыком і балотныя, за калена, боты. Ён стаў ля дзвярэй, абапёршыся мокрым плячом аб вушак.

— Прыйшоў з вамі пагаварыць па-харошаму, — пачаў Епафрадзіт, і яго маленькія вочы прыкрыліся густымі вейкамі. — Мы з вамі, Вера Мікалаеўна, людзі разумныя, і таму хочацца пагутарыць без хітрыкаў, напрасткі, як кажуць.

— Ну што ж, давайце. Можа сядзеце?

— Нам стаяць больш спадручна, — але ён сеў на парту насупраць настаўніцы. Праз шчыліну мне добра відаць былі абое.



— Пра што ж мы будзем гаварыць, Епафрадзіт Міленцевіч? — запыталася настаўніца.

— Хачу вам пра нашых людзей расказаць. Вы тут, Вера Мікалаеўна, чужая, законаў нашых не ведаеце. Дзяды нашы сюды, на Беларусь, з Клязьмы ад ганенняў на веру нашу стараверскую даніканіянскую ўцяклі. Звычкі нашы свой пачатак ад самаго Уладзіміра святога Кіеўскага бяруць. Яны, як скала, — вякі мінулі, а не змяніліся. Ні цар, ні яго міністры і генералы разам з папамі-ніканіянцамі нічога зрабіць не маглі. Гэта вы помніць павінны.

— Я знаю гісторыю старавераў, але не разумею, навошта вы мне яе расказваеце?

— А вось навошта. Я, канечне, добра разумею, што і кнігачытанне, зноў жа пісьменнасць і арыфметыка чалавеку патрэбныя і богаўгодныя.



Вось і давайце дамовімся, што гэтаму будзеце вучыць дзяцей. А супраць веры нашай нічога не кажыце. І парадкі не чапайце. Мы вам будзем павек жызні дзякаваць, і жыць вы ў нас будзеце ціха і мірна. Потым, чуў я, што вы пра камунію людзям гаворыце... Не трэба... У нас свая камунія, стараверская, і другой мы не хочам. Вы, значыцца, сваёй мяжы не пераступайце, а мы сваёй. Людзям трэба ў міры і згодзе жыць.

— А калі я не згодна? — запыталася Вера Мікалаеўна, і твар яе паблякнеў.

— Ну, тады наракайце на сябе. Край у нас цёмны, глухі. Адзін бог за людскія справы і помыслы ў адказе.

— Значыць, вайна?

— Чаму ж, мірна трэба дамовіцца.

— Мірная вайна... Ну што ж, я згодна.

— А дазвольце пацікавіцца, навошта вам рызыкаваць? Што за карысць? Можа вы пагарачыліся, дык я не падганяю. У такіх справах не трэба спяшацца.

— Не, я ўсё абдумала. І я раю вам, грамадзянін Таркайла, не стаяць упоперак на нашым шляху. А што папярэдзілі, дзякую...

Епафрадзіт Таркайла ўстаў. Ягоны голас стаў рыпучы і незнаёмы:

— Толькі не ўздумайце скардзіцца: я начыста адракуся ад сваіх слоў, а сведак у нас няма.

Ён пайшоў. Было чуваць, як за сцяной гулка чаўкаюць ягоныя цяжкія боты. Я нясмела зазірнуў у клас. Вера Мікалаеўна, быццам нічога не здарылася, складала сшыткі ў брызентавую сумку.

## 5

У канцы сакавіка, апошнімі маразамі, у вёску прыехаў дзіўны, доўгі, як жэрдка, чалавек у бліскучай хромавай скуранцы. Быў ён калючы, як ажынавы куст. Нізка прыгінаючы галаву на парозе школьных дзвярэй, ён укуліўся ў клас на апошнім, чацвёртым уроку. Мы, як і належыць, гулка застукалі вечкамі парт — усталі. Даўгалыгі махнуў рукой.

Такога цікавага, трохі страшнаватага дзядзьку мы бачылі ўпершыню. Ён дыбаў па класе, смешна прысядаючы ў каленях, кудлаціў чорныя, пакручастыя валасы і ўвесь час дудзеў, быццам гаварыў у пустую бочку. Нам здавалася, што ад гэтага гучнага голасу пачала глухнуць Вера Мікалаеўна: яна, абапёршыся падбародкам на далоні, пальцамі закрыла вушы.

З усёй крыклівай размовы мы зразумелі не багата: наша Вера Мікалаеўна — гнілая інтэлігентка. Яна міндальнічае, баязліва нечага чакае, а не ўзрывае знутры сялянскую абыякавасць, а гэта пахне правым ухілам.

Вера Мікалаеўна ўвесь час апраўдвалася.

— Вы — дзівак, Маркаў, — казала Вера Мікалаеўна. — Вялікія справы так не робяцца... Вы, Маркаў, забываецеся, што Ленін вучыў цярплівасці... Царкву няхай людзі закрываюць, а не мы з вамі... Ды баюся, Маркаў, іншага, што гэта перашкодзіць галоўнай задачы... Слухайце, Маркаў, камунізм ад вашай паспешлівасці не наблізіцца хутчэй... І вось што, Маркаў, вы мяне на левы загіб не збівайце... Я гатова, вядома, выконваць указанні, толькі баюся, што на гэта не партыя, а вы, павятовыя кіраўнікі, скіроўваеце...

Нарэшце яна змоўкла. Нас распусцілі, загадаўшы аб'явіць бацькам, каб прыходзілі ў школу на сход.

А ў свеце — безліч важных ідэй,
А ў свеце — шмат прыгажосці яшчэ.
Мяне паланіў вялікі Фідэль —
У яго б Гаване пабыць хутчэй!
А родны Мінск у шчасці звініць.
А колькі ж на свеце ёсць гарадоў!
Мне б іх аб'ехаць або сасніць
За гэткую маласць дзён і гадоў!
У кожным горадзе —
Свой паэт.
А для паэта
Свой горад — рай.
І я пяю наднёманскі край,
Цябе, маё сонца,
Мой родны свет.
Цябе, зялёны і гаваркі,
Тваю паводкавую раку.
Табе ткачыхі адзенне ткуць,
А вёсны расквецяць штогод у вянкі,
А я толькі рыфмы для песні сатку.

## ФРЭЗЕРОЎШЧЫЦА



Ты скажы хоць слова,
Жэня Сакалова.
Усе мы проста гінем
Праз цябе, багіня.
І багіня, як вясна,
Свеціцца ад смеху.
Сапраўды, яна адна
У механічным цэху.
Дзеўчыніны броўкі —
Ластаўчыны крыллі.
— Гэтыя хлопцы
Тут мяне й вучылі...
Да станка паставілі.
Кажуць: прывыкай,
Як баранкі, выпякай
Цеста вось, са сталі...
А цяпер, па часе,
Мне ўжо і не цяжка.
Постаць хлапечая.
Моцныя плечыкі.
Бо гэтым плечыкам
Трэба ўсё адужаць.
Бо на іх вучоба
І свая... і мужава.
І яны амаль заўжды
У замурзаным халаце.
А на іх бы сапраўды —
Хоць самой багіні плацце.
Ды багіня вечарам

З густам адзяваецца...
На такіх плечыках
Цэлы свет трымаецца.

## НА ГРАНІЦЫ


Не магу я звычайнымі рыфмамі
Тут нічога змяніць!
Каля гэтай палоскі ўзрыхленай
Толькі вецер не знае граніц.

Свет перакроен на дзве палавіны
Пэўна людзьмі не дарма.
Тут толькі вочы бачыць павінны,
А ўдалячынь разгону няма.

А інакш бы чаго іншаземка няўмольна
Падзывала паглядам:
— Зірні!
Тут, на граніцы, кахаць не дазволена,
Але ўсмешка не знае граніц.

Крышку гарэзная,
Крышку наіўная,
Ведае, пэўна, сама:
Свет перакроен на дзве палавіны
Сёння людзьмі не дарма.

Могуць усмешку варожыя морды
У імгненне адно замяніць...
Трэба быць покуль што вельмі цвёрдым,
Каб пасля не было граніц.

★


Не хачу,
Каб насустрач выходзіў,
Не хачу,
Каб смяяўся здаля.
Ой, Валодзя,
Валодзя, Валодзя,
Лістападная казка мая.

Глянь —
Лісточак падае, падае
Над зямлёю,
Як лёгкі цень.
Над гаямі і над прысадамі
Залатая завея мяце.

Я з табою
Сцяжынкай гулліваю
Толькі раз сягоння прайду.
Я і так залішне шчаслівая
Ў светлым свеце пачуццяў і дум.

Зацярушыць
Дажджлівае ранне
Твой узрушаны след між слядоў
І не здзейсненае каханне,
І запозненую маладосць.

Зацярушыць,
Завее часам,
Да другіх усмешкі ўцякуць.
На шляху у мяне не страчайся,
Праз завею лістоў не цікуй.
Ой, Валодзя,
Валодзя, Валодзя!
Ці не час нам старэць?
Ці не годзе?



Уладзіслаў НЯДЗВЕДСКІ

# ХЛОПЦЫ З ДРУГОГА КОРПУСА

Аповесць

Мал. Г. Скамарохава.

## РАЗДЗЕЛ Х

Зіма была даволі цяжкая для вялікай дзетдомаўскай сям'і. Не хапала ўсім цёплай вопраткі, коўдраў і ложкаў, не хапала валёнак і бялізны.

Дырэктар і выхавальнікі збіліся з ног, каб дзяцей не толькі накарміць, але і апрануць як належыць. Лягчэй было з абуткам. Зіновій Цімафеевіч адшукаў недзе ў мястэчку старога шаўца Шлёму і ўгаварыў яго пайсці працаваць у дзіцячы дом. Плату ён абяцаў яму невялікую, але ж і работы таксама дакляраваў не шмат.

Зімовым ранкам з некалькімі парамі капылоў у мяшэчку, з жалезнай шавецкай лапай пад рукой Шлёма прыйшоў у дзетдом. Дырэктар сустрэў яго радасна. Тут жа залічыў у штат супрацоўнікаў, павёў і паказаў невялікую прыбудоўку ля другога корпуса, дзе Шлёма расклаў свой інструмент на нізкім століку, распаліў жалезную пячурку, пацёр рукі і пачаў сукаць дратву.

Заканчэнне. Гл. № 7.

Кліентаў у Шлёмы, насуперак абяцанням загадчыка гаспадаркі, аказалася шмат. За першы дзень у ягонай маленькай майстэрні перабывала амаль палавіна хлопчыкаў. Чаравікі ва ўсіх былі цэлыя. Але ж надта рупіла паглядзець на вялізную рыжую бараду старога. Шлёма быў гаваркі чалавек. Ён умеў ладзіць з малымі, і яны вельмі хутка да яго прывыклі.

Аднойчы да Шлёмы даклыпаў з адарванай падэшвай Адам Капа. Шлёма замітусіўся, завойкаў:

— Ай-ай-ай... Зусім новы чаравік папсаваў... Хіба так можна? Скідай хутчэй!..

Адам скінуў з нагі чаравік і працягнуў старому. Той пакруціў яго ў руках, насадзіў на жалезную лапу, забіў пару цвічкоў, а тады паківаў пальцам Адаму:

— Хадзі сюды...

Адам падышоў.

— Бачыш вось гэтую штуку? Што гэта?

— Ну, малаток...

— Правільна... А гэта што?

— Цвічкі...

— Правільна! Ах, які ты разумны хлопец! — Шлёма падняўся, ціхенька ўзяў Адама за плечы і пасадзіў на сваё месца. Паставіў яму між калень жалезную лапу з чаравікам, даў у адну руку шыла, у другую — спрытны малаток.

— Значыць так: шылам у падэшве робім дзірачку, для цвічка... Ну, паспрабуем... Ах, які ты малайчына!

Адам сапраўды неяк хутка засвоіў нескладаную аперацыю. Мінут за пятнаццаць ён прыбіў падэшву, зняў з лапы чаравік і аж здзівіўся: «Няўжо гэта ён сам зрабіў?»

— Ай, добра!.. — тупаў вакол століка шавец. Узяў шырокі рашпіль і адным яго канцом пашоргаў у чаравіку, вытрас, нібы пілавінне, сцёртыя кончыкі цвічкоў і падаў чаравік Адаму.

— Вось і ўсё... Сам падбіў...

Адам моўчкі абуваўся.

— А ведаеш што, хлопец, хочаш, я



цябе на шаўца вывучу. За плячамі навуку насіць не будзеш, а карысць будзе. Хочаш?

Так упершыню ў той дзень Адам здрадзіў кухару і пераключыў свае сімпатыі на старога барадатага шаўца, стаў ягоным вучнем і памочнікам. Назаўтра стары прынёс яму невялікі зашмальцаваны фартух, малаток і, калі, зрабіўшы ўрокі, Адам прыйшоў да шаўца, той пасадзіў яго побач з сабой:

— Ах, які ты маладзец! Хромавыя чаравікі шыць будзеш, калі падрасцеш.

Новы памочнік задаволена ўсміхаўся.

А праз два дні стары шавец пасадзіў каля сябе яшчэ аднаго вучня. Гэта быў Алесь Глушак. Яго прывёў Адам Капа. Як-ніяк яны амаль землякі — з суседніх вёсак. Дык чаму б і Алесю не вывучыцца на шаўца?

Праблема вопраткі і абутку ў дзетдоме, хоць і турбавала выхавальнікаў, усё ж не была самая складаная. Непакоіла іншае — тое, што педагагічная навука называе адным даволі казённым словам — дысцыпліна. Яна, як кажуць, пачынала кульгаць. Многія з выхаванцаў, што паступілі ў дзетдом у апошні час, былі хлопцы цёртыя. Яны адведалі таго жыцця, якое ў гутарцы між сабой часта называлі «малінай». Таму жыццё ў дзетдоме, дзе быў пэўны расклад і парадак, прыйшлося ім не да спадобы. У пачатку снежня браты Юзік і Казімір Чэпікі прадалі на рынку прасціны са сваіх ложкаў. На вырučаныя грошы купілі цукерак, папярос і калоду карт. Назаўтра, падгаварыўшы Паўла Канапляніка і Мішу Сарокіна, яны ўцяклі з урокаў і ў зацішным кутку разбуранага ўнівермага да паўдня рэзаліся ў дваццаць адно. Пецю Жаўнерыку, які застаў іх за такім заняткам, сутулы і пануры Юзік прыгразіў:

— Не ўздумай губамі шлёпаць пра тое, што бачыў... Кепска будзе... Пальцы кусаць будзеш... — Ён узяў малога за грудзі і памахаў перад тварам сціснутымі пальцамі.

У Пеці аж у вачах пацямнела: між пальцаў у Юзіка цьмяна пабліскваля маленькая брытвачка. Малы адступіў да дзвярэй, а потым што было сілы пусціўся дадому. Калі Федзя спытаў у брата, чаго ён такі белы, той абыякава махнуў рукой:

— Нездаровіцца нешта, галава баліць...

Пачалі ў дзетдоме тварыцца і іншыя, не менш дзіўныя, справы: то рукавіцы прападуць у каго-небудзь, то сшыткі знікнуць, то алоўкі...

Віця пачаў заўважаць, што вечарам, кладучыся спаць, некаторыя з хлопцаў засоўваюць пад падушкі шапкі і рукавіцы. Ён паспрабаваў пажартаваць, але Максім Зялёнка неяк злосна паглядзеў на яго і сказаў:

— Украдуць, тады мёрзнуць прыйдзецца...

Віця толькі плячамі паціснуў.

А назаўтра ў спальню адразу ж пасля пад'ёму зайшла Валянціна Зіноўеўна. Прывіталася, пастаяла ля парога, а пасля загадала:

— Хлопцы, паглядзіце, калі ласка, ці няма ў каго на ложку лішніх прасцін.

Хлопцы ахвотна кінуліся да сваіх ложкаў, адхінулі коўдры, ва ўсіх па дзве, лішніх няма.

— А чаму вы пытаецеся, Валянціна Зіноўеўна?

— Ды так... У суседнім пакоі дзве прасціны прапалі... Можа хто памылкова ўзяў... — Яна выйшла, сумная, заклапочаная.

— Справы, я вам скажу... — паківаў галавою Федзя.

Хлопцы моўчкі ўзяліся засцілаць ложкі.



Калі Юзіка з Казімірам выклікалі ў канцылярыю і завуч спытаў, дзе яны дзелі прасціны, тыя, не маргнуўшы вокам, сказалі:

— Яны прапалі ў нас яшчэ ў нядзелю, як пераносілі ложкі ў новае памяшканне... Мы гаварыць баяліся... Іх украў Апанас Кныш... Украў і ўцёк...

Анатоль Пятровіч не стаў цікавіцца падрабязнасцямі, хоць сама па сабе напрошвалася думка: чаму ж засталіся Апанасавы прасціны?..

Усе выхаванцы з абурэннем гаварылі пра Апанаса. Да гэтага пра яго рэдка ўспаміналі. Адны лічылі, што ён проста зрабіў глупства, другія пацíху пасмейваліся — прагаладаецца, дык сам прыедзе. Але ніхто не лічыў яго за злодзея. А цяпер вось — украў прасціны. Верылася і не верылася. Федзя сказаў толькі адно:

— Яшчэ паглядзім...

Ён ведаў Апанаса крыху больш, чым усе астатнія. Мог Апанас пакурыць, мог яшчэ якую-небудзь штуку выкінуць, красці ж у дзетдоме — не.

Віця ў душы таксама не верыў, што Апанас мог такое зрабіць. Чамусьці ўспамінаўся той асенні дзень, калі на станцыі Апанас уцёк ад міліцыянера, а пасля сам вярнуўся...

Дырэктар увесь час, хоць і быў заняты рознымі справамі, таксама думаў пра Апанаса. Ён здагадваўся, што нехта з выхаванцаў, хітрэйшы і асцярожнейшы за Апанаса, знарок верне ўсё на таго.

У Мікалая Пятровіча быў свой план. Вечарам, калі выхавальнікі сабраліся ў канцылярыі, ён прапанаваў:

— Трэба стварыць дзіцячы савет. Членамі яго выбраць саміх выхаванцаў. Лепшых, вядома, тых, хто добра вучыцца, хто самы дысцыплінаваны. Накіроўваць работу дзіцячага савета будзем мы, выхавальнікі. Галоўнае ў гэтай справе — даць дзецям самім праявіць ініцыятыву. Гэта вельмі важна... Акрамя таго, я думаю, што дзіцячы савет паможа нам разабрацца ва ўсіх гэтых пакражах...

Пад столлю шырокай, нібы адрына, дзетдомаўскай сталоўкі вісяць дзве электрычныя лямпачкі. Іх павесілі некалькі дзён назад. Лямпачкі гараць няроўна: яны то паволі гаснуць, то раптоўна ўспыхваюць залішне ярка.

У сталоўцы ідзе сход. Тут — усе да аднаго выхаванцы, тут і ўсе выхавальнікі. Прыйшла нават кухар Паўліна Антонаўна, яна стаіць на парозе, у расчыненых дзвярах кухні.

Мікалай Пятровіч толькі што скончыў гаварыць. У сталоўцы цішыня. Усе думаюць.

Мікалай Пятровіч не спяшаецца. Ён павярнуўся да завуча і пра нешта гаворыць з ім. Завуч ківае галавой...

Віця глядзіць на Арсеня. Потым — на Валерыю. Побач з братам яна выглядае нейкай вельмі прыгожай. На ёй сіняя сукенка з высокім белым каўнерыкам, кароткія чорныя валасы крыху тапырацца ля вушэй, і яна час ад часу папраўляе іх рукамі. Віця, напэўна, залішне доўга пазіраў на дзяўчынку, яна павярнулася тварам да яго — іх позіркі на момант сустрэліся...

Віця спахапіўся тады, калі, нібы праз сон, пачуў сваё прозвішча:

— ...Ляўковіча Віцю...— Галя села, і з усіх бакоў пачуліся галасы:

— Вучыцца на пяцёркі!..

— Ён у дзетдоме даўно!.. Правільна! — у сталоўцы шум, нібы на кірмашы.

Віця нарэшце зразумеў, у чым справа: яго хочуць выбраць у дзі-

цячы савет... І першы момант памкнуўся крыкнуць: «Не трэба, не хачу!», але чамусьці ўстрымаўся, крыху разгублена паглядзеў на Федзю, а тады рука яго сама сабой паднялася ўгару:

— Прашу слова...

— Гавары,— Мікалай Пятровіч глядзіць на яго. падбадзёрвае.— Гавары, Ляўковіч, смялей...

— Трэба выбраць Федзю Жаўнерыка...

І зноў шум:

— Правільна!.. Жаўнерыка выбраць!..

Віця пазірае на Федзю. У таго шчокі паружавелі, ён адварочваецца і непрыкметна паказвае Віцю кулак: «Я цябе не прасіў...» А Віця задаволены. Ён ведае — з Федзем можна добрыя справы ладзіць. Гэта ён з выгляду толькі злуецца...

— Зайцава Арсеня...

— Выбраць... Ён справядлівы... Яго суддзёй можна выбіраць.

— Правільна-а-а!

— А дзяўчынак чаму забылі?!

— Зіну Кудравец! Зіну! Яна ў швейнай майстэрні памагае...

— Валерыю Зайцаву!

— Алёшу Парэчкіна!

— Максіма!.. Максіма Зялёнку!..

Мікалай Пятровіч чырвоным алоўкам запісвае прозвішчы. Вялікімі вуглаватымі літарамі. Віцю ад акна відаць, што першае ў спісу стаіць яго прозвішча.

Ён здалёк углядаецца ў літары і нават паўтарае сам сабе: «Ляўковіч Віктар... Скажы ты... Г-м-м».

— Будзем галасаваць.— Дырэктар дробна стукае алоўкам па стале і ўстае з месца.

Адразу ўсе заціхаюць.

— Будзем галасаваць! — ён зачытвае спіс і пазірае на прыціхлы сход.— Нікога не забылі? Можа яшчэ каго назавяце?

Адам Капа з усёй сілы наступае абцасам на нагу Алесю Глушаку... Той, спацелы, нібы пасля лазні, моршчыцца ад болю, ёрзае на месцы. «Ну-ну, давай хутчэй...» — Адам штурхае хлопца локцем пад бок. Алесь нехаця ўстае, лыпае вачыма, губы ў яго злёгку дрыжаць.

— Я-а-а прапаную Адама Капу-у... Ён чаравікі ладзіць...

Пакуль Алесь садзіўся, а дырэктар запісваў Адамава прозвішча ў спіс будучых членаў дзіцячага савета, Алёша Парэчкін паклаў рукі на стол, і проста перад Адамам з'явілася шэрая маленькая мыш. Яна, задраўшы пыску, пазірала на Адама, нібы дакараючы яго: «І як табе не сорам?...» Адам глядзеў на малюсенькага звярка, нічога не разумеючы і спалохана закрываючыся рукамі. Пакуль ён апамятаўся, мыш знікла ў Алёшавай далоні. «Што за ліха!» — Адам злосна зірнуў на Алёшу, нават кулакі сціснуў. Але стрымаўся. Алёша тым часам размяў у далоні кавалак пласціліну і, апусціўшы рукі пад стол, пачаў ляпіць жабу.

Хлопцы, што сядзелі з ім побач, ледзь стрымліваючы смех, пазіралі на Адама: з ім кашы не зварыш. Аднак калі пачалося галасаванне, яны паднялі рукі і за яго: чаравікі ладзіць ён крыху навучыўся, а яны ў хлопцаў былі не жалезныя.

Дзіўныя рэчы здараюцца на свеце! Яшчэ зусім нядаўна жыў сабе Віця без асаблівых клопатаў. Урокі вучыў, у школу хадзіў, дровы сек, на кухні дзяжурыў, кніжкі чытаў, вечарам з хлопцамі ў пакоі розныя гісторыі расказваў. Не звяртаў асаблівай увагі на ўсё, што рабілася



вакол яго. Прапалі прасціны ці рукавіцы, пагаварылі між сабой хлопцы — і ўсё. Атрымаў хто-небудзь з выхаванцаў двойку ў школе або з урокаў уцёк — таксама клопат для Віці быў невялікі: на гэта выхавальнікі ёсць. Падлога не памытая — на гэта прыбіральшчыца ёсць. Усё неяк нібы не датычыла Віці, нібы і не сваё, а чужое было. І вось цяпер Віця адчуў, што не толькі пра свае ўласныя клопаты думаць трэба. Цяпер ён за ўсё ў дзетдоме адказвае: і за двойкі, і за дзяжурствы на кухні, і за парадак у памяшканнях, і за рэчы, што не яму асабіста належаць...

Выхаванцы цяпер глядзяць на Віцю з асцярогаю: Ляўковіч — старшыня дзіцячага савета! У яго аж дзесяць памочнікаў — членаў дзіцячага савета...

Па-новаму неяк жыццё ў дзіцячым доме пайшло — цікавейшае зрабілася, для ўсіх справы знайшліся. Прыйдуць выхаванцы са школы, паабедаюць і на свае рабочыя месцы спяшаюцца — кожны сабе па душы занятак выбраў, таму і працаваць цікава.

У пакой, дзе швейная машына стаіць, Зінові Цімафеевіч з дапамогай хлопцаў стол прыцягнуў — метры чатыры даўжынёю. На стале белыя, жоўтыя, шэрыя, чорныя кавалкі тканіны ляжаць. Іх дзяўчынкі ў парадак прыводзяць, прасуюць, складваюць акуратна.

У Валерыі Зайцавай на шыі кравецкі метр вісіць, на пальцы — напарстак, у руцэ — іголка з ніткай. Пакуль Наталля Яўхімаўна выкрайку робіць, Валерыя дзяўчынкам паказвае, як правільна іголку трымаць, як напарсткам карыстацца. Як шыць на машыне — краўчыха вучыць усіх па чарзе. Схіляецца Валерыя над машынай, пальцам рычажок бліскучы ўніз пераводзіць, плюскатая лапка матэрыю прыціскае да металічнага шчытка. Цяпер толькі адважыцца трэба. Ногі злёгку дрыжаць.

— Смялей, смялей...

Бяжыць белае шво, машына стракоча...

— Так, яшчэ раз прашыем...

У шавецкай майстэрні цішыня, нібы тут і няма нікога. Але гэта не так — проста тут па-мужчынску, з усёй адказнасцю, да справы ставяцца. Тут жа не тыя сарокі — тут людзі сур'ёзныя. Адам Капа — чалавек круты. Ён сядзіць на табурэтцы, слухае тое, што майстар Шлёма тлумачыць, і адначасова за сваёй брыгадай сочыць. Брыгада няпоўная — пяць хлопцаў. Адам незадаволены імі. Па-першае, іх цяжка было ўгаварыць, каб ішлі вучыцца чаравікі рамантаваць.

У шаўцоў пакуль што ідуць «тэарэтычныя» заняткі. Па адной гадзіне ў дзень. Іх праводзіць Шлёма Майсеевіч. Хлопцы паспелі за два дні даць яму новае імя — дзед Архімед.

Чаму Архімед, яны і самі не ведаюць. Архімед — і ўсё тут.

Шлёма, адной рукой распраўляючы знізу сваю кашлатую бараду, а другой трымаючы кавалак падэшвы, пытаецца Алеся Глушака:

— Скажы ты мне, з чаго робіцца падмётка?

Глушак разгублена бубніць:

— Па-па-дмётка робіцца з падмёткі...

— З падмёткі! О, божухна! — Шлёма Майсеевіч б'е сябе рукамі па баках.— Слухаць трэба ўважліва.

Стары бярэ ў рукі шыла — загнутае, нібы пытальнік, хлопцы выцягваюць шыі і слухаюць. Але нядоўга. З-пад чорнага халата на грудзях у шаўца паблісквае жоўты медаль. Алесь штурхае пад бок Піліпа Чараваку і вачамі паказвае на медаль: адкуль ён у старога? Піліп, крыху падумаўшы, падымае руку:

— Дзед Архімед! Скажыце, за што вам медаль далі?

Хлопцы сядзяць, нібы мышы пад мятлой. І трэба ж такое ляпнуць! Што цяпер будзе?

Шлёма Майсеевіч спыніўся пасярод пакойчыка і моўчкі намотвае на пальцы дратву. Піліп апускае вочы і чырванее. Хлопцам няёмка. Адам пазірае на Піліпа і ціха шэпча: «За-нуда! Знайшоў час...»

— У мяне медаль за вайну,— ціха гаворыць Шлёма Майсеевіч.— Я партызанам боты шыў... Мне сам камандзір партызанскага злучэння ўручаў медаль у сорак чацвёртым годзе... Я дзед... Але не Архімед... Я стары шавец... У мяне было дванаццаць унукаў... Такіх, як вы...

У старога дробна затрэслася барада, ён адвярнуўся да акна і выняў з кішэні зашмальцаваную насоўку. Піліп схапіўся з месца і кінуўся ў дзверы. Ён успомніў свайго дзеда Сідара. Яго забілі немцы...

Хлопцы паціху падышлі да шаўца. Адам крануў старога за рукаў:

— Ён так больш не будзе казаць...

## РАЗДЗЕЛ XI

Новы год у дзетдоме сустракалі шумна і весела. Зіновій Цімафеевіч яшчэ дні за тры да свята прывёз з лесу пушыстую, кучаравую ёлку. Яна стаяла ў сталоўцы, упрыгожаная самаробнымі цацкамі. Сталы прыйшлося вынесці і саставіць адзін на адзін у калідоры. Над вялікай зоркай на самай верхавіне ёлкі свяцілася электрычная лямпачка. Пад ёлкай ляжала вата — гэта снег... Дзед Мароз быў апрануты ў белы халат Паўліны Антонаўны. Барада, вусы і шапка на ім — таксама ўсё белае і ўсё з ваты. Ён прывітаў дзяцей з Новым годам, а пасля раздаў усім падарункі. Спачатку дзеці пазіралі на яго, як на сапраўднага — таго, пра якога ў казках расказваюць. Потым захацелася даведацца, хто ж пераапрануўся ў Дзеда Мароза. Самыя цікаўныя паспрабавалі пацягнуць яго за бараду, але ён махаў сукаватым бярозавым кіем і тупаў нагой. Усе ад душы рагаталі. Дзед выдаў сябе сам. Яго абхітрыў Барыс. Ён схаваў свой падарунак і перайшоў на другое месца. Калі дзед з мяшком падышоў да Барыса, ён працягнуў руку. Голас у дзеда перамяніўся. Ён загаварыў так, як гаварыў заўсёды:

— Дабаўкі не будзе.

— Ура! Гэта не Дзед Мароз... Гэта Адам Капа! — радасна закрычалі малыя, падскокваючы на месцы. Барыса пацягнулі ў кут, зашыкалі на яго, надавалі пстрычак:

— Маўчы, дурань! Так трэба. Ты хацеў, каб табе сапраўднага знайшлі...

Калі знік Дзед Мароз, у сталовай выстраіўся хор.

Выцягнуўшы рукі па швах і надзьмуўшыся, нібы перад фотаапаратам, у першым радзе стаялі самыя маленькія харысты — першакласнікі. За імі — старэйшыя выхаванцы. Яны таксама крыху збянтэжаныя, але адчуваюць сябе вальней. У самым апошнім радзе — пяцікласнікі і шасцікласнікі.

Алёша Парэчкін стаіць у самым цэнтры спевакоў. Ён, як член дзіцячага савета, арганізоўваў хор, таму хвалюецца больш за ўсіх.

Арлёнак, Арлёнак,
Мой верны таварыш...

Прыціхлі дзеці, у кожнага сэрца нейк усхвалявана стукае, галава ажно злёгку кружыцца. Хораша на душы, нейкая цяплынь па ўсім целе разліваецца. А песню ўжо ўвесь хор падхапіў. У хлопчыкаў у першым радзе вочы блішчаць, твары ўрачыстыя, галасы, нібы струны, звіняць. І ледзь прыкметна дрыжаць няхітрыя ўпрыгожанні на ёлцы...



— Віця, падрыхтуйся. Зараз нам выходзіць на сцэну.

Віця памацаў за рамень, за кабуру з самаробным пісталетам, паправіў на галаве нямецкую пілотку.

— Я гатоў... А ўсе астатнія?

— Мы таксама.

Федзя стаіць, прыціснуўшыся плечуком да Віці. Ён у чорнай кубанцы з чырвоным крыжам наверсе, у кажушку, на поясе — дзве драўляныя гранаты. Побач Максім Зялёнка — таксама партызан. У другім кутку паспешліва прывязвае дзяжку да свайго карабіна Жора Гулеў. Ён спяваў у хоры — цяпер спяшаецца. Сцэна завешана коўдрамі. Хлопцы, хто не заняты ў п'есе, хутка цягнуць стол, крэслы і стаўляюць іх пасярэдзіне, перад заслонай.

Віця Ляўковіч яшчэ ў час рэпетыцыі ведаў, чым канчаецца п'еса. Калі партызаны, выручаючы сваю сувязную, уварвуцца ў нямецкую камендатуру, яго — Віцю, які выконвае ролю немца, будуць біць па галаве. Не ўлічыў ён толькі адно — што па галаве яго стукнуць не так, як трэба на сцэне. Жора Гулеў, відаць, залішне хваляваўся, таму агрэў самаробным наганам з усёй сілы, не думаючы, трэба так біць ці не...

Аглушаны ўдарам, воплескамі і нейкім незвычайным прыступам прыўзнятасці, Віця стаяў пасярод сцэны і радасна ўсміхаўся. Жора штурхнуў яго пад бок:

— Ну, як?

— А ну цябе да д'ябла! Аглушыў!

Калі беглі за кулісы, Валерыя Зайцава — партызанская сувязная — нахілілася да вуха так, што па шчацэ казытнулі валасы і шапнула:

— Схапіў... Ледзь рукі не выкруціў...

Зрабілася весела. І чамусьці радасна. І яшчэ крыху смешна...

Было за поўнач. У шуме і весялосці ніхто і не заўважаў, што час позні. Зялёныя ходзікі, што віселі на сцяне, старанна махалі маятнікам: цік-так, цік-так... Уверсе, над цыферблатам, на ходзіках намаляваны кот, замест вачэй — дзірачкі. Вочы — на маятніку, пад шчытком. Кот у такт маятніку хітра водзіць вачамі. Цік-так, цік-так... Сціскаючы ў далонях падарункі Дзеда Мароза, высыпалі са сталоўкі малышы. Спаць пара. Шкада крыху, што свята скончылася. Першае свята за ўсе гады. Але ж нічога — заўтра канікулы. Цэлых дзесяць дзён — ні ўрокаў, ні школы!

— Пайшлі! — старэйшыя хлопцы гурбой падаліся ў дзверы. Але тут у парозе насустрач ім з'явіўся Зернавы ў заінелай шапцы, у шэрым бушлаце. Усміхаецца, нібы майскае сонца, бушлат расшпілены, на грудзях белая манішка, з-пад вушанкі — рыжы чуб. Рукі развёў, хлопцаў у ахапку згроб, назад, нібы ягнят, пхае:

— Вы куды?

— Сталы насіць...

— Пасля ўнясём!..— Зернавы ступіў у сталоўку і некага за сабой заве:

— Заходзь, Аляксей!

У дзвярах нейкая дзівосная рэч з'явілася, прамавугольная, чырвона-жоўтая, рачнымі ракушкамі адсвечвае. Акардэон! Яго нясе хлопец, чарнявы і маладзейшы за Зернавога. У парозе спыніўся, на хлопцаў хітра паглядае. «Што, не чакалі? Нічога, зараз пазнаёмімся!»

Зернавы тым часам з Мікалаем Пятровічам вітаецца, з завучам, з хлопцамі. Усім рукі паціскае:

— З Новым годам!
Хлопцы крыху разгублена цiснуць руку сакратару i адказваюць:
— Вас таксама!
— З Новым годам! — Зернавы чамусьцi ў апошнюю чаргу з Валянцiнай Зiноўеўнай вiтаецца. Можа таму, што яна воддаль стаяла, з дзяўчынкамi гутарыла. А можа яшчэ па якой-небудзь прычыне.

Вiця краем вока пазiрае на яе. Чэснае слова, яна сёння не такая, як заўсёды! Чаму гэта? На занятках, у сталоўцы яна выглядае задуменнай, часам нават злоснай i старой. А калi крычыць — то i зусiм чужая. А можа новая шэрая сукенка яе так перайначыла?! Можа туфлi на высокiх абцасах?.. А можа ў час навагодняга свята так i трэба, каб старэйшыя маладзелi, а маладыя рабiлiся сталымi? I яшчэ Вiця бачыць, што Валянцiна Зiноўеўна саромеецца чамусьцi, вочы ўнiз апускае. Дзiвачка! Ну, няхай Зернавы — сакратар райкома. Але ж чаго там яго саромецца! Ён жа просты хлопец, да яго ўсе прывыклi.

Зернавы ўжо з Мiкалаем Пятровiчам гутарыць. Дырэктар смяецца, на завуча паказвае. Анатоль Пятровiч гадзiннiк дастае з кiшэнi, на стрэлкi глядзiць, потым на ходзiкi паказвае:

— Я не супраць... Адну гадзiну... Заўтра пад'ём будзе пазней...

Аляксей акардэон на каленi паставiў, рамянi на плечы надзеў... Iрванулiся з-пад чорна-белых клавiшаў першыя, крыху нясмелыя гукi, недзе ад белых сцен сталовай адбiлiся, пад столлю зацiхлi, у сэрца пранiклi... Вiця ведае гэтую песню — «На сопках Маньчжурыi» завецца... Вiця слоў усiх не памятае... Затое мелодыя добра запомнiлася, на ўсё жыццё... Ён стаiць побач з музыкантам, на акардэон пазiрае, а вочы нiчога не бачаць. Ён музыку слухае, а яна, здаецца, не слых кранае, а ўсю ягоную iстоту ў палон забрала. Ад яе на душы зрабiлася хораша, чамусьцi аднаму пабыць захацелася. Можа, каб слёз нiхто не бачыў...

У сталовай першыя пары закружылiся. Дзяўчынкi тут першыя. Дзе яны навучылiся! Нiхто з хлопцаў не бачыў, каб яны калi-небудзь танцавалi. А тут — на табе — танцуюць! Ды яшчэ як! Прыгожа, нiбы ў кiно!

Жаўнерык Вiцю пацiху за рукаў пацягнуў. Вачыма на круг паказвае, недаўменна плячамi пацiскае: «Бачыш, дарагi, якiя нашы справы! Адсталi ад дзяўчынак. Мы i курылi, i бiлiся, i яшчэ шмат чаго рабiлi — а тут спасавалi! Не ўмеем!» Вiця разумее сябра i згодны з iм: безнадзейна адсталi хлопцы...

Сумна робiцца хлопцам — усюды ж першыя былi. Вiця на дзяўчынак пазiрае: хiхiкаюць, банцiкi паначаплялi, кружацца сабе... Чакайце, калi-небудзь на пасяджэннi дзiцячага савета я вас спытаю, дзе гэта вы такiм штучкам навучылiся. Можа таму i двойкi часам са школы прыносiлi. Трэба будзе разабрацца, што да чаго. Невядома, чаму, але iменна такiя думкi з'явiлiся ў Вiцевай галаве. Ён ужо нават хацеў адысцi ўбок i прысесцi ля акна, блiжэй да Мiкалая Пятровiча, калi нечакана ўбачыў, што перад iм стаiць Валянцiна Зiноўеўна.

Яна нiколi так блiзка не падыходзiла да яго, таму Ляўковiч здзiвiўся, што выхавальнiца амаль аднаго росту з iм. Здалёк яна выглядала высокай. А тут Вiця проста перад сабой убачыў яе вочы, нават адчуў яе дыханне на сваiм твары i страшэнна разгубiўся. Да яго аднекуль здалёку дайшоў яе голас — спакойны i прывычны, такi, як заўсёды... Iменна гэты голас, а не што-небудзь iншае, супакоiў яго. Стала неяк лягчэй.

— Хочаш, я навучу цябе танцаваць?
Цi хоча ён навучыцца танцаваць? Не. Ён не хоча. Гэта сорамна — кружыцца па сталоўцы, немаведама чаго. Ды ён i не навучыцца. Ён не дзяўчынка.

Пакуль ён так думаў, Валянцiна Зiноўеўна вывела яго ў круг, нязграбнага, чырвонага ад нечаканасцi, узяла за плечы i, смеючыся, пачала:
— Гэта робiцца вельмi проста...
Вiця прывык слухацца, калi яго вучылi чаму-небудзь. Таму, на сваё вялiкае здзiўленне, пасля першага круга адчуў, што ногi сталi больш паслухмяныя, а сам танец набыў пэўны рытм. Было ў гэтым нават штосьцi прыемнае. Калi ж ён убачыў, што побач кружыцца Валерыя з Федзем, зусiм асмялеў. Галоўнае, каб нiхто не заўважыў, што ён не ўмее танцаваць. А там што будзе...

Пасля спявалi песнi. Аляксей граў на акардэоне, а ўсе падпявалi. Пасля зноў танцавалi вальс. Толькi ўжо другi. Вiця набраўся смеласцi i сам запрасiў Валерыю Зайцаву. Калi з ёю можна побач сядзець за партай, за сталом, рыхтаваць урокi, дык чаму нельга запрасiць танцаваць? Вядома, можна. З Валерыяй танцаваць было куды лепш, ёй калi знячэўку i на нагу наступiш або закружыш не ў той бок,— усё роўна нiчога страшнага не будзе. Калi пакрыўдзiцца, дык можна проста кiнуць i пайсцi на сваё месца. З Валерыяй добра танцаваць яшчэ i таму, што яна лёгенькая, нiбы пушынка. Кружыцца i ўвесь час гаворыць:
— А гэта праўда, што цябе Жора моцна па галаве агрэў?
— Праўда... Але гуза ўжо няма...
— А чаму ты злосны такi быў на сцэне?..
— Вы ж мне ролю такую падсунулi — нiхто з хлопцаў не хацеў быць немцам...
Сталоўка вялiкая. Танцаваць прасторна. Калi апынулiся каля ёлкi, Валерыя азiрнулася па баках i шапнула ў самае вуха:
— Хочаш, я табе скажу сакрэт...
Вiця не любiў сакрэтаў, асаблiва дзявочых. Не хацелася ўмешвацца ў iхнiя справы. Дзяўчынкi — лёгкадумны народ. Аднак голас у Валерыi быў такi даверлiвы, што хлопец не стрымаўся:
— Скажы...
— А ты не выдасi?.. — Гэта ўжо было падобна на змову. Браць на сябе нейкiя абавязкi не хацелася, таму адказаў каротка:
— Я не люблю малоць языком...
Дзяўчынка гэта зразумела па-свойму. Зноў нахiлiўшыся да самага вуха, яна загаварыла хутка-хутка, зрэдку давячыся смехам:
— Валянцiна Зiноўеўна i Зернавы адзiн другога кахаюць... Я першая пра гэта здагадалася... Аднойчы, калi яна дзяжурыла, мы з ёй гутарылi доўга-доўга... Я i спытала... Яна i кажа: «Гэта праўда...» Яна прыгожая... А ён такi рыжы... Толькi ты, Вiця, нiкому нi-нi... Я нават дзяўчынкам не сказала нi слова... Мне так смешна...
Спаць хлопцы клалiся позна. Выключыўшы святло i залезшы пад коўдры, доўга гаварылi пра ёлку, пра навагоднi вечар. Вiцю са свайго ложка была вiдаць шэрая, заiнелая, нiбы ўсыпаная срэбрам, таполя пад акном. Яна стаяла нерухома, нiбы шкляная. Ад срэбраных галiнак на белыя, крыху прыхопленыя марозам шыбы клалiся дзiвосныя ценi. Вiця доўга не мог заснуць. Калi хлопцы сцiхлi, ён крануў рукой падушку на Арсеневым ложку i спытаў:
— Ты не спiш?..
Арсень павярнуўся, прыўзняў галаву:
— Не сплю. А што?

Віця адхінуў коўдру і перасеў на яго ложак. Ні з таго, ні з сяго загаварыў парывіста:

— І калі хто-небудзь будзе цябе крыўдзіць, я яму першы морду наб'ю... Усіх местачкоўцаў паразганяю... А з Валерыяй у нас ёсць адзін сакрэт. Толькі я табе не скажу... Спі...

— Выдумляеш абы што... Крыўдзіць... Валерыя... Сакрэт...

Праз мінуту хлопцы спалі.

## РАЗДЗЕЛ XII

Канькі былі цудоўныя! Высечаныя з белага металу, загнутыя спераду, змазаныя ліпучай і тлустай жоўтай маззю, яны ехалі ў дзетдом аж з Пінска. Ехалі ў мяшку, які, нібы самы дарагі скарб, усю дарогу ахоўваў Зінові Цімафеевіч. Побач, у куце вагона, стаялі звязаныя парамі лыжы. Пятнаццаць пар. Стары шмат нацярпеўся, пакуль праўдамі і няпраўдамі вырваў гэта ўсё багацце на абласной базе. Затое на перон у Кірмашэвічах ён ступіў з выглядам пераможцы. Аддаўшы свой груз пад ахову таварышу Жукаву, подбегам кінуўся ў дыспетчарскую, да тэлефона.

Неўзабаве на станцыю прыбеглі хлопцы — усе, хто ў гэты час быў на дзетдомаўскім двары: чалавек дваццаць. Канькі і лыжы неслі ўрачыста, на хаду абмацваючы мяшок. Але Зінові Цімафеевіч быў пільны.

— Паспееце яшчэ нацешыцца,— угаворваў ён хлопцаў.—Іх спачатку да ладу давесці трэба...

Сапраўды, катацца на каньках і хадзіць на лыжах пакуль што было нельга. Канькі былі на ключах — іх трэба было прывінчваць ключом да рантаў чаравікаў.

Лыжы былі без мацаванняў і без палак. Усё гэта хлопцы ўбачылі толькі тады, калі прыйшлі дадому. Убачылі і засумавалі. Што ні кажы — канікулы, а тут і пакатацца нельга ўволю! І тады героем дня стаў Адам Капа. Нездарма ж ён быў шавецкім брыгадзірам, нездарма быў першым вучнем у Шлёмы Майсеевіча.

У шавецкім пакойчыку ад раніцы да вечара — мітусня. Дзверы не зачыняюцца. Адам працуе да сёмага поту. Шлёма Майсеевіч таксама. Яны вырэзваюць неглыбокія дзіркі ў абцасах чаравікаў і паверх іх прыбіваюць жалезкі, каб канькі прымацоўваць. Адам трымаецца важна, хоць галоўную работу робіць Шлёма Майсеевіч. Адам толькі жалезкі прыбівае. Хлопцы перад ім стаяць у чарзе, як жураўлі — на адной назе. Стаяць ціха, хоць і хвалююцца. Адам не помніць зла — для ўсіх стараецца аднолькава. Для сябе таксама — адны жалезкі прыбіў да сваіх абцасаў у першую чаргу, другія загарнуў у паперку і ў кішэню схаваў — на запас. Аднак і жалезкі — гэта яшчэ не ўсё. Каб катацца на каньках— патрэбен лёд. Мікалай Пятровіч сказаў коратка:

— У двары зальем каток, тады выдадуць канькі... Хто хоча катацца — бярыце лапаты і вёдры.

Каток зрабілі за дзень. Працавалі ўсе. Снег расчысцілі да абеду. Прамерзлую зямлю залівалі вадой позна ўвечары, пры месяцы. Мокрыя і стомленыя, клаліся спаць, і кожны хацеў толькі аднаго: каб уночы пацíснуў мароз. Маленькі Барыс лёг, не накрываючыся коўдрай: калі будзе холадна, значыць мароз ёсць, значыць — за ноч каток умерзне. Ноччу Барыс прачнуўся ад холаду. Паціху падкраўся да акна. Стаяла ў інеі таполя, свяціў месяц. Трашчаў ад марозу плот.





Малы шмыгнуў пад коўдру.
Каток атрымаўся выдатны. Раніцай, адразу ж пасля снедання, хлопцы рынуліся на гладкі, нібы шкло, лядовы пляц. Некаторыя, упершыню ступіўшы на лёд, паспявалі толькі ўзмахнуць рукамі і тут жа падалі, як снапы. Лёд быў цвёрды. Гузы балючыя. Але хіба гэта мела якое-небудзь значэнне? Не ўмееш, значыць, трэба навучыцца! Навука давалася цяжка. Федзя Жаўнерык і Жора Гулеў асцярожна ўзвялі пад рукі на лёд Адама Капу. Той пыхцеў, ногі ў яго дрыжалі і раз'язджаліся ў розныя бакі. Трымаючы Адама з двух бакоў, хлопцы набіралі разгон. Аб'ехалі адзін круг, пачалі другі. Цяпер Адамавы ногі зрабіліся, як калы: не згіналіся і не адрываліся ад лёду.
— Хлопцы, пусціце! Я сам! — пачаў ён вырывацца з рук.— Я ўжо ўмею.
Хлопцы пераглянуліся і, выпусціўшы яго з рук, крутнуліся на сярэдзіну катка. Адам па інерцыі праехаў яшчэ колькі метраў, а далей... Далей толкам ён нічога не зразумеў. Адчуў толькі, што канькі за нешта зачапіліся, і ён грымнуўся ў цвёрды, прамерзлы снег. «Канец! — рашыў сам сабе.— Нават варушыцца не варта. Эх, не паспеў прамяняць жалезкі на аловак...»
Адама выцягвалі дружна. Паднялі, паставілі на ногі, стрымліваючы смех, пачалі абтрасаць снег. Хтосьці выцягнуў з гурбы снегу, нібы з лісінай нары, ягоную шапку, выбіў яе аб калена і клапатліва насунуў на Адамаву галаву. Адам стаяў слуп слупам. Расплюшчыў адно вока, другое, пакруціў галавою:
— Што за ліха! Дык я, выходзіць, жывы?
Хлопцы пакаціліся ад рогату.
— Жывы! Давай яшчэ раз пакажы свой нумар!
— А скажы, ты да самай зямлі дастаў галавой, ці толькі зверху снег памацаў?
— А ну вас!..— Адам расштурхаў хлопцаў і, клыпаючы, пайшоў на лёд. Праз дзесяць мінут і сам ён і ўсе астатнія забылі пра гэта невялікае і вясёлае здарэнне. Тым больш, што ныраў у снег не толькі Адам...
Жора Гулеў, які добраахвотна ўзяў на сябе ролю інструктара па каньках, хваліўся вечарам:
— Я вас, хлопцы, во як навучу на каньках рэзаць! Як цыркачы, у мяне будзеце катацца! — Ён спрабаваў тут жа, у спальні, паказаць, як катаюцца на каньках цыркачы, але падлога — не лёд, а шкарпэткі — не канькі...
Навучыць хлопцаў рэзаць на каньках, як цыркачы, Жора Гулеў да канца канікул не змог. Па-першае, ён недзе згубіў кніжку, па якой вучыўся катацца сам, па-другое, і ён сам, і хлопцы ледзь не развіталіся з канькамі да наступнай зімы. Адбылася падзея, якая ўвайшла ў гісторыю дзіцячага дома пад назвай «Лядовае пабоішча».
Пакуль выхаванцы рабілі каток, Гвідон Басаў задумаў сцягнуць у дзетдомаўцаў некалькі пар канькоў. Зрабіць гэта адзін ён не рашыўся, таму сабраў хаўруснікаў. Цяпер кожны дзень праз плот за ўсім, што рабілася на катку, па чарзе непрыкметна назіралі чатыры местачковыя хлопцы — сам Гвідон і ягоныя памочнікі Жэня Трацяк, Валодзя Шылаў і Антось Галушка. Назіралі і запаміналі кожны крок дзетдомаўскіх хлопцаў. А праз тыдзень рашыліся.
Быў надвячорак. Местачковыя вуліцы апусцелі. Апусцеў і заціх рынак. Толькі мітуслівыя сарокі порхаліся ля доўгіх абледзянелых драўляных прылаўкаў ды палахлівымі чародкамі кідаліся з месца на месца рудыя, кудлатыя вераб'і.
Гвідон і яго хаўруснікі прытаіліся на рынку за вуглом дашчанага ларка і чакалі. Дзетдомаўскі двор быў амаль пусты. Валіў белы дым з коміна лазні, у рабочым пакоі свяціліся вокны, часам перабягалі праз вуліцу дзяўчынкі з другога корпуса. Каток, які больш за ўсё цікавіў Гвідона, таксама амаль апусцеў. На невысокай драўлянай лаўцы, што была недалёка ад канцылярыі, ляжалі нейчыя канькі. Тое, што на лёдзе коўзалася некалькі малых у расхлістаных паліто, Гвідон у разлік не браў. «Яны і пікнуць не паспеюць...— падбадзёрваў ён змоўшчыкаў.— Кінемся да лаўкі, схопім канькі і назад, на рынак... Вунь праз тую дзірку ў частаколе... Я ўсё прадумаў...» Голас у Гвідона зрываўся. Захваляваліся і яго хаўруснікі. Ямчэй нацягнулі шапкі, угнулі шыі.
— Пайшлі! — рэзка махнуў Гвідон і першы, прыгнуўшыся, рушыў наперад.
Малыя, што коўзаліся на лёдзе, напэўна, і не звярнулі б асаблівай увагі на чатырох хлопцаў, якія пранесліся бягом па лёдзе да лаўкі, калі б адзін з іх, што бег апошнім, не паслізнуўся і не грымнуўся пасярэдзіне катка. Гэта быў Жэня Трацяк, худы, рабаціністы местачковец. Ён стукнуўся аб лёд галавою і не мог адразу ўсхапіцца на ногі.
Першы да яго падкаціў маленькі Барыс. Ён ужо хацеў памагчы няўдачліваму канькабежцу падняцца, як раптам убачыў, што гэта зусім не дзетдомаўскі хлопец. «Эг-э-э!» — Барыс азірнуўся на трох астатніх хлопцаў. Тыя былі ўжо ля лаўкі. Адзін з іх, самы большы, схапіў пару канькоў, сунуў пад палу. Другі зрабіў тое ж самае. Трэці пашнырыў ля лаўкі, штосьці шукаючы, і бягом кінуўся да малых. Пхнуў у грудзі Іліка Рыбкіна. Той упаў, а хлопец пачаў зрываць з ягоных ног канькі... «Што? Што яны робяць? Канькі адбіраюць!» — мільганула здагадка. Чакаць не было калі. Пакуль Трацяк, стогнучы, станавіўся на ногі, Барыс штурхнуў яго ззаду, той зноў расцягнуўся на лёдзе. Малы крутнуўся на месцы, нейкі момант пастаяў, а потым кінуўся што было духу да лазні.
— Местачкоўцы нашых б'юць! — крыкнуў ён, задыхаючыся, калі ўварваўся ў белыя ад пару сенцы.
Адабраць канькі ў Іліка Шылаў адзін не змог. Рыбкін круціўся на лёдзе, дрыгаў нагамі, біўся рукамі і кусаўся. Астатнія тры першакласнікі глядзелі на яго і не разумелі, што тут робіцца. Аднак, калі да Іліка падскочыў Гвідон Басаў, малыя, нібы раззлаваныя вераб'і, рынуліся на местачкоўцаў. Падкраўшыся да Гвідона, двое тузанулі яго за ногі. Доўгі і сутулы Гвідон шлёпнуўся на лёд.
...Гвідону Басаву памог устаць на ногі і далікатна надзеў яму шапку на галаву Анатоль Пятровіч. Паправіўшы акуляры і нацягнуўшы пальчаткі, спытаў:
— Што тут было?
Гвідон сцяміў: завуч нічога не ведае. Можна выкруціцца!.. Праз некалькі мінут ён сядзеў у дзетдомаўскай канцылярыі, размазваў кулаком па твары слёзы.
— Я знайду вінаватых і пакараю,— суцешыў яго завуч.— Можаце ісці... Толькі вось што я вас папрашу: не хадзіце скардзіцца, а то шуму наробяць і ў школе і ў райана... Ідзіце, даражэнькі.
«Не хадзіце скардзіцца? — разважаў Гвідон, ідучы дадому па коўзкім тратуары.— Не хадзіце скардзіцца... А што, калі пайсці?..»

## РАЗДЗЕЛ XIII

«Паважаны грамадзянін Чыракоў! З мнагалюднага вузлавога горада, адкуль чыгуначныя пуці разбягаюцца на ўсе чатыры бакі, з горада, дзе ёсць рынак і прытулак для маёй адзінокай і рамантычнай

душы, шле вам прывет і нізка кланяецца сокал ясны Апанас Кныш! Грамадзянін дырэктар Кірмашэвіцкага прыюта! Мінулай восенню, калі я са сваімі жмурыкамі пераязджаў са старога наседжанага месца ў другі горад, на Вашай захудалай станцыі мяне і маіх куранят зняла з вагонных дахаў злая мачыха-міліцыя і аддала на Вашае папячыцельства. Як Вам вядома, я не прадпрыймаў ніякіх рашучых дзеянняў, каб злаўрэдзіць вашаму прыюту, хоць, праўда, падбіваў сваіх жаўтаротых уцячы на вольны прастор. Вы іх, калі ласка, не прыцясняйце цяпер. Яны са мною ехаць адмовіліся. Я і сам да вясны не паехаў бы, калі б грамадзянін завуч, інтэлігенцік і ачкасты кенгуру, не пачаў чапляцца да мяне. Няхай іншыя чысцяць яму злачныя месцы, а я да гэтага не прызвычаены, і маё культурнае выхаванне не дазваляе гэтага рабіць. Таму я рвануў кіпці з падведамственага Вам прыюта. Жыву і здабываю свой хлеб уласнай ініцыятывай. Тут ёсць адна арцель, у якую мяне даўно хоча ўмазаць яе гаспадар, але я ўступаць не збіраюся. Яны працуюць па-мокраму, а мне гэта не па душы. Калі я расказаў арцельшчыкам, як жыў у вашым прыюце, грамадзянін Чыракоў, і што Вы паранены на вайне за справядлівае дзела, яны мяне хацелі збіць на горкае яблыка. За тое, што я па сваёй нясвядомасці ўзяў казённыя рэчы, за якія Вам прыйдзецца адказваць. Я падумаў адзін дзень і другі і рашыў, што Вам на самай справе могуць уляпіць за тыя новыя шмоткі, якія я панёс на сабе. Таму разам з гэтым пісьмом пасылаю грошы. За паліто трыста рублёў, за чаравікі, шапку, пінжак і штаны таксама трыста. Грошы я пазычыў у арцелі, разжывуся, дык вярну. Кланяйцеся ад мяне начальніку Гразоўскаму і грамадзяніну Жукаву на станцыі. Вясною думаю падацца куды-небудзь на іншае месца, паколькі мая душа жадае падарожжаў, а транспартам па-ранейшаму карыстаюся бясплатна. Будзьце здаровы і не памінайце благім словам.

Апанас Кныш».

Пісьмо прыйшло ў дзіцячы дом у канцы студзеня. Разам з сінім расквечаным канвертам паштальён уручыў Мікалаю Пятровічу акуратна запоўнены бланк грашовага пераводу. Ні на канверце, ні на пераводзе зваротнага адрасу не было. Не было і прозвішча таго, хто адпраўляў. «Цікава...» Мікалай Пятровіч акуратна разрэзаў канверт, схіліўся над сталом. Памяты і спісаны Апанасавымі каракулямі ліст паперы... «Ах ты, чарцяне,— усміхнуўся Мікалай Пятровіч.— Сумленне, бачыш, яго заела! Адкуль жа ён піша?»

Штамп на канверце сведчыў, што пісьмо і перавод адпраўлены з паштовага аддзялення на невялічкім паўстанку, што пасярэдзіне дарогі між Пінскам і Лунінцом.

«Дзе ж ён можа быць, той горад, адкуль чыгунка разыходзіцца на ўсе чатыры бакі? Пінск? Відаць, не. Лунінец? Магчыма. Але тады чаму «вялікі рынак», чаму «арцель»? Відаць, усё-такі Апанас у Пінску. Урэшце няхай ён і ўцёк з дзетдома, няхай узяў вопратку. Але ж рашыцца напісаць пісьмо, выслаць грошы — на гэта не кожны пойдзе». Мікалай Пятровіч добра ведаў сваіх выхаванцаў. Невядома чаму, але ў тыя мінуты ён адчуваў, што калі б зараз Апанас быў вось тут, у канцылярыі, то ён, чэснае слова, пацалаваў бы хлопца і дараваў бы яму ўсе грахі. Але Апанаса не было. Было толькі пісьмо ды жоўтая картка паштовага·пераводу. І яшчэ былі ўспаміны пра падзеі, што адбыліся ў дзетдоме за апошнія тыдні. Яны прынеслі гэтулькі непрыемнасцей, што грубаватае пасланне Апанаса Кныша з'явілася для дырэктара нейкай падтрымкай, прынесла, як ні дзіўна, спакой і нават



радасць. Мікалай Пятровіч разумеў, што значыць «арцель», што значыць «гаспадар». Калі Апанаса не знайсці і не вярнуць у дзетдом, хлопец прападзе.

Апанас быў першы і пакуль што адзіны з тых, хто ўцёк з дзетдома. З таго часу прайшло амаль два месяцы. Увесь гэты час Мікалай Пятровіч шукаў тлумачэння ягонаму ўчынку. Цяпер што-кольвечы высветлілася з пісьма. Але не ўсё.

Гвідон Басаў не паслухаў Анатоля Пятровіча, калі той прасіў, каб хлопец нікому не скардзіўся. Як ні дзіўна, але сваёю просьбаю «нікому не скардзіцца» Анатоль Пятровіч толькі падштурхнуў Гвідона Басава на скаргу. Гвідонава маці, старая і адзінокая жанчына, злосная амаль на ўсіх мястэчкоўцаў і, вядома, на дзетдомаўцаў — гэтых гарлапаністых зладзеяў і бадзяг, як яна іх называла, — адразу ж, калі сын вярнуўся дадому ў сіняках, учыніла яму допыт. У дадатак да таго, што Гвідон атрымаў на катку, яна перацягнула яго некалькі разоў па плячах чапялою. Пасля паплакала, накарміла сына вячэрай і пацягнула ў бальніцу. Дзяжурны доктар выдаў даведку, дзе значылася, што «пры аглядзе сапраўды на спіне і пярэдняй частцы галавы ў грамадзяніна Басава Г. І. яўна прысутнічаюць пабоі, нанесеныя як рукамі, так і цвёрдымі драўлянымі прадметамі».

Назаўтра да пракурора паступіла заява, у якой Басаў пісаў тое, што гаварыў дзетдомаўскаму завучу. Да заявы была прыкладзена даведка ад урача.

На ўрокі Гвідон не з'явіўся, а яшчэ праз дзень па школе з класа ў клас папаўзла вестка: Басава дзетдомаўцы пабілі амаль да смерці. Маці падала на іх у суд. На дзетдомаўцаў спачатку асцярожна, а пасля адкрыта аднакласнікі пачалі паказваць пальцамі і зларадначаць:

— Разбойнікі... Дастукаліся, нарэшце.

Арсень Зайцаў паспрабаваў быў расказаць пра ўсё, але яго не слухалі.

— Г-г-га! Выкручваецеся цяпер...—крычалі Антось Галушка і Жэня Трацяк... Яны спачатку не паверылі, што Гвідон напісаў скаргу пракурору. Але ўсе пра гэта гаварылі, і хаўруснікі паднялі галовы. Ім цяпер няма чаго баяцца.

Віця Ляўковіч у бойцы не ўдзельнічаў, але са слоў выхаванцаў ведаў усё, што адбылося на катку. Нахабнасць Гвідонавых дружбакоў яго страшэнна абурыла.

— Кінь, Віця, усё гэта глупства і хлусня, — сказаў Арсень. — Калі трэба будзе, я сам растлумачу, як усё было. Толькі не ім, — ён паказаў локцем у бок мястэчкоўцаў, — не гэтым смаркатым мамчыным сынкам.

— Мамчыны сынкі?.. Можа я вінаваты, што ў мяне маці і бацька ёсць? — наступаючы на дзетдомаўцаў, закрычаў Юры Гарабчук.— А ці ведаеце вы, што нам, гэтым самым мамчыным сынкам, можа ў пяць разоў цяжэй вучыцца, чым вам?! У вас вунь і касцюмы новыя, і падручнікі, і жратвы хапае. Вам усё бясплатна і ўволю.

Расчырванелы і злосны, Юры неяк раптоўна абмяк, хацеў яшчэ нешта сказаць, але махнуў рукой і сеў на сваё месца, ляснуўшы вечкам парты. Збянтэжаныя такім нечаканым паваротам размовы, дзетдомаўцы глядзелі на мястэчкоўцаў і бачылі ў іхніх вачах дакор і крыўду. Нейкая нябачная мяжа прайшла паміж меншасцю і большасцю шостага класа. Большасць — гэта вучні з мястэчка, меншасць— дзетдомаўцы. Не знікла мяжа і тады, калі пачаўся ўрок алгебры і калі, ідучы па-ранейшаму на «выручку» ўсяму класу, Віця Ляўковіч

першы падняў руку, каб рашыць самы цяжкі прыклад. Ніхто з палёгкай не ўздыхнуў, як гэта было раней, ніхто па-сяброўску не падміргнуў яму. Раман Сцяпанавіч таксама не заўважыў яго паднятай рукі. Ён выклікаў рыжанькую Гэлю Кулак, і тая рашыла прыклад ля дошкі.

Не было ранейшага вясёлага вэрхалу і ў час перапынку. А калі, прыйшоўшы з калідора, Віця Ляўковіч сеў за парту, ён убачыў, што месца побач з ім пустуе — карычневага пацёртага партфеля Ніны Зямко, той самай Ніны, якую ён лічыў самай прыгажэйшай не толькі ў класе, але і ва ўсёй школе і якую патаемна ад усяго свету кахаў, партфеля той самай Ніны ў парце не было. Ён азірнуўся і ўбачыў прыгожую гладка прычасаную Нініну галоўку побач з ускалмачанай галавой местачковага вучня Казіка Лукоўскага

Яшчэ праз урок і праз адзін перапынак Віця знайшоў у сваім падручніку па хіміі маленькую запіску. «Вы, усе дзетдомаўскія, — задзіры. І больш я з табой не дружу. Ніна». Нібы абвараны, тайком перачытаў напісаныя знаёмым роўным почыркам словы, скамечыў у кулаку паперку і так прасядзеў да паловы ўрока. Потым моўчкі падняў руку і папрасіў дазволу выйсці з класа.

У калідоры прыпыніўся ля вешалкі, намацаў у падкладцы Федзевага паліто пачак з папяросамі. Узяў тры штукі. Схаваўшыся за школьным хлявом паміж штабялямі дроў, курыў да канца ўрока. Накурыўся з непрывычкі так, што кружылася галава і ледзь не разрывалася сэрца.

Праз тры дні, у шэры зімовы надвячорак, на дзетдомаўскім двары з'явіўся чалавек невысокага росту, плячысты, з маўклівым белым тварам і нерухомымі вачамі, што пазіралі з-пад кашлатых шэрых броваў. Апрануты ён быў у карычневы паўваенны шынель з бліскучымі гузікамі, на галаве — сіняя круглая шапка з гэткай жа бліскучай цэшкай. Пастаяў, агледзеўся. Пасля, ківаючы пальцам, паклікаў да сябе хлопчыка, што праходзіў міма:

— Як знайсці дырэктара?

Малы з цікаўнасцю агледзеў чалавека і паказаў яму рукой на веранду:

— Ён у канцылярыі. Вунь там...

Следчы раённай пракуратуры Іван Міхайлавіч Калтуноў меў ад пракурора даручэнне самае звычайнае: пайсці і ў дзетдоме разабрацца, што там адбылося з гэтым самым Гвідонам Басавым. Пракурор не надаваў асаблівага значэння ні заяве Гвідона, ні даведцы ўрача. Ну, пабіліся хлапчукі на лёдзе, дык ці абавязкова пракурору разбірацца. Аднак следчы, у адрозненне ад пракурора, лічыў сябе чалавекам прынцыповым...

Яны сядзелі ў канцылярыі за сталом, адзін насупраць другога. Размова не клеілася, хоць да гэтага яны былі знаёмыя: Мікалай Пятровіч разоў некалькі сустракаўся са следчым на сходах раённага актыву. Па твары следчага дырэктар зразумеў, што той прыйшоў не для размовы аб надвор'і. Следчы, у сваю чаргу, адчуваў, што Мікалай Пятровіч — гэта не які-небудзь вясковы самагоншчык, якога можна запалохаць і з якога можна «выціснуць усё для дзела». Не. Тут асабліва не разгонішся — не памогуць ні юрыдычныя тэрміны, ні халодная суровасць твару, ні рэзкія пытанні, ні пагрозы. Зразумеўшы і адчуўшы гэта, следчы ў думках вылаяў сябе і палажыў на стол карычневы партфель. Тое, што дырэктар глядзіць на яго крыху насмешлівымі і вельмі разумнымі вачамі, нервавала следчага. І ўсё ж — трэба пачынаць.





Шчоўкнуў замком у партфелі, паволі выцягнуў паперы і падаў дырэктару:

— Азнаёмцеся, каб ведаць, чаго я сюды прыйшоў.— Рука ў следчага была без двух пальцаў. Ён, як здалося Мікалаю Пятровічу, знарок увесь час трымаў яе на віду: маўляў, бачыш, я не абы-які следчы, я вайну прайшоў, я кроў праліваў, са мною жарты кароткія.

Мікалай Пятровіч чытаў уважліва. Спачатку заяву Гвідона Басава, пасля даведку, што выдаў урач. Прачытаў, патрымаў у руцэ, згарнуў і падаў следчаму. Той прыкрыў паперу далонню і чакаў, па-ранейшаму злосна пазіраючы перад сабой.

— Усё гэта паклёп. — Першы загаварыў Мікалай Пятровіч. — Справа была не так...

— Мяне не цікавіць, як была справа. Мяне цікавяць вынікі. Вось даведка. Вашы выхаванцы — дзеці, якіх вам даручыла выхоўваць савецкая ўлада, растуць хуліганамі і разбойнікамі. Як маглі вы, дырэктар дзетдома, дапусціць да гэтага?

Мікалай Пятровіч ніяк не мог зразумець, чаго следчы злуецца. Ён зноў памкнуўся загаварыць, але следчы ляснуў далонню па стале і закончыў сваю прамову зусім нечаканым патрабаваннем:

— Я павінен зрабіць допыт вашых выхаванцаў. Паклічце сюды Арсеня Зайцава і Барыса Цыгана.

Твар у Мікалая Пятровіча раптам пачырванеў, аднак ён загаварыў спакойна:

— Тут не пракуратура, каб рабіць допыты. І яшчэ вось што я вам скажу, таварыш следчы, пакуль я тут дырэктар, запамятайце раз і назаўсёды: ніводнага з выхаванцаў вы дапытваць не будзеце. Я сам разбяруся і сам пакараю вінаватых, калі ў гэтым будзе неабходнасць. А зараз, — Мікалай Пятровіч выпрастаўся над сталом і ціха, але цвёрда паўтарыў:— А зараз, прашу вас, таварыш следчы, пакінуць мяне аднаго. Мне трэба падумаць...

Следчы не зразумеў, што меў на ўвазе дырэктар, калі прапанаваў пакінуць яго ў канцылярыі. Ён па-ранейшаму, моўчкі і холадна, пазіраў на Мікалая Пятровіча. Потым па-ранейшаму рэзка загадаў:

— Прывядзіце сюды названых мною выхаванцаў...

Мікалай Пятровіч, сціскаючы пальцамі параненай рукі рамень на гімнасцёрцы, здаровай левай рукой падаў следчаму партфель і шапку і ціха. з цяжкасцю вымаўляючы словы, сказаў:

— Прашу вас пакінуць мяне аднаго... мне трэба падумаць...

Следчы паволі ўстаў з месца, моўчкі надзеў шапку і ўзяў партфель. Азіраючыся, ён падаўся да дзвярэй і, ужо трымаючыся за клямку, сказаў:

— Вам прыйдзецца за ўсё гэта адказваць перад законам... Мы яшчэ пагутарым у другім месцы...

Дзеці, што былі на двары, з цікавасцю ўбачылі, як, стоячы на ганку дзетдомаўскай канцылярыі, ламаў адну за другой запалкі расчырванелы злосны чалавек у карычневым расшпіленым шынялі. Нарэшце, ён зашпіліў гузікі і, шырока ступаючы, падаўся на вуліцу. Драўляная брамка доўга матлялася на скрыпучых іржавых завесах, калі ён выйшаў з дзетдомаўскага двара.

...Арсень Зайцаў закончыў гаварыць і, аблізваючы перасохшыя губы, моўчкі пазіраў сабе пад ногі. Рукі ён трымаў за спіной, і збоку здавалася, што яны ў яго шчыльна прывязаны да цела. Ён зрэдку ўзнімаў галаву і кідаў кароткія позіркі на тых, хто сядзеў за сталом. Ён расказаў усё так, як сапраўды было тады, на катку. Стаяла цішыня, толькі недзе ззаду, за яго спіной, соп носам маленькі Барыс. Арсень адчуваў, што малы хвалюецца, і ў думках паспачуваў яму. Сам ён стаяў перад сталом ужо з гадзіну. Хацелася піць, ногі нібы адзеравянелі. Арсень выступаў апошні з тых, хто біўся з местачкоўцамі на катку. Хлопцы сядзелі ззаду, поплеч з Барысам, а ён стаяў, нібы падсудны, садзіцца яму не сказалі. Арсень — адзін з членаў дзіцячага савета — уліп у гэтую гісторыю. І тым горш для яго, бо ён сам адказны за дысцыпліну і за паводзіны ўсіх выхаванцаў.

У сталоўцы, акрамя яго і хлапчукоў, што былі на катку, прысутнічаюць усе астатнія члены дзіцячага савета. Дырэктар сядзіць не за сталом, а ля акна, збоку. Завуч — пасярэдзіне за сталом. Побач з ім— Віця Ляўковіч, Адам Капа, дзяўчынкі. Вунь яшчэ Федзя Жаўнерык. «Грымасы корчыць, пацвельвае, зануда. Сам тады не быў на пабоішчы, цяпер у суддзях сядзіць. А мог бы, галубочак, і побач стаяць. Смейся, даражэнькі. І ты калі-небудзь пападзешся».

Арсень суцяшае сам сябе, але ад гэтага не лягчэй на душы. І чаго яны ўз'еліся? Ну, няхай Віця Ляўковіч — ён старшыня дзіцячага савета, з яго самога патрабуюць: і дырэктар, і завуч, і выхавальнікі яго часам распякаюць. А гэтым козам што ад яго трэба — дзяўчынкам? Якая іх справа? І Валерыя, сястра, там, за сталом. Ёй соромна за брата. Здаецца, вось-вось заплача. Арсень страшэнна баіцца, каб яна не заплакала. Ён не ўпэўнены, ці вытрымае, ці не заплача сам. Пытанняў яму больш ніхто не задае. Усё ясна. Усе стаміліся і ахрыплі ад спрэчак. Ён чуе, як завуч гаворыць Віцю Ляўковічу:

— Вывесці з дзіцячага савета...

Віця ківае галавой. У ягонай руцэ дрыжыць лісток са сшытка. Гаворыць, а голас, нібы чужы, нібы з сапсаванага грамафона:

— Мы тут, на дзіцячым савеце, разгледзелі пытанне аб непрыстойных паводзінах асобных выхаванцаў дзіцячага дома на чале з Арсенем Зайцавым. Вы ўсе ведаеце, што яны зрабілі. Каб больш падобныя выпадкі не паўтараліся, я прапаную прыняць наступнае рашэнне:

1) Арсеня Зайцава за тое, што біўся пасля таго, як канькі былі адабраны ў местачкоўцаў, вывесці з членаў дзіцячага савета.

2) Барыса Цыгана і двух астатніх хлапчукоў, што пацярпелі ад местачкоўцаў, папярэдзіць, каб без дазволу выхавальнікаў на коньках не каталіся.

3) Забараніць выхаванцам дзетдома біцца па якой бы там ні было прычыне. За парушэнне гэтага караць аж да адпраўкі ў іншы дзіцячы дом.

4) Паслаць Арсеня Зайцава да Гвідона Басава, каб ён пагаварыў з ім і схіліў яго забраць заяву ад пракурора.

— У мяне ўсё. Хто мае іншыя прапановы?

Іншых прапаноў не было.

— Галасуй, — паціху падказаў завуч, калі Віця ўжо збіраўся садзіцца.

— Прашу падняць рукі, хто за чатыры пункты рашэння,— зноў аб'явіў Віця Ляўковіч.

Рукі падняліся дружна. Праўда, не абышлося без канфуза: маленькі Барыс таксама прагаласаваў.

— Ты не маеш права падымаць руку,—папярэдзіў яго Адам Капа — Ты не член дзіцячага савета.

Усе засмяяліся. Барыс таксама. Арсень моўчкі выйшаў са сталоўкі, ні на кога не паглядзеў, ні з кім не загаварыў. Вечарам, калі хлопцы сабраліся ў спальні, ён гэтак жа моўчкі сабраў пасцель на сваім ложку, што стаяў побач з Віцевым, і перанёс на ложак Федзі Жаўнерыка — у другі куток спальні. Федзя перайшоў спаць у суседзі да Віці. Ляўковіч у той вечар нічога не сказаў Арсеню. Толькі назаўтра раніцай, калі яны засталіся адны, спытаў:

— Ты на мяне крыўдзішся?

Арсень паглядзеў на яго злоснымі, нібы невідушчымі вачамі і прашаптаў:

— Ты сволач, а не друг... Ясна?

Задыхаючыся ад хвалявання, яны нейкі момант стаялі адзін перад адным... Потым разышліся.

Ісці на перагаворы да Гвідона Басава Арсень рашуча адмовіўся. Не падзейнічалі на яго ні ўгаворы хлопцаў, ні пагрозы завуча, ні загад Валянціны Зіноўеўны. Пасля ранішняй размовы ў спальні Віця адмовіўся яго ўпрошваць. Ён ведаў, што гэта — дарэмная трата часу: характар у Арсеня цвёрды. Таму ўдзень, калі выходзілі са школы, Ляўковіч спыніў ля парога Федзю, Лёню Сокала, Жору Гулева, Алёшу Парэчкіна і яшчэ некалькі хлапчукоў і загадаў ім:

— Аддайце свае партфелі, няхай іх дзеці аднясуць дамоў. Пойдзеце са мною.

«Дыпламаты» пераступілі парог Гвідонавай хаты якраз у той час, калі яго маці з вёдрамі ў адной руцэ і з каромыслам у другой збіралася ісці па ваду. Яна перапалохалася не на жарт, калі ўбачыла перад сабой дзесятак дзецюкоў у сініх аднолькавых паліто і ў чорных зімовых

шапках. Збянтэжыліся і хлопцы, калі ўбачылі яе з каромыслам у руках. «Біць будзе, ведзьма старая», — падумаў Лёня Сокал, хаваючыся на ўсякі выпадак за Федзевы плечы. — Дальбог, як пачне малаціць, дык месца цэлага не застанецца».

Так думаў ён не адзін. Але адступаць было позна.

— Дзень добры! — першы азваўся Віця.

— Дзень добры, — нібы рэха, гаркнулі хлопцы.

— Дзень добры, — пачціва прамовіла жанчына. З-за печы выткнулася Гвідонава галава і тут жа схавалася назад. Аднекуль зваліўся і забразгатаў на падлозе ржавы веласіпедны руль. Стала ціха.

— Мы да вас, — загаварыў Віця.

— Мы да вас, — дружна падтрымалі хлопцы.

— Сядайце, сядайце, хлопчыкі, — старая паставіла начынне ў кут і хуценька выцерла доўгі ўслон.

Не спяшаючыся, хлопцы рассаджваліся на ўслоне. Гвідонава маці стаяла насупраць, каля печы.

— Мы да вас прыйшлі па справе, — пачаў Віця. — Мы з дзетдома. Нашы хлопцы на катку пабілі вашага сына. Ён хацеў адабраць канькі ў нашых малых хлапчукоў...

Віця гаварыў спакойна. Па твары жанчыны цяжка было здагадацца, як яна ўспрыме гэты дыпламатычны візіт. Таму хлопцы сядзелі, як на іголках.

— Гвідон! Гвідоша! — паклікала жанчына, павярнуўшы галаву за комін. — Ідзі сюды, да цябе госці.

Гвідон злазіў з печы неахвотна. Адпіхнуў нагою ржавы руль у кут, кінуў туды гаечны ключ, выцер аб штаны рукі і стаў перад хлопцамі. Ён выглядаў страшэнна вінавата, калі загаварыў, губы ў яго дрыжалі:

— Я ж быў не адзін. Чаму вы да Трацяка не пайшлі або да Шылава?

— Ты быў галоўны. Мы ўсё ведаем,— Віця пазірае на Гвідона, хлопцы таксама.

— Мы прыйшлі, каб усё высветліць да канца. Пракурор прысылаў следчага з тваёю заяваю.

Гвідон збялеў, маці чагосьці замітусілася, кінулася да самавара, што стаяў на стале, забразгала белымі кубкамі.

— Вы можа чаю, мае дзеткі, вып'еце?.. Я з варэннем дам...

Трэба было дзейнічаць хутка і рашуча. Федзя так і зрабіў. Не звяртаючы ўвагі на словы жанчыны, ён сказаў:

— Трэба, каб вы, цётка, пайшлі і забралі заяву ў пракурора. Інакш мы гэта так не пакінем... Мы пойдзем да начальніка міліцыі. Ён наш друг. Ён разбярэцца,— Федзя гаварыў цвёрда і перакана̀ўча, бо ён сам і ўсе астатнія хлопцы заўважылі, што старая іх пабойваецца.

Мінут праз дваццаць па мястэчковай вуліцы ішла цікавая дэлегацыя: дзетдомаўскія хлапчукі ў сініх паліто, адзін мястэчковы хлопец у шэрай ватоўцы і старая жанчына ў клетчатай хустцы. Каля драўлянага дома ўсе яны спыніліся. Жанчына асцярожна адчыніла дзверы і разам са сваім сынам знікла ў калідоры. Хлопцы з палёгкай уздыхнулі і пачалі чакаць. Стаялі яны з паўгадзіны. Пераашэптваліся. Каб не мерзлі ногі, ціха тупалі па тратуары. Усё скончылася добра. Жанчына, трымаючы ў руках нейкія паперы, залішне паспешліва выйшла з дому, уздыхнула з палёгкай і спынілася перад хлопцамі. І яна і яе сын былі чымсьці ўзрушаны.

— Вось яна, праклятая! — жанчына паказала хлопцам заяву, а пасля даведку...



— Вы іх парвіце,— параіў на ўсякі выпадак Федзя Жаўнерык.

— Але, але, абавязкова парвіце,— загаварылі хлопцы.

— Парву, вось глядзіце,— жанчына парвала паперкі і кінула праз частакол.— Я тады злосная была. Я яго сама лупцавала. Гвідо-н-н! — яна пацягнула сына за рукаў.— Гэта ўсё праз цябе, гора ты маё! І калі ты адумаешся? — на вачах у старой былі слёзы. Хлопцам стала няёмка.

— Вы не перажывайце, мы яго не будзем чапаць,— пачалі яны суцяшаць старую.— А ён няхай да нас прыходзіць. Канькі дамо пакатацца...

Жаўнерык злёгку пастукаў Гвідона па спіне, маўляў, нічога, абышлося... А на будучае запомні...

## РАЗДЗЕЛ XIV

Пасля сходу, на якім Арсеня Зайцава выключылі з дзіцячага савета, Мікалай Пятровіч ні разу не ўспамінаў хлопцам пра бойку на катку. Ён рабіў выгляд, што пра ўсё забыў. А можа ў яго была свая думка адносна ўсяго, што здарылася. Хто яго ведае... Хлопцы і самі не хацелі ўспамінаць пра мінулае, таму жыццё стала ціхае і спакойнае. Аднак дырэктар з вопыту ведаў, што спадзявацца на цішыню — справа марная. Ён разумеў: у калектыве дзяцей, дзе ў кожнага свае звычкі, свой характар, спадзявацца на ціхае жыццё — значыць ашукваць самога сябе. Няхай лепш жыццё будзе турботным, няхай яно б'е крыніцай, няхай не будзе цішыні і заспакаення. Няхай выхаванцаў кожны дзень чакае цікавая справа. Няхай не застанецца ў іх часу на дрэнныя ўчынкі. Гэта трэба зрабіць сістэмай, інакш гарантыі, што не паўторыцца «лядовае пабоішча», няма і не будзе.

Некалі дырэктар гаварыў пра майстэрню. Цяпер, на прадвесні, прыйшоў час узяцца за яе. Зарукай таго, што яе можна пабудаваць, быў другі корпус, адрамантаваны рукамі выхаванцаў.

З вялікімі цяжкасцямі дырэктар дабіўся грошай, каб купіць у суседняй вёсцы драўляны домік, яшчэ раней аблюбаваны загадчыкам гаспадаркі. Грошы далі, але намякнулі, што яны прызначаны былі на другую справу. Маўляў, глядзіце, каб не заблыталіся.

Зноў быў сход, як тады, калі збіраліся рамантаваць гасцініцу. Рашылі — майстэрню будаваць трэба. Палавіну выхаванцаў уключылі ў будаўнічую брыгаду. Камандзірам брыгады прызначылі Зіновія Цімафеевіча, намеснікам — Арсеня Зайцава. Той не хацеў, аднекваўся і нават злаваўся. Мікалай Пятровіч паклікаў яго ў канцылярыю. Пасля гэтага, казалі, згадзіўся.

Паціху бралася прадвесне. На дзетдомаўскім катку непрыкметна раставаў лёд, ніжэй і ніжэй асядаў снежны бар'ер вакол катка. Ля лазні, можа таму, што яе часта палілі, а можа ад сонца, што прыгравала ў зацішку, прабівалася з-пад снегу шэрая зямля. На другім корпусе весела вуркаталі Алёшавы галубы. Удзень, вяртаючыся са школы, дзеці расшпільвалі паліто і скідалі шапкі.

На другі дзень пасля сходу Мікалай Пятровіч, загадчык гаспадаркі, шавец Шлёма і вартаўнік дзядзька Елісей паехалі купляць зруб. А яшчэ праз дзень у дзетдомаўскім двары з'явіўся абоз з пяці фурманак, нагружаных шэрымі сухімі бярвеннямі. Згружалі іх усёй талакой. Вясковыя дзядзькі бачылі, што дзетдомаўскія дзеці не гультаі. Праз тры дні сцены будучай майстэрні і рэзаная на часткі страха ўжо ляжалі непадалёку

ад лазні. Дзядзькі, што перавозілі зруб, распісаліся ў ведамасці, атрымалі ў бухгалтара грошы і паехалі дамоў.

Перавезены зруб чакаў руплівых рук, каб стаць тым, чым трэба,— вытворчай майстэрняй дзіцячага дома.

Спачатку разграблі снег і білі ў мёрзлай зямлі ямкі пад цагляны падмурак. Працавалі групамі на перамену. Па гадзіне ў дзень, пасля абеду. Цэглу вазілі на старым Фрыцы амаль з другога канца мястэчка— камунгас дазволіў разабраць руіны магазіна, які пачалі будаваць яшчэ да вайны ды так і не скончылі. Працавалі зацята, таму што закончыць майстэрню трэба было да вясновых канікулаў. Зінові Цімафеевіч сам працаваў і камандаваў выхаванцамі. Перапэцканы глінай, ён то падпраўляў ямкі, то схіляўся са сталярным роўнем над цаглянымі слупкамі, вымерваў, прыкідваў. Арсень Зайцаў, як ён сам гаварыў і як жартавалі хлопцы, «вёў канцылярыю і ажыццяўляў агульнае кіраўніцтва». Работы ў яго было шмат: сачыць, каб кожная змена ў час з'яўлялася на будоўлю, каб праз гадзіну пасля работы ішла рыхтаваць урокі, а на яе месца заступала новая. Трэба было яшчэ сачыць, каб малыя не швэндаліся побач і не перашкаджалі. І яшчэ самому Арсеню трэба рыхтаваць урокі. І хадзіць у школу, і баяцца, каб не атрымаць двойку. Гэтага ён не хацеў: у душы недзе затаілася крыўда на хлопцаў. Усё за тое, што на сходзе тады было. Ён дакажа яшчэ сваё... А можа хлопцы не вінаватыя. Не, яны вінаватыя. Яны гэта знарок на ім адыграліся. Замкнуўся Арсень, пануры нейкі зрабіўся. Вось толькі добра, што заняты ўвесь час — асабліва сумаваць няма калі.

Першы вянок бярвенняў клалі на падмурак урачыста. Нібы мурашкі, ашчаперыўшы сухое смалістае бервяно, лёгка і хутка паклалі яго на цагляныя слупкі. Зінові Цімафеевіч аж шапку зняў і лоб выцер ад задавальнення. Калі ж прынеслі другое, пасля трэцяе, а пасля і чацвёртае, і калі ясна акрэсліліся сцены будучай майстэрні, стары тры разы плюнуў на ўсходні вугал, зноў зняў шапку і хуценька перахрысціўся. Віця і яшчэ двое хлопцаў заўважылі гэта, ціха пераглянуліся і хіхікнулі.

— Цыц! — замахаў рукою стары.— Не ваша справа, так трэба...

Выйшла ўсё гэта ў яго неяк адразу: хрысціўся ён, відаць, па старой звычцы, прыкрыкнуў на хлопцаў таксама больш для парадку. Паклалі на першы вянец шэрае пакулле, зверху прыціснулі яго другім вянцом з бярвенняў. За паўдня сцены амаль да вокан выраслі: бярвенні гатовыя — толькі складвай ды дзе-нідзе падганяй абухом. Праз некалькі дзён на вяроўках усцягвалі разрэзаную па частках страху. Гэта была самая цяжкая і адказная работа. Да яе пільна рыхтаваліся. Зінові Цімафеевіч, трымаючыся за канаплянае вужышча, падаў каманду:

— Раз! Два! Яшчэ ўзялі! — ён счырванеў ад натугі, падаўся тулавам назад: — Яшчэ р-р-раз!

І вось тады вяроўка недзе там наверсе раптам адарвалася, стары і хлопцы паваліліся ў кучу, не разумеючы, што здарылася. Але праз секунду Зінові Цімафеевіч усхапіўся і закрычаў немым голасам:

— Т-р-рымай! Трым-май!

Віця адчуваў, як гарадь далоні, як забівае дыханне ад напружання...

— Тр-рымай! — ужо недзе з-за сцяны крыкнуў стары.

Вяроўка парвалася над тым месцам, дзе падпіраў страху багром Мікалай Пятровіч. Калі б у яго была здаровая, не параненая правая рука, ён без асаблівай цяжкасці справіўся б з багром. А так у першы момант ледзь не страціў прытомнасць ад болю, калі, забыўшыся, схапіўся за багор дзвюма рукамі. Аж пацямнела ўвачу. «Не вытрымаю»,— мільганула думка.



— Трымай! — данеслася аднекуль, нібы здалёк. Мікалай Пятровіч зірнуў угару. Край страхі паволі сунуўся ўніз. Крактаў побач стары Елісей.

— Трым-май! — пачулася яшчэ раз.

Мікалай Пятровіч з апошніх сіл трымаў багор рукамі. Калі падбег Зінові Цімафеевіч і кавалкам дошкі падпёр страху, ён выпусціў з рук багор і хіснуўся ўбок. На белым, як палатно, твары выступіў пот...

— Доктара паклічце,— паціху сказаў ён старому і асеў на складзеныя дошкі.

У канцылярыі, куды гуртам адвялі Мікалая Пятровіча, дзетдомаўская медсястра Лідзія Міхайлаўна аказала яму першую дапамогу. Мінут праз сорак прыйшоў доктар з мястэчковай бальніцы. Стаўляючы бліскучы металічны чамаданчык на стол, коратка загадаў:

— Прашу ўсіх выйсці. Вы застаньцеся,— гэта да медсястры.— Спіртоўку...— Лідзія Міхайлаўна хуценька пачала распальваць маленькую спіртавую лямпу. Мікалай Пятровіч сядзеў на табурэтцы, адкінуўшыся да падаконніка, і вінавата ўсміхаўся. Доктар узяў яго за рукаў правай рукі і нячутна, белым маленькім ланцэтам знізу даверху распароў зялёную кашулю. Агалілася плячо і ўся правая рука. І тады хлопцы, што стаялі пад акном, ахнулі: у Мікалая Пятровіча з плечука тырчала куцая косць, пакрытая рубцаватай чырвонай скурай. Рука трымалася на тонкім, нібы скручаны ручнік, адным мускуле — косці ад пляча да локця не было. Адзін за адным адхіснуліся хлопцы ад акна. Тое, што дырэктар паранены на вайне, яны ведалі. Але яны не здагадваліся, што рана ў яго такая. Ад гэтага стала раптам сорамна: яны столькі рабілі яму непрыемнага, столькі прынеслі турбот.

— З-за-зануды,— прамармытаў збялелы Федзя Жаўнерык невядома каму. Можа самому сабе, можа яшчэ каму-небудзь.— Дастукаліся...

Вечарам хадзілі адведаць дырэктара ў бальніцу. Той самы доктар, што ўдзень быў у дзіцячым доме, сустрэў іх у калідоры:

— Сёння да яго нельга. Яму трэба спакой... Прыходзьце тыдні праз два... І не цэлай чарадой, а чалавекі па два-тры...

— Мы хочам ведаць, што з ім? — спыталі хлопцы.

— Нічога страшнага: адкрыліся старыя раны... — Падумаў і дадаў.— Усё будзе ў парадку...

**З рапартаў намесніка камандзіра брыгады Арсеня Зайцава дырэктару аб ходзе будаўніцтва майстэрні:**

**«10 сакавіка.** Сёння поўнасцю ўсцягнута страха і замацавана жалезнымі скобамі. Залатаны дзіркі на стыках. Прыходзіла камісія высвятляць прычыны ўчарашняй аварыі. Анатоль Пятровіч прапанаваў спыніць будаўніцтва. Член камісіі Зернавы сказаў, што трэба канчаць майстэрню. Зінові Цімафеевіч даў распіску, што аварыя адбылася па яго віне і што больш гэта не паўторыцца. У дзіцячым доме парадак і дысцыпліна. Рыхтуемся да кантрольных работ за трэцюю чвэрць. Жадаем хутчэй папраўляцца!»

**«12 сакавіка.** Учора ў майстэрні наслалі столь і падлогу. У самым канцы дня ў дзетдом прыехала аўтамашына з лесазавода. Камсамольцы ў парадку шэфства перадалі дзіцячаму дому варштат — 1, такарны станок па дрэву (стары) — 1, гэблікаў (з жалязкамі) — 6, фуганкаў — 2, пілак сталярных — 2, далотаў — 7, корбу — 1. Пасля Зернавы прывёў сталяра і сказаў, што ён будзе нас вучыць сталярнай справе. Усе былі страшэнна рады і сакратара райкома тры разы падкінулі на «ўра».

«**17 сакавіка.** Сталяр прыходзіць да нас кожны дзень. Ён добры хлопец — сам нядаўна скончыў школу ФЗН, а яшчэ раней быў у дзіцячым доме на Урале. Пастанавілі: спачатку навучыцца рабіць крэслы, а пасля сталы. Чакаем Вас у дзетдоме».

**З вуснага даклада следчага пракуратуры М. І. Калтунова раённаму пракурору:**

«Па справе Гвідона Басава дырэктар дзетдома Мікалай Пятровіч Чыракоў, калі я зайшоў у канцылярыю і пажадаў зрабіць допыт двум выхаванцам — завадатарам бойкі, — мяне культурна выставіў за дзверы. Назаўтра маці пацярпеўшага Басава са слязамі прыйшла да мяне і забрала сваю заяву. Прычын такога ўчынку грамадзянкі Басавай пакуль што я асабіста не высветліў. Але ж у маё распараджэнне паступілі новыя дадзеныя аб тым, што ў Кірмашэвіцкім дзіцячым доме дрэнна абстаяць справы з выхаваннем дзяцей. Невядомы чалавек, які хоча нам памагчы, але баіцца назваць сваё прозвішча, даслаў мне асабіста частку пісьма былога выхаванца Апанаса Кныша. Хлопец піша, што ён уцёк з дзетдома таму, што яго праследаваў і прыцясняў дырэктар. Акрамя таго, цяпер Апанас Кныш звязаўся з шайкай блатных і прыслаў дырэктару грошы. Вось перавод на 600 рублёў, знойдзены невядомым чалавекам і дасланы мне. І яшчэ некаторыя факты. У дзетдоме сістэматычна парушаецца фінансавая дысцыпліна. Падстаўнымі асобамі за рамонт былой гасцініцы атрымана каля чатырох тысяч грошай. Грошы ўзяты з фондаў на набыццё падручнікаў і музычных інструментаў. Незаконна таксама выдаткаваны грошы, узятыя з банка на будаўніцтва майстэрні ў дзетдоме. І вось вынік: 9 сакавіка адбылася аварыя. На вялікае шчасце, з выхаванцаў ніхто не пацярпеў і толькі дырэктар дастаўлены ў бальніцу. З загадчыка гаспадаркі ўзята мною распіска, каб папярэдзіць падобныя выпадкі».

**Пісьмо Грышы Званкова Валерыі Зайцавай, якое перадаў пад вялікім сакрэтам Віця Ляўковіч:**

«Дарагая В. З.! Я дружыў і па-ранейшаму дружу з вашымі дзетдомаўскімі хлопцамі. Але чамусьці, па невядомай прычыне, ты ў апошні час не хочаш дружыць са мною. Я не разумею, нашто тады было ўсё пачынаць. Ты ж сама першая, калі я заходзіў раней да вашых хлопцаў, заўсёды садзілася рыхтаваць урокі побач са мною. А цяпер нават у школе мы ні разу з табой не пагутарылі. Моцна цябе л.... Г. З.»

**Пісьмо Віці Ляўковіча, якое пад найстражэйшым сакрэтам перадаў Ніне Зямко Грыша Званкоў:**

«Дарагая Н.! Пасля таго як ты перасела з маёй парты на другую, да гэтага калматага Казюка, я страшэнна на цябе пакрыўдзіўся. Але я ўсё роўна цябе па-ранейшаму і можа яшчэ ў тысячу разоў больш л....! Мне трэба з табой **абавязкова** пагаварыць. Паслязаўтра пачынаюцца канікулы, я цябе не ўбачу цэлы тыдзень. Таму паслязаўтра, гэта значыць 23 сакавіка, у восем гадзін вечара я цябе чакаю каля школы.

Сёння, калі будзем рашаць кантрольную па алгебры, садзіся на маю парту, я табе памагу. Моцна-моцна цябе ц...ю! В. Л.»

**З вучнёўскага дзённіка Арсеня Зайцава, у якім выстаўлены адзнакі за трэцюю чвэрць:**



«Беларуская мова, пісьмовая — дрэнна; руская мова, пісьмовая — дрэнна, алгебра — дрэнна. Класны кіраўнік. Подпіс».

**З рапарта старшыні дзіцячага савета Віці Ляўковіча дырэктару дзетдома:**

«**23 сакавіка.** Закончылі трэцюю чвэрць. Круглых выдатнікаў у дзетдоме — дзевяць чалавек, выхаванцаў, якія атрымалі двойкі, — трынаццаць; астатнія ўсе закончылі трэцюю чвэрць на «4» і «5». Праца ў майстэрні ідзе поўным ходам. Заканчваем рабіць першае крэсла. У час канікул будзем падцягваць двоечнікаў. Напішыце, калі вас адпусцяць з бальніцы».

...Мікалай Пятровіч, калі бальнічная медсястра падала яму акуратны ліст паперы, які ён сам і ўсе выхаванцы называлі «рапартам», хуценька прабег яго вачыма. Пра выніکі трэцяй чвэрці ён ужо ведаў: днём да яго на некалькі мінут заходзіў завуч, злосны, чымсьці незадаволены. Пагаварылі пра здароўе, пра майстэрню. Завуч сказаў, колькі двоечнікаў і неяк паспешліва развітаўся. Запіска, якую перадаў Ляўковіч, была больш бадзёрая. І ўсё ж дырэктар штосьці адчуў нядобрае ў ёй. Раней невялічкія справаздачы прыносіў яму ў бальніцу Арсень Зайцаў. Так патрабаваў сам дырэктар. Сёння прынёс Віця. Мікалай Пятровіч мінуту падумаў, падышоў да дзвярэй палаты і, калі з'явілася медсястра, спытаў:

— Скажыце, мае хлопцы яшчэ тут?

— Тут, але ж доктар забараніў ім да вас заходзіць...

— Так... Тады вось як зробім... А што калі я да іх выйду? Згода?

Медсястра засмяялася, доктар сапраўды забараніў хлопцам заходзіць у палату. А вось пра тое, ці можна да іх выйсці дырэктару, гутаркі не было. Таму яна падумала і сказала:

— Толькі на пяць мінут.

Хлопцы вельмі ўзрадаваліся, калі ўбачылі ў калідоры Мікалая Пятровіча. Правая рука ў яго была на марлевай павязцы. Ад гэтага дырэктар, здавалася, стаў нейкі сутулы. Але ж ён быў вясёлы, і гэта самае галоўнае...

Пяць мінут прабеглі хутка. Хлопцы наперабой расказвалі пра апошнія падзеі, пра адзнакі, пра майстэрню, пра сталяра, якога прыслаў Зернавы, пра тое, як аднойчы Барыс і Ілік правініліся. Калі ж завуч хацеў іх завесці ў канцылярыю, яны па лесвіцы забраліся на дах другога корпуса, на самы яго верх, і селі каля коміна. І доўга не хацелі злазіць, аж пакуль не прыйшоў Зіновій Цімафеевіч.

— Мы ўсе тады напалохаліся. Мы б іх дасталі, ды хто іх ведае — яшчэ маглі спалохацца ды ўпасці,— закончыў Максім Зялёнка свой расказ. Дырэктар сказаў, што правільна зрабілі, а то малыя сапраўды маглі пакалечыцца.

Калі медсястра падышла, каб сказаць, што час сустрэчы скончыўся, Мікалай Пятровіч спытаў у хлопцаў:

— Скажыце, а чаму не прыйшоў Арсень? Ён, можа, захварэў?

Хлопцы не ведалі, што адказваць. Пра тры двойкі, якія атрымаў Арсень, гаварыць не хацелася, пра тое, што ён недзе схаваўся і нікому, як прыйшоў сёння са школы, не паказваецца на вочы,— тым больш нельга казаць.

— Ён... ён... заняты сёння... Дзяжурыць па дзіцячаму дому...

— Тады добра... Ідзіце, а то, бачыце, мяне ўжо клічуць у палату.

У дзетдоме хлопцаў сустрэла заплаканая Валерыя Зайцава.

Выціраючы слёзы, яна сказала Віцю і Максіму:

— Арсень уцёк з дзетдома... Вось запіска: «Мяне і нікога ні ў чым не вініце. Я інакш не мог. Арсень Зайцаў».
— Ты паказвала каму-небудзь запіску?
— Не...
— Дай сюды.— Віця выхапіў запіску і кінуўся ў спальню. Арсенеў ложак быў пусты. Хуценька выскачыў назад і кінуўся ў рабочы пакой. Федзя сядзеў і чытаў кніжку, аднак выбег на ганак адразу, калі ўбачыў усхваляванага Віцю.
— Што?
— Арсень уцёк.
— Што будзем рабіць?
— Трэба шукаць...
— Хто ведае, што ён уцёк?
— Пакуль што адна Валерыя.
— Добра. Нікому ні слова. Я папярэджу хлопцаў. — Федзя адышоў у канец двара, туды, да лазні, і свіснуў у пальцы. Так, як тады, у той трывожны вечар, калі сам уцякаў на станцыю. Хлопцы сабраліся мінут праз дзесяць. І зноў, як тады, якраз у канцы кароткай нарады, паклікаў горн:

«Бяры лыжку,
Бяры бак...».

Рашылі спачатку пайсці павячэраць, а то спахопяцца, што і іх няма, тады нічога нельга будзе папправіць.

Пасля вячэры пайшлі на станцыю. Разбіўшыся на групы, за дзве гадзіны аблазілі ўвесь вакзал, заглянулі ва ўсе цёмныя куткі, пабывалі на вадакачцы, у хлеўчуку. Арсеня нідзе не было. На іхні кліч і на свіст Федзі Жаўнерыка адклікалася толькі кароткае і ледзь чутнае рэха.

Вярнуліся дадому позна — гадзін у адзінаццаць. Арсенеў ложак пусты. Паціху падышлі да дзвярэй і пастукалі ў пакой дзяўчынак. Выйшла Валянціна Зіноўеўна, а следам выскачыла Валерыя.
— Няма? — запыталі ў адзін голас.
— Няма...

Над станцыяй узыходзіла сонца. Вялікае і чырвонае, утопленае ў шэрыя і рэдкія сакавіцкія хмаркі. У станцыйным тупіку чмыхаў белымі клубамі пары начышчаны да бляску паравоз. Машыніст у чорнай, нібы спецыяльна вываранай у мазуце, спяцоўцы мокраю прамасленаю пакляю выціраў вялізныя чырвоныя колы паравоза і такія ж чырвоныя амаль пяціметравыя рычагі.

У гэты ранні час — недзе яшчэ далёка — насустрач паравозу ішоў чалавек. Ішоў, не спяшаючыся. Ачышчаная ад снегу вузкая сцяжынка вілася ля самых шпал. Адзін бок чыгуначнага насыпу быў таксама амаль чысты: снег на ім растаў. Пад нагамі ў чалавека пахрумстваў дробны жвір, зрэдку маленькія, нібы гарошыны, каменьчыкі, зачэпленыя ботам, стукаліся аб рэйкі, з ціхім звонам адляталі ўбок. Чалавек ішоў, падставіўшы твар сустрэчнаму ветру і першым промням. Шапку ён трымаў у руцэ, таму рыжыя кучаравыя валасы, здавалася, вось-вось загарацца, прыгрэтыя ранішнім сонцам. Чалавек мармытаў нейкую песню і зрэдку пaглядваў на гадзіннік: да дзевяці яму патрэбна паспець у мястэчка, там чакаюць справы.

Зміцер Зернавы,— гэта быў ён,— вяртаўся з вёскі, што была кіламетраў за восем ад Кірмашэвіч. Цягнікі там спыняліся толькі два разы ў дзень, таму ён рашыў ісці пешшу.



Да паравоза заставалася можа метраў шэсцьсот, калі Зернавы раптам убачыў, як на рэйкі высунулася з-пад адхону чалавечая фігура. Яна ўзнікла перад вачамі нечакана, на адлегласці метраў у сто, і неяк нязграбна ўпала на рэйкі і застыла. Зернавы сарваўся з месца. Ён пабег насустрач паравозу, замахаў шапкаю і закрычаў колькі было сілы. Аднак фігура не варушылася, а паравоз, даючы перарывістыя гудкі, не збаўляў хуткасці.
— Ст-о-ой! Ст-ой! — ногі ў Зернавога падгіналіся, ён гатоў быў вось-вось упасці.
— Ст-ой-й! — Ён не чуў ужо ўласнага голасу, бо паравоз усё бліжэў і бліжэў. Неяк падсвядома разлічыўшы адлегласць паміж паравозам і чалавекам на рэйках, ён пабег з апошніх сіл.
— Сто-о-ой!

Сталёвая гарачая махіна няўмольна рухалася яму насустрач. Краем вока зірнуў на вялізны паравоз, чамусьці за гэты зусім кароткі момант выразна ўбачыў вялізныя белыя ліхтары на паравозе, збялелы твар машыніста...
— Сто-ой!

Калі да паравоза заставалася метраў сорак, Зернавы ўпаў на рэйку побач з чалавекам і тузануў яго. Але чалавек моцна трымаўся за рэйку. Тады ў імгненне вока ён сабраў апошнія сілы, ірвануў чалавека так, што той застагнаў і адарваўся ад рэйкі. Яны яшчэ не паспелі скаціцца пад адхон, калі над самымі іхнімі галовамі са страшэнным грукатам пранесліся паравозныя колы. Зернавы адчуў, як у твар яму дыхнула гарачай парай, кропелькамі вады, перамешанай з мазутам, як уздымаецца і апускаецца зямля пад цяжарам вагонаў і як стогнуць рэйкі. «Пранесла!» — яшчэ не верачы сабе, не верачы ў тое, што быў на валасок ад смерці, падумаў Зернавы.
— П-пусці, гад! — Зернавы адчуў, як штосьці цвёрдае балюча ўдарыла яму ў жывот. Ён зноў налёг на чалавека з намерам скруціць яму рукі, але са здзіўленнем адчуў, што ніяк не можа іх злавіць.
— Пусці, сволач!

Той, хто быў пад ім, раптам вырваўся і, не паспеўшы адпаўзці або стаць на ногі, пачаў неяк нязграбна шарыць рукавом па зямлі.
— А-х, так! — Зернавы на нейкі момант прыўзняўся і ўдарыў чалавека ў сківіцу, той перакруціўся і ўпаў, але на гэты раз тварам уверх. І тады Зернавы ўбачыў, хутчэй нават не ўбачыў, а зразумеў, што перад ім не дарослы мужчына, а малы хлапчук, стрыжаны пад машынку. Рукі ў хлапчука былі відны толькі да локцяў. Зернавы падумаў, што яны падагнуты пад спіну. Павярнуў хлопца, лапнуў за пусты рукаў і тут прыйшла здагадка: «Арсень Зайцаў!» Ён пачаў трэсці хлопца за плечы, браць у далоні мокры шэры снег і церці яму твар. Хлопец спачатку круціў галавою і нешта мармытаў, а пасля неяк адразу свядомым і цвёрдым позіркам паглядзеў на сакратара, што сядзеў, прыгнуўшыся над ім.
— Ага, ну вось і добра... Жывы...— Зернавы гаварыў хутка, рукі яго спрытна выцiралі пясок і гразь з хлапчуковага паліто.— Вось і ачуняў... А то ляжыць на рэйках...

Ён не паспеў закончыць, як Арсень зноў ірвануўся і адразу стаў на ногі. Яшчэ секунда, і ён уцёк бы, але Зернавы схапіў яго за грудзі і рашуча загадаў:
— Стой! Я цябе не выпушчу! Не ўцячэш...

Адчуўшы, што яму не вырвацца з рук Зернавога, Арсень закалаціўся, пачаў сутаргава біцца.

— П-пусці! Пусці, гад!.. Усё роўна смерць...

Праз гадзіну яны сядзелі ўнізе, пад адхонам, на старой шпале і, не спяшаючыся, гутарылі. Арсень зрэдку ўздрыгваў, як пасля пачварнага сну, і неахвотна адказваў на пытанні:

— Так, я хацеў легчы пад поезд...

— Чаму?

— Я так рашыў. Гэта мая справа.

Заўважыўшы, што Зернавы пільна сочыць за ім, сказаў грубавата і абыякава:

— Не бойся, цяпер не ўцяку. Мне ўсё роўна...— і, сам таго не чакаючы, неяк раптам абмяк, абхапіў рукавамі галаву і заплакаў... Так яны сядзелі доўга. Можа гадзіну, можа тры... Зернавы забыў пра мястэчка, дзе чакалі яго справы. Ён курыў адну папяросу за другой і слухаў:

— ...А пасля, як я трапіў у дзетдом, мне стала цяжэй. Усе хлопцы як хлопцы, а я — без рук... Я не хацеў нікому з іх уступаць. Я на іх не крыўдую, але ў душы я кожны дзень адчуваю, што яны мяне шкадуюць, спачуваюць: маўляў, што з яго, інваліда, возьмеш... Пасля бойка гэтая самая на лёдзе была... Мяне арыштаваць хацелі. Я ведаю... Ну, дырэктар заступіўся. А нашто мне гэткае заступніцтва?.. Дык мала таго — з дзіцячага савета выключылі. Я не напрошваўся туды, але раз выбралі, дык нашто было выкідваць... Ну, майстэрню будавалі. Мяне памочнікам камандзіра брыгады прызначыў дырэктар. Я не хацеў, а пасля згадзіўся. Я не слюнцяй які-небудзь. Рабіць дык рабіць... Перастараўся. Да таго дарабіўся, што пісаць стаў кепска: мала трэніраваўся. А тут кантрольныя дыктанты — два, адзін за адным, ну — і дзве двойкі. А пасля і трэцяя — па алгебры: хлопцы хацелі перапісаную за мяне задачку падсунуць настаўніку. А я нікога не хачу ашукваць. Не ўправіўся сам, ну і ліха з ім! Такі мой лёс. Дадому прыйшоў пасля трэцяй двойкі. Кажуць, у канцылярыю завуч кліча. Іду ў канцылярыю. Яшчэ не даходзячы да дзвярэй, чую, звоніць па тэлефоне ў аблана: «Забярыце гэтага Зайцава ад нас... У дом інвалідаў адпраўце, а то ён адзін паспяховасць дзетдому зніжае». Ведаеце, як пачуў такое, дык ледзь у канцылярыю да завуча біцца не кінуўся. А пасля падумаў — а можа ён праўду гаворыць... Паціху ад дзвярэй адышоў... Абедаць у сталоўку заходзіў, каб на хлопцаў апошні раз паглядзець... Ну, запіску сястры пад падушку паклаў... Шкада было і з хлопцамі і з ёю расставацца... Пайшоў на станцыю, чакаў вечара. Вечарам хлопцы бегалі там, шукалі мяне. Федзя Жаўнерык ледзь на ногі не наступіў: я паміж калод зашыўся... Ну, яны пайшлі... Я ноч праплакаў... А на досвітку сюды прыйшоў, каб ніхто не бачыў, каб машыніста не цягалі па судах...

Арсень скончыў гаварыць. Цішыня навокал. Сойка з сасны на сасну пераляцела. Сонца высока ўзнялося, у твар грэе. Побач Зернавы сядзіць, думае нешта, а пасля кажа, не надта, каб са злосцю, але ўсё ж незадаволена:

— Дурань ты, Арсень... Вось як гэты мой левы бот, такі дурань... Я табе, Арсень, скажу так: ты ледзь не зрабіў вялікае і непапраўнае глупства, а хлопец ты адчайны і храбры... Я не ўлежаў бы на рэйках, чакаючы поезда... Нервы не вытрымалі б... Ну, гэта між намі... Слухай вось што: ёсць у мяне адзін знаёмы лётчык. Пра яго кніжка ёсць і кіно паказваюць... Ён без ног застаўся... Дык, разумееш, без ног на знішчальніку потым лётаў. Героем Савецкага Саюза стаў... Я табе дам гэтую кніжку... А цяпер пайшлі ў мястэчка. Нас там даўно чакаюць.



Калі падыходзілі да станцыі, Зернавы абняў Арсеня за плечы.

— Аб тым, што было — магіла... Анатолю Пятровічу я скажу, што ты быў са мною ўчора вечарам у кіно, а пасля начаваў у мяне.

І ўжо ля самай дзетдомаўскай брамкі дадаў:

— Кніжка аб сапраўдным чалавеку — за мной... Улетку рэкамендацыя ў камсамол — таксама за мной... Усё. Дамовіліся... Ідзі, вунь хлопцы бягуць...

## РАЗДЗЕЛ XV

Федзя Жаўнерык за час, што прабыў у дзетдоме, адвык ад цягнікоў. Таму, калі падышлі да вагона і ўбачылі кандуктара, у хлопца затрымцелі ногі. Не любіў ён гэтых людзей у чорных шынялях, з вялізнымі ліхтарамі і згорнутымі ў дзве трубачкі сцяжкамі. Надта ж шмат непрыемнасцей рабілі яны яму і яго сябрам у свой час. Колькі разоў з вагонаў выганялі, колькі разоў з падножак сцягвалі... Таму і сцішыўся Федзя, калі ўбачыў чорны шынель. Хлопцы таксама замоўклі. Толькі Віця з цікаўнасцю азіраўся па баках і нават раней за другіх зазірнуў у вагон: а што там? Яно і зразумела — чалавек першы раз у жыцці ў поездзе ехаць збіраецца. Супакойвала і яго і хлопцаў тое, што побач быў Мікалай Пятровіч. Ён падаў кандуктару пяць маленькіх кардонных кавалачкаў:

— Білеты да Пінска,— і загадаў хлопцам.— Садзіцеся ў вагон.

Першы залез Федзя. Жора Гулеў падаў яму рэчавы мяшок з харчамі, а пасля палез сам. Віця падсадзіў Максіма Зялёнку, той узабраўся на верхнюю прыступку і падаў яму руку. Апошні зайшоў у вагон дырэктар.

Яны занялі асобнае купэ. Федзя, як самы спрактыкаваны, адразу залез на трэцюю полку, падаслаў паліто і ўлёгся спаць. Мікалай Пятровіч сеў знізу, хлопцы занялі верхнія месцы. Быў вечар. Пагаварылі з паўгадзіны і пачалі ўмошчвацца нанач. Віця доўга пазіраў у цемень, што плыла за акном, слухаў, як стукалі колы на стыках рэек, як зрэдку даваў сігналы паравоз.

Хлопцы ехалі ў Пінск, каб атрымаць на базе летнюю вопратку для выхаванцаў. Раней ездзіў Зіновій Цімафеевіч. На гэты раз дырэктар узяў іх: «Канікулы. Няхай хлопцы праедуць у горад, ды і прывучаць іх трэба да справы, каб ведалі, як і што робіцца».

І вось яны ў дарозе. Яны едуць, як самастойныя пасажыры. Яны маюць сапраўдныя білеты. Яны едуць у сапраўдным пасажырскім вагоне. Заўтра раніцай яны будуць у Пінску. Цікава, які ён, той Пінск?..

Вакзал у Пінску не тое, што ў Кірмашэвічах. Вакзал у Пінску — ого! Тут толькі залаў для чакання цэлых тры! І ўсюды — людзі... Каго толькі тут не ўбачыш: дзядзькі ў скураных паліто, з партфелямі, цёткі з вялізнымі плеценымі кашамі, поп у чорнай да самых пят рызе і з барадою да пасніцы. Група нейкіх хлопцаў абсела пастаўлены рабром чамадан, побач стары дзед з торбаю. Жанчыны з малымі дзецьмі... Ля буфета чарга можа чалавек дванцаць, сярод іх вусатыя і нібы абсмаленыя два цыганы. Над буфетам — пара клубамі: у вялізным бляшаным баку чай грэецца.

Духата і гоман. Пакуль Мікалай Пятровіч стаяў у чарзе па білеты, хлопцы, збіўшыся ў кучу ля сваіх цюкоў, палахліва і з вялікай ціка-

васцю пазіралі на вакзальны тлум. Прайшло можа з гадзіну, калі, нарэшце, дырэктар, расчырванелы і мокры, пракладваючы плечуком дарогу, з'явіўся перад імі з білетамі ў руках.

— Горача тут... Народу столькі сабралася.— Ён выцер лоб і агледзеўся — можа дзе месца ёсць зручнейшае, каб прысесці.

Чакаць поезда яшчэ доўга. Няма месца. Хлопцы рукамі за сінія цюкі з вопраткай учапіліся: горад, тут вуха востра трымай! А яны ж вунь колькі дабра вязуць: футболкі зялёныя з каўнярамі адкладнымі і штаны, сукенкі для дзяўчынак такія ж зялёныя. Усё новенькае, фабрыкай пахне яшчэ! Што будзе, калі прападзе хоць адна, самая маленькая, рэч? Што тады скажа Мікалай Пятровіч? Што скажуць у дзіцячым доме?

Пастаялі яшчэ мінут колькі ў вакзальнай мітусні, пакуль дырэктар расклад руху цягнікоў чытаў, а потым ускінулі цюкі з вопраткай на плечы і падаліся на перон. На пероне гэткая ж мітусня, людзі некуды спяшаюцца, гучна перагаворваюцца. Аж галава баліць. Пастаялі хлопцы, паглядзелі — няма дзе прыткнуцца. Тады дырэктар рукой на нізенькі, да кален, жалезны плоцік паказаў:

— Пайшлі ў сквер. Вунь лаўка нікім не занятая. Рэчы пакладзем і самі пасядзім. Нахадзіліся за два дні, аж ногі баляць.

Пераступілі проста з перона ў сквер, пад голымі, чамусьці абстрыжанымі і абрэзанымі дрэвамі на лаўцы прыселі.

Жора Гулеў мяшок з прадуктамі пасярэдзіне паставіў: цяпер і перакусіць не шкодзіла б. З'елі хлеба са шмальцам, кансерваў. Піць захацелася. На Мікалая Пятровіча паглядваюць.

— Зараз пойдзем у буфеце чаю пап'ем,— кажа ён.

— Хто застанецца рэчы вартаваць?

— Я! — першы азваўся Федзя.

— Я! — заявіў Жора.

— Я! — гаворыць Віця.

— Я! — Лёня яшчэ хлеб жаваў, таму апошнім адазваўся.

Паглядзеў дырэктар на хлопцаў, тады Жаўнерыку кажа:

— Ну, пасядзі, мы сходзім, а пасля ты адзін збегаеш. Згода?

Пайшлі хлопцы следам за Мікалаем Пятровічам чай піць. А ў скверы раптам нібы і не стала нікога, неяк пацішэла, неяк і людзей не бачна. Толькі варона над галавою недзе горла дзярэ: кар-р-кар-р! Федзя клункі ў кучу паскладваў, сам побач стаіць, па баках азіраецца. Ён хлопец бывалы, але ж сёння ён не за сябе аднаго адказвае — ён рэчы агульныя пільнуе. Мала што можа здарыцца... Стаіць Федзя, і нейкае хваляванне ахоплівае яго. Ён думкі ўсякія гоніць ад сябе, а яны ўсё роўна ў галаве мрояцца. На пероне нейкі хлопец ходзіць. На Федзю з-пад падранага казырка паглядвае. Рукі ў кішэнях брудных штаноў, ватоўка на спіне — гарбом. Раз прайшоў — на рэйкі плюнуў, другі прайшоў — праз плот у сквер плюнуў. Песню нейкую насвіствае. «Шантрапа!» — думае пра яго Федзя. А той на пероне шпацыруе з канца ў канец і ўжо на яго паглядвае, нават спыняецца, з нагі на нагу пераступае. Федзя, сам таго не заўважаючы, пачаў пільна на гэтага падазронага хлопца пазіраць. І пра рэчы забыў — туды, на перон, утаропіўся. Эх, каб хутчэй хлопцы прыйшлі! Не паспеў так падумаць, як раптам пачуў, што ззаду клункі заварушыліся. Азірнуўся і ледзь не самлеў: другі абшматаны і мурзаты хлопец — гэткі ж, як і той, на пероне, ужо цюк з вопраткай на плечы закідвае. Уздрыгануўся Федзя, кінуўся на злодзея. Але той спрактыкаваны — загадзя падножку паставіў. Не, не на таго нарваўся — ведае Жаўнерык гэтыя хітрыкі! У самы апошні момант скокнуў і за грудзі рабаўніка схапіў, на хвіліну толькі, а пасля сам яго ззаду нагой падсек. Ляжыць злодзей на зямлі, нават клунак з рук выпусціў. Вось табе, гад! Ведай, як дзетдомаўскае дабро красці! — Жаўнерык замахнуўся, каб у самы нос гэтаму нахабнаму блатнюку з'ездзіць, але чамусьці ўстрымаўся. У таго, што на зямлі ляжыць, твар увесь рабаціністы і валасы рыжыя, і вочы знаёмыя, пазіраюць на Федзю вінавата, баязліва. Федзя рот разявіў, дыхаць няма чым, кулакі самі сабой расслабіліся:

— Т-ты?

Рыжы паволі з зямлі падняўся, штаны папраўляе. Падняў шапку і на свае кудлы нацягвае.

— Н-ну, я...

— Т-ты? — нібы не верачы сабе, перапытвае Федзя.

— Х-хведзя, я не хацеў... Я не ведаў, што гэта ты... Мяне прымусілі... Я першы раз — з галадухі...

— А прасціны з дзетдома? Гэта што? Таксама першы раз? — злосна кідае ён і пазірае на рыжага ў лахманах.

— Я не браў ніякіх прасцін. Я толькі вопратку і чаравікі... Што на мне было... Я дырэктару грошы за ўсё выслаў... І пісьмо пісаў...

Федзя зацікавіўся. Грошы? Пісьмо дырэктару? Цікава. Ну, дарагі, відаць, я табе яшчэ дабаўлю! Хутчэй бы Мікалай Пятровіч ішоў... Крадком на вакзал, на перон пазірае. А той, што рукі ў кішэнях трымае, ужо не ходзіць. Ён стаіць на месцы і трывожна галавою круціць. Гэтаму, Апанасу Кнышу, нейкія знакі падае, відаць, не разумее, што здарылася, чаго яны тут філасофію разводзяць. Апанас таксама на яго паглядзеў, рукою махнуў, маўляў, ідзі — нічога не выйшла, маўляў —



на сваіх нарваліся. Плюнуў той і пасунуўся ў іншым месцы здабычу шукаць.

— Кажаш, пісьмо пісаў? — голас у Федзі крыху змякчаецца.— Садзіся вось тут!.. І не думай уцякаць. Злаўлю ўсё роўна. А наконт грошай і пісьма разбяромся...

Злосны Жаўнерык на Апанаса — надта многа перацярпеў ён праз яго ў дзетдоме. І біўся з ім, і ўцякаў некалі разам. І на якое ліха звязаўся ён з гэтым рыжым чортам тады, у Калінкавічах... Стаіць перад Апанасам, успамінае мінулае, і нейк шкада яму становіцца свайго палонніка. Хто яго ведае — можа сапраўды з галадухі ён абакрасці хацеў!? Можа даць яму з'есці, што там у мяшку ёсць, ды няхай ідзе адсюль на ўсе чатыры бакі, пакуль нікога няма.

— Ты вось што, злодзей няўдачлівы, вазьмі пажры і прэч адсюль...

Федзя развязаў мяшок, тоўстую лусту хлеба ад буханкі адрэзаў, шмальцам намазаў. Банку кансерваў на далоні падкінуў (там у мяшку яшчэ дзве ляжаць), падумаў: можа даць? Не, хопіць і хлеба са шмальцам.

— Дык, значыць, пісьмо пісаў дырэктару?

— Угу-м, пісаў, адсюль, з Пінска,— Апанас варочае сківіцамі, аж вушы варушацца.— І грошы паслаў за вопратку. Я не хацеў, каб злодзеем мяне лічылі.

— Ну, а прасціны спёр? Чэсна толькі скажы — спёр? — Федзя проста ў твар Апанасу пазірае.

Той перастае есці, гатоў заплакаць.

— Не браў, клянуся самаю страшнаю клятваю, не браў!.. Як быў ложак засланы, так і застаўся!..

— А ў нас у дзетдоме ёсць тыя, хто бачыў, як ты іх браў,— стаіць на сваім Федзя.— Яны і пусцілі такую чутку.

— Брэшуць! — ускапіўся Апанас.— Не маглі яны бачыць... Я не браў!..

— Ну, добра, гэта справа даўняя. Што будзеш далей рабіць?

Нейк адразу прыціхлі. Апанас крошкі хлеба зграбае з палы ў далоню, Федзя мяшок з харчамі завязвае. Сядзяць, як старыя дзяды, разважлівыя, задуменныя. На пероне ўжо ліхтары запалілі — у сквер святло ад іх падае, хлопцаў і цюкі асвятляе.

— Не ведаю... Сам нічога не ведаю...

— Слухай, а ты, скажам, назад, ну, у дзетдом, вярнуўся б? — Федзя чакае адказу.

— У дзетдом... За гэты час, што я пражыў тут, як уцёк, не толькі ў дзетдом, а куды хочаш вярнуўся б... Ды не быць гэтаму, разышліся нашы дарогі...— Памаўчаў з хвіліну, нібы ўспамінаючы нешта, па твары ўсмешка прабегла: — А гэты, ачкасцік,— ну, завуч,— яшчэ і цяпер у дзетдоме?

— У дзетдоме. А што?

— Ды нічога... Ну, не памінай ліхам! — падняўся і ўжо руку Жаўнерыку працягвае, пазірае сумна...

Федзя адчуў, што трэба ўтрымаць Апанаса не сілай, а па-добраму, пакуль Мікалай Пятровіч з хлопцамі прыйдзе. А там будзе відаць...

— Ну, бывай! — рука ў Апанаса нямытая, чорная, нібы галавешка. Яна павісла ў паветры перад Федзем.

— Чакай хвіліну...— Федзя на цюкі з вопраткай пазірае.— Цёмна тут. Памажы вунь туды, да вакзала, перанесці, на перон. Там і хлопцаў сустрэнем. Яны чай пайшлі піць.

— Хлопцы? Якія хлопцы? — Апанас насцярожыўся.

— Жора, Максім, Лёня, Віця,— хіба забыў... Мы прыязджалі па вопратку на лета. Во колькі вязём. Бяры вось гэтыя два цюкі, я два астатнія, і — пайшлі...

— А скажы, гэта вас адных пускаюць?..— Ён паправіўся: — Ну, вам самім гэта давяраюць? Ну, такія рэчы?..

— Э, браток! Мы цяпер самі ўсё робім... А ты — «давяраюць», «пускаюць»...

Так з клункамі на плячах яны і наткнуліся ля вакзала на хлопцаў і Мікалая Пятровіча. Самае цікавае ў гэтай нечаканай сустрэчы было тое, што ніхто не здзівіўся. Нават не прывіталіся як трэба. Паглядзелі толькі адзін на другога ўсе па чарзе і за цюкі ўзяліся: поезд падыходзіў.

— Прыйдзецца табе, Жаўнерык, ехаць у сухамятку, чаю не папіўшы,— сказаў Мікалай Пятровіч.

Вагон, у каторы дырэктар купіў білеты, праехаў далей і спыніўся ўперадзе — прыйшлося даганяць. Апанас, не ведаючы, што рабіць, застаўся на месцы. Тады Мікалай Пятровіч азірнуўся і загадаў:

— Хутчэй, а то не паспееш! — Так, як бы і не было нічога, як бы гэта не Апанас мог застацца, а Федзя ці, скажам, хто другі.

У вагоне Апанас доўга расказваў, як ён жыў пасля таго, як уцёк з дзетдома. Яму давялося і пагаладаць і памерзнуць. Асабліва ў апошні тыдзень.

— А дзе ты ўзяў грошы, якія прыслаў у дзетдом? — спытаў Мікалай Пятровіч, калі Апанас скончыў расказваць.

— Я іх зарабіў... Месяц вагоны разгружаў на станцыі ў Пінску.

— Так...

Федзя зірнуў на Апанаса і толькі цяпер убачыў, што той нейк вельмі перамяніўся, нібы пастарэў за апошні час. «Вось яно што,— падумаў пра былога сябра.—Грошы прысылаў...»

Недзе ўжо каля Лунінца хлопцы залезлі спаць на полкі. Мікалай Пятровіч яшчэ доўга стаяў і пазіраў у акно. Чамусьці з галавы не выходзілі думкі пра пісьмо і грошы, што прыслаў тады ў дзіцячы дом яму, дырэктару, Апанас.

## РАЗДЗЕЛ XVI

— Пераходзім да апошняга пытання,—сакратар райкома партыі Ігнацюк, высокі бялявы чалавек з маршчыністым тварам і адтапыранымі вушамі, апрануты ў сіні суконны кіцель, пакратаў на стале нейкія паперы і паглядзеў на Чыракова, які толькі што ўвайшоў і сеў на крэсла, што было бліжэй да дзвярэй.

— Слова мае таварыш Шырокі.—Сакратар кіўнуў загадчыку райана:— Давайце, ды толькі хутчэй. Гаварыце па сутнасці справы.

Спачатку Мікалай Пятровіч нічога не мог зразумець з таго, што гаварыў Шырокі. У райком яго паклікалі нечакана.

— Няправільныя метады выхавання... Паспяховасць знізілася ў трэцяй чвэрці на 17 працэнтаў у параўнанні з другой... Вынік таго, што выхаванцы замест вучобы і культурнага мэтанакіраванага адпачынку ўвесь вольны час заняты непасільнай фізічнай працай.

Мікалай Пятровіч слухаў, і да яго паступова пачынаў даходзіць сэнс гэтых слоў.

— Неарганізавана і па-хуліганску праводзяць выхаванцы свой адпа-

чынак. У студзені гэтага года, як нам стала вядома, яны пабілі да паўсмерці вучня кірмашэвіцкай школы Басава. Факт гэты не знайшоў належнага асуджэння з боку дырэктара дзетдома, як камуніста. А гэта здарылася таму, што ўсе важныя справы, усе пытанні дысцыпліны вырашае ў дзетдоме не дырэктар, не завуч, не выхавальнікі, а самі выхаванцы — члены дзіцячага савета. Зразумела, што пакараць як след сваіх таварышаў яны не могуць, не хацелі і не хочуць. Я дазволю сабе зачытаць пісьмо былога выхаванца Апанаса Кныша, які піша, чаму ён уцёк і цяпер галодны, нямыты прападае недзе ў вялікім горадзе. Вось яно, гэтае пісьмо, таварышы члены бюро...

Абапіраючыся рукой на стол, дырэктар моўчкі сядзеў і слухаў, аж пакуль другі голас, не загадчыка райана, а сакратара райкома, падняў яго з месца:

— Раскажыце членам бюро, што ў вас там робіцца і як вы маглі такое дапусціць...

«Галоўнае — гэта спакойна... Галоўнае — не хвалявацца»,—паўтараў сам сабе дырэктар, устаючы з месца.

Ён гаварыў доўга і ўсе тыя абвінавачванні, што тут выстаўляліся, адхіліў лагічна і пераканаўча. Аднак, калі пачаў гаварыць аб вытворчай майстэрні, аб працоўным выхаванні дзяцей, яго перабіў сакратар райкома:

— Вы ўпэўнены, што метады макарэнкаўскай камуны можна механічна перанесці ў дзіцячы дом?

— Не ўсе і не механічна. Аднак я цвёрда ўпэўнены, што працоўнае выхаванне — гэта адзін з метадаў, які можна поўнасцю перанесці і ў дзіцячы дом.

— Добра,— сакратар паглядзеў на членаў бюро.— У каго ёсць пытанні да таварыша Чыракова?

Падняўся пракурор, сярэдняга росту, загарэлы і рухавы чалавек:

— Чаму вы нічога не зрабілі, не прынялі ніякіх мер, каб вярнуць Апанаса Кныша ў дзіцячы дом, калі атрымалі ад яго пісьмо і грашовы перавод?

— Я рабіў пэўныя захады. Я верыў, што рана ці позна гэты выхаванец зноў будзе ў дзетдоме...

— І як вашы спадзяванні? Збыліся?

Чыракоў спакойна паглядзеў на ўсіх і адказаў:

— Так. Збыліся. Выхаванец Апанас Кныш вярнуўся ў дзіцячы дом, і магу запэўніць вас, што больш уцякаць не будзе.

З райкома дырэктар вярнуўся сярдзіты, маўклівы і адразу паслаў дзяжурную выхавальніцу па завуча.

Анатоль Пятровіч прыйшоў мінут праз сорак.

— З двоечнікамі гэтымі прападаю цэлыя дні. Тупыя, што пні... Ні табе тых канікулаў, ні спакою... А тут яшчэ гэтага Кныша прыцягнулі...

— Сядайце, калі ласка, Анатоль Пятровіч...

Калі завуч сеў насупраць, Мікалай Пятровіч падышоў да дзвярэй і два разы павярнуў ключ.

— Мне трэба з вамі пагутарыць...

У другім корпусе ў цемнаватым кутку калідора таксама ішла размова. Апанас Кныш стаяў, засунуўшы рукі ў кішэні штаноў — яму ў гэты дзень выдалі новую вопратку. Ён зноў прайшоў усе працэдуры, як тады, восенню, калі першы раз трапіў у дзіцячы дом. Апанас стаяў і лагодна, нібы маленькім капрызлівым і любімым брацікам, даводзіў Казіміру і Юзіку Чэпікам, што красці прасціны і рукавіцы ў хлапчукоў — справа зусім непрыгожая.

— Нядобра, нядобра... Я тут што-кольвечы высветліў сёння... Прасціны павінны вярнуць... Вам хопіць тыдзень часу на гэта?— Браты маўчалі; яны адчулі, што гаварыць няма ніякай патрэбы.— Хопіць? Вось і добра. І яшчэ я вас папрашу: калі прападзе хоць адна рукавіца, на мяне не крыўдуйце.— Ён крытычна і з'едліва агледзеў абодвух Чэпікаў з галавы да ног, павярнуўся і спакойна пайшоў у свой пакой.

Вясна бралася дружна. Недзе ўжо ў сярэдзіне красавіка зямля ачысцілася ад снегу. Толькі яшчэ сям-там у канавах або пад тратуарамі чарнелі слізкія мёрзлыя камякі ды за вугламі будынкаў, куды не даставала сонца, рыхлелі зацвярдзелыя, пацямнелыя сумёты. З кожным днём рабілася цяплей. Нечакана з'явіліся шпакі з вогненна-жоўтымі ратамі. Дзеці спахапіліся і на скорую руку змайстравалі штук дзесяць шпакоўняў. Іх павесілі на таполях, каля другога корпуса. Але шпакі пасяліліся чамусьці толькі ў двух доміках. Астатнія занялі бесцырымонныя і нахабныя вераб'і. Ілік з Барысам не маглі гэта сцярпець і доўга выкурвалі вераб'ёў, кідаючы па шпакоўнях каменьчыкі і трэскі. Раніцай, калі пачынала высвечваць сонца, над другім корпусам заўсёды стаяў птушыны піск і лямант. Гэта тыя ж нахабнікі вераб'і лезлі харчавацца да Алёшавых галубоў.

Хлопцы ўжо высушылі і пазвязвалі шнуркамі лыжы, вычысцілі і змазалі канькі і здалі ўсё гэта на дзетдомаўскі склад — да наступнай зімы.

У нядзелю падмяталі двор. Дыхалася вольна і лёгка. Радавала вясновае сонца. На двары было цёпла, і кожны дзень шырокія дзверы сталярнай майстэрні расчыняліся насцеж. Праца ішла поўным ходам. Міша Міхайлавіч, як афіцыйна называлі выхаванцы сталяра-інструктара, вёў сваю справу дасканала. Гэтак жа добра ён мог растлумачыць і навучыць гэтай справе любога, у каго меліся дзве рукі, вочы і, вядома, яшчэ крышачку жадання ды кемлівасці. Са сталоўкі ўжо выцягнулі і пусцілі на «вучэбны матэрыял» адну з доўгіх і нязграбных лавак. На яе месца паставілі новенькія жоўтыя крэслы. Зроблены яны добра і надзейна — для сябе. Міша Міхайлавіч распрацаваў паточны метад вырабу прадукцыі.

— Пусцім па канвееры!— гаварыў ён хлопцам.

У працы і вучобе паступова забываліся вялікія і дробныя непаладкі. Жыццё ўсталёўвалася, набывала рытм. Агульнымі намаганнямі выцягвалі «двоечнікаў», спрачаліся, калі прыходзіла чарга дзяжурыць на кухні, дружна збіраліся, калі трэба было ісці ў кіно.

Віця з Арсенем памірыліся. Забылі на разлад, што быў пасля «лядовага пабоішча». Неяк вельмі хутка прывыклі, што зноў у дзетдоме Апанас: можа таму, што ён перамяніўся, стаў зусім іншы. У школу, праўда, яго прынялі ўмоўна: адзнак спачатку не выстаўлялі, але ён стараўся. Перасталі ў дзетдоме прападаць рукавіцы, прачка знайшла аднойчы ў лазні дзве лішнія прасціны...

Перамяніўся, стаў нейкі іншы і Анатоль Пятровіч. Ён перастаў без прычыны сварыцца на хлопцаў, чапляцца да іх.

Па-ранейшаму ў дзетдом прыходзіць Грыша Званкоў. У яго гатавальня, і хлопцы разам нешта чэрцяць. Акрамя таго, у Грышы і яшчэ ёсць прычыны прыходзіць у дзетдом, але ж гэта вялікі сакрэт.

Віця Ляўковіч таксама хавае ад усіх свой сакрэт. Ніна Зямко зноў не гаворыць з ім, хоць і сядзяць на адной парце. Толькі калі кантроль-

ная ці дыктант, дык словам-другім перакінуцца. Віця спытаў аднойчы пра сваю запіску.

— А мне не было часу!..— яна паглядзела на яго сумнымі вачыма і адвярнулася да акна. У Віці ёсць яшчэ адзін сакрэт: ён малюе партрэт аднаго чалавека — з фатакарткі, якую паціху ўкраў. Але гэта самы-самы вялікі сакрэт!..

Вясна ідзе! Хлопцы на двары ў вольны час гуляюць у лапту, выпілоўваюць гарадкі, заводзяць з Мікалаем Пятровічам гутарку наконт футбольнага мяча. Так, нібы ненарокам... Мікалай Пятровіч разумее хлопцаў, але проста ім гаворыць:

— Да летніх канікулаў на мяч не разлічвайце...

За другім корпусам пачынаецца вялікі пляц. Раней, відаць, тут быў агарод. Цяпер пляц пустуе. Нібы бадылі мінулагодняга сланечніку, тырчаць на гэтым кавалку зямлі вялізныя, аблезлыя ад марозу, дажджоў і ветру сцябліны дзядоўніку. Ля іх рудзее прэлае зелле, праз якое прабіваюцца першыя зялёныя іголкі травы. Пляц цягнецца метраў на сто і даходзіць да мястэчковых платоў, за якімі пачынаюцца гароды, хлеўчукі, розныя пабудовы.

Пакуль пляц гэты быў пад снегам, на яго мала хто звяртаў увагі. Цяпер, калі сышоў снег, сюды прыйшлі Мікалай Пятровіч і загадчык гаспадаркі.

— А ведаеце, Зінові Цімафеевіч, з вашай задумы можа быць карысць, — сказаў дырэктар, ступаючы па ледзь прыкметных былых загонах.

— Я даўно прыглядаўся... Ды ўсё рукі не даходзілі,— задаволена пагладжвае вусы стары.— Тут зямля, як пух, толькі яе разварушыць трэба.

Топчучы леташнюю сухую траву, што густым покрывам зляжалася на зямлі, Мікалай Пятровіч і Зінові Цімафеевіч абышлі ўвесь участак.

— Можа быць карысць,— нібы працягваючы думаць уголас, паўтарыў дырэктар.— Тут з гектар будзе?

— З гектар можа і не будзе, але ж пляц што трэба... Мікалай Пятровіч, а што, калі...

— Я гаварыў у пасялковым Савеце. Аддаюць. Рабіце, што хочаце, кажуць...

Перамералі крокамі ўдоўж і ўпоперак увесь пустыр, пастаялі, закурылі. Зінові Цімафеевіч наском бота камлюк растаптаў. З-пад яго высунуўся чырвоны, як шнурок, дажджавы чарвяк.

— Дык я сёння і пачну. Эх, дарэмна ўвосень не дадумаліся...

За два дні ўзаралі пустэчу. Баранаваць было лягчэй. Зінові Цімафеевіч управіўся за паўдня. Распрог Фрыца, у хлеў паставіў, корму падкінуў, а сам у канцылярыю пайшоў.

— Што чуваць?— да Мікалая Пятровіча звяртаецца.

— Нічога добрага... Саджанцаў нідзе няма. Званіў ва ўсе канцы.

А па дзіцячаму дому ўжо з адной групы ў другую — ад малых да большых — чутка паляцела: «Свой сад будзем садзіць!»

Выхаванцы, хто больш цікаўны, на завораны і пабаранаваны пустыр збегалі паглядзець, па мяккай раллі патупалі.

— Сад, значыць сад... Хоць доўга з яго пладоў чакаць, але паспрабуем садзіць,— сказаў Піліп Чаравака. Ён заўсёды нейкі абыякавы да ўсяго, хоць ад усіх дзяцей ні ў чым не адстае: ні ў вучобе, ні ў майстэрні. Проста буркलівы такі нарадзіўся.

Сад вырашылі садзіць. Былі скептыкі, былі проста гультаі, якім кожная новая справа заўсёды здавалася цяжкай і непатрэбнай. Былі і энтузіясты. І яны перамаглі. Таму дзіцячы савет пастанавіў: у новым



садзе кожны выхаванец павінен пасадзіць пладовае дрэва або куст ягадніку, даглядаць і вырошчваць яго.

Зінові Цімафеевіч прывёў з калгаса агранома — высокага мужчыну з драўлянай нагой. Сабраўшы дзяцей на забаранаваным пляцы, той прачытаў невялікую лекцыю аб карысці пладовых насаджэнняў і растлумачыў, як, што і дзе садзіць.

У майстэрні зрабілі чаранкі на дзесяць рыдлёвак, купленых у магазіне. З хлява вывезлі на поле гной. З грубак, з лазні і з кухні вынеслі вёдрамі ўвесь попел. Гэта заняло два дні. Трэба пачынаць пасадку, але не было чаго садзіць. Саджанцаў не знайшлося ні ў калгасе, куды хадзіў Мікалай Пятровіч, ні ў раённым зямельным аддзеле, ні ў Пінску, куды разы тры званілі. І ўсё ж іх трэба дастаць...

У нядзелю раніцай загадчык гаспадаркі пайшоў на рынак. Купіў, што яму трэба было, і ўжо сабраўся ісці дадому, як раптам убачыў ля варот старога, які прадаваў саджанцы. Зінові Цімафеевіч забыўся на ўсё і кінуўся да старога.

Таргаваліся доўга. Нават крычалі адзін на аднаго. Парашылі так: гаспадар прадае тоненькія, не таўсцей за палец, яблынькі па дзесяць рублёў, слівы — па пяць за «корань», вішнёвыя дрэўцы — па трайку: яны зусім, як дубцы.

— Лаза!— сказаў Зінові Цімафеевіч.

Стары ўздыхнуў:

— Для сябе бярог, але прыходзіцца збываць. Сад садзіць мне няма ніякай рахубы.

Запрэглі каня і паехалі на дзетдомаўскі двор. Зінові Цімафеевіч думаў, чым заплаціць? Грошай у бухгалтэрыі ні капейкі. Ды і выхадны сёння. А выпускаць саджанцы з рук — нельга. Дырэктара на ганку сустрэў ледзь не са слязьмі і паказваў на воз, дзе ляжалі шэра-карычневыя тоненькія дрэўцы. Мікалай Пятровіч толькі шапку ссунуў на патыліцу: «Та-а-ак!»

Яны пайшлі ў канцылярыю. Праз мінут колькі выйшлі назад, і Мікалай Пятровіч папрасіў паклікаць Апанаса Кныша. Калі той прыбег, задыханы і расчырванелы, узяў яго здаровай рукой за плячо і кіўнуў на брамку:

— Мне трэба з табой схадзіць на пошту...

Хлопец паціснуў плячамі, паглядзеў на дырэктара і разгублена адказаў:

— Хадзем... Я гатовы...

А сам падумаў: «Зноў прысталі... Зноў нешта «прышыць» мне ўздумалі... Уцяку! Вось зараз ірвануся, толькі пыл закурыць...»

Яны выйшлі з двара і падаліся ў той бок, дзе была пошта...

Калі, паглядваючы па баках, Апанас ужо хацеў даць цягу куды-небудзь у агарод, Мікалай Пятровіч дастаў з кішэні і паказаў яму жоўты кавалак паперы, пашматаны, зацёрты дзесяткамі пальцаў:

— Пазнаеш? Ты ж мне іх выслаў?

— Ну-у, вам...

— Вось я і атрымаю. А ты аднясеш і аддасі Зіновію Цімафеевічу... Ён заплаціць за саджанцы.

У хлопца адлягло ад сэрца.

— У-ф-ф!.. Горача зрабілася!— рукою выцер мокры ад хуткай хады твар і паправіў шапку. У яго раптам нібы крылы выраслі. Гэта ж трэба! Так усё павярнулася!

Калі атрымлівалі грошы і дзяўчына праз акенца падала ім важкі пачак чырвонцаў, ён нават пашкадаваў, што тады, як атрымаў сваю



першую і адзіную пакуль што ў жыцці зарплату, выслаў не ўсе грошы ў дзетдом.

Да дзетдомаўскай брамкі Апанас бег напрасткі — агародамі, куляючыся праз невысокія драўляныя платы і моцна сціскаючы рукою ў кішэні пачак грошай. «Я ім дакажу... Цяпер я іх здзіўлю»,—мроілася ў галаве. Каму дакажа, каго здзівіць, Апанас добра не ведаў і сам. Мусіць, хлопцаў! Каб знялі, што ён за чалавек цяпер. Вось здзівяцца, калі ён пачак грошай дастане з кішэні і Зіновію Цімафеевічу аддасць. Працягне гэтак абыякава, нібы звычайную якую рэч. Вось будзе фокус! Няхай ведаюць Апанаса!.. Ён быў ужо на пляцы ля другога корпуса, калі ўбачыў Піліпа Чараваку. Той метравым завостраным кавалкам тоўстага дроту тыцкаў у зямлю недалёка ад сцяны будынка...

— Што, Піліп, міны шукаеш? Іх тут сапёры даўно павыцягвалі.

Засцігнуты знянацку, Піліп выпусціў з рук дрот, замаргаў вачыма і азірнуўся.

— Т-с-с-с! — паціху ступіў ён да Апанаса і ўзяў яго за рукаў: — Слухай, тут недзе скарб схаваны... Толькі нікому не кажы... Мне Жора Гулеў гаварыў.— Ён утаропіўся вачамі ў Апанасаў твар і чакаў, што той будзе казаць.

Апанас прыжмурыўся, таямніча прыклаў палец да вуснаў і зашаптаў:

— Ты не там шукаў. Скарб ужо знойдзены... Я яго знайшоў.

— Ты хлусіш!— амаль крыкнуў Піліп.

— На, паглядзі!— тыцнуў яму проста ў нос пачкам грошай Апанас.

У Піліпа калыхнулася пад нагамі зямля. Столькі грошай! Стрымліваючы хваляванне, ён пачаў прасіць:

— Слухай, Апанас... Я столькі шукаў... Ты мне хоць трохі дай. Я нікому не скажу ні слова...

— Эх, і брыдкі ты чалавек, Піліп! Убачыў чырвонец і нюні распусціў. Не енчы: не дам. Ні рубля!..

— Ну, хоць колькі-небудзь. І я ж іх шукаў,— надрываўся Піліп.





Апанасу хацелася зарагатаць, але ён трымаўся. Трэба да канца разыграць гэтага сквалыгу.

— Я табе сказаў: не дам ні рубля...

— А што ж ты з імі зробіш?

— Аддам загадчыку гаспадаркі. Хочаш, разам пойдзем. Ну? Хочаш паглядзець, як Апанас Кныш скарб аддае?

Піліп вагаўся. Ён яшчэ не траціў надзеі, але Апанас павярнуўся і пайшоў міма другога корпуса на дзетдомаўскі двор.

Праз вуліцу Піліп бачыў, як ён падбег да Зіновія Цімафеевіча і аддаў яму грошы. Хлопцы, што стаялі ля воза, чамусьці без асаблівага здзіўлення пазіралі на ўсё гэта. Дурні! Яны не ведаюць, што Кныш знайшоў скарб і так лёгка з ім расстаўся. Ён самы большы дурань! Піліп са злосцю шпурнуў пад плот свой драцяны скарбашукальнік і паволі пасунуўся на вуліцу.

На двары хлопцы асцярожна знімалі з воза і клалі ў рады ля плота гнуткія дубцы-саджанцы: каб не зламаць, каб не пашкодзіць кволыя карэнні.

Праз паўгадзіны ў дзетдоме аб'явілі аўрал.

З насілкамі, жалезнымі віламі і рыдлёўкамі выхаванцы выйшлі на ўзараны і забаранаваны пустыр. Нацягвалі лейцы і разбівалі пляц на квадраты. Пасля забівалі драўляныя колікі, капалі ямкі. Капалі па чарзе, мяняючыся. Пад карэнні саджанцаў клалі чарназём і ўгнаенні. Асцярожна абсыпалі дрэўцы зямлёй і злёгку прытоптвалі вакол ствала зямлю. Вёдры з вадой ад калодзежа перадавалі па жывому ланцугу. Следам за Зіновіем Цімафеевічам хадзілі ад дрэўца да дрэўца Ілік і Барыс: яны падносілі калкі. Стары прывязваў шнуркамі да гэтых калкоў тонкія яблынькі, каб вецер не зламаў, каб роўна раслі. На кожным калку простым алоўкам рабілі надпіс: «Пасадзіў і даглядае дрэўца выхаванец Гулеў», або Сокал, або Глушак. Пасля гэтага кожны пачынаў глядзець на тоненькую расліну, як на нейкую жывую істоту: яно, гэтае дрэўца, неяк адразу рабілася дарагім, да яго ўзнікала нейкая спагада, і вырасціць яго вельмі хацелася кожнаму.

Калі на другі дзень скончылі саджаць дрэўцы, выявілася, што іх не

хапае не толькі для таго, каб заняць увесь пляц, але і нават па адным на кожнага выхаванца. Без «свайго» дрэўца засталося каля трыццаці чалавек. Пачаліся наракaнні і крыўды. Тады камусьці прыйшло ў галаву мудрае рашэнне: старэйшыя выхаванцы няхай даглядаюць кожны па адным дрэўцу, а меншыя — удваіх адно. Прапанова была прынята, і ўсе засталіся задаволеныя. Усе, акрамя Піліпа Чаравакі. Піліпа не было, калі садзілі сад. Ні ў першы дзень, ні на другі. Піліп не захацеў садзіць сад. У нядзелю ён прыкінуўся хворым, ляжаў на ложку і пстрыкаў па кончыку тэрмометра, які яму паставіла Лідзія Міхайлаўна: «наганяў» тэмпературу. Пад вечар у яго тэмпература паднялася да сарака градусаў. Піліп спалохаўся, каб яго не павезлі ў бальніцу, і пачаў даказваць медсястры, што ён папpавіцца. І сапраўды, праз паўгадзіны тэмпература ў яго стала нармальная.

У панядзелак медсястра забараніла Піліпу ісці ў школу. Ён ляжаў і чытаў «Востраў скарбаў». І вельмі перажываў, што так абставіў яго Апанас Кныш. Надта ўжо хацелася Піліпу знайсці скарб. Ён часам нават уяўляў, як гэта будзе... Раніцай (чамусьці іменна раніцай) ён возьме свой скарбашукальнік і пойдзе з ім на тое месца, дзе яго застаў Апанас. Ён праверыць зямлю вакол усяго дома і знойдзе. Знойдзе абавязкова... Вось тады затанцуе гэты рыжы задавака... Яму Піліп не дасць нічога — няхай ведае! Гэта за тое, што Апанас нічога не даў яму ў нядзелю, калі пабег з грашыма да загадчыка гаспадаркі... А вось Жору Гулеву Піліп выдзеліць нейкую частку — той малайчына. Ён узяў Піліпа ў напарнікі. Праўда, чамусьці сам не збіраецца шукаць, пасміхаецца ўсё... А можа і Жору нічога не даваць?.. Ён неяк падгаварыў хлопцаў, і тыя вынеслі соннага Піліпа разам з ложкам на калідор. Не, Жору ўсё ж трэба будзе даць... Не шмат, але даць. Піліп не такі ўжо злапамятны.

Тры дні «хварэў» Піліп. Кніжку прачытаў, пад падушку яе схаваў. Каб не адстаць, паціхеньку ўрокі дома рыхтаваў. Не быў бы на тое ён і Піліп! Хітры хлопец! Ведае, што за дрэнныя адзнакі ніхто не пахваліць, таму часу не траціў. Цішыня, ніхто не перашкаджае — нават некалькі параграфаў па гісторыі наперад прачытаў. Усе будуць вучыць, а ён пагуляе.

На чацвёрты дзень Піліп усё ж папрасіўся ў школу. Прывык усё-такі ў гурце быць, з дзецьмі разам. У школе ў той дзень ён здзівіў усіх выхаванцаў, як ніколі: за адзін дзень атрымаў дзве пяцёркі і чацвёрку. Хлопцы па дарозе дадому, хто жартуючы, а хто з зайздрасцю, хвалілі яго, і ён быў ледзь не на сёмым небе. Ягоны цудоўны настрой прапаў толькі пасля абеду, калі дзеці пайшлі паліваць свой малады сад. Піліпу не было чаго там рабіць, а гадаваць з кім-небудзь дрэўцы на пару ён не згадзіўся б. Ды, шчыра кажучы, ніхто яму і не прапаноўваў гэта. Пакуль выхаванцы цягалі вёдрамі ваду ў сад, ён сядзеў і рыхтаваў урокі. А пасля, як хлопцы сабраліся ў пакоі, ні з таго, ні з сяго заявіў:

— У вас вішні, слівы і яблыні... А я пасаджу бярозу... Нават не адну. Дзве бярозы пасаджу. Вось так. Пад вокнамі будуць расці.

Спытаў дазволу ў Валянціны Зіноўеўны, узяў рыдлёўку і пайшоў за мястэчка ў лес, куды зімою не раз ездзілі катацца на лыжах. Вярнуўся дахаты ўжо надвячоркам і прынёс дзве даволі тоўстыя бярозкі, выкапаныя на ўзлессі. Спачатку Піліп хацеў пакласці іх нанач ля сцяны і пасадзіць заўтра раніцай, таму што ён добра-такі стаміўся. Але падумаў, што дрэўцы за ноч завянуць, і рашыў: трэба іх пасадзіць сёння. Папляваў у далоні — на садраныя мазалі — і пачаў капаць першую ямку. Недзе за местачковымі дахамі, за далёкім паваротам чыгункі садзілася чырвонае красавіцкае сонца. Дыміла чорным дымам у перадвячэрняе,



яшчэ без ніводнай зоркі, неба жалезная заводская труба. Нагрэтая за дзень вясновымі праменнямі, зямля дыхала парнасцю, з-пад сцяны другога корпуса выбіліся на волю і зацвілі малюсенькія, нібы гарошынкі, беленькія кветачкі на танюсенькіх нітках-сцяблінках.

Піліп Чаравака працаваў моўчкі і не спяшаючыся. Гэтую звычку ён пераняў, напэўна, ад бацькі, вясковага чалавека, які ўсё жыццё меў справу з зямлёй, усё жыццё араў яе і збіраў на ёй ураджай і ведаў, што апрацоўваць яе трэба дбайна, не даваць ёй зачахнуць. Можа таму ў сорак трэцім годзе ў час блакады партызанскай зоны ў такі ж красавіцкі дзень і вылез ён з канём і плугам на поле, каб узараць яго і засеяць. Там і насціг чалавека чарнакрыжы нямецкі самалёт. Фашыст-лётчык ненавідзеў чалавека з плугам... Таму ў першую баразну, у мяккую веснавую зямлю ўрэзалася бомба. Пасля яе застаўся толькі адкінуты на сярэдзіну поля і ўваткнуты дышлам у зямлю плуг з цёплымі ад сялянскіх далоняў ручкамі...

Бацька пакінуў малому Піліпу ў спадчыну цягавітасць у працы ды замкнёнасць у думках. Гэта і падганяла хлопца, не давала яму адставаць ад астатніх дзяцей ні ў чым.

Ён скончыў саджаць першую бярозку якраз тады, калі гарніст падаў сігнал ісці на вячэру. Хацеў кінуць рыдлёўку і падацца ў сталоўку, але чамусьці механічна адмерыў уздоўж сцяны дзесяць крокаў ад пасаджанага дрэва і пачаў капаць другую ямку. Ён увесь быў мокры, скінуў шапку і паклаў на прызбу. «Скончу, тады павячэраю з дзяжурнымі разам... Дзве бярозкі пасаджу. Пад самымі вокнамі. Гэта будуць мае бярозкі... У маі зазелянеюць...»

Калі са сталоўкі выходзіла апошняя, старэйшая, група, Піліп ужо ўставіў у ямку другое дрэўца і, прытрымліваючы белы ствол левай рукой, правай узяў рыдлёўку і пачаў засыпаць карэнні зямлёй. Працаваць было нязручна. Калі бярозка ўжо стаяла сама, ён уздыхнуў з палёгкай і ўзяўся абедзвюма за рыдлёўку. І тут, разбіваючы вялізны камяк зямлі, пачуў, як скрыгатнула жалеза аб жалеза. Са злосцю грабянуў нагою ўбок іржавую бляшанку. Калі скончыў і пачаў утоптваць зямлю, позірк неяк выпадкова ўпаў на толькі што адкінутую бляшанку. «А што, калі?! » Баючыся сваёй здагадкі, узяў рыдлёўку і, як сякерай, гахнуў па бляшанцы. Іржавая бляха раскалолася, і ў Піліпа ў вачах пацямнела: з яе паплылі на пясок нейкія жоўтыя кружочкі. Піліп уздрыгнуў, ліхаманкава азірнуўся і, стаўшы на калені, пачаў зграбаць манеты... «Не можа быць!.. Не можа быць!..» Разам з пяском і зямлёю зграб назад у бляшанку цьмяныя жоўтыя гузікі, устаў на ногі. Ад разгубленасці і хвалявання не заўважыў нават, што бляшанка нейкая вельмі цяжкая. Сунуў знаходку пад сарочку і, трымаючы яе рукой, сарваўся з месца. Адбег крокаў дзесяць і ўспомніў пра рыдлёўку. Вярнуўся, схапіў і, баючыся, каб не трапіць каму на вочы, пашыбаваў праз вуліцу — у дзетдомаўскі двор.

Вячэраў Піліп апошні. На яго накрычалі дзяжурныя і повар. Рукі ў хлопца дрыжалі, з лыжкі выліваўся суп. Тады ён кінуў есці, схапіў кавалак хлеба і выскачыў са сталоўкі, нічога не сказаўшы.

— Што гэта ён? Усё роўна, як ненармальны,— паціснула плячыма Паўліна Антонаўна.

Анатоль Пятровіч затрымаўся ў канцылярыі гадзін да адзінаццаці вечара. Гарніст пратрубіў адбой, дзетдомаўскі двор апусцеў — толькі ў другім корпусе свяцілася яшчэ некалькі вокан. «Не ў час кладуцца спаць... Гэта ў другой групе. Трэба заўтра пацікавіцца...»

Анатоль Пятровіч ужо сыходзіў з ганка канцылярыі, як за лазняй

успыхнуў жоўты агеньчык запалкі. «Зноў кураць! Ну, хуліганы, больш вам не захочацца...»— Анатоль Пятровіч паклаў ключ у кішэню і размашыста пакрочыў на агеньчык.

«Сто сорак шэсць, сто сорак сем... сто сорак восем... сто сорак дзевяць... сто семдзесят тры... сто восемдзесят...»

Некалькі мінут Анатоль Пятровіч, стаіўшыся за вуглом, назіраў за цёмнай постаццю хлопчыка, што сядзеў у закутку і шэптам штосьці лічыў. «Хто ж гэта такі?.. Ага, Піліп Чаравака... Відаць, у шавецкай майстэрні нейкіх жалязяк у Шлёмы Мейсеевіча накраў і пазвоньвае, лічыць. Зараз я цябе, галубок, выведу на чыстую ваду...»

Сноп святла з кішэннага ліхтарыка слізгануў па Піліпавых плячах. Піліп закруціў галавою, нібы адганяючы мух, і ўхапіўся за шапку. Нейчая рука пацягнулася да шапкі і зграбла яе. Піліп разгубіўся, выпусціў паклажу з рук, не паспеўшы сказаць ні слова. Спалоханымі вачыма ён глядзеў на жоўтыя кружочкі, якія заблішчалі ў праменнях святла ад ліхтарыка. «Медзякі так не блішчаць»— мільганула ў яго і знікла думка. Ён падняўся на ногі. Чужая рука страсянула шапку, і манеты зазвінелі коратка, рэзка. Завучаў голас загадаў:

— Пайшлі адсюль... Позна ўжо...

Гэта супакоіла Піліпа, і ён пайшоў уперадзе Анатоля Пятровіча, які зрэдку свяціў пад ногі ліхтарыкам. У промнях святла, што падала Піліпу ў спіну, цень ад ягоных ног — доўгі і пачварны — слаўся па зямлі і ўпіраўся ў цемру. Акрамя гэтага ценю, Піліп нічога не бачыў перад сабой.

У канцылярыі Анатоль Пятровіч шчоўкнуў выключальнікам, кінуў на стол свой капялюш, расшпіліў паліто, паправіў акуляры. Усё гэта ён рабіў левай рукой — правая трымала Піліпаву шапку з манетамі. І вось, глуха зазвінеўшы, шапка ўпала на стол.

— Паглядзім, што тут у цябе...

Невядома чаму, але Піліп раптам асмялеў. Ён нават падышоў бліжэй да стала, каб паглядзець, што ж там сапраўды ў ягонай шапцы. Калі б ён мог адарваць свой позірк ад жоўтых бліскучых манет, ён заўважыў бы, як Анатоль Пятровіч раптам змяніўся з твару. Перабіраючы пальцамі манеты, ён спалохана зірнуў у акно, на дзверы, нешта падумаў і спытаў, пазіраючы Піліпу ў вочы патрабавальна і строга:

— Дзе ты ўзяў гэтыя медзякі?

— Я іх выкапаў у зямлі. Бярозкі саджаў і выкапаў...

— З табой быў яшчэ хто-небудзь? Ну... бачыў хто, як ты іх знайшоў?— Анатоль Пятровіч пачынаў хвалявацца.

— Не. Ніхто не бачыў,— Піліп сцяміў, што манеты зацікавілі завуча. Ды і самому карцела хутчэй даведацца, што гэта за грошы. Пераступіўшы з нагі на нагу, ён спытаў: — Скажыце, гэта сапраўднае золата?

Анатоль Пятровіч змоўк, чамусьці адчыніў шуфляду стала. Загаварыў спакойна і лагодна, нібы тлумачыў задачу:

— Гэта не золата... Гэта звычайныя медныя грошы... Справа ў тым... справа ў тым, што яны выпушчаны некалькі стагоддзяў назад... Яны каштоўныя, але толькі для музея... Так іх ніхто не возьме... А вось для музея — гэта вельмі каштоўная знаходка.— Ён нахіліўся над сталом і ўпаўголаса спытаў: — Тут яны ўсе? Усе, колькі ты знайшоў?

— Усе, вядома. Сто восемдзесят дзве манеты...— Гаворачы гэта, ён адчуваў, як муляе нагу маленькі кружок металу: там, за лазняй, ён паспеў засунуць адну манету ў чаравік.— Я іх усе сам пералічыў,— казаў ён.— Вы мне іх аддайце...

Анатоль Пятровіч засмяяўся, устаў з-за стала і ўзяў Піліпа рукой за плячо.

— Дзівак-чалавек! Навошта яны табе? Хлопцам раздасі? Дык яны ж



іх пагубляюць! А так мы ўсе разам іх — у музей... У Пінск адашлем! Нам падзяку аб'явяць. Такіх старажытных манет нідзе няма... А мы іх у музей.— Ён ласкава зірнуў Піліпу ў вочы і не ў меру замітусіўся. Пакуль хлопец стараўся зразумець, што да чаго, манеты зніклі ў шуфлядзе стала, а шапка апынулася ў яго на галаве.

Убачыўшы, што ён разгубіўся і чымсьці незадаволены, Анатоль Пятровіч пачаў суцяшаць:

— У музей напішам, што ты знайшоў манеты... Там тваё прозвішча над вітрынай напішуць... Можа нават фатакартку павесяць... Ну, пайшлі спаць! — злёгку падпіхнуў ён хлопца да дзвярэй і ўжо ля парога папярэдзіў:— Ты толькі пра гэта пакуль нікому не гавары... Пасля скажам... Я сам скажу... Толькі крыху пазней...

Пасвечваючы ліхтарыкам пад ногі, ён правёў Піліпа да самых дзвярэй другога корпуса.

Ноччу Піліпу снілася адно і тое ж: ён саджае ў полі нейкае зялёнае дрэва, а яно ўсё хіліцца на бок. Тады Піліп рыдлёўкай падкочвае да ствала камень. Камень рассыпаецца на жоўтыя кружочкі. Піліп хоча ўзяць іх рукою, а яны выслізгваюць з рук... Піліп некалькі разоў прачынаўся: балела галава і далоні, нацёртыя рыдлёўкай учора, калі садзіў бярозкі. Успаміналася шапка з манетамі, завуч у канцылярыі.

Днём Піліп Чаравака ў школе быў няўважлівы і атрымаў двойку. Тое ж было і на наступны дзень. Піліп схуднеў і стаміўся ад пачварных сноў і неспакойных думак. На трэці дзень ён не вытрываў: застаўшыся адзін на адзін з Дзедам-Архімедам у шавецкай майстэрні, паказаў яму тую манету, што схаваў у чаравіку.

Стары паднёс яе да вачэй і схапіўся рукамі за галаву. Манета выслізнула з худых вузлаватых пальцаў, зазвінела і ваўчком закруцілася на шавецкім стале.

— Уф-ф! Што ты нарабіў! — жахлівым позіркам стары ўтаропіўся на Піліпа: — Дзе ты яе ўзяў?

Дзеці, што былі на двары, здзіўлена пазіралі на спалоханага Шлёму Майсеевіча, які амаль бег у канцылярыю і цягнуў за рукаў Піліпа Чараваку.

— Піліп папаўся! Піліп уліп!— закрычаў хтосьці ім услед.

Неўзабаве Мікалай Пятровіч паслаў завучу запіску, каб той прыйшоў у дзіцячы дом. Анатоль Пятровіч папрасіў дзяжурнага перадаць дырэктару, што ён хворы і прыйсці не можа.

Вечарам да Анатоля Пятровіча пастукаў начальнік міліцыі Празоўскі.

**Заметка з абласной газеты**

**«Кірмашэвічы.** (Наш. кар. Па тэлефоне). Нядаўна выхаванцы мясцовага дзіцячага дома ў час закладкі пладовага саду знайшлі скарб — залатыя манеты. Знаходка перададзена ў банк. За сумленны ўчынак піянерам аб'яўлена падзяка».

Піліп стаў героем на цэлы месяц. А завуч пасля гэтага пачаў рабіць выгляд, нібы і няма Піліпа ў дзетдоме.

Піліп на яго не крыўдаваў.

# РАЗДЗЕЛ XVII

У маі зацвітаюць мястэчковыя сады, закрываючы шэрыя непрыглядныя сцэны старых драўляных будынкаў белай квеценню. Здаецца, нехта працавіты і кемлівы за адну ноч выбеліў мястэчка. У маі падсыхаюць

местачковыя вуліцы, яны робяцца шырэйшымі і ўтульнымі. У маі, выводзячы раным-рана каня на першую зялёную траву далёка на луг, аж за чыгунку, Зінові Цімафеевіч гладзіць запыленую грыву старога Фрыца і па-сяброўску, нібы чалавеку, выказвае свае пачуцці:

— Ну, вось і перазімавалі... Вясны дачакаліся.

Фрыц будзе на пашы аж пакуль добра не прыгрэе сонца. Тады па яго прыйдуць Ілік з Барысам, доўга будуць надзяваць яму аброць, аж пакуль каню не надакучыць дурэць і ён нізка не апусціць галаву. Тады Барыс сядзе яму на шыю, і конь паціху закіне яго сабе на спіну. Там Барыс перавернецца тварам уперад і будзе за рукі цягнуць да сябе Іліка. Так удвух яны паволі і даедуць верхам дадому.

У маі, нібы пчаліны вулей, гудзе і жыве дзіцячы дом. Да свята вясны выхаванцам выдалі летнюю вопратку, тую, што хлопцы з Мікалаем Пятровічам прывезлі з Пінска. У хлопцаў зялёныя картовыя футболкі і штаны-клёш. У дзяўчынак — футболкі і спадніцы. Пасля цяжкага зімовага паліто хадзіць у такой форме проста любата! Першага мая дзетдомаўцы былі на дэманстрацыі. Збіраліся ля школы і разам з вучнямі, толькі ўсё ж сваёй калонай, ішлі да цэнтральнай плошчы. Там быў мітынг.

Пад вечар у местачковым клубе дзетдомаўцы выступілі з канцэртам мастацкай самадзейнасці. Калі канцэрт закончыўся, на сцэне важна расселіся музыканты пажарнай каманды з пазелянелымі меднымі трубамі. У зале местачковыя танцоры пачалі расчышчаць месца для танцаў.

На вуліцы пасярод натоўпу ўзбуджаных і вясёлых па-святочнаму людзей да Віці Ляўковіча праціснуўся Грыша Званкоў і таямніча пацягнуў за рукаў. Яны выбраліся з цеснаты і адышліся, каб ніхто не падслухаў іхняй гутаркі. Грыша быў у новым, крыху велікаватым яму касцюме і, што здзівіла Віцю, пры гальштуку.

— Братаў апрануў... Ён у арміі яшчэ,— растлумачыў Грыша і, аглянуўшыся па баках, загаварыў па-змоўніцку:— Ты сёння застанься ў клубе на танцы... Будуць дзяўчаты з нашага класа... Яна таксама прыйдзе... Я з імі на канцэрце сядзеў, і мы дамовіліся...

Віця пачырванеў і правёў рукою па сваіх каротка стрыжаных валасах. Яму хацелася застацца, але што скажа Мікалай Пятровіч або завуч?

Клуб грымеў музыкай і свяціўся яркімі электрычнымі лямпамі. Спачатку хлопцы, не рашаючыся асабліва выстаўляць сябе на паказ, сядзелі на лаўцы, недалёка ад уваходу, і назіралі, як хто танцуе. Віця здзівіўся, калі ўбачыў, што дзяўчаты з іхняга класа — Гэля Кулак, Фрося Ліцвін, Ніна Зямко і Ліда Падводзіна — адчуваюць сябе на танцах гэтак жа смела, як і ў школе на калідоры. Не паспелі яшчэ музыканты зайграць вальс, а яны ўжо кружацца па клубе і нешта вясёлае адна другой расказваюць. Ніна танцуе з Гэляй — яны сяброўкі. Па пяць разоў на тыдзень сварацца і мірацца. Віця гэта ведае. Гэля, як толькі пасварыцца з Нінай, дык Віцю адразу ўсе Німіны сакрэты расказвае: і што Ніна лёгкадумная, і што ў яе закаханы адзін хлопец з лесазавода, і што Ніна вучыцца лянуецца, адны танцулькі ў галаве. Так што з Гэляй Віця, як з хлопцам, трымаецца. А вось з Нінай ён больш маўчыць і не ведае, пра што гаварыць. Гэта таму, што ён закаханы ў яе па самыя вушы.

Тым часам пар у крузе становіцца ўсё больш і больш. Местачковыя кавалеры танцуюць вальс моўчкі і сур'ёзна, нібы робяць самую адказную работу. Віця назірае за імі, і яму робіцца крыху смешна.

А музыка грыміць на ўсю моц. Грыша папраўляе свой гальштук і рашуча шэпча Віцю на вуха:



— Хадзем Ліду з Фросяй запросім танцаваць...

Хлопцы толькі хацелі падняцца і пайсці, як дзяўчаты, што сядзелі з другога боку залы, відаць, пакрыўдзіўшыся на такое доўгае чаканне і нерашучасць Грышы і Віці, усталі з месца і пайшлі ў танец. Нічога не заставалася, як сядзець і чакаць наступнага вальса. Хлопцы так і зрабілі б, але тут аднекуль з сярэдзіны залы падбег да іх узбуджаны, пры гадзінніку, у бліскучых чорных чаравіках, Міша Міхайлавіч. Ён, аказваецца, добра ведае Грышу Званкова — працуе на заводзе разам з ягоным бацькам. Таму, схапіўшы хлопцаў за плечы, Міша Міхайлавіч шумна цягне іх за сабою:

— Піва піць пойдзем!

У буфеце гаваркая кампанія ахвотна расступілася перад Мішам Міхайлавічам. Ён усё-такі не хто-небудзь! Ён лепшы столяр лесазавода. Міша Міхайлавіч ведае гэта і таму трымаецца як мае быць. Аднамудвум паціснуў далоні, астатніх паляпаў па плячы і буфетчыцы закамандаваў:

— Тры піва! Для мяне і для гэтых вось маладых людзей!

Гэтак жа лёгка і весела і неяк зусім непрыкметна ён разлічыўся і прымусіў хлопцаў апаражніць цяжкія куфлі да дна.

— Сёння можна! Сёння я дазваляю...

Ад піва ў хлопцаў зашумела ў галаве. З буфета яны выйшлі бадзёрыя, рашучыя і разам з Мішам Міхайлавічам рушылі да сваіх аднакласніц. Тыя толькі гэтага і чакалі, наперабой накінуліся на хлопцаў:

— Ці рашылі вы задачу па алгебры?..

— Задачу ці рашылі? На танцы прыйшлі задачы рашаць! Месца знайшлі!

А тут музыка зноў ударыла. Няхай паляжаць задачкі дома! Была не была! Чамусьці раптам надзьмуўшыся, як і большасць местачковых кавалераў, Віця выцягнуў рукі па швах і, кланяючыся, зноў жа, як местачковыя хлопцы, запрасіў Ніну танцаваць. Тая паглядзела на яго неяк здзіўлена, пасля ўсміхнулася, паклала руку яму на плячо. А вочы яе нібы гаварылі: «Ну, да чаго ты смешны і баязлівы!» Віця і сам гэта адчуваў. Ён не рашыўся б першы пачаць танец, калі б побач не было Грышы і Мішы Міхайлавіча. Яны, вядома, сябры. Але ж яны маглі першыя запрасіць Ніну танцаваць, а ён застаўся б сядзець. Танцаваць з Гэляй ці Фросяй ён не хацеў. Ён не для гэтага застаўся на танцах, каб гаварыць з гэтымі балаболкамі пра задачкі ці ўкладанні.

Пар было многа, і, калі Віця з Нінай траплялі ў цэнтр круга, іх такі добра штурхалі, і таму на нейкі момант яны былі так блізка адзін ад другога, што Віця адчуў, як да ягонай шчакі дакрануліся коратка падстрыжаныя валасы дзяўчынкі, чорныя і пахучыя... І яшчэ адчуў, як ад гэтага дотыку па ўсім яго целе прабег як бы электрычны ток. Прама перад сабой ён убачыў чорныя, глыбокія вочы, і маленькая рука, што была ў ягонай руцэ, сціснула яму далоню, нібы трымаючыся за яго, нібы баючыся, каб у гэтай цеснаце не згубіць яго.

Кружыліся навокал пары, і аднекуль, як здалёку, далятала музыка, хоць медныя трубы былі блізка, на сцэне. І так было, пакуль музыка не абарвалася і пакуль яны не праціснуліся да дзяўчат і Грышы. Дзяўчаты нешта расказвалі, і Ніна пачала смяяцца. Віця лавіў асобныя словы, але не разумеў сэнсу. І ўсё ж таксама смяяўся. А калі зайгралі фокстрот, яны зноў танцавалі. І зноў кружыліся перад вачамі пары, вокны, музыканты з меднымі трубамі. І кружылася галава.

Калі танец скончыўся і ўсе сабраліся разам, Ніна, радасная і расчырванелая, прапанавала:

— Ведаеце што? Пайшлі на вуліцу! Тут так горача...
Ішлі, гаварылі, смяяліся і лічылі шпалы. Адразу за семафорам дыхнула водарам веснавога лугу.
— Ой, дзяўчаткі, лотаць якая прыгожая!— Ніна, дробна ступаючы нагамі, збегла па адхону чыгункі і спынілася над самай вадой. Следам спусціліся і ўсе астатнія. Кветкі былі ад берага далёка, і, каб дастаць іх, гуртам учапіліся Грышу Званкову за руку, а ён, павісшы амаль над самай вадой, выцягваў жоўтыя кветкі на тоўстых, нібы зялёныя алоўкі, мяккіх і мокрых сцяблінах.
І зноў гаварылі пра школьныя справы, пра настаўнікаў. Няхай яны выбачаюць, але вечні заўсёды, як збяруцца, дык пра сваіх настаўнікаў гавораць. Гаварылі і пра тое, што хутка надыдуць канікулы і можна будзе на цэлых два месяцы забыць падручнікі і сшыткі. І можна будзе кожны вечар вось так без мэты хадзіць і гуляць па чыгунцы...



І ўсім было радасна, весела. Асабліва, калі дзяўчынкі заспрачаліся, хто далей пройдзе па рэйцы. Расставіўшы рукі, нібы крылы, і ўскрыкваючы, калі цягнула ўбок, яны тут жа пачалі спаборнічаць. І дайшлі б, напэўна, да самага семафора, але недзе далёка ззаду пачуўся гудок паравоза, і Віця з Грышам пачалі спіхваць дзяўчынак з рэек. Яны крычалі, спатыкаліся і зноў лезлі. А калі цягнік быў зусім блізка, Віця, спалохаўшыся не на жарт, пацягнуў Ніну за руку, і яны амаль не зляцелі са сцежкі пад адхон. Гэля з Фросяй і Грыша засталіся з другога боку чыгункі. І пакуль грукатаў доўгі эшалон, Віця трымаў Ніну за плечы і з нейкім хваляваннем пазіраў на яе валасы, што зноў былі так блізка-блізка. Потым выпусціў яе з рук і сказаў з дакорам:
— *Хіба так можна жартаваць!*
— *А ты шкадуеш мяне?*— яе вочы пазіралі прама ў ягоныя, яна жартавала. І ўсё ж у яе запытанні было нешта і не ад жарту.
— *Я спалохаўся за цябе...*
— *Падумаеш, цягніка спалохаўся...*
Віця не знайшоў што адказаць.



Калі вярнуліся на станцыю, ужо было позна. Спачатку гуртам правялі дахаты Гэлю і Фросю — яны жылі па той бок чыгункі. Потым, калі Віця хацеў развітацца і пайсці дадому, Грыша непрыкметна сціснуў яго локаць і сказаў: «Дурань». У мястэчка яны ўтраіх ішлі не па вуліцы, а праз пустую рынačную плошчу. Грыша ўзабраўся на трыбуну і, высока ўзнімаючы руку, сказаў кароткую прамову: «Няхай жывем мы!» Слухачы апладзіравалі і цягнулі яго з трыбуны.
Мінулі клуб, які па-ранейшаму грымеў музыкай, прайшлі міма школы. Над яе ўваходам гарэла лямпачка і віселі сцягі. Грыша жыў амаль у канцы мястэчка, Ніне дахаты было бліжэй. Але як дайшлі да яе, Грыша запратэставаў і прымусіў, каб правялі спачатку яго.
Ціха заскрыпелі драўляныя фарбаваныя веснічкі, Грыша памахаў рукою, і яны засталіся ўдваіх.
... Вы чулі калі-небудзь, як спяваюць зоркі і месяц, што вісяць у сінім майскім небе, начныя вокны ў местачковых дамах і самі дамы, і цені, што падаюць ад іх проста на тратуар, пад ногі, і белыя галінкі яблынь, што гарэзліва выткнуліся на вуліцу праз высокі частакол, і брукаваная вуліца, што ледзь прыкметна пабліскае шэрымі каменнямі пад святлом месяца, і заводская труба, што, як клічнік, стаіць у канцы незразумелых слоў незразумелай дзівоснай песні? Усё гэта спявае, гучыць чароўнай мелодыяй, узнёслай і празрыстай. Каб пачуць яе, трэба, каб за плячыма ў вас было не больш як шаснаццаць гадоў. І яшчэ трэба, каб перад вамі была нязведаная і радасная будучыня, што завецца звычайным словам — жыццё. І трэба вялікая мара ў сэрцы і запаветная мэта, вызначаная сабе.
— Табе не холадна?
— Не... Сёння такі вечар...
— Смешны гэты Грыша... Заўсёды які-небудзь фокус прыдумае. Узяў і пакінуў адных нас...
— Ну і што? Ты хіба баішся без яго?
— Не... Я проста так... Слухай, толькі скажы чэсна: ты мяне чакала тады вечарам каля школы?
— Не... Мне не было часу прыйсці. Ды і смешна было б, каб нас хто-небудзь убачыў...
— А сёння? Што, калі сёння ўбачаць?
— Сёння свята... Сёння ўсе гуляюць...
Гаварылі пра дробязі, пра нудныя задачкі па алгебры і чамусьці баяліся зірнуць адно аднаму ў вочы. Можа за гэтымі словамі аб самых звычайных і будніх справах чуліся іншыя? Самыя дарагія і гарачыя? І можа іх не трэба казаць?
— Вось тут я жыву...
— Добра...
— Хочаш, цяпер я цябе правяду крыху?
— Праўдзі...
І зноў музыка, і зноў злёгку пагойдваецца пад нагамі вуліца...
— Вунь там нехта ідзе насустрач...
— Ага... Не... Яны спыніліся.
— Давай пяройдзем на той бок вуліцы...
— Пайшлі...
Калі яны хуценька пераскочылі цераз вуліцу пад выратавальны цень нейкага дома, тыя, на другім тратуары, смяяліся і стаялі на ранейшым месцы. Віця Ляўковіч пазнаў іх, і яму стала страшэнна весела.
— Гэта Зернавы і наша выхавальніца Валянціна Зіноўеўна.
Ніне таксама раптам стала весела:

— Ён лекцыю пра міжнароднае становішча чытае...
— Пайшлі, а то ўбачаць...
— Яны не пазнаюць...
Лекцыя была, напэўна, вельмі цікавая. Віця з Нінай бачылі, як Зернавы скончыў гаварыць і ўзяў Валянціну Зіноўеўну за рукі. Заваражаная цікавай лекцыяй і ўдзячная, слухачка чамусьці прытулілася да ягонага пляча. А далей адбылося нешта зусім незразумелае: лектар цалаваў слухачку. Віця з Нінай засмяяліся і кінуліся бегчы. Каля школы яны развіталіся.

І трэба ж было здарыцца так, што ў гэты позні час на ганку другога корпуса стаяў Мікалай Пятровіч і гутарыў з вартаўніком. Яны гаварылі напаўголаса і, не спяшаючыся, курылі. Другім разам Віця, заўважыўшы дырэктара, магчыма, не пайшоў бы проста на ганак. Але ж, як мы ведаем, ён быў залішне шчаслівы і закаханы. Таму на здзіўленае пытанне Мікалая Пятровіча нават адказаў не адразу. Стаяў і толькі разгублена ўсміхаўся.

І павёў дырэктар закаханага хлопца ў калідор, дзе гарэла лямпачка. Паглядзеў на яго, а пасля на гадзіннік і спытаў:

— Дзе ты, малады рыцар, ночку начаваў, што не разуваўся?

І малады рыцар, так, як і належыць рыцару, не спалохаўся, а расказаў, дзе ён так позна быў і што рабіў. І дадаў, злуючыся на дырэктара:

— А хто яна, я вам не скажу!..

І сказаў дырэктар, не павышаючы голасу і зусім сур'ёзна:

— Дрэнь твае справы...

І паказаў на цыферблат свайго гадзінніка:

— Колькі цяпер часу?

— Гадзіна ночы...

І пайшоў малады рыцар па калідоры, але тут скрыпнулі дзверы і са спальні выйшаў у майцы і трусах сябар маладога рыцара Фёдар Жаўнерык.

І доўга пазіраў ён асалавелымі ад сну вачыма на рыцара Ляўковіча. Потым моўчкі пайшоў назад у спальню. Праз мінуту вынес папяровы скрутак і падаў свайму маладому і храбраму сябру:

— Тут піражкі з павідлам. На вячэру давалі...— сказаў і пайшоў.

І з'еў малады рыцар Ляўковіч халодныя піражкі і пальцы аблізаў. І пайшоў спаць.

У пачатку мая сабраўся дзіцячы савет і рашыў спыніць працу ў сталярнай майстэрні. Аж пакуль не закончаць выхаванцы здаваць пераводныя іспыты. Акрамя гэтага, было прынята і абнародавана яшчэ адно рашэнне: «Усе выхаванцы дзіцячага дома, якія закончаць навучальны год з адзнакамі «выдатна» і «добра», паедуць у дзесяцідзённую экскурсію ў Пінск і Брэст». Віця Ляўковіч напісаў на чырвонай тканіне тры лозунгі, якія заклікалі ўсіх паспяхова здаць іспыты. Лозунгі павесілі ў сталоўцы, у рабочым пакоі і над уваходам у другі корпус.

Пасля падумалі і вырашылі, што гэтага мала. На пафарбаваным у сіні колер кавалку фанеры напісалі яркімі літарамі: «Да канца навучальнага года засталося... дзён!» І павесілі на верандзе канцылярыі. Кожную раніцу дзяжурны ўпісваў крэйдай лічбу — колькі засталося дзён. Можа гэтая «наглядная агітацыя», а можа заманлівая перспектыва паехаць на дзесяць дзён на экскурсію падганяла дзяцей у вучобе. Грызлі навуку настойліва і рашуча. Сядзелі групамі і па адным да вечара ў рабочым пакоі, на першым санцапёку ў закутку за лазняй, на прызбах другога корпуса.



У гэты гарачы час Апанас Кныш паказаў усім, што ён асоба зусім не аднабакова развітая. Ён, аказваецца, распрацаваў сваю методыку падрыхтоўкі да іспытаў. Заставацца на другі год у шостым класе яму, вядома, не хацелася. Вывучыць усё прапушчанае для яго было амаль немагчыма. Ён стараўся, вельмі стараўся. Але... Ідзе, скажам, на ўрок матэматык Раман Сцяпанавіч, і тады Апанас адразу ўбачыць, што той забыў драўляны цыркуль або лінейку. Раман Сцяпанавіч не паспее прывітацца, як Апанас ужо руку падняў:

— Раман Сцяпанавіч! Я па цыркуль збегаю ў настаўніцкую!

Настаўнік глядзіць на стол — сапраўды, няма цыркуля.

— Збегай.

На другі дзень такая ж гісторыя паўтараецца з выкладчыцай хіміі ці яшчэ з кім-небудзь. Наогул, магчымасцей у Апанаса, каб застрахаваць сябе на будучае, было шмат.

Настаўнікі, хацелі яны таго ці не, пачалі неяк ласкавей на Апанаса глядзець. Тым больш, што ён заўсёды першы руку паднімае, каб урок адказаць. Праўда, тут яму не заўсёды шанцавала: выйдзе, пару слоў скажа і — чырванее. Але ж сам папрасіўся, і няёмка яму дрэнную адзнаку ставіць. Таму настаўнік скажа:

— Я цябе па гэтаму ўроку наступны раз выклічу.

Апанасу ж толькі гэта і трэба.

— Такі ветлівы зрабіўся!

— Такі дысцыплінаваны...

— Проста дзіва!

Гэта пра яго ў настаўніцкай так гавораць. А хлопцы ў класе смяюцца з Апанаса:

— Старайся — і выцягнеш на тройкі...

Арсеню Зайцаву амаль кожны дзень дзяўчынкі дыктант даюць. Гэта называецца «на хуткасць», каб праверыць, ці хутка ён піша. У школе яму дазволілі пісаць аўтаручкай, і Мікалай Пятровіч раздабыў недзе яму самапіску. За вусныя прадметы Арсень не баіцца.

У Дзень Перамогі на ўзлессі за мястэчкам успыхнуў вялізны касцёр і пошчакам па заціхлым лесе разнесліся гукі піянерскага горна. Дробна і ўрачыста застракатаў пад тоненькімі палачкамі барабан. Мінуту, дзве... І стала ціха, толькі недзе над галовамі дзяцей, што атрадамі стаялі літарай «П» вакол кастра, праляцелі з крыкам спалоханыя птушкі. Патрэсквала і страляла дробнымі вугольчыкамі галлё, роўна і ціха выплывала з вялікіх чырвоных языкоў полымя, уздымаўся ўгору і раставаў дым. Ад водбліскаў агню чырванню рдзелі на грудзях у дзяцей гальштукі. І ўрачыстым бляскам свяціліся вочы, усхвалявана біліся сэрцы. Стаяў дырэктар дзетдома і прымаў рапарт ад Валі Алёшкінай. А па той бок кастра гэтак жа ўрачыста стаялі госці дзетдомаўцаў: Зернавы, класны кіраўнік шостага класа Ніна Пятроўна Грынько, і амаль увесь шосты клас. Іх запрашалі на гэты збор загадзя, і самі рыхтаваліся да яго доўга. Віця Ляўковіч стаяў блізка да гасцей і краем вока шукаў паміж іх Ніну Зямко. Убачыў яе і яшчэ больш захваляваўся...

Заціхла між старымі і кучаравымі соснамі мелодыя гімна.

— Сёння на сваім урачыстым зборы, прысвечаным Дню Перамогі над нямецкімі фашыстамі, піянерская дружына Кірмашэвіцкага дзіцячага дома сабралася, каб рэкамендаваць у члены Усесаюзнага Ленінскага Камуністычнага Саюза Моладзі сваіх лепшых выхаванцаў.



Валя Алёшкіна перавяла дух, паправіла коратка стрыжаныя валасы, павяла вачыма ўздоўж прыціхлага строю і, адшукаўшы таго, хто ёй быў трэба, урачыста і строга загадала:

— Жора Гулеў, выйдзі са строю і раскажы сваю аўтабіяграфію.

— Я, Георгі Аляксеевіч Гулеў, нарадзіўся 27 красавіка 1931 года ў горадзе Жлобіне... Бацька загінуў на фронце, а маці расстралялі немцы... Старэйшага брата таксама расстралялі немцы... Восенню 1946 года я трапіў у Кірмашэвіцкі дзетдом. Статут ВЛКСМ вывучыў і буду як трэба яго выконваць...

— Я, Максім Уладзіміравіч Зялёнка, нарадзіўся ў 1931 годзе ў Гомелі. Бацька загінуў на фронце. Маці і двух сясцёр замучылі фашысты ў канцлагеры. Я ўцёк... У 1946 годзе трапіў у дзіцячы дом...

— Я, Хведар Мікітавіч Жаўнерык, нарадзіўся ў 1931 годзе ў Калінкавічах. Бацька быў машыністам і загінуў у час бамбёжкі поезда немцамі... Маці памёрла ў 1943 годзе... Мінулай восенню мяне накіравалі ў дзіцячы дом...

— Я, Леанід Міхайлавіч Сокал, нарадзіўся... Восенню 1946 года начальнік міліцыі Гразоўскі накіраваў мяне ў дзетдом...

— Я, Ляўковіч Віктар Антонавіч...— Віця гаворыць гучна і выразна, гэтак, як гаварылі перад ім хлопцы. І хвалюецца гэтак жа, таму не чуе свайго голасу і амаль нічога не бачыць перад сабой.

Выходзілі, станавіліся перад строем і, гледзячы перад сабой, гаварылі... Арсень Зайцаў — па звычцы прыціскаючы локці да тулава. Алёша Парэчкін — весела і смела. Валя Алёшкіна — хвалюючыся і збіваючыся.

Ціха і непрыкметна з дрыготкіх прыцемак падышоў, ведучы веласіпед за руль, Аляксей, той, што быў у дзетдоме на навагоднім вечары. Прыставіў веласіпед да сасны і зняў з плячэй акардэон.

Калі закончылася ўрачыстая частка збору, усе цесным гуртам расселіся вакол кастра. Малыя бліжэй да агню, большыя і дарослыя за імі.

Праз тры дні адбылося пасяджэнне бюро райкома камсамола. Арсеня Зайцава, акрамя дружыны, рэкамендаваў у камсамол Зернавы. Ён жа напісаў рэкамендацыі Віцю Ляўковічу, Федзю Жаўнерыку і Валі Алёшкінай. Жору Гулева, Максіма Зялёнку і Лёню Сокала рэкамендаваў дырэктар дзетдома. Валянціна Зіноўеўна дала рэкамендацыі Алёшу Парэчкіну, Мішу Лебедзю і Дзіме Гароху.



У дзетдоме ў той дзень з'явілася першых дзесяць камсамольцаў і была створана пярвічная арганізацыя. Калі Максім Зялёнка прапанаваў выбраць сакратаром Віцю Ляўковіча, з месца падняўся Федзя Жаўнерык:

— Яго выбіраць не будзем. Ён закаханы ў Ніну Зямко. А мы павінны змагацца за дысцыпліну і за выдатную вучобу.

Федзя сеў і пераможна азірнуўся. Усе маўчалі. Яны ведалі гэтую гісторыю, але не ведалі, як яна можа адбіцца на рабоце камсамольскай арганізацыі...

Сакратаром выбралі Валерыю Зайцаву.

Вечарам у спальні, калі хлопцы заснулі, да Федзі ціха падышоў Апанас Кныш. Крануў за плячо і спытаў:

— Ты не спіш?

— Не...

Прысеў на ложак і нахіліўся да самага вуха:

— Федзя, пакажы мне свой камсамольскі білет...

Федзя адчуў, як дрыжыць Апанасаў голас, як той нібы чымсьці пакрыўджаны і прыніжаны. І яшчэ адчуў, што можа ў гэтым і ён, Федзя, вінаваты... Адказаў ціха:

— Зараз...— падняўся з ложка, намацаў складзеную на тумбачцы футболку і пацягнуў Апанаса на калідор:

— Пайшлі, тут цёмна...

У маі рыхтаваліся да пераводных іспытаў і некалькі разоў усім дзетдомам хадзілі памагаць калгасу палоць лён.

У маі ўздоўж местачковых платоў забуяў пахучы блакітны бэз. Раненька, перад тым як ісці здаваць першы экзамен, наламалі два вялізныя букеты і аднеслі ў школу.

У маі падаў заяву загадчыку райана і звольніўся з працы ў дзетдоме завуч Анатоль Пятровіч. Ён паехаў з мястэчка неяк непрыкметна, і таму ніхто не хадзіў яго праводзіць.

У маі Зернавы перанёс свой чамадан з рэчамі да Валянціны Зіноўеўны. Дзетдомаўскія дзяўчынкі, калі даведаліся, што Валянціна Зіноўеўна выйшла замуж (а дзяўчынкі заўсёды першыя даведваюцца пра такія рэчы), звязалі вялізны букет кветак і аднеслі выхавальніцы.

Зернавы часта прыходзіў у дзетдом, каб сустрэць Валянціну Зіноўеўну пасля работы, і хлопцы празвалі яго «святочным бацькам».

У маі часта бывалі ў дзетдоме Гразоўскі і дырэктар школы Герасіменя. Да іх прывыклі, асабліва да Гразоўскага, які ведаў шмат цікавых гісторый. Праз месяц, у сярэдзіне чэрвеня, у школе адбыўся выпускны вечар.

Шосты клас быў старэйшы ў школе, таму дырэктар дазволіў пасля ўрачыстай часткі танцаваць. На вечары былі бацькі вучняў.

Ад дзетдомаўцаў замест бацькоў прыйшлі Мікалай Пятровіч і Валянціна Зіноўеўна. Было весела, шумна. І ўсе былі шчаслівыя.

У канцы чэрвеня Віця адпрасіўся ў Мікалая Пятровіча на тыдзень з'ездзіць у сваю вёску. Дзед Якім прыслаў пісьмо і піша, каб абавязкова прыехаў. Калі дырэктар дазволіў, Віця папрасіў, каб з ім разам адпусцілі і Федзю Жаўнерыка.

— У яго нікога няма. А мы з'ездзім разам, і нам удвух будзе весялей...

Дырэктар падумаў і згадзіўся.

Назаўтра хлопцы сабраліся ў Харамец. На складзе атрымалі прадукты, склалі ў рэчавы мяшок. На рынку адшукалі калгасную машыну з Харамца і паехалі.

Паехалі на тыдзень, а вярнуліся на трэці дзень. Змрочныя і маўклівыя, нечым прыгнечаныя і перапалоханыя. У мястэчку, калі машына прыцішыла ход, павыскоквалі з кузава праз задні борт. У дзіцячы дом не пайшлі. Пайшлі ў міліцыю і запатрабавалі ў дзяжурнага, каб той неадкладна пусціў іх да Гразоўскага. Начальнік міліцыі іх прыняў і, калі пачалі гаварыць, устаў з-за стала і загадаў дзяжурнаму нікога ў кабінет не пускаць.

... Буданы сплецены з тоўстых лазовых прутоў і пакрыты сенам. Яны стаяць на зацішнай палянцы, дзе ціха шапочуць каржакаватыя дубы. Пасярэдзіне палянкі ўбіты дзве дубовыя расохі, на якіх ляжыць абсмаленая аглобліна. На ёй вісіць чорны саракалітровы кацёл. Недалёка за імшыстымі ствалам і дрэў паблісквае лянівымі хвалямі Прыпяць. Удзень буданы і кацёл над шэрым вогнішчам нагадваюць пакінутае паселішча лесавікоў. Увечары, калі гарыць агонь і вакол яго збіраецца брыгада, палянка з буданамі нагадвае стаянку чырванаскурых індзейцаў. Яна ажывае і поўніцца галасамі. Асабліва перад вячэрай. У адзінаццаць гадзін гасне агонь, і ўсё раптам заціхае. Роўна ў шэсць гадзін раніцы ўверх па цячэнню ракі штодзённа паўзе маленькі абшарпаны параходзік. Капітан яго, можа таму, што ўпершыню бачыць незвычайнае паселішча ў гэтых месцах, а можа таму, што ён проста вясёлы і добры чалавек, дае некалькі кароткіх, басавітых гудкоў. Тады з буданоў выскокваюць людзі — у майках, трусах, з ручнікамі і кідаюцца да ракі.

Праз паўгадзіны брыгада пачынае касіць. У палове дзевятай дзяжурны, што застаецца ля буданоў, барабаніць чарпаком па катле. Уткнуўшы косы ў мокрую ад расы траву, каб не ржавелі на сонцы, касцы ідуць снедаць. Іх чатырнаццаць чалавек. Дзяжурны — пятнаццаты. Брыгадзір — і наогул галоўны начальнік — тут Віця Ляўковіч. Яны косяць калгасны луг. Дзесяць гектараў. За гэта калгас дае тры вазы сена і машыну, каб выхаванцы з'ездзілі на экскурсію. За восем дзён скасілі амаль усё і палову згрэблі. Косяць раніцай і пад вечар. Днём, калі прыпякае сонца, купаюцца, загараюць. Больш — загараюць. Федзя Жаўнерык паставіў рэкорд: ён аблупіўся тры разы, ноччу не мог спаць, але ж цярпеў, і ў яго ўжо самы прыгожы загар. Аблупленыя насы і шчокі ў астатніх хлопцаў пад увагу не прымаюцца. Іншая справа ў Адама Капы — ён заснуў на сонцы і назаўтра ў яго аблупіўся жывот. Ад смеху чуць не памерлі і хацелі пасылаць каго-небудзь за сем вёрст у мястэчка, каб узяць у медсястры якой-небудзь мазі. Адам пакрыўдзіўся і не скідаў майку, нават калі купаўся.

Пасля местачковага пылу на сенакосе не жыццё, а рай.

У той ліпеньскі дзень яны збіраліся дакошваць апошні, дзесяты, гектар. Добра падналеглі раніцай, і на другую палову дня засталося скасіць можа якіх сотак трыццаць.

Якраз скончылі абедаць і паляглі адпачыць у буданах: мёртвая гадзіна. Рыжы і загарэлы на сонцы так, што, здавалася, прыткні да шчок запалку і яна ўспыхне, Апанас Кныш збіраў пакінутыя на траве талеркі і лыжкі і складваў у вёдры, каб несці мыць на Прыпяць.

Сонца стаяла высока. Апанас адставіў вёдры з посудам і пачаў разувацца, калі непадалёку пачуў ляскат калёс і голас Зіновія Цімафеевіча:

— Но!..



Звычайна загадчык гаспадаркі прыязджаў нанач. Прывозіў прадукты, раніцай паказваў, адкуль лепш пачынаць касіць, і кляпаў хлопцам косы. Сёння ён паспяшыў. Апанас завязаў шнуркі ў чаравіках і пайшоў насустрач па неглыбокіх каляінах, што вялі на луг. Прывіталіся. Зіновій Цімафеевіч кіўнуў Апанасу:

— Садзіся на воз...

На палянку прыехалі моўчкі. Стары быў чымсьці незадаволены і ўвесь час гразіўся лейцамі на Фрыца. Той, мокры і стомлены, лянiва махаў галавою, нібы дакараючы свайго паганятага.

— Чаго вы так рана сёння?— Апанас саскочыў з воза і пачаў распрагаць каня. Стары моўчкі выцер лысіну і пачаў круціць папяросу. Пальцы ў яго чамусьці дрыжалі.

— Хлопцы што — спяць?

— Ага... Нядаўна абедалі...

Апанас зняў дугу, Фрыц ткнуўся мордай хлопцу ў плячук...

— А што ў дзетдоме чутна? Ці хутка на экскурсію паедзем?..

— Экскурсію! Экскурсію...— Стары гробся ля вогнішча, шукаючы вугалёк. Прыкурыў і зірнуў на Апанаса:— Сёння начальніка міліцыі хаваць будуць...

Перакручаны ўгару хамут заматляўся ў каня на шыі. Апанас разявіў рот, нічога не разумеючы:

— Якога начальніка? Гразоўскага?..

— Яго бандыты недзе на раёне застрэлілі...

Апанас ад нечаканасці прысеў на аглоблю, заскроб пальцамі па шчацэ і ўставіўся вачамі ў старога...

— Гразоўскага?

— Ну, а каго ж яшчэ... Кажу табе — яго!

Хлопец усхапіўся і пабег да будана. Прыгнуўся і пацягнуў за нагу Жаўнерыка:

— Пад'ём...

... Яны прыйшлі ў мястэчка пад вечар. Ля могілак яшчэ здалёк убачылі вялізны натоўп. Людзі не ўмяшчаліся за агарожай, стаялі ўздоўж плота, якім былі абгароджаны могілкі. Аднекуль з сярэдзіны натоўпу, з-пад рэдкіх падсохлых сосен, адтуль, дзе адбывалася нешта самае галоўнае і страшнае, даносілася музыка. Медная, працяжная і халодная. Ад яе надрывалася сэрца і дранцвела цела. Хлопцы пачалі праціскацца туды, дзе галасіў аркестр. Местачкоўцы незадаволена азіраліся на іх і нехаця саступалі з дарогі. Недалёка ад таго месца, дзе праз людскую сцяну віднеўся жоўты магільны пясок, хлопцы наткнуліся на сваіх, дзетдомаўскіх. Тыя стаялі шчыльным гуртам, нібы кураняты, што перад бядой збіліся ў кучу. Сярод дзяцей, крыху бліжэй да жоўтага сырога пяску і да міліцыянераў з тоўстымі аўтаматамі цераз грудзі, стаяў Мікалай Пятровіч. Пачуўшы, як дзеці заварушыліся, ён павярнуўся і сустрэўся з Віцевым позіркам. Нібы незнаёмыя, паглядзелі адзін на аднаго. І ў позірку дырэктара Віця нібы прачытаў: «І ты тут?.. Ага, гэта ты тут... Ты ж на сенакосе. Гм... Табе трэба тут быць... Глядзі...» Дырэктар больш не пазіраў ні на яго, ні на астатніх хлопцаў. Ні тады, як яны паціху прабіраліся між локцяў і спін да жоўтага пясчанага насыпу, ні тады, як крайні міліцыянер, убачыўшы хлопцаў побач, неяк вяла кіўнуў ім рукою адысці назад... Хлопцы адступілі на крок, але далей не пасунуліся... Яны глядзелі на доўгую труну, абабітую чырвоным. Яна стаяла на жоўтым пяску па той бок ямы, якая, здавалася, дыхае халодным дыханнем смерці і нябыцця.

Нарэшце яны ўбачылі і ягоны твар. Твар таго, хто ляжаў у труне.

З нацягнутай на шчоках сіня-жоўтай скурай, з сівымі валасамі на скронях, з закрытымі вачамі... Халадзела ў грудзях... Многія з іх бачылі твары сваіх родных, на якіх паклала свой адбітак смерць... Сёння, у гэты ліпеньскі сонечны дзень, яны зноў убачылі мёртвага чалавека... Ён не быў ім ні бацькам, ні братам... І ўсё ж ён быў ім, як бацька. І цяжка было думаць, што ён ужо не жыве на свеце...

Ля труны палкоўнік у зялёным кіцелі з жоўтымі пагонамі трымаў за локаць і суцяшаў заплаканую жанчыну. Яна ўсхліпвала і кідалася да труны... Побач стаяў яшчэ нейкі ваенны і за плечы трымаў дзяўчыну і хлопчыка... «Дзеці яго...» Да хлопцаў усё гэта даходзіла неяк падсвядома і не адразу.

Хтосьці пачаў гаварыць. Хлопцаў адціснулі ў натоўп нейкія людзі з вяроўкамі. Глуха стукалі малаткі... А тады з надрывам, з болем і сумам грымнула музыка. Кароткая і невыносная...

І не паспелі яшчэ заціхнуць яе апошнія акорды, як палкоўнік злосна і адчайна ўзмахнуў рукой. Над магілкамі, над мястэчкам ляснулі вінтовачныя залпы. Адзін... Два... Тры...

Ступалі прэч, нібы абяссіленыя... Ля выхаду на пустыр Віця наткнуўся на Федзю. Федзя маўчаў і пазіраў кудысьці ўбок.

— І трэба ж так здарыцца,— сказаў ён.

Віця нічога не адказаў. Не было чаго гаварыць, бо нічога ўжо не паправіш. Гэта ведаў Віця, гэта разумеў Федзя... Здарылася так, што дарога чалавека, які так шмат зрабіў для іх, для ўсіх дзетдомаўцаў, скрыжавалася з дарогай былога паліцэйскага Гукуна, які тут, у мястэчку, хацеў задушыць Віцю...

А было так. Віця з Федзем, калі іх адпусціў у вёску Мікалай Пятровіч, захацелі схадзіць у лес і паглядзець былы партызанскі лагер. Дзед іх не пускаў. Але Віця абавязкова захацеў паказаць сябру, дзе жылі харамецкія партызаны, дзе ён сам не раз бываў...

Партызанскі лагер быў запушчаны. Нібы рэбры, тырчалі бярвенні зямлянак, аб'ехалі, абсунуліся і зараслі дзеразою неглыбокія акопы. Ля адной — самай большай — зямлянкі паднялі самаробнае драўлянае вінтовачнае ложа. Яно амаль згніло. Зазірнулі ў сярэдзіну зямлянкі на цвілыя нары з бярозавых плашчакоў. У лясным лагеры было страшна ад цішыні. Зазірнулі яшчэ ў некалькі зямлянак. Федзя, які так шмат чуў пра партызан, першы раз бачыў іхняе лясное жыллё, таму для яго ўсё было цікава. Яны хадзілі можа з гадзіну. Тады Віця ўспомніў, што непадалёку ад лагера ёсць яшчэ адна зямлянка. Там жылі разведчыкі.

— Сходзім паглядзім,— прапанаваў ён Федзю. Той згадзіўся.

Расхінаючы рукамі калючыя галінкі маладога сасонніку, яны падышлі блізка да зямлянкі, як раптам у прыцемках лесу нешта коратка і ярка бліснула. Федзя сціснуў сябра за локаць і прашаптаў збялелымі вуснамі:

— Глядзі!..

Перад уваходам у зямлянку сядзеў на пні чалавек і галіўся. Перад ім быў кавалак люстэрка. Яно, відаць, і заблішчала пад сонцам, што на хвіліну прабілася праз галіны дрэў.

— Глядзі!..

Хлопцы прыгнуліся, і ў Віці затахкала сэрца, здранцвелі ногі: ён пазнаў чалавека ля зямлянкі. Гэта быў Гукун, той самы, што пры немцах арудаваў тут, у Харамцы, забіваў і рабаваў людзей. Той самы, што душыў Віцю ў хлеўчуку на станцыі... Хлопцы прыраслі да месца. Гукун галіўся не спяшаючыся. Напэўна, тут, у лясным гушчары, ён адчуваў сябе, як дома...



Хлопцы спачатку хацелі кінуцца назад, але нейкая сіла ўтрымала іх. Яны стаіліся, замерлі і назіралі.

Гукун быў не адзін. Ён паволі галіўся і час ад часу гаварыў нешта. Неўзабаве з зямлянкі вылез зарослы шчаціннем чалавек у бруднай кашулі, пацягнуўся, закурыў і стаў побач. Гукун пагаліўся і ўжо аддаў яму брытву. Чалавек зняў папругу, зачапіў яе за нейкі сук і пачаў вастрыць брытву. Гукун палез у зямлянку. Прайшло можа з паўгадзіны. У хлопцаў самлелі ногі. Ціха, каб не трэснуў пад нагамі сучок, каб не зашасталі галінкі, яны пасунуліся назад. Перапалоханыя да смерці, вярнуліся ў вёску. Дзеду хлопцы нічога не сказалі. Ноч не спалі ад страху. А раніцай упрасіліся на калгасную машыну і прыехалі ў мястэчка. Гразоўскаму яны расказалі ўсё, што бачылі ў былым партызанскім лагеры...

Раённая міліцыя ганялася за бандай ужо амаль цэлы год. Гразоўскі ведаў, хто ў гэтай бандзе. Але злавіць бандытаў было цяжка — яны не сядзелі на адным месцы.

Гразоўскі строга загадаў хлопцам не гаварыць нікому ні слова. У той жа дзень ён паслаў у Харамец свайго чалавека. Той некалькі дзён разам з участковым міліцыянерам прабыў у лесе і дакладна высветліў, хто ў бандзе і як іх лепш вылавіць. Кіраваць аперацыяй узяўся Гразоўскі. Бандытаў забралі на досвітку без адзінага стрэлу. Восем міліцыянераў акружылі зямлянку і прапанавалі бандытам здацца. Калі адзін за адным чатыры чалавекі вылезлі з зямлянкі, іх адвялі ўбок, абшукалі і звязалі рукі.

— Там ёсць хто?— спытаў Гразоўскі ў аднаго з бандытаў і паказаў рэвальверам на зямлянку.

Той кіўнуў галавою.

Начальнік міліцыі загадаў міліцыянерам, каб адвялі звязаных бандытаў і адышлі самі. Потым узяў ручную гранату і пайшоў да зямлянкі.

— Вылазь, Гукун!.. Твая песенька спета...

Ён не паспеў дагаварыць, як з вузкай шчыліны паміж бярвеннямі грымнуў сухі і кароткі стрэл... Трымаючыся рукой за грудзі, Гразоўскі хіснуўся, доўга адыходзіў у бок, пакуль не зачапіўся за пень і не ўпаў на зямлю. Міліцыянеры далі нядружны залп па зямлянцы. Адзін з іх падпоўз да Гразоўскага і, асцярожна выняўшы з рукі гранату, шпурнуў яе ў цёмны прамавугольнік дзвярэй. Ірванула так, што разляцеліся бярвенні.

Калі ўсё сціхла, Гразоўскі быў ужо мёртвы...

І вось сягоння яны з ім развіталіся. Назаўсёды. Яны будуць помніць яго жывым, такім, якога ўбачылі першы раз на станцыі, якога бачылі дзесяткі разоў пасля. Яны будуць памятаць яго. Яны неяк адразу сталі дарослымі і па-інакшаму зірнулі на жыццё. Яно складанае, яно, аказваецца,— барацьба. За яго ідуць на смерць. Хлопцы запамятаюць гэта. Запамятаюць надоўга.

## ЭПІЛОГ

Людскі натоўп на пероне станцыі з гоманам падаўся ў бок. Чмыхаючы парай, стомлены паравоз выцягнуў аднекуль з-за семафора ланцуг зялёных запыленых пасажырскіх вагонаў.

— Трэці вагон!..

— Пабеглі...

— Рэчы, рэчы бяры!

— А білеты? У каго білеты?

— Хутчэй, ён доўга не стаіць!
— Апанас! Шнурок у чаравіку...
Спатыкаючыся і рассыпаючыся, спяшаецца шматгалосая дзетдомаўская сям'я да трэцяга вагона. Уперадзе з сінімі рэчавымі мяшкамі— тыя, хто сёння ад'язджае: Віця Ляўковіч, Федзя Жаўнерык, Жора Гулеў, Максім Зялёнка, Апанас Кныш, Алёша Парэчкін. Шэсць чалавек. Спяшаючыся, следам ідзе Мікалай Пятровіч. У руцэ шамацяць купленыя ў касе праязныя білеты. Мікалай Пятровіч едзе таксама. Ён праводзіць іх да самага месца прызначэння — да Ленінграда... Назад вернецца адзін.
— Тут! Давай сюды!
— А колькі ж вас!— праваднiца разгублена разводзіць рукамі, аберагаючы ўваход у вагон.— У мяне месцаў столькі няма!
— Нічога, памесцімся...
— Вагон вялікі!
Пярэднія збіліся ў кучку каля трэцяга вагона, штурхаюцца, крычаць, перавязваюць лямкі ў рэчавых мяшках, азіраюцца на дырэктара, спрабуюць залезці ў вагон.
— Не пушчу ўсіх!— крычыць праваднiца і адной рукой трымаецца за поручань, другой хоча зачыніць дзверы вагона.
Падышоў Мікалай Пятровіч, падаў білеты:
— Не бойцеся, паедуць не ўсе... Шэсць чалавек, я сёмы...
Чмыхае няўрымслівы паравоз, прыціхлі людзі на пероне.
Яны таксама, як і дзетдомаўцы, амаль усе сабраліся ля трэцяга вагона. Стаяць, пазіраюць, доўга не могуць уцяміць, што там робіцца: хто едзе, куды едзе, чаго столькі дзяцей. Ага, дзетдомаўцы праводзяць сваіх... Цікава... Трэба паглядзець. Мястэчкоўцы любяць провады.
Віця з Федзем ужо схадзілі ў вагон і паклалі рэчавыя мяшкі. Самі зноў на пероне, у цесным і гэткім родным і дарагім дзетдомаўскім натоўпе. Гавораць, гавораць. Нехта совае Віцю ў далонь вялізны чырвоны яблык. Арсень Зайцаў сваімі кароткімі і цвёрдымі, як абцугі, рукамі цісне хлопцаў па чарзе ў абдымках. Смяецца, а сам ледзь не плача.
— Вы ж глядзіце...
Што глядзіце, каго глядзіце?.. Не клеіцца размова ў апошнія хвіліны.
Кухар Паўліна Антонаўна аддае Алёшу Парэчкіну вялізную банку з нейкім варэннем.
— Толькі каб не перавярнулася... Гэта вам на дарогу.— Яна папраўляе хустку, на хлопцаў, як на родных, пазірае... Добрыя хлопцы, працавітыя... Як ім там будзе?..
Дзяўчынкі дзетдомаўскія побач стаяць, Жору Гулеву іголку з ніткай у шапку заколваюць... Спатрэбіцца, можа.
Мікалай Пятровіч хлопцаў далёка ад вагона не адпускае, на гадзіннік паглядвае.
— Дзы-дзынь!
Першы званок. Мікалай Пятровіч за поручань узяўся...
— Пайшлі, хлопцы, у вагон...
Яшчэ б мінуту, яшчэ б хоць трошкі, каб пастаяць, пачакаць...
— Аднекуль з людскога тлуму белая чупрына Грышы Званкова вынырнула. Проста перад носам у хлопцаў. Засопся, стаміўся:
— Ледзь паспеў! Мы думалі, што заўтра раніцай.— Твар выцірае, назад азіраецца, камусьці загадвае:— Сюды ідзіце! Хутчэй!..— Віцю нейкі чорны футляр у рукі дае.— Гатавальня...— Віцю няма калі адмовіцца, засунуў падарунак у кішэню...
Прыйшлі! Малайцы! О, якія малайцы! Амаль паўкласа прывалiла!
Сюды, да вагона, прабіраюцца ўслед за Жорам — Ніна Зямко і Гэля



Кулак, Фрося Ліцвін і яшчэ з іхняга класа вучні. З кім сварыліся, з кім вучыліся, з кім сябравалі...
— Пісьмы пішыце!— Гэта для ўсіх гавораць яны.
Віця напіша. Абавязкова напіша! Радасна і сумна на сэрцы. Глядзіць на сваіх сяброў, слова вымавіць не можа, толькі вачыма часта лыпае і каўнер расшпіліў. Горача. Рукі цісне ўсім. І Ніне таксама. На нейкі момант іх позіркі сустрэліся. «Напішу... А ты напішаш?» «І я напішу!..» Так і не сказалі нічога, але зразумелі адно аднаго.
І зноў над шумам і крыкам — другі званок. Дзесяткі рук падхапілі хлопцаў, паднялі на вагонныя прыступкі, запіхнулі ў вагон...
— Пішыце!..
— Апанас, не дуры толькі!
— На канікулы прыязджайце!..
— Барыс, не лезь пад колы!
— Ілья, куды ты!..
Барыс і Ілік, самыя меншыя з усіх, хто тут на вакзале, галовамі ледзь да вагоннай прыступкі дастаюць, насы ўгару задзёрлі, рукамі махаюць.
— Віця, на тваім ложку спаць буду!— Гэта Барыс крычыць.
Ілік не ведае, што гаварыць, толькі вочы шырока расплюшчыў і ўсміхаецца хлопцам.
Хлопцы з-за спіны дырэктара галовы павытыркалі, на поручнях віснуць, здаецца, вось-вось упадуць.
— Да сустрэчы!
— Мы напішам!
Праваднiца на ніжняй прыступцы стаіць, побач з дырэктарам. Яна, нарэшце, зразумела, што да чаго. Малых, што ўнізе за вагонам ідуць, рукой адганяе...
Скрануўся з месца і паплыў назад маленькі вакзал, хіснуўся людскі натоўп. Там рукамі махаюць, ужо слоў не разабраць...
Ляніва вагоны на стрэлках ківаюцца, хуткасць набіраюць.
Мястэчка адплывае назад. Спачатку ўсё меншымі і меншымі драўляныя домікі робяцца ў зяляніне, на тоненькай мачце чырвоны сцяжок трапечацца. Гэта на дзетдомаўскім двары. Хлопцы, тыя, хто ад'язджае, сёння раніцай сваімі рукамі падымалі яго на ўрачыстай лінейцы. Белай двухпавярховай скрыняй школа віднеецца, заводскія трубы стаяць над мястэчкам. Там недзе Міша Міхайлавіч працуе зараз. Маленькай бочачкай ужо і вадакачка выглядае ў перадвячэрнім змроку, нібы на курынай ножцы стаіць. У дарогу хлопцаў праводзіць. З мястэчка, з дзіцячага дома.
Хлопцы сядзяць у купэ, на Мікалая Пятровіча пазіраюць. Гэта добра, што ён з імі. З ім весялей. Едуць хлопцы ў Ленінград, у спецыяльнае рамеснае вучылішча... Доўга раіліся паміж сабой, спрачаліся. Калі ехаць, дык усім разам. Так і паехалі.
У кравецкай майстэрні дзяўчынкі хлопцам рэчавыя мяшкі пашылі, на складзе новую вопратку падабралі, у раённай міліцыі пашпарты выпісалі. Уручаў іх хлопцам новы начальнік міліцыі. Уручаў урачыста. І ўсё ж не так, як мог бы ўручыць Гразоўскі. А можа гэта хлопцам здалося? Апошнія дні ў дзетдоме яны хадзілі імяніннікамі. Іх не бралі дзяжурыць на кухню, яны не працавалі ў садзе. Так бывае ў вялікай і дружнай сям'і, калі старэйшыя браты збіраюцца надоўга пакінуць родны дом.
Запрасілі фатографа, і ён сфатаграфаваў хлопцаў разам з усімі выхаванцамі. Хлопцы сядзелі ў першым радзе і напружана пазіралі ў аб'ектыў. Перад ад'ездам спецыяльна для іх Зінові Цімафеевіч напа-

ліў лазню, а Паўліна Антонаўна прыгатавала развітальную вячэру.

У сталоўцы было цесна і па-святочнаму весела. Гаварылі кароткія прамовы, вячэралі, спявалі песні...

...Вечарам цягнік прыбыў у Лунінец. Забралі рэчы і выйшлі на перон. Праз гадзіну селі ў другі — на Ленінград. Калі атрымалі пасцелі і пачалі ўладкоўвацца нанач, у купэ зайшоў тоўсты чалавек у чыгуначнай вопратцы.

— Падрыхтуйце білеты!

Пакуль Мікалай Пятровіч даставаў з кішэні білеты, Апанас Кныш штурхануў Федзю нагой і вачыма паказаў на кантралёра:

— Глядзі!

Чалавек праверыў білеты, шчоўкнуў абцужкамі і прабіў дзірачкі... Потым пачаў лічыць пасажыраў у купэ.

— Адзін, два, тры...

Рука ў чалавека апусцілася, і ён прысеў на лаўку.

— Э-э-э, дык гэта вы?..— чалавек пазіраў на Федзю з Апанасам.

— Ну, мы... А што?

— Нічога, галубочкі, нічога... А я ўсё езджу ды думаю, дзе гэта вы прапалі.

— А мы не ездзілі... Мы на адным месцы былі...

— А-а-а...

Мікалай Пятровіч зірнуў на кантралёра:

— Вы хіба ведаеце маіх хлопцаў?

— Я іх ведаю? Яшчэ як! Яны мне во тут, у самых пячонках заселі!— чыгуначнік гаварыў, смеючыся, таму хлопцы ўздыхнулі з палёгкай... — Яны мне графікі ламалі... Я іх некалі ў Кірмашэвічах здаў у міліцыю...

— Так... Цяпер разумею...— Мікалай Пятровіч паглядзеў на хлопцаў. Тыя пачырванелі і панурыліся.

Чыгуначнік тым часам уважліва агледзеў кожнага з іх, паставіў ліхтар на столік, зняў шапку, павесіў на жалезны кручок і сеў побач з дырэктарам:

— Ну што ж, раскажыце, хлопцы, як вы раслі...

Набіраючы разгон і сігналячы на пераездах, імчаў у жнівеньскую ноч ленінградскі цягнік.



Генадзь **ДЗМІТРЫЕЎ**

# МАЛАКАСОС



Я помню,
як з дзядзькамі ўпоплеч
Я станавіўся на пракос,
І мне крычалі на ўвесь поплаў:
— Не адставай,
малакасос!
Я не ўпадаў тады у роспач,
Я не злаваўся,
я маўчаў.
І серабрыстых росаў россып
Пераліваўся у вачах,
І млелі
стомленыя рукі,
Змяёю
сыкала каса,
А я махаў касою рупна —
Я так хацеў ім даказаць...
Кашуля ўзмокла за плячыма.
Нарэшце —
скончыўся пракос...
— Глядзі,
а хлопец
малайчына,
Хоць ён яшчэ малакасос.

★



Маюць свой колер словы.
Калі сустракаю зару,
Словам блакітна-ружовым
Я з ёю заўжды гавару.

Айчына,
Я дзень твой новы,

Веліч тваю і размах
Словам вітаю барвовым,
Як твой непарушны сцяг.

З ліпай, з бярозаю, з клёнам,
З вярбою каля вады
Словам светла-зялёным
Вітаюся я заўсягды.

У марах сваіх, летуценнях
Я на колеры словы дзялю...
О, колькі ў жыцці адценняў
Да слова «люблю»!

Мікола КАПЫЛОВІЧ

# МАЛЕНЬКІЯ АПАВЯДАННІ

Мал. У. Лося.

## ЯК ДОМА



Хмара клубілася, ужо займала паўнеба. Дзесьці недалёка густа шумела — там ішоў дождж.

З густога арэшніку выбеглі двое: ён у адной руцэ трымаў кволыя, з тоненькімі сцяблінкамі пралескі, у другой — руку дзяўчыны. Яны падбеглі і сталі пад высокую і вострую, як нацэленая ў неба страла, елку.

— Ну і дурніца я... Паслухала цябе і паехала па гэтыя няшчасныя кветкі. А цяпер дрыжы тут...— яна ледзь не плакала ад крыўды.

— Нэла, ну што ты... Я знарок прывёз цябе сюды, каб паказаць першую веснавую навальніцу.

— На што-небудзь большае ў цябе розуму не хапіла...— капрызліва сказала яна.

Ірвануў вецер, хлынуў дождж. Кроплі зашасталі па галінах. З трэскам раскалолася хмара — на ёй усхапілася фіялетавая маланка. Раскацiста грымнуў гром. Востра запахла вільгаццю, маладым лісцем. Пад

елкай дождж дробна і прыемна пырскаў у твар. Плечы ў юнака сталі мокрыя, а ён стаяў і стаяў пад дажджом, шчаслівы, што прыйшла вясна, што бушуе такая радасная і ў той жа час такая злая навальніца. Было ўсё, як дома, у вёсцы.

Дождж перастаў. Выбліснула сонца. З дрэў асыпаліся кроплі.

— Нэла, паглядзі на лісце. Яно ад расы блішчыць, як адлакіраванае...

— Ты — як дзіця... Я во сукенку сапсавала. Патрымай мяне, я туфель здыму.

— Не, ты глянь, як лісце блішчыць...

Яна абаперлася на яго руку, зняла туфлі, хмыкнула і паволі пайшла на шашу.

Ён паціху, моўчкі, пасунуўся ззаду.

# БЫЛО СВЯТА



Сон быў трывожны і неспакойны. Яна ўсю ноч варочалася на ложку, цяжка ўздыхала і нешта шаптала сама сабе. Прачнулася на досвітку. Сагнуўшыся і паклаўшы рукі на калені, доўга сядзела на ложку.

Світала. Паволі сінелі шыбіны, у хату прабівалася святло. Цемень хавалася, ціснулася ў куты, пад лаву. Зачырванелася неба. Вось-вось узыдзе сонца.

А яна ўсё сядзела і думала. Потым спахапілася, натыкнула на босыя ногі чаравікі і паклыпала да печы.

«Сёння ж свята... Дзень Перамогі... А божа, з галавы вылецела!» — падумала яна.

Падышла да акна, абаперлася слабымі рукамі на падаконне, глянула на вуліцу, пахаладзела: вішняк за ноч успыхнуў белапеннай квеценню. Як і кожную вясну. І чамусьці заўсёды да Свята Перамогі. Старая доўга глядзела на вішняк і бачыла за акном цёплы красавіцкі надвячорак, чыстае, глыбокае неба...

Гэта было ў той далёкі год, калі пачалася вайна. Тады яна таксама стаяла тут, радасная сваёй матчынай радасцю, і глядзела ў акно. Міця, яе сын, завіхаўся з рыдлёўкай у агародчыку, садзіў у зямлю тоненькія, выгінастыя дубчыкі вішняку. Часта разгінаўся і глядзеў на акно, на маці. А потым ён пайшоў на вайну. І не прыйшоў...

Засіпела, потым загаварыла радыё. Старая глянула на сцяну. З фатакарткі смяяўся Міця.

Узышло сонца. Барвовы водбліск яго лёг на фатакартку — сынава ўсмешка патухла, твар яго пазмрачнеў. «Што гэта?.. Не бачу яго!.. Можа ад слёз... Ці мо слепну?!»



Потым здагадалася. Стала страшна ад думкі, што фатакартка можа выліняць ад сонца. Яна зняла з цвіка рамку з фатакарткай, падняла вечка куфра, каб схаваць яе...

Гаварыла і весела спявала радыё. Было свята — Дзень Перамогі.

# РАНІЦА



Соннае сонца выпнулася з-за лесу і паволі пайшло на неба. Трава абпарушылася роснай сівізной. Па сівізне рассыпіста зіхацяць іскры.

Весялей зацокалі салаўі, над лугам закалыхаліся плісіцы. Узышло сонца. Вылецеў з кустоў чубаты ўдод, усеўся на пні і давай кланяцца сонцу. З кветкі, атрасаючы з сябе сцюдзёную расу, падняўся белы матыль, паляцеў да сонца — ён усю ноч чакаў яго. Ноччу з ім ледзь не здарылася няшчасце: матыль наляцеў на ліхтар і як не абпаліў крылы. У цемені і ліхтар сонцам здасца.

# ПОЎДЗЕНЬ



Поплаў. Душны, гарачы поўдзень. Сонца паліць і слепіць. Абвялі, пазгортваліся ў маленькія кацёлкі лісты. Над возерам трымціць смуга.

«Эх, пакупацца!» Барыс распрануўся, раскінуў рукі і, адштурхнуўшыся ад берага, паляцеў галавою ў возера-неба, дзе стаялі хмурынкі і вілася кужэльная вяроўка — след рэактыўнага самалёта...

Выйшаў на бераг, глянуў на руку — шкельца гадзінніка запацела ад вільгаці, зацягнулася туманнай, як бяльмо, плёнкаю. Раз-пораз Барыс прыкладае да вуха гадзіннік, слухае яго ход ды ніяк не можа зразумець: або цікае гадзіннік і маўчаць конікі, або маўчыць гадзіннік і цікаюць у траве конікі.

# ВЕЧАР



Ажыў агонь — полымя выбілася, прарасло з-пад сухога галля, пакладзенага на вуголле, пачало лізаць дно пачарнелага чайніка. Ля агню сядзяць касцы і вячэраюць. Ядуць смачна, на поўны рот, густую, аж язык вяжа, кашу. Прыцмокваюць ад асалоды, шкрабуць лыжкамі. Вячэраюць моўчкі, урачыста.

Прыцямнела. Поплаў заліло пенным туманам. Зусім нядаўна туман быў рэдкі, лёгкі, а цяпер разросся, бы паводка, затапіў кусты. Пенны туман. Полымя захісталася, абняло чайнік. Затрымцела крышка. Зашыпеў агонь. Чай гатовы.

Алесь, маладзейшы з касцоў, перастаў есці, пацягнуўся:

— Чай — прабачай — жаночая яда. От каб малачка, ды яшчэ кісленькага... Запіць кашу, га?

І зірнуў на старэйшых.

— Малачка? — перапытаў дзед з сівою барадою, падобнай на спалавелую, пруткую купінку сіўцу, падаў карэц і паказаў на туман:— Бяжы зачэрпні. І зап'еш кашу свежанькім сырадоем. Бач, як пеніцца.

— Не слухай, Алесь, дзеда Ахрэма,— зусім сур'ёзна загаварыў Сцяпан, мужчына ў гадах.— Мяне лепш паслухай: не спяшайся, заўтра раніцай зачэрпнеш. За ноч сырадой скісне. І смятана будзе!

Усе смяюцца.

Знялі чайнік з агню і пачалі піць духмяны, завараны на чаборы і ліпавым цвеце чай.

**Вера ВЯРБА**

## ДАРОГІ



Дарогі, дарогі,
З роднага дома,
Як лёгкія мары,
спяшаюцца,
Далёка, далёка—
Не ўбачыш, вядома,
Дзе маладосць
канчаецца.

Дарога ў школу —
Яе не забыла,
Дарога да працы,
Мною любімай,
Як вас было многа,
Дарогі, дарогі,
У кожным каханні,
У кожным расстанні!

Калі азірнуцца,
Так хочаш вярнуцца
Дарогай знаёмай
Дадому, дадому.
А глянеш у далеч —
І цягне ўсё далей...

І гэтак мне добра,
І гэтак мне шчасна!
Вам дзякуй, дарогі,
За свет непагасны,
За радасць
кожную,

За дні дарагія,
За ўсё,
што сходжана
І што пройдуць
другія.

☆

Маленства
змянілася раптам,
Гульні знаёмай
не вярнуць.
У нашым двары
растуць касманаўты,
Ракетчыкі
новыя
растуць.
Так, як калісьці,
не знаюць заганы
Гальштук чырвоны,
белы каўнер.
У вайну мы гулялі
і ў партызаны,
Яны —
спадарожнікі робяць цяпер.
Хлопчык схіліўся над кнігаю любай.
Думкі
далёка ад родных зямель:
Ён —
на палаючым востраве Кубе,
З ім
размаўляе
таварыш Фідэль.
Можа,
не сніцца замежным вар'ятам,
Збудзецца ўсё
незалежна ад іх —
Дзеці
ў музеях
убачаць гарматы,
Пра танкі даведвацца будуць
з кніг.
Так,
як маленства, змянілася раптам,
Праімчаць у далеч
гады.
Будуць у космас ляцець касманаўты,
Каб пасадзіць
сады.





Леанід ГЛАВАЦКІ

# ХЛЕБ

Апавяданне

Мал. У. Рамейкі.

I

Па брызентавым парасоне, што напяты над кустом, мерна лапаціць дождж. Мы пішам артыкул. Піша Павел Гарачук. Я падказваю яму асобныя словы і выразы, але ён не надта прымае іх — хоча напісаць сам. Б'ёмся ўжо добрых паўгадзіны. Павел расказвае пра сваю работу, таварышаў — складна, гладка, а возьмецца за аловак — і пачынаюцца пакуты. Прапаную свае паслугі — запісваць за ім. Але Павел не здаецца: як гэта ён, студэнт-завочнік, амаль інжынер (адзін курс астаўся), лепшы механізатар раёна, ды сам не напіша артыкул? І ён зноў і зноў бярэцца за аловак, піша, перакрэслівае і зноў пачынае ўсё спачатку.

Яшчэ праз якую гадзіну ён падае мне лісткі. Чытаю і радуюся. Напісана добра, хоць і малавата. Дождж перастаў. Развітваюся з камбайнерам і вылажу з-пад брызенту. Павел пачынае аглядаць машыну.

На жытнёвым узмежку сустракаю старшыню. Ён едзе ў брыгаду на нейкай старасвецкай брычцы. Параўняўшыся са мной, спыняе каня, запрашае сесці.

— Ну, як хлопец? — пытаецца, калі я ўсеўся.— Арол. Сапраўдны герой. Ды і то — сын героя. Увесь у бацьку, Рамана.

— А хто яго бацька?

Старшыня спахмурнеў. Адказаў нетаропка:

— Смелы партызан быў. І мой лепшы сябар.

Мы выехалі на шашу.
— У мяне справы на ферме,— загаварыў старшыня, памаўчаўшы.— Паедзем, паглядзіце, якія харошыя людзі там працуюць. А дарогай я раскажу пра Паўлавага бацьку.

## II

Тыдзень назад у вёску прыйшлі партызаны. Людзі высыпалі на вуліцу. Узводны, пад'ехаўшы да купкі жанчын, гучна адрапартаваў:
— Узвод народных мсціўцаў прыбыў у ваша распараджэнне. Маем заданне: араць і сеяць.
І, саскокваючы з каня, ужо без жарту дадаў:
— Так што, кабеткі і дзядочкі, даставайце плугі і бароны, рыхтуйце сеўні.
Людзі радаваліся: такая падмога прыйшла. Палі зарастаюць быльнягом. Пара сеяць. А як пасееш, калі зямлю ўзараць няма чым? Коней у вёсцы — на пальцах адной рукі пералічыш. І тыя ледзь ногі цягаюць, бо амаль круглыя суткі ў вупражы ходзяць. А на каровах многа не наарэш. Ды і аратых няма, адны старыя і жанкі.
— То чаго ж мы стаім, можа падсілкавацца хлопцам з дарогі трэба,— пачуліся галасы.
Людзі наперабой запрашалі партызан у хаты.
Так паявіліся ў Ліпках гэтыя незвычайныя аратыя, «казакі», як называлі іх людзі.
У цёткі Кацярыны кватаравалі двое. Каржакаваты, сарамлівы Сямён, родам з-пад Клецка, і высокі смуглы ўкраінец Раман Гарачук. Цётка ведала ўжо, што Сямён — круглы сірата, яго сям'ю расстралялі карнікі, а ў Рамана ў суседнім раёне ёсць двухгадовы сын і маці. Жонка загінула, выконваючы заданне савецкага падполля.
Ужо два тыдні жылі партызаны ў вёсцы. І вось учора Раман не прыйшоў нават абедаць. Сёння таксама. Цётка Кацярына вырашыла пасылаць яму полудзень са сваім меншым сынам.
Толік напрасткі імчаў па полі. Учора вечарам дзядзька Раман абяцаў яму даць каня пакатацца. І цяпер хлапчук ног пад сабой не чуў ад радасці.
Пачалося ўзаранае поле. З-за ўзгорка, матаючы галавой, паказваецца Гняды. Раман, заўважыўшы хлапчука, спыняе каня.
— З чым прыйшоў, кавалерыст?
— Абед прынёс, мамка прыслала.
— Ну, малайчына. Вось толькі закончу баразну і тады закусім.
І тузануў за ляйчыну. Цёплая сырая зямля прыемна казыча босыя ногі. Парай курыцца свежая ралля. Салодкая стома скоўвае цела. Хочацца легчы на пульхную раллю, закінуць рукі за галаву і бясконца любавацца пяшчотным блакітам майскага неба. І дыхаць, дыхаць водарам разаранай зямлі.
Але вось і канец баразны. Выпраг Гнядога, спутаў і пусціў на абочыну дарогі. Хітравата пavёўшы вокам, той адразу ўзяў на канюшынішча.
— А цяпер заморым чарвяка,— сказаў Раман, апускаючыся на траву ля канавы і беручыся за торбу з харчам.
— Дзядзечка, я пабягу адвярну коней, бо далёка зайшлі,— папрасіўся Толік.
— Пачакай, вось папалуднуем і разам пойдзем. Адтуль пракатаешся.
Хлапчуковы вочы засвяціліся радасцю.





Раман развязаў торбу, дастаў хлеб, салёныя агуркі, малако, яйкі.
— Во-о-о! — здзівіўся ён.— На цэлы ўзвод хопіць.
І надкусіў хрумсткі агурок.
— Ба-бах! — грукнула раптам у тым баку, дзе пасвіліся коні.
— Страляюць! — здрыгануўся Толік.— Далібог, страляюць.
Засланіўшы рукамі вочы ад сонца, яны пачалі ўглядацца ў далячынь.
— Ба-бах! — пачулася зноў.
Над адным з далёкіх узгоркаў закурыўся пыл. Зноў звонка трэснула. Потым выскачылі з-за гары коннікі.
— Дзядзечка, бобікі! — крыкнуў Толік.
Раман схапіў аўтамат і брызентавую сумку з дыскамі.
— Хуценька бяжы дамоў! — загадаў ён Толіку і кінуўся да Гнядога. — Коней ратаваць трэба.
Раман ірвануў галопам. Карнікі, відаць, убачылі яго. Справа, злева, над галавой дзынкалі кулі. «Толькі б паспець, — думае Раман. — Трэба паспець, трэба паспець, паспець». Ён добра ведае, што будзе, калі не паспее. Не стане коней, як тады араць? Запрагаць кароў? І Раману здаецца, што ён бачыць заплаканыя твары дзяцей, што асталіся без малака. Бо пасля хамута карова не вельмі парадуе гаспадыню.
Да коней ужо не больш за сотню метраў. Раман заязджае збоку, каб не спудзіць іх, і збірае ў гурт. Яшчэ хвіліна-другая — і табун імчыць да вёскі. Але страчаны дарагі час. Карнікі набліжаюцца. Яны не страляюць. «Жывым, гады, узяць хочуць»,— здагадаўся Раман. І босымі нагамі прышпорыў Гнядога. Уперадзе вялікі ўзгорак. «Хутчэй бы ў лагчыну»,— думае Раман і, павярнуўшыся, дае кароткую чаргу. Калі табун узляцеў на ўзгорак, пачуўся залп. Крайні злева жарабец з усяго маху бразнуўся аб зямлю. «Гэта Сямёнаў буланы. Усіх пераб'юць, падлюгі...»
Раман зноў даў чаргу і з коньмі спусціўся ў лагчыну. Кулі звіняць недзе высока над галавой. Але што гэта? У канаве прытаіўся Толік.
— Табе што, падшывалец, жыць надакучыла? — закрычаў Раман.
І раптам цішэй:
— Хуценька на Гнядога і гані з усіх сіл у вёску! А я затрымаю іх.
Ён саскочыў на зямлю, падсадзіў хлапчука. Толік ушчапернуўся за грыву і пачаў лупіць пяткамі па баках Гнядога.
Раман залёг у канаве. Карнікі не заўважылі падмены і пачалі пагоню.
Карнікі з усіх сіл прыспешваюць коней. І раптам кароткая чарга сцебанула пярэдняга. Той быццам надламаўся ў сядле. Наступная чарга скасіла тоўстага паліцая, што вырваўся наперад. Пагоня змяшалася.

Немцы і паліцаі пападалі на зямлю. Успуджаныя стрэламі, насіліся па полі асядланыя коні.

Карнікі не чакалі засады. Але яны хутка апамяталіся. Рассыпаўшыся па полі, хаваючыся ў разорах, папаўзлі наперад. Раман перамяніў дыск. Пачакаў. Немцы і паліцаі, падняўшыся, кінуліся да канавы. Зноў застрачыў Раманаў аўтамат. Карнікі заляглі. Некалькі чалавек пачалі адпаўзаць убок. Раман здагадаўся: хочуць зайсці ў фланг. Пачаў страляць па іх. Канчаўся дыск. «Эх, гранат бы цяпер»,— падумаў Раман. І ў той жа момант убачыў, як паліцай коратка махнуў рукой. Раман прыціснуўся да зямлі. Граната разарвалася кроках у дваццаці. І раптам страляніна загрымела ззаду. «Нашы...» — узрадаваўся Раман. Зноў мільганула рука над канавай, і больш Раман нічога не чуў і не бачыў.

«Калі прыйдзецца паміраць, браткі, то пахавайце мяне ля вялікай дарогі. Хачу паглядзець, як нашы будуць ісці на Берлін», — гаварыў неяк Раман таварышам пасля жорсткага бою. Яго пахавалі на ўзбочыне шашы.

* * *

Ля вогнішча сядзіць чалавек з дзесяць. Гамоняць, перакідваюцца жартамі. Такія маленькія «сходы» ўвайшлі ў звычку з таго лета сорак чацвёртага года, калі ад Ліпак асталіся толькі галавешкі. Мінула два гады. Новенькія хаты ўжо глядзяць на свет шырокімі вокнамі. Маладымі парасткамі закучаравіліся абгарэлыя сады.

Кожная сям'я ўжо мела сякі-такі прытулак, але ежу, асабліва вячэру, людзі па-ранейшаму гатавалі на вуліцы.

Патрэскваюць дровы, булькоча ў чыгуне вада, барвовыя водбліскі скачуць па градах. Цётка Кацярына здымае вышчарбленую скавародку, якой накрыты чыгунок, і сыпле ў вар зацёртую муку.

— То пойдзем, людцы, дамоў, зацірка ўжо гатова,— гаворыць суседка Насця.

— Хадзем,— чуецца некалькі галасоў, але ніхто не кранаецца з месца: вельмі ж прыемна ўжо сядзець ля агню.

— Вечар добры,— да вогнішча падыходзіць брыгадны конюх Кастусь Гапановіч.— Што тут за есамблея?

— Ат, памалолі трохі языкамі,— адказвае Насця.— Што на свеце чуваць? Можа газету чытаў?

Кастусь прыкурвае ад вугалька, зацягваецца дымам. Потым кажа:

— Прыехаў сюды чалавек з суседняга раёна. Кажа — у іх градам усё павыбівала.

Павісла цішыня.

— Чаго маўчыцё?

— А што казаць?

— Памагчы людзям трэба,— гаворыць Кастусь.

— Як?

— Бульбай, жытам. Сабраць у калгаснікаў.

— Самі зубы на паліцу пакладзём...— пачаў Хведар Махавенка і — асекся.

— От, халернік! — ускіпела Насця.— Бачылі вы яго — са-а-мі. Там дзеці галодныя, а ён сваё пяе: «са-а-мі!»

— Ды я што? Я нічога, як усе,— апраўдваўся той.

Суседзі разыходзіліся. Павячэраўшы і паклаўшы дзяцей спаць, Кацярына вымыла посуд і прылягла на мулкі дашчаны тапчан. На пасыпанай жоўтым жвірам земляной падлозе варушыліся цені ад лапушыстай лебяды, што расла на прызбе ўпоравень з акном. «От, бо свет засціць»,— падумала Кацярына. Ужо колькі разоў яна збіралася павырываць, ды ўсё рукі не даходзяць...



Раніцай цётка Кацярына пайшла ў кантору. Там было ўжо многа людзей. Высыпаўшы ў вялікую скрыню, што стаяла ў куце, жыта з торбы, цётка прысела на ўслончык і стала слухаць гамонку. Старшыня калгаса нешта горача даводзіў высокаму старому.

— Ды зразумей ты, дзівак-чалавек, што гэта наша дапамога сіротам, удовам. Пазыка, калі хочаш ведаць. Калгас таксама дае паўтоны жыта.

— Але ж мы не жабракі якія,— не згаджаўся той,— мы прыехалі купіць.

— Ну і купляйце сабе на здароўе. А гэта тым, хто не змог прыехаць ці не можа купіць...

У кантору заходзілі і заходзілі людзі. Неслі бульбу, жыта, муку.

Улучыўшы хвіліну, Кацярына падышла да старога, завяла размову.

— Вёска Вішнёўка? — перапытаў стары.— Ды гэта ж нам па дарозе.

Жанчына расказала пра Рамана Гарачука, пра тое, што ў Вішнёўцы, мабыць, жыве яго сын-сірата. Стары спахмурнеў, памаўчаў хвіліну якую і сказаў:

— Добра, паедзем.

На досвітку наступнага дня цётка Кацярына ўжо сядзела ў кузаве адной з машын, што выязджалі з Ліпак.

У Вішнёўку прыехалі надвячоркам. Хату Рамана Гарачука шукалі доўга: у Вішнёўцы было многа сем'яў з такім прозвішчам. Нарэшце ўвайшлі ў вялікую мазанку, што танула ў зеляніне вішань і яблынь. На ложку ляжала змарнелая старая жанчына. Смуглявы хлопчык год чатырох наліваў ваду з гладыша ў алюмініевую конаўку.

Жанчына адпіла крыху і прыўзнялася на падушцы. Кацярына прывіталася. Размову пачаў стары Мікола. Кацярына расказала пра Рамана. Жанчына слухала моўчкі, у вачах у яе стаялі слёзы. А калі ўдава сказала, што хацела б узяць хлопчыка, хворая заплакала і прастагнала:

— Не, не, не!

Зноў загаварыў Мікола — пра людзей, якія жывуць у зямлянках, але дзеляцца апошнім кавалкам хлеба з суседзямі.

— А потым, калі паправіцеся,— пачала Кацярына,— забераце ўнука...

Хворая згадзілася.

— Як жа цябе завуць, дзіцятка? — спытала Кацярына.

— Паўло,— адказаў малы.

Дамовіліся, што наступным летам Паўлік прыедзе ў Вішнёўку.

У вёсцы той-сёй дзівіўся з Кацярыны: гэта ж падумаць толькі — трое сваіх дзяцей, без бацькі, хаты няма, а яна ўзяла яшчэ чужое.

— Нічога, перакідаецца паміж сваіх,— адказвала Кацярына.— У вайну цяжэй было.

У Вішнёўку Паўлік не вярнуўся: адтуль прыйшло пісьмо, што бабуля яго памерла ў бальніцы. Паўлік так і застаўся ў Кацярынінай сям'і.

* * *

Хлопчык глядзіць у далячынь. Па бяскрайнім полі бягуць і бягуць жаўтаватыя жытнёвыя хвалі. Вось хіснуўся чубок жыта, нахіліўся долу, пругка выпрастаўся, і ўжо гуллівы віхор забушаваў па жыце. Ціхі звон

стаіць над палеткам. І там, куды пакаціўся гэты віхор, здаецца, пасвятлела, нібы ўзышло над полем нябачнае сонца.

Хлопчык працягвае руку, асцярожна бярэ каласок, але не зрывае яго, а вылушчвае некалькі зярнятак. Зярняткі маленькія, кволыя, налітыя малаком. І дзівіцца малы, і не верыцца яму, што з такіх маленькіх зярнятак можна спячы хлеб, многа-многа хлеба, каб хапіла ўсім-усім...

Цётка Кацярына прыкмеціла, куды кожны дзень бегае Паўлік. «Любуецца, саколік, жытам. Добры чалавек з яго будзе, хлебароб,— падумала сама сабе.— Бо не кожны ўмее ўбачыць хараство на полі. А гэты, адразу відаць, гаспадар расце...»

Імкліва бяжыць час. І вось Паўлік ужо трымае ў руках атэстат сталасці.

— Куды вучыцца, сынку, паедзеш? — пытае Кацярына.

Павел доўга маўчыць, пазіраючы некуды на акно. Потым паволі паварочвае галаву і гаворыць:

— Нікуды я адсюль не паеду. Працаваць буду на камбайне. А вучыцца можна і тут.

Жанчына з палёгкай уздыхае. Старэйшы сын застаўся ў арміі на звыштэрміновай, дачка скончыла інстытут і працуе недзе ў далёкім раёне настаўніцай. А Толік служыць на флоце. І вось выходзіць ужо на жыццёвую дарогу Паўлік.

## III

З фермы я пайшоў да шашы вузкай палявой дарогай: хацелася пабыць аднаму. Я ішоў і думаў пра добрых людзей, што жывуць на нашай зямлі, пра хлеб, гэты цуд людскіх рук і сонца. Абнаўленне зямлі заўсёды пачыналася з выспявання жытоў. Можа таму, калі ў часіну цяжкіх выпрабаванняў добра ўродзіць хлеб, людзі кажуць: канец бядзе.

Хлеб. Ён нараджаецца з булькату гуллівых веснавых ручайкоў, ціхага звону сонечных праменняў, ціхіх уздыхаў самлелай ад цеплыні раллі. Залаты дождж зярнят падае на пульхную зямлю. І ляжаць зярняткі ў цёплай раллі, пакуль мацярынская сіла зямлі не ажывіць іх, не выцягне ў цёмна-зялёныя іголачкі, у густую шчэць руні. Лашчыць яе цёплы ветрык, песціць шчодрае сонейка, умываюць дажджы і чыстыя росы.

І вось ужо ніва звініць спелымі каласамі. Ёсць хлебаробу штосьці да болю роднае, дарагое ў гэтым звоне. Мо палетак затаіў у сабе песні роднай старонкі, увабраў яе смутак і радасць, непаўторнае мігценне яе зор і сполахі заранак, ціхі передзвон яе крыніц і адвечны шум яе бароў? Ці не таму родны хлеб смачнейшы за ўсё на свеце? Пругкі залаты струмень б'е з бункера камбайна, і асядаюць рысоры пад цяжарам неацэннага скарбу. Слава ж табе, хлеб, наша багацце, наша радасць, наша сонца!



*Да 50-годдзя з дня смерці Лесі Украінкі*



Леся **УКРАІНКА**

★

(Памяці С. М.)

...Парвалася пачатая размова
І ў сэрцы, як парваная струна,
Трымціць. Ад аднаго, здаецца, слова
Раскрылася ў душы маёй труна.

Сум абудзіўся, сном цяжкім прыспаны,
Узняўся волатам і дасягнуў да хмар,
Жаль запалаў, прыбоем акіяна
Гамоніць жудасны яго пажар.

І ў іншых сілу абудзіць ён здольны,
Што ўсе муры бастылій скалане,
Што вызваліць прыгнечаных з няволі, —
Ён абуджае словы у мяне!

Таварыш! Не магу я ўжо маўчаці,
Праклён мне супакою не дае...

Я мушу словамі тугу страчаці:
Звіняць аж думкі сумныя мае.

Часы глуханямыя не заглушаць
Крылатых звонкіх думак, што гучаць,
Вось так нявольнікі рукамі заварушаць —
І на руках кайданы зазвіняць.

Няхай яшчэ гучней звіняць кайданы,
Не буду заглушаць. Калі б маглі
Яны ўзняць рэха і раз'ятрыць раны
У сэрцах тых, што мохам абраслі;

Калі б кайданаў бразгат мог ударыць
Маланкай па заспаных сэрцах тых,
Чало спакойных сорамам захмарыць,
Да зброі заклікаць барацьбітоў жывых;

Калі б спатрэбілася зброя тая к бою,
Загаманіла навальнічнай хмарай зноў,
Тады б замоўклі ўжо самі сабою
Такія словы й бразгат ланцугоў.

Пераклаў з украінскай
**М. АЎРАМЧЫК.**

# ПАЭЗІЯ СЛУЖЭННЯ НАРОДУ

***„З часу шаўчэнкаўскага „Пахавайце ды ўставайце, ланцугі парвіце!..“ Украіна не чула такога моцнага, гарачага і паэтычнага слова, як з вуснаў гэтай слабай, хворай дзяўчыны“.***

***ІВАН ФРАНКО***

Вялікая ўкраінская паэтэса Леся Украінка завяшчала чалавецтву мастацтва, у якім цудоўная мастацкая форма і рэвалюцыйны змест як бы зліліся ў адно цэлае. Выдатны майстар слова і нястомны змагар за справядлівасць, яна пражыла сваё кароткае жыццё без кампрамісаў, без песімізму, пастаянна і глыбока верачы ў вялікую сілу слова, здольную натхніць масы на рэвалюцыйнае пераўтварэнне свету.

Нарадзілася Леся Украінка 25 лютага 1871 года. Бацька яе — Пятро Антонавіч Касач быў блізкім да прагрэсіўных дэмакратычных колаў, ведаў і любіў літаратуру, маці — украінская пісьменніца, вядомая пад псеўданімам Алены Пчылкі. Вялікім сябрам Лесі быў яе старэйшы брат Міхаіл. Як і сястра, ён захапляўся літаратурай. Міхаіл стаяў блізка да студэнцкага рэвалюцыйнага руху, знаёміў сястру з нелегальнай літаратурай. З ім Леся дзялілася сваімі думкамі, сваімі марамі прысвяціць жыццё рэвалюцыйнай барацьбе.

У сям'і Касачоў часта бывалі вядомы драматург М. Старыцкі і выдатны ўкраінскі кампазітар М. Лысенка. Асяроддзе такіх людзей з малых год спрыяла развіццю таленавітай натуры будучай паэтэсы.



Леся Украінка выдатна разбіралася ў музыцы, іграла. Асабліва захаплялася Бетховенам, Моцартам, Шапэнам, Чайкоўскім. Але стаць сапраўдным музыкантам ёй перашкодзіла цяжкая хвароба. У адным з лістоў да свайго дзядзькі Міхаіла Драгаманава, які жыў у Балгарыі ў эміграцыі, яна пісала: «Мне іншы раз здаецца, што з мяне выйшаў бы намнога лепшы музыкант, чым паэт».

Леся добра ведала гісторыю і тэорыю жывапісу. Гэта не магло не адбіцца і на яе паэтычнай творчасці, асабліва ў тонкіх пейзажных замалёўках.

Пісаць Леся Украінка пачала вельмі рана. Верш «Надзея» напісаны ёю ў васьмігадовым узросце пад уражаннем ссылкі Алены Антонаўны Касач — цёткі паэтэсы. Алена Антонаўна і Аляксандра Антонаўна Касач прымалі ўдзел у народніцкім руху. Яны часта бывалі ў сям'і брата, вакол іх групавалася рэвалюцыйна настроеная моладзь. Маленькая Леся да ўсяго прыслухоўвалася, усё ўбірала сваім дапытлівым дзіцячым розумам. Водгукі рэвалюцыйных песень чуюцца ў многіх яе творах.

Дзядзька Алены Пчылкі — Якаў Драгаманаў быў асуджаны і сасланы ў Сібір за ўдзел у паўстанні дзекабрыстаў у 1825 годзе. Сямейныя традыцыі зрабілі значны ўплыў на фармаванне палітычных поглядаў Лесі. Але яна жыла ў іншую эпоху, калі на арэну рэвалюцыйнай барацьбы выйшаў рабочы клас, таму і палітычныя ідэалы яе былі іншыя, сугучныя часу.

Цяжка сказаць, у якім жанры — лірыцы, эпасе ці драме — найбольш поўна праявілася творчая індывідуальнасць Лесі Украінкі. У кожны твор, малы ці вялікі, яна ўкладвала ўсю сябе. Вось чаму так хвалюе чытача кожны радок, які выйшаў з-пад яе пяра.

Сваё прызванне паэта і змагара Леся Украінка ўсвядоміла рана. Яна піша аб гэтым ужо ў вершы «Мой шлях» (1890):

На шлях я выйшла ранняю вясною
І ціхі спеў нясмелы заспявала...
. . . . . . . . . . .
Ох, доўгі шлях, ісці па ім нялёгка,
Найгорай для таго, хто адзінокі.
Я не адна ў дарозе той далёкай,
Я не адна выходжу ў свет шырокі.
Сама з дарогі зб'юся я і ўдзень.
Лягчэй па ёй хадзіць у грамадзе.

У 12-гадовым узросце Леся захварэла на туберкулёз левай рукі. Хвароба ўвесь час прагрэсіравала. Вера ў светлую будучыню, вера ў сваё прызванне паэта і змагара памаглі ёй у самыя пакутлівыя часы жыцця не страціць пачуцця аптымізму. Лесіна жыццё ў гэтых адносінах нагадвае подзвіг Мікалая Астроўскага. Абое яны ўмелі пераадольваць асабістыя нягоды, застаючыся ў агульным страі барацьбітоў за шчасце чалавецтва. Гэтае пачуццё лепш за ўсё выказана ў слаўтым «Contra spem spero» («Спадзяюся без надзеі»):

Я на горы крутыя, як сцены,
Буду камень цяжкі ўздымаць
І, цяжар несучы той страшэнны,
Буду весела песню спяваць.

Ночкай доўгаю, цёмнай і горкай
Не самкну ні на хвілю вачэй,
Адшукаю я светлую зорку —
Уладарку цямраных начэй.

У Лесінай душы любоў да роднага краю была неаддзельная ад любві да простага люду, да абяздоленых і прыгнечаных. У адным з вершаў цудоўнага цыклу «Слёзы-перлы», прысвечанага Івану Франку, чытаем:

О, люд мой гаротны багатай краіны,
Браты мае, сёстры, вас душаць кайданы!
Палаюць крывавыя страшныя раны
На целе тваім, дарагая Ўкраіна!

Леся Украінка асуджала тых, хто толькі аплакваў сваю радзіму, нічога не робячы для яе вызвалення, і заклікала да актыўнага дзеяння:

Іржой пакрыюцца кайданы
Ад слёз, а самі не спадуць.

Можна лічыць, што ўжо на пачатку 90-х гадоў у асноўным вызначылася творчая індывідуальнасць Лесі Украінкі — паэта і змагара. Франко, які быў у захапленні ад яе мужнай паэзіі, пісаў, што слова Лесі Украінкі становіцца ўсё больш і больш «гучным і вострым, як сталь».

Жыццёвы шлях, выбраны паэтэсай, быў шляхам без адступленняў, без кампрамісаў. Яе нянавісць да прыгнятальнікаў была такая ж свяшчэнная, як і любоў да прыгнечаных. Гэтая думка, асветленая традыцыяй рускіх рэвалюцыянераў-дэмакратаў, ператварылася ў адзін з цэнтральных матываў паэтычнай творчасці Лесі:

Мне не шкада, што ўсё вам нагадае
Нянавісці пякельнае парыў.
Што ж?! Толькі той нянавісці не знае,
Хто цэлы век нікога не любіў.

Леся Украінка не раз называе сваё паэтычнае слова зброяй, якая служыць змагарам за лепшую долю народа. Па меры таго як мужнела рэвалюцыйная свядомасць Лесі Украінкі, такое разуменне ролі мастацкага слова ўсё больш мацнела. У 1900 годзе ў першым вершы з цыклу «Рытмы» паэтэса гаворыць:

Не для таго я вас любіла, словы,
Не для таго я вас паіла кроўю,
Каб вы ліліся мляваю атрутай
І падалі на душы, як іржа!
. . . . . . . . . . .
Ушчуньвайце, сячыце, біце, рэжце,
Не будзьце толькі, як асенні дожджык!
Жадаю песню, а не слёзы мець, —
Агонь палаць павінен, а не тлець.

Да цыклу вершаў аб прызванні паэта і аб рэвалюцыйнай пераўтваральнай сіле паэтычнага слова прымыкае ранняя паэма Лесі «Даўняя казка» (1893). У паэме гаворыцца аб тым, як безымянны паэт (аўтар не выпадкова пакінуў яго без імені) уступіў у барацьбу з магутным феадалам Бертольдам. Тройчы скрыжоўваюцца іх дарогі. Паэт стварыў серэнаду для Бертольда і памог яму пакарыць сэрца Ісідоры. Паэт напісаў сатырычную песню пра баязлівага рыцара, разбудзіў у воінах баявы дух і памог Бертольду ўзяць варожую сталіцу. Але паэт быў першы, хто выступіў супраць Бертольда, калі феадал пачаў жорстка прыгнятаць падуладны яму працоўны люд. Песня, створаная паэтам, стала сцягам рэвалюцыйнай барацьбы.

Бертольд, зразумеўшы, якой страшнай зброяй становіцца паэзія ў руках вялікага мастака, хоча купіць яго, прымусіць служыць сабе ў якасці прыдворнага. Адказ паэта мог бы стаць дэвізам усяго жыцця Лесі — той не паэт, хто забывае пра народныя раны і гатовы на свае вольныя рукі надзець залатыя кайданы.

Як і безымянны паэт з «Даўняе казкі», Леся Украінка не ведала іншай паэзіі, апроч паэзіі служэння народу.

У пачатку 90-х гадоў паэтэса збліжаецца з кіеўскім марксісцкім падполлем, а ўлетку 1897 года ў Крыму знаёміцца з адным з першых беларускіх марксістаў — Сяргеем Канстанцінавічам Мяржынскім. У лісце да маці яна піша, што новы яе знаёмы Мяржынскі накіраваны да яе з Кіева Тучапскім. Павел Лукіч Тучапскі — актыўны дзеяч кіеўскай сацыял-дэмакратычнай арганізацыі — быў дэлегатам на І з'ездзе РСДРП у Мінску. Мяркуюць, што праз Мяржынскага Леся Украінка падтрымлівала сувязь з сацыял-дэмакратамі, якія знаходзіліся ў Крыму.

Сустрэча з Мяржынскім адыграла вялікую ролю ў яе жыцці. Мяржынскі, будучы актыўным прапагандыстам, памог і ёй лепш і глыбей зразумець вызваленчы рух пралетарыяту. Іменна дзякуючы Мяржынскаму Леся вывучае «Капітал» Маркса; ён жа пазнаёміў яе з супрацоўнікамі прагрэсіўнага часопіса «Жизнь». У гэты час у часопісе друкаваліся працы У. І. Леніна. Мастацкім аддзелам часопіса кіраваў Максім Горкі. На старонках «Жизни» Леся Украінка надрукавала шэраг літаратурна-крытычных артыкулаў: «Два кірункі ў навейшай італьянскай літаратуры», «Маларускія пісьменнікі на Букавіне» (1900), «Нататкі пра навейшую польскую літаратуру» (1901) і іншыя. У гэтых артыкулах Леся Украінка выступала ў абарону рэалістычнага мастацтва, падкрэслівала яго класавую сутнасць, рэзка крытыкавала ўпадніцтва, тэорыю мастацтва для мастацтва — прадаўжала традыцыі рэвалюцыйна-дэмакратычнай крытыкі Бялінскага, Дабралюбава, Чарнышэўскага, Шаўчэнкі.

Мяржынскі хварэў на туберкулёз лёгкіх. З года ў год здароўе яго горшала. Леся неаднаразова прыязджала да яго ў Мінск, самаахвярна клапацілася пра свайго сябра. А калі ў пачатку 1901 года стан здароўя яго пагоршыўся, яна надоўга пераязджае ў Мінск, каб увесь час знаходзіцца ля пасцелі хворага. Мяржынскі спадзяваўся, што яму палепшае, марыў, як яны разам паедуць лячыцца за мяжу, як разам сустрэнуць вясну. Але дактары адкрылі ёй суровую праўду, ды і сама Леся бачыла, як згасаў яе сябар. Патрабавалася вялікая мужнасць, вытрымка і воля, каб не выдаць свайго гора і падтрымаць духоўныя сілы Мяржынскага ў апошнія дні яго жыцця.

Знаходзячыся ў пакоі хворага, Леся працавала, рыхтавала артыкулы для «Жизни», пісала свае творы. У лісце да вядомай украінскай пісьменніцы Вольгі Кабылянскай, з якой Леся падтрымлівала прыязныя адносіны, яна пісала: «Ён не дазваляе мне рабіць нічога цяжкага... Адносіцца да мяне, нібы я з тонкага шкла, магу ўпасці і разбіцца. Ён ніколі не дазваляе мне ісці вечарам дахаты (толькі праз маленькі дворык прайсці!) без праважатага, бо я магу пакаўзнуцца ці спатыкнуцца... Пытае, калі я кладуся спаць, не верыць, што нармальна харчуюся, — можна падумаць, што гэта я хворая, а ён мяне даглядае».

Смерць Сяргея Канстанцінавіча была вялікім горам для Лесі. Вершы, напісаныя пад уплывам гэтай трагічнай у яе жыцці падзеі, яна адмовілася апублікаваць пры жыцці. Яны з'явіліся ў друку толькі ў 1947 годзе, амаль праз 35 гадоў пасля яе смерці. Пры жыцці паэтэсы была апублікавана драматычная паэма «Апантаная». Створаная ля пасцелі хворага за адну ноч — 18 студзеня 1901 года, калі над Лесяй навісла страшэнная бяда, паэма напісана «ў самым апагеі журбы», як пісала яна ў лісце да Франка.

Леся Украінка і Сяргей Мяржынскі.



Трэба меркаваць, што ўплыў Мяржынскага на Лесю Украінку быў значна глыбейшы, чым гэта раней меркавалася. Прафесійны рэвалюцыянер, горача адданы ідэалам вызваленчай барацьбы, чалавек вялікай прывабнасці, улюбёны ў мастацтва і паэзію, Мяржынскі не мог не пакінуць глыбокага следу ў жыцці і творчасці Лесі. І напэўна ж у цудоўнай паэме «Віла пасестра», напісанай у год смерці Мяржынскага, па-мастацку ўвасоблена іх дружба, трагедыя яго жыцця і смерці. «Пабрацімства» Лесі Украінкі і Сяргея Мяржынскага — адна з паэтычных старонак украінска-беларускіх кантактаў у жыцці і мастацтве.

Асноўныя матывы лірычнай паэзіі Лесі Украінкі атрымалі сваё далейшае развіццё ў драматычных паэмах і драмах. Да вяршынь драматычнага мастацтва Леся ішла паступова. Першыя яе драмы адносяцца да 90-х гадоў («Блакітная ружа», 1896). Аднак сталым драматургам Леся становіцца ў дні першай рускай рэвалюцыі. Менавіта тады драматычны талент Лесі Украінкі ўспыхвае яркім полымем. У 1905 годзе яна стварае драматычныя паэмы «Асенняя казка» і «У катакомбах». Абодва творы прысвечаны рэвалюцыі.

У апошнія гады свайго жыцця Леся Украінка стварыла свае лепшыя драматычныя творы: «Лясная песня» (1911) і «Каменны гаспадар» (1912). Абодва гэтыя творы, такія розныя па свайму стылю і сюжэту, прысвечаны праблеме адмаўлення ад прызвання.

Дон-Жуан з паэмы «Каменны гаспадар» гіне, таму што ён дзеля «каменнага шчасця», дзеля пэўнага становішча ў грамадстве ахвяраваў сваімі вольналюбівымі марамі. Гіне і Лукаш, бо з-за мяшчанскага дабрабыту ён ахвяруе сваім каханнем і мастацтвам. Абедзве драмы можна назваць драмамі здрады прызванню. Для Лесі Украінкі такое здрадніцтва ўсведамлялася як самы цяжкі грэх, бо сама яна пранесла праз усё жыццё сваё прызванне паэта і змагара мужна і бескампрамісна.

Вяршыняй творчасці Лесі Украінкі лічыцца «Лясная песня». Гэтая драма-феерыя пераносіць чытача ў свет дзіцячых мараў паэтэсы, у родную Валынь — скарбніцу ўкраінскага фальклору і народнай мудрасці. Іменна тут, сярод прыгожай валынскай прыроды, сярод лясоў і рэк, якія багатая народная фантазія насяліла мноствам міфічных істот, прайшло дзяцінства Лесі. Іменна тут Леся «бачыла» і «чула» Маўку. Яна за ёю ішла ўсё жыццё. У лісце да маці яна гаворыць, што павінна была пра яе калісьці напісаць. Драма прасякнута вялікай любоўю да роднага краю, роднай прыроды, сведчыць аб глыбокім веданні народных паданняў, аб тонкім мастацкім гусце і вялікім майстэрстве Лесі Украінкі. «Лясная песня» напісана ў Грузіі. Тут, сярод такой не падобнай на родную прыроды, паэтэса з асаблівай яскравасцю ўваскрасіла хараство роднай Валыні. У гэтым выявілася вялікая туга па родным краі ў апошнія гады жыцця. Вось чаму ні ў якім другім творы Лесі Украінкі няма такіх яркіх, жывых вобразаў.

Леся Украінка памёрла 1 жніўня 1913 года ў росквіце творчых сіл. За апошнія два-тры гады перад смерцю ёю былі напісаны лепшыя творы, якія даюць права вялікай украінскай паэтэсе на пачэснае месца ў сусветным пантэоне мастацтва. Паэзія Лесі Украінкі глыбока тэндэнцыйная, страсная, жыццёвая. Не было для яе нічога больш чужога, чым так званае «чыстае мастацтва». Іменна ў гэтым і заключаецца сакрэт велізарнага ўплыву яе паэтычнага слова на шырокія народныя масы.

Бальшавіцкая газета «Правда» (тады — «Рабочая правда») у некралогу, прысвечаным памяці паэтэсы, пісала: «Леся Украінка, якая блізка стаяла да вызваленчага грамадскага руху наогул і пралетарскага ў прыватнасці, аддавала яму ўсе сілы, сеяла разумнае, добрае, вечнае. Леся Украінка памёрла, але яе бадзёрыя творы доўга будуць будзіць нас да работы, да барацьбы. Добрая, вечная памяць пісьменніцы — другу рабочых!»

**Эльвіра МАРТЫНАВА.**



# СТО РОЛЯЎ І АДНА З ІХ

У жыцці гэтага чалавека ёсць дзве даты, дзве падзеі, якія можна перадаць лічбамі — 60 і 40...

Народнаму артысту СССР Барысу Віктаравічу Платонаву — шэсцьдзесят год. Сорак з іх ён аддаў свайму тэатру.

Звычайна ўсе захапляюцца шматграннасцю таленту Платонава. І сапраўды, ён не проста шырокі — ён бязмерны. Калі падлічыць усе ролі, якія сыграў Барыс Платонаў, іх набярэцца не меней сотні. Пра іх нельга расказаць у адным артыкуле. Гэта — цэлая кніга. Кніга пра творчасць. Возьмем з яе толькі некалькі старонак, каб расказаць пра адну грань таленту юбіляра — камедыйную.

Гэта лепш зрабіць на прыкладзе адной ролі, у прыватнасці — ролі Зёлкіна з камедыі Кандрата Крапівы «Хто смяецца апошнім». Акцёр упершыню сыграў Зёлкіна, будучы даволі яшчэ маладым творцам. Ішоў час. Мацнела і гартавалася майстэрства. На сцэне з'яўляліся платонаўскія Рамэа і Жадаў, Быкоўскі і Заслонаў, Уладзімір Ільіч Ленін, Лявон Чмых і Федзя Пратасаў. Гэта не толькі буйныя перамогі акцёра, але і вельмі прыкметныя здабыткі ўсяго нашага мастацтва. Адны ролі на многія гады захоўваліся ў рэпертуары, другія ж хутка саступалі месца іншым.

Барыс Платонаў — акцёр вялікага ўнутранага і знешняга абаяння. Да таго ж ён акцёр інтэлектуальны. Кожны сцэнічны вобраз ён надзяляе сваёй шчодрай душой, сваёй глыбокай чалавечнасцю. Гэта — у вобразах станоўчых.

У чым тут сакрэт?

І свой інтэлект, і сваю душэўную шчодрасць і цеплыню, сваё вялікае абаянне — усё, што ўваходзіць неад'емнай часткай у сцэнічныя вобразы людзей станоўчых, Барыс Платонаў умее перадаць у ролях востра характарных.

Платонаўскі вобраз, як правіла, узбуйнены, завостраны. Не проста характарны, а іменна востра характарны.

Прыгледзімся да Зёлкіна.

Вось першыя сцэны спектакля «Хто смяецца апошнім». У даследчы інстытут геалогіі ўваходзіць малодшы навуковы супрацоўнік Зёлкін. Зусім звычайнае слова «ўваходзіць» тут недакладнае, бо з'яўляецца Зёлкін на сцэне вельмі незвычайна. З-за дзвярэй спачатку паказваецца адно вока, у якім столькі цікаўнасці — убачыць бы ўсё, не прагледзець чаго-небудзь. Пасля вялікі нос, задраны ўгору. Здаецца, для таго ён і створаны, каб увесь час нешта вынюхваць. Вось ужо ў прыадчыненых дзвярах паказалася частка тулава Зёлкіна, праз момант — яшчэ частка.



**В. Цвірка. Мая Радзіма.**



**В. Цвірка. Сакавік.**

**Вялікую дарогу прайшоў Народны артыст СССР Барыс Віктаравіч Платонаў. За плячыма — шэсцьдзесят гадоў. З іх больш сарака — творчае гарэнне на сцэне акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы.**

**Гэты здымак наш фотакарэспандэнт А. Дзітлаў зрабіў у садку каля дома, дзе жыве артыст. Здаецца, толькі крыху адпачыць прысеў Барыс Віктаравіч, каб зноў з тым жа платонаўскім аганьком узяцца за ўвасабленне новых вобразаў, каб шчырым словам старэйшага памагчы купалаўцам.**

**Ад імя чытачоў «Маладосці» жадаем Барысу Віктаравічу добрага здароўя і доўгіх год творчага жыцця!**

Прасоўваецца Зёлкін паволі і ціха. І нават неяк нечакана, палохаючы прыбіральшчыцу цёцю Кацю.

Пытанні Зёлкіна немнагаслоўныя, але яны сыплюцца і сыплюцца адно за другім. Зёлкін — Платонаў ходзіць амаль нячутнымі, нейкімі кацінымі крокамі, выпытваючы ў цёці Каці якую-небудзь навіну ці плётку.

Прыбіральшчыца расказвае, што супрацоўніка інстытута Тулягу сёння нехта да смерці напалохаў, палічыўшы за былога дзянікінскага палкоўніка Падгаецкага. Проста смешны выпадак. Але з гэтай «гісторыі» Зёлкін можа скарыстаць многае, завесці ў інстытуце інтрыжкі.

Зёлкін пачуў, што чалавек у форме НКУС цікавіўся некім з вуліцы Шырокай. Хто б гэта мог быць? У руках у Зёлкіна запісная кніжка, ён хутка гартае яе. Ага, на Шырокай вуліцы жыве Чарнавус, прафесар, вядомы вучоны. Значыць, крышка, прыйшоў і яму канец... Для Зёлкіна гэта радасць. Забяруць Чарнавуса — адным сапраўдным вучоным стане меней, і, значыць, яму, Зёлкіну, будзе жыць вальней.

Герой не ходзіць у роздуме. Ён аж падскоквае ад задавальнення. З кім бы гэта падзяліцца сваёй навіною? З цёцяй Кацяй? Ну, вядома, ёй трэба расказаць. Але гэтага мала, трэба праінфармаваць і іншых. І Зёлкін адразу падбягае да тэлефона, з ліхаманкавай паспешнасцю набірае нумар. Ён балабоніць у трубку, хлусіць. Хлусіць з натхненнем, з найвялікшай асалодай. Голас яго вібрыруе на самых высокіх нотах. Зёлкін часам проста аж вішчыць ад задавальнення.

Каму б яшчэ расказаць? Ага!.. І ён зноў ліхаманкава набірае нумар. Коратка падстрыжаныя яго вусікі трасуцца, вочы бегаюць, а ў голасе — яшчэ больш высокія ноты... І цяпер Зёлкін не забывае папярэдзіць, што ведае пра гэта ўсё толькі ён і яшчэ адзін чалавек...

Тут жа, у інстытуце, працуе яго жонка. Сакратаркай у дырэктара. Трэба і ёй расказаць. Аднак Зёлкін пачынае гаворку з жонкай не пра Чарнавуса: ён паспеў даведацца, што яго Зіна ўчора каталася на машыне з Гарлахвацкім.

Зёлкін пагражае жонцы і ў той жа час сам мала верыць, што яго словы могуць мець хоць нейкае ўздзеянне на яе. Ён ваяўніча абяцае ўчыніць скандал Гарлахвацкаму. Але адразу палохаецца. «Ідзі паспрабуй, ён табе такі ўчыніць, што ты ўмомант паляціш з работы», — гаворыць Зіна. Зёлкін разгубіўся, нават, здаецца, паменшаў ростам, ён адчувае сваё поўнае бяссілле.

«Хацеў табе расказаць цікавую навіну, а калі ты такая — не скажу», — адзінае, чым ён можа дапячы жонку. У голасе акцёра крыху крыўды — вось не хочаш слухаць мяне, нядобрая. Ёсць крышку і капрызу, гэткага дзіцячага, наіўнага. І ўсё ж прамаўчаць пра Чарнавуса Зёлкін не можа. І вось ужо ён з найвялікшай асалодай шэпча Зіне на вуха... Якая гэта для яго радасць — плёткі. Здаецца, ён з такім жа захапленнем слухаў бы і пра «раман» жонкі з дырэктарам, абы толькі яна стала расказваць...

Услед Зіне Зёлкін зноў гаворыць, што ўчыніць скандал Гарлахвацкаму. Але гэта так сабе, абы што сказаць... Зёлкін не толькі не сварыцца са сваім «шэфам» Гарлахвацкім, але і дагаджае яму як толькі можа. Ён заўсёды напагатове, каб заняць патрэбнае месца, каб знайсці любую позу, абы толькі дагадзіць начальству. Ён то выгінаецца, то выпростваецца, то пераскоквае з месца на месца, то праходзіць, плаўна вывіваючыся, з нейкай асаблівай, гадзючай грацыяй. Вось ужо дзе тонкае майстэрства падхаліма!

А як ён гаворыць Гарлахвацкаму, што праваронілі з Чарнавусам... Зёлкін як быццам шкадуе, што прагацілі час: можна было б раней яго раскусіць... Але і гэтыя словы яго не шчырыя. Ён проста не можа, не ўмее быць шчырым.

Так іграе Зёлкіна Барыс Платонаў. Узнікае пытанне: а ці не занадта згушчае артыст фарбы? Часта ж даводзілася сустракацца з



Зёлкін (Б. Платонаў) і Зіна (С. Станюта).



Вехі творчага шляху: Уладзімір Ільіч Ленін («Трэцяя патэтычная»)...



...Эзоп («Ліса і вінаград»)...

тэатральнымі героямі, якія, упершыню з'явіўшыся на сцэне, поўнасцю раскрывалі сябе перад гледачом. А далей акцёрам ужо нічога больш не заставалася, як толькі паўтараць сябе. Такі «метад» стварэння адмоўных вобразаў не прыносіць карысці.

Не. Гэта не можа быць у сатырычнай камедыі, дзе жыццё герояў, як вядома, іншае, чым, скажам, у бытавой драме. Тут вобразы гранічна завостраны, узбуйнены, пададзены яўна ў гратэскавай форме. Так трактуецца ўвесь спектакль.

Платонаў у вобразе Зёлкіна — невычэрпны на акцёрскую шчодрасць. Ён заўсёды знаходзіць новае ў паводзінах свайго героя. Прызначаецца даклад Гарлахвацкага. Толькі павесілі аб'яву — Зёлкін ужо тут як тут. І зноў у яго руках тэлефонная трубка. Здавалася б, сітуацыя паўтараецца, усё тое ж, што і раней, з Чарнавусам. Але сродкі ў акцёра іншыя, характарыстыка героя — таксама.

Раней Зёлкін спрабаваў дзейнічаць спадцішка, размаўляў азіраючыся. Цяпер яму хавацца няма ад каго, спяшацца таксама не трэба. Наадварот, яму хочацца, каб усе чулі, як ён добра гаворыць пра дырэктара.



....Лявон Чмых. («Лявоніха на арбіце»)...



...Заслонаў. («Канстанцін Заслонаў»)...

Аднак розніца трактовак ролі Зёлкіна ў двух розных сцэнах не толькі ў гэтым.

Вядома, Зёлкін, як і раней, плёткарнічае. Але адкуль у яго ўзялося столькі пафасу? Ды гэта ж ён першы адкрывае свету сапраўднага вучонага. Вось на што ён, Зёлкін, здольны, вось якая ганаровая ў яго місія. Пра меншае цяпер ён, бадай, і не падумае. Калі Зёлкін раней сваімі «навінамі» знішчаў аднаго, дык цяпер усяляк узвялічвае другога. Дзіва што: яму ж добра жывецца з Гарлахвацкім.

Акцёр не паўтараецца, ён знаходзіць новыя фарбы ў вобразе, і ўсё гэта ніколькі не супярэчыць раней намечанаму характару.

Роля Зёлкіна — адна з вельмі складаных для акцёра. Няма ў п'есе, напрыклад, нейкай адной цэнтральнай сцэны, у якой даволі поўна можна было б раскрыць яго характар. Аднак, што б ні здарылася, якая б ні адбылася падзея, без Зёлкіна нішто не абыходзіцца.



Ён неяк раптоўна з'яўляецца і гэтак жа раптоўна знікае. У гэтым якраз характар Зёлкіна, якога трапна і дакладна выпісаў Кандрат Крапіва. Але акцёру трэба іграць так, каб герой не атрымаўся аднастайны, каб яго не было «многавата» на сцэне. Платонаў якраз так яго і іграе.

Апошні акт спектакля. Зёлкіну даюць прачытаць артыкул у «Правде», у якім выкрываюцца двурушнікі і паклёпнікі, тыя, хто ганьбіць і шальмуе сумленных работнікаў. Смехам Зёлкіну гавораць, што гэта пра яго напісана.

Ён толькі вачыма прабег артыкул і ўжо сцяміў, дзе небяспека. Трэба хутчэй замятаць сляды. І Зёлкін сабраўся ўжо выступаць у ролі «змагара»: у інстытуце ж ёсць паклёпнікі, напрыклад, прыбіральшчыца цёця Каця. Зёлкін смела яе «выкрывае», ён гатовы павесці з ёю барацьбу, дарма, што сам усё выпытваў у цёці Каці... Але як ён, бедны, напалохаўся, калі Гарлахвацкі сказаў: «Дудкі, грамадзянін Зёлкін! Нідзе ты ад нас не схаваешся!» Зёлкін стуліўся, абвяў. Але гэта быў толькі жарт: Гарлахвацкі проста захацеў пасмяяцца. Бяда мінулася.

І зноў мы бачым Зёлкіна ў ролі, якая яму адведзена аўтарам п'есы. Пасяджэнне ў кабінеце дырэктара інстытута. Гарлахвацкі чытае свой даклад. Крыху воддаль сядзіць за сталом Зёлкін. Ён вядзе пратакол пасяджэння і вядзе, здаецца, вельмі спраўна. Сам стараецца трымацца чынна, важна. І як гэта не стасуецца з яго характарам, з ягонай нікчэмнасцю. У такой вось неадпаведнасці якраз і заключан вялікі камізм.

Ды Зёлкін не можа доўга выседзець у важнай позе. Ён пачынае забывацца, яму ж трэба ўсё выглядзець, усё выведаць. І хутка ён зноў становіцца самім сабою.

Зёлкін выступае ў абарону Гарлахвацкага, яго «навуковых» прац. На твары — асалода, у голасе — фальшывы пафас. І зусім іншы Зёлкін, калі спрабуе выказаць сваю думку прафесар Чарнавус. Ён бесцырымонна перабівае яго. Ён нават крычыць, пагражае: ці ж яму лічыцца з Чарнавусам, у якога няма ніякай улады!





...Федзя Пратасаў. («Жывы труп»).

Аднак, нарэшце, Гарлахвацкага выкрываюць, усе яго махінацыі выводзяць на чыстую ваду. Чарга, відаць, хутка дойдзе і да Зёлкіна. Ён яшчэ не ведае: заставацца з Гарлахвацкім ці прымкнуць да каго-небудзь іншага. Маленькія прыжмураныя вочкі забегалі хутка-хутка: дзе ж цяпер шукаць пункт апоры? Ён яшчэ хіхікае, але ў голасе разгубленасць, страх. Толькі б зберагчы сваю скуру!..

Сцеражыцеся Зёлкіных, яны могуць знаходзіць новыя шчыліны, яны могуць прынесці многа шкоды агульнай справе — вось на чым акцэнтуе ўвагу гледачоў акцёр. Глыбока раскрываючы сутнасць Зёлкіна, акцёр заклікае гледачоў мацней любіць усё добрае, светлае, што ёсць у нашым жыцці.

Мы спыніліся толькі на адной ролі з сотні выкананых Барысам Віктаравічам Платонавым за свой доўгі сцэнічны век, але і гэтага дастаткова, каб адчуць шчодрасць, сапраўдную мастацкасць і сапраўдную чалавечнасць мастацтва выдатнейшага майстра савецкай сцэны.

**Анатоль САБАЛЕЎСКІ.**



# СЛУХАЮЧЫ БЕТХОВЕНА

Сяджу ў светла-сінім паралонавым крэсле новай канцэртнай залы Беларускай дзяржаўнай філармоніі і слухаю музыку. Яна то струменіцца жвавым ручаём, то спыняе свой імклівы бег і пераходзіць у шырокую і вольную плынь, то гучыць з трагічным адчаем, то зноў, узмоцненая магутнымі акордамі, набывае незвычайную пругкасць і моц. І немагчыма не паддацца магутнай віхуры гукаў, іх уладарнай і чароўнай сіле.

Гэта геніяльная Дзевятая сімфонія Бетховена. Я чамусьці не бачу ні аркестра, ні дырыжора, я ўвесь у палоне цудадзейнай, «нечалавечай» музыкі. У маіх думках адзін за другім узнікаюць даўно знаёмыя музычныя вобразы бетховенскай сімфоніі, якую ўпершыню я слухаў трыццаць з лішнім гадоў таму назад на вечары з крыху нечаканай назвай — канцэрт «падранай галошы». У праграмах такіх канцэртаў абавязкова прымаў удзел сімфанічны аркестр. У тыя гады рэспубліка толькі-толькі акрыяла ад імперыялістычнай і грамадзянскай войнаў і з усіх сваіх маладых сіл цягнулася да лепшых здабыткаў культуры. Шумнымі, вясёлымі і мнагалюднымі сталі рабочыя клубы і канцэртныя залы. І для таго, каб навучыць рабочых, рабфакаўцаў, студэнтаў слухаць і разумець вялікія творы сусветнай музычнай спадчыны, кіраўніцтву клубаў, прафсаюзных і канцэртных арганізацый, даводзілася ў сваёй рабоце быць дасціпнымі і вынаходлівымі.

Наладжваліся дзесяткі шэфскіх канцэртаў, выступленні лепшых спевакоў і музыкантаў перад асобнымі прафсаюзнымі арганізацыямі, арганізоўваліся сотні канцэртаў зусім яшчэ маладой самадзейнасці і справаздачныя выступленні не менш маладых прафесіянальных музычных калектываў. Невядома, каму першаму прыйшла тады ў галаву думка сумясціць прыемнае з карысным і наладзіць перад адным з канцэртаў збор металічнага лому і макулатуры, але такая спроба дала свае вынікі. Справа ў тым, што кожнае «мерапрыемства», якое прыносіла хоць нейкую карысць дзяржаве, заўсёды мела самую шырокую падтрымку. Так здарылася і з канцэртамі «падранай галошы». Яны адразу ж набылі вялікую папулярнасць, бо тых, хто жадаў атрымаць білет на канцэрт узамен на пару галош, старую медную ступку, паламаны прымус ці стос пажоўклых газет, заўсёды было больш, чым месц у зале.

І заўсёды ў праграмы такіх канцэртаў абавязкова ўключаліся творы Бетховена. Рэвалюцыйны дух яго музыкі як нельга лепш імпанаваў настроям тагачасных наведвальнікаў музычных вечароў. На адным з іх упершыню ў Мінску і прагучала велічная Дзевятая сімфонія.

Калі да рэвалюцыі ў Мінску зусім не было прафесіянальнага сімфанічнага аркестра, то першы ў паслярэвалюцыйнай Беларусі аркестр складаўся пераважна з растаранных музыкантаў. Праўда, было ў ім і некалькі кваліфікаваных артыстаў — педагогаў музычнага тэхнікума, які толькі што адкрыўся. Справіцца такому аркестру з усімі цяжкасцямі сімфоніі было нялёгка. І ўсё ж энтузіясты дамагліся свайго — Дзевятая сімфонія Бетховена прагучала ў канцэрце. І няхай выкананне было даволі далёкім ад аўтарскай задумы — слухачы прынялі твор не толькі з сапраўдным захапленнем, але і з велізарнай удзячнасцю.



А якой радаснай была другая сустрэча мінскіх аматараў музыкі з гэтай сімфоніяй! Прайшло дванаццаць год пасля першага выканання яе ў Беларусі, і за гэты тэрмін у музычным жыцці Мінска адбыліся велізарныя змены. Адкрылася філармонія з высокакваліфікаваным сімфанічным аркестрам, працаваў ужо тэатр оперы і балету, вялікую музычна-асветную работу вёў радыётэатр. Іншымі, больш шырокімі і строгімі сталі патрабаванні наведвальнікаў канцэртаў. І выкананне Дзевятай сімфоніі ператварылася ў сапраўднае свята беларускай музычнай культуры. Ды і не толькі беларускай! Каб паслухаць сімфонію, у Мінск прыехалі аматары музыкі з Масквы, Ленінграда і іншых гарадоў краіны. І трэба сказаць, што іх надзеі спраўдзіліся — выкананне было бездакорнае!

А яшчэ праз два гады геніяльны бетховенскі твор зноў зачараваў мінчан. На гэты раз ён выконваўся на ўрачыстым адкрыцці новай канцэртнай залы Белдзяржфілармоніі. Па праўдзе кажучы, яна не была такой ужо новай, бо да гэтага добрасумленна служыла музычнай школе, а потым стала базай опернага тэатра. Называлі яе «Чырвонай залай», і месціліся ў ёй усяго чатыры сотні гледачоў. З першых жа тыдняў зала стала сапраўдным музычным цэнтрам горада і любімым месцам аматараў музыкі.

...Прагучала скерца, і са сцэны палілася велічная павольная мелодыя трэцяй часткі сімфоніі. Поўная глыбокага роздуму, філасофскай глыбіні, яна нібы апавядала пра лёс чалавецтва, яго радасці і пакуты. Вось на змену першай, спакойнай тэме прыйшла другая — больш ажыўленая, страсная. Але не паспела яна грунтоўна ўсталявацца ў аркестры, як зноў саступіла месца сваёй папярэдніцы, якая набыла ўжо новыя аркестровыя фарбы, новыя мастацкія рысы. Так, увесь час змяняючыся і развіваючыся, набываючы ўсё новыя і новыя адценні, цякла павольная музычная плынь. І мне прыгадаўся нехта вясёлы і дужы, занепакоены лёсам сваіх паплечнікаў і сяброў, лёсам усяго чалавецтва і ахоплены няяснай трывогай за яго.



**У новай зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Выконваецца Дзевятая сімфонія Бетховена.**
Фота **У. Крука.**

Раптоўна, разбурыўшы чароўны

свет лірычных вобразаў, у музычную тканіну ўварваліся кароткія ваяўнічыя гукі труб. Нібы абарваўшы чалавечую думку на паўслове, яны настойліва папярэджваюць аб небяспецы. Так! У той час і сапраўды над савецкімі людзьмі, над усім светам навісла страшэнная небяспека! І не паспеў у новай зале выветрыцца пах свежай фарбы, як яна была зруйнавана фашысцкай бомбай. У агні пажараў загінула амаль усё напісанае беларускімі кампазітарамі больш чым за дваццаць гадоў, загінула ўсё, што так пяшчотна і клапатліва ўзгадоўвалася народам. Але гарматы не заглушылі голасу муз! За агнявой лініяй фронту збіраліся беларускія канцэртныя брыгады, музычныя калектывы, працаваў тэатр оперы і балету. І ў сэрцы кожнага была вера ў хуткае вяртанне на вызваленую Радзіму.

...Закончылася трэцяя частка сімфоніі. Загучалі напружаныя фанфары фіналу. А пасля невялікай паўзы пачуліся рэчытатыўныя фразы віяланчэляў і кантрабасаў. Нібы «намацваючы», спрабуючы адшукаць патрэбную мелодыю, яны адну за другой прапануюць некалькі тэм, а ўвесь аркестр у агульным гучанні рашуча і гнеўна адмаўляецца ад іх. Зноў, як бы ў нейкай развазе, сціхае на момант аркестр — і вось у яго нетрах, ціхая і светлая, узнікае новая мелодыя. Спачатку яна нясмела гучыць у нізкім рэгістры, але паступова набывае сілу, мацнее, шырыцца, да яе далучаюцца ўсё новыя і новыя інструменты, і ўрэшце яна гучыць на поўную моц. Што гэта? Мелодыя шылераўскага гімна радасці? Не! Хутчэй — гэта бетховенскі гімн свабодзе, роўнасці і братэрству, гімн чалавечаму шчасцю!

Я падымаю галаву і ўглядаюся ў аркестрантаў. Мала, вельмі мала можна ўбачыць на сцэне тых, хто памятае першае выкананне гэтай сімфоніі ў Мінску. Вось з-за пульта бачна сівая галава, знаёмы твар, непадалёк са скрыпкай сядзіць яшчэ адзін стары сябар, бліжэй да аргана — трэцяя знаёмая постаць. Але побач з імі, вакол іх усё маладыя музыканты, яны ўважліва ўглядаюцца ў ноты, упэўнена трымаюць у руках інструменты, і аркестр гучыць па-маладому, як і ў тыя далёкія гады... І калі да вайны выкананне Дзевятай сімфоніі Бетховена было надзвычайнай падзеяй, то цяпер яна даўно ўжо ўвайшла ў «рабочы» рэпертуар аркестра, стала з'явай звыклай, хоць заўсёды і абавязкова ўрачыстай.

Зноў міжволі ўспомніліся пасляваенныя цяжкасці, калі па асобных лістках аднаўлялася нотная бібліятэка, збіраўся аркестр, што носіць цяпер назву Дзяржаўнага, успамінаюцца яго першыя канцэрты, першыя поспехі. Як хутка вырас, узмужнеў гэты калектыў!..

...Музыка набывае ўсё большую і большую сілу, дасягае сваёй кульмінацыі. Велічна і магутна гучыць хор, у адзіным парыве спяваюць скрыпкі, чутны маланкавыя пасажы драўляных інструментаў, а ўсё гэта праразаюць багатырскія воклічы медзі: «Людзі станьце братамі, — нібы звяртаецца да нас кампазітар, — бо толькі там, дзе ўсе людзі браты, радасць становіцца здабыткам чалавецтва!»

Прагучаў і растаў апошні акорд сімфоніі. Хвіліну панавала незвычайная цішыня, а потым у зале зашумелі воплескі. Яны, нібы марскія хвалі, запоўнілі ўсё вакол.

Зала апладзіравала не толькі аркестру, хору, салістам, дырыжору. Гэтыя воплескі гучалі як працяг велічнай сімфоніі геніяльнага кампазітара, які верыў у радасць, свабоду, верыў, што яго музыка будзе блізкая і зразумелая мільёнам людзей, стане неабходнай для іх.

**Дзмітры ЖУРАЎЛЁЎ.**



# ЖЫЦЦЯ НЕ ЎЯЎЛЯЮ ІНАКШАГА...



Часцей за ўсё дзеці выбіраюць спецыяльнасць па сямейнай традыцыі. Асабліва гэта часта здараецца ў музыкантаў, мастакоў, артыстаў... Спецыяльнасць жа маіх бацькоў далёкая ад мастацтва: яны лётчыкі.

У дзяцінстве я захаплялася многім, асабліва любіла танцы. Вучылася ў агульнаадукацыйнай, музычнай і ў балетнай школах. Такая нагрузка неўзабаве адбілася на паспяховасці ў агульнаадукацыйнай школе.

Паўстала пытанне: што ж кінуць — балет ці музыку?

Я, не задумваючыся, сказала: кіну музыку. Але бацькі настаялі на сваім. Пасля дзесяцігодкі я задумалася: якую ж мне выбраць дарогу? Справа ў тым, што я захаплялася хіміяй і вырашыла стаць хімікам. Аднак выпадковая сустрэча з выпускніцай Маскоўскага музычна-педагагічнага інстытута імя Гнесіных, яе цікавы расказ аб прафесіі дырыжора-харавіка павярнулі мае думкі ў іншым кірунку. Я вырашыла — паступаю ў музычнае вучылішча... Паступіла, закончыла... А сёлета я ўжо — выпускніца Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі.

Калі вы спытаеце, ці не памылілася я ў выбары сваёй прафесіі, я, не задумваючыся, адкажу — вядома, не. Больш таго, я проста не ўяўляю свайго жыцця без музыкі, без мастацтва. Спецыяльнасць харавіка вабіла мяне перш за ўсё тым, што я люблю песню, а песня — лепшы сябар чалавека. І яшчэ тым, што інструмент наш — хор, жывыя людзі. А работа з людзьмі, хоць і складаная, але разам з тым цікавая і высакародная.

Не меншую любоў да сваёй харавой спецыяльнасці маюць і мае былыя аднакурснікі Іра Зюванава, Соня Шазалі, Толя Гяцэвіч. Яны будуць працаваць педагогамі ў Маладзечне, Гродна, Барнауле. Самае цікавае і прывабнае ў тым, што нам давядзецца займацца не толькі педагагічнай работай, але і выканаўчай дзейнасцю, галоўным чынам у самадзейных калектывах. У многіх з нас ужо ёсць вопыт гэтай работы. Так Толя Гяцэвіч паспяхова сумяшчаў вучобу ў кансерваторыі з работай у хоры клуба імя Дзяржынскага, Света Лях — у дзіцячым хоры на радыё.

Мне, як кіраўніку Мінскага гарадскога маладзёжнага хору, хочацца расказаць пра свой калектыў. Гэты хор — своеасаблівы букет маладосці, весялосці, задору. У ім удзельнічаюць студэнты політэхнічнага, медыцынскага, тэхналагічнага інстытутаў, універсітэта, інстытута замежных моў, тэхнікумаў, вучылішчаў, вучні старэйшых класаў, урачы, настаўнікі, інжынеры, муляры, слесары.

Іх энтузіязм захапляе і натхняе мяне. Ды і нельга не захапляцца такімі людзьмі. Хор займаецца вечарамі, тры разы ў тыдзень. Каб не прапусціць заняткі, некаторыя яго ўдзельнікі адпрошваюцца з работы, а пасля хору зноў спяшаюцца на работу. Многія харысты пасля заняткаў ідуць працаваць у начную змену.

Акрамя таго, у многіх дома сем'і, дзеці, клопаты...

Вось чаму нараканні некаторых таварышаў на тое, што наша моладзь лёгкадумная, выклікаюць у мяне абурэнне. У апошні час імкненне да харавых спеваў прыкметна вырасла, а спецыялістаў харавога мастацтва ўсё яшчэ, на жаль, не хапае. І мне хочацца, каб шэрагі харавікоў з кожным годам папаўняліся ўсё большай колькасцю здольнай моладзі, якая любіць сваю справу, нясе музычнае мастацтва ў народ.

**Нэля МАЛЮГІНА.**

На арбіту камунізма

Макар ПАСЛЯДОВІЧ

# САЛІГОРСКАЕ ДЗІВА

**Нарыс**

## ЯК ШУКАЛІ СКАРБ

Увесну 1941 года па прапанове рэдакцыі газеты «Звязда» мне давялося разам з Кузьмом Чорным паехаць на Палессе. У Даманавіцкім раёне ў той час праводзіліся вялікія меліярацыйныя работы. Экскаватарамі выпраствалі і паглыблялі балотную раку Іпу. Тысячы людзей, скончыўшы сяўбу, капалі магістральныя каналы і дробныя асушальнікі. Тады яшчэ не было такога багацця меліярацыйнай тэхнікі, якую можна цяпер сустрэць. Але і звычайнымі грабарскімі рыдлёўкамі людзі рабілі шмат.

Усе, хто мог трымаць у руках рыдлёўку, ад цямна да цямна працавалі на балоце, каб да пачатку касьбы асушыць як мага больш дрыгвы. Сакратар райкома партыі Харытон Ксенафонтавіч Дагура, вялікі энтузіяст меліярацыйных спраў, не мог уседзець у сваім кабінеце. Кожны дзень раненька ён заходзіў да нас у гасцініцу, а то і проста весела гукаў праз акно:

— Ну, таварышы раманісты! Паехалі!..

Гэта быў цікавы апавядальнік і летуценнік. З ім ніколі не было сумна. Аднойчы, калі выехалі ўжо з Азарыч і накіраваліся ў вёску Каплічы, Харытон Ксенафонтавіч павярнуўся да нас і запытаўся з усмешкай:

— А вам ніхто не расказваў пра нашага тыгра?

— Не, — адказаў Кузьма Чорны. — Адкуль ён тут, на Беларусі, узяўся?

— Мы і самі не ведаем. Можа, выраваўся з якога звярынца ці збег з вагона, калі перавозілі. Высачыць, бывала, адзінокага чалавека, абваліць на зямлю і цягне, нячыстая сіла, паласавацца ў лес ці на балота...

— Можа, гэта быў не тыгр, а лясун альбо балацянік? — усміхнуўся Кузьма Чорны. — Бачыў хто яго?

— Вось у тым і справа, што ніхто не бачыў! А людзі зніклі. Тады мы напісалі паперку ў Савет Народных Камісараў, каб адпусцілі паляўнічым нашага раёна два пуды пораху на аблавы. Адпусцілі. Не памагло. Пойдзе куды чалавек адзін адным, а дадому не вернецца. Проста няма ніякага ратунку. Давялося прасіць, каб прыслалі вайсковую часць. Прыбыло дзве роты чырвонаармейцаў. Месяц байцы былі на нагах і ўдзень і ўночы. Аднаго разу сядзяць хлопцы ў сакрэце, аж выпаўзае з балотных кустоў нешта вялікае і пісягастае. Адразу яго на мушку. Загрымелі стрэлы. Тады тое пісягастае як заравe, як падскочыць ды кулём зноў у кусты. І з тае хвіліны ўсё стала ціха. І на сённяшні дзень можна ўжо смела хадзіць усюды і заўсёды...

У другі раз, вяртаючыся з асушальных работ, Харытон Ксенафонтавіч паказаў нам буравую вышку на ўзлессі непадалёку ад вёскі Давыдаўкі.

— А тут, таварышы, яшчэ адно даманавіцкае дзіва. Хто б мог падумаць, што схавана ў нетрах зямлі сярод палескіх балот і пяскоў!

Мы пад'ехалі да буравой, вылезлі з машыны. Каля абшытай дошкамі вышкі ляжала некалькі стальных труб, валяліся пачарнелыя абрыўкі тросаў. Навакол было поўна сонца, цеплыні, ніводзін ліст не варушыўся на дрэвах. Дашчаныя дзверы буравой былі на замку.

Харытон Ксенафонтавіч расчаравана махнуў рукою:

— Шкада, што вы не маглі паглядзець на нашых майстроў. Яшчэ, відаць, не вярнуліся з Масквы. Паехалі туды даставаць больш магутны рухавік. У гэтага ўжо не стае сілы браць глыбей...

— А што тут шукаюць?

— Нафту.

Пачуўшы гэта слова, я хутка паклаў папяросу назад у пачак. Харытон Ксенафонтавіч усміхнуўся і махнуў рукою:

— Можна курыць. Да нафты пакуль што не дабраліся. Усё яшчэ ідуць па солі...

— Па солі? Тут знайшлі соль?

— А хіба я вам не казаў? — у сваю чаргу запытаўся Харытон Ксенафонтавіч. — Хіба я вам не даваў яе каштаваць? У мяне ў кабінеце ўсё падваконне засыпана ёю. Звычайная каменная соль... Тая, якою ў нас соляць капусту...

Мы недаверліва пераглянуліся. Ці не падобна гэта на байку пра пісягастага звера? Але твар у сакратара райкома быў сур'ёзны. Кузьма Чорны не вытрымаў і запытаўся:

— І глыбока тут яна ляжыць?

— Да яе восемсот метраў. Ды такі тоўсты пласт, што ніяк не дабрацца з гэтым рухавіком да яе споду. Можаце ўявіць — цэлыя падземныя горы солі! Геолагі мне казалі, яна цягнецца да нас аж з Украіны.

Мы ўжо забыліся пра пісягастага звера-людаеда. Хацелася хутчэй дабрацца да райкома і паглядзець на соль, здабытую з такой глыбіні. Таварыш Дагура толькі ўсміхаўся, наглядаючы, як мы спяшаліся да машыны. Ён расказваў пра спосабы распрацовак такой багатай кладоўкі.

Калі адны спецыялісты прапанавалі будаваць шахты і выбіраць з-пад зямлі соль, як вугаль, дык другія раілі напампоўваць у знойдзеныя паклады ваду. Яна там будзе саланець і пасля выпампоўвацца ўгару, а тут мы ўжо можам рабіць з гэтым расолам, што захочацца. Буравікі, праўда, не ўмешваліся ў спрэчкі пра спосабы распрацоўкі саляной грады. Яны былі незадаволены, што знайшлі соль. Ім патрэбна была нафта.

— Іншая справа, каб у Давыдаўцы была не натрыевая, а калійная соль, — летуценна прамовіў сакратар райкома. — Яна нам цяпер патрэбна, як паветра, як вада. Без калійнай солі нішто на асушаных тарфяніках не парасце. У балоце, як вядома, незлічоныя запасы азоту, але няма калію. Нават цяжка ўявіць, колькі спатрэбіцца калійнай солі штогод, калі рэспубліка асушыць усю дрыгву! Нашы аграномы лічаць, што на кожны гектар павінна высявацца да ста кілаграмаў...

Тады мы загаварылі пра вялікія паклады калійнай солі на паўночным Урале. Там пабудаваны самы сучасны камбінат па вырабу штучных угнаенняў — Салікамскі.

— Дык то на Урале, — запярэчыў Харытон Ксенафонтавіч. — Гэта ж за божы свет! Колькі тысяч вагонаў трэба на адну дастаўку. Не, дарагія таварышы, лепш было б, каб замест сталовай солі мы знайшлі калійную!..

— А хто гэта ведае, — у нейкім задуменні адказаў Кузьма

Чорны, — што схавана ў нетрах нашай зямлі? Можа, мы яшчэ знойдзем у ёй жалеза, медзь, нафту, калі праўда, што пад палескаю дрыгвою ёсць звычайная соль. І такі таўшчэзны пласт...

Мне ўсё яшчэ не верылася, што Харытон Ксенафонтавіч цяпер не выдумляе.

І вось першая здабыча геолагаў. Усё падваконне ў кабінеце сакратара райкома засыпана аскепкамі жаўтаватага колеру. Кузьма Чорны асцярожна ўзяў адзін з іх, пачаў разглядаць доўга і ўважліва.

— Харытон Ксенафонтавіч, — пачуўся нарэшце яго ўсхваляваны голас.— А чаму ў солі такі жоўты колер?

— Вельмі проста, — растлумачыў сакратар райкома. — Ад глiністай рошчыны, якая падаецца ў буравую шчыліну. Зараз вы ўбачыце яе сапраўдны колер...

Ён наліў з графіна ў шклянку вады, укінуў некалькі аскепкаў і пачаў іх прапалоскваць. Неўзабаве аскепкі сталі светла-празрыстыя, і мы пачалі спрабаваць іх на смак.

Гэта была звычайная соль!

Соль, здабытая ледзь не з кіламетравай глыбіні! Бур прайшоў у пласце солі нешта каля ста метраў і яшчэ не дастаў да споду!

Узрушаныя, мы вярнуліся ў Мінск. Трэба было рыхтаваць матэрыял для газеты. Мы дамовіліся хутка яшчэ раз наведацца на Палессе ў Даманавіцкі раён.

Але неўзабаве гітлераўскія орды рынуліся на нашу мірную краіну.

Агонь і смерць забушавалі на беларускай зямлі. Увесь савецкі народ узяўся за зброю, падняўся на абарону сваёй Радзімы.

...Пасля выгнання фашысцкіх захопнікаў зноў пачаліся пошукі падземных скарбаў. Іх намацалі ў многіх месцах рэспублікі найбольш дасканалымі бурамі. Іх выслухоўвалі праз шчыльную тоўшчу пароды дасканалымі сейсмічнымі прыладамі.

Пра вялікія паклады кухоннай, ці, як яе называюць хімікі, натрыевай солі каля вёскі Давыдаўка не вельмі раззвоньвалі ні да вайны, ні пасля яе. Праўда, аднойчы два былыя партызанскія камандзіры накінуліся на мяне з папрокамі, чаму я не паведаміў ім у свой час пра такія каштоўныя запасы. «Мы тады задыхаліся без солі, часта прамывалі калійныя ўгнаенні, а ты маўчаў?» Аднак, даведаўшыся, што давыдаўская соль пакрыта цяжкім васемсотметравым пластам зямлі, адразу супакоіліся і страцілі ўсялякую цікавасць да гэтай тэмы.

Горш было з калійнай соллю. Спустошаныя за час вайны палеткі патрабавалі ўгнаенняў. Апрача таго, яшчэ ў большых памерах, чым да вайны, распачалася асушка спрадвечнай дрыгвы. Меліяратары атрымалі магутныя гусенічныя трактары, экскаватары, бульдозеры, канавакапальнікі... Штогод асушваліся і ўзорваліся многія дзесяткі тысяч гектараў балот. Але не ўсе яны адразу ж засяваліся збожжам і кармавымі раслінамі, бо не ставала мінеральных угнаенняў і галоўным чынам калійных. Вядомы ўжо Салікамскі і пабудаваны пазней Беразнікоўскі хімічныя камбінаты не спраўляліся задавальняць патрабаванні нашых саўгасаў і калгасаў. Таму бадай у кожным раёне дзірванелі сотні гектараў апрацаваных, але незасеяных тарфянікаў. А па ўсёй Беларусі такіх тарфянікаў збіралася дзесяткі тысяч гектараў!

А кожны гектар асушанага балота, як гэта вядома са шматгадовай практыкі, павінен даваць не менш ста пудоў збожжа, альбо тысячу пяцьсот пудоў бульбы, ці гэтулькі ж цукровых буракоў.

Недалёкі той час, калі ўсе нашы балоты будуць асушаны. Але ж для таго, каб чэрпаць з тарфянікаў багацці, патрэбна калійная соль і фосфарныя ўгнаенні. Шмат мільёнаў цэнтнераў калійнай солі штогод! Не стае ў глебе калію, добрага ўраджаю не чакай! Напрыклад, без калію ў раслінах менш тлушчаў, цукру. Без калію расліны не такія трывалыя да марозу і засухі, больш шкодзяць ім розныя грыбковыя хваробы.

Вось чаму з такім вялікім хваляваннем была сустрэта незвычайная навіна, што на Беларусі знойдзены, нарэшце, і калійныя солі. Цяпер ужо не трэба гэтыя ўгнаенні цягаць за многія сотні кіламетраў. Яны тут жа, побач з нашымі балотамі і палеткамі!

Дзівосная соль жыцця! Тая, пра якую марыў да вайны камуніст Харытон Ксенафонтавіч Дагура.

## САЛІГОРСКІ ЛЕТАПІС

Гісторыкі, відаць, і пачнуць пісаць пра Салігорск, як горад першых беларускіх шахцёраў, з таго часу, калі ён быў абвешчаны важнейшай новабудоўляй сямігодкі.

Паколькі лічылася, што ў нетрах беларускай зямлі няма, скараўленне «Шахтспецбуда», якое ўзначаліў інжынер Яфім Ісакавіч Гаўптман. За плячыма ў Гаўптмана быў багаты вопыт будаўніцтва шахт у Падмаскоўным басейне.

Як толькі ў рэспубліканскім і саюзным друку з'явіліся паведамленні пра будаўніцтва першага на Беларусі калійнага камбіната, у Старобін паляцелі пісьмы з розных куткоў краіны. Пісалі іх беларусы з Данбаса і Падмаскоўя, з Урала і Далёкага Усходу: горныя інжынеры і мацавальшчыкі, узрыўнікі і машыністы камбайнаў. Набыўшы веды і вопыт на шахтах братніх



Першы камень і першы дом Салігорска. Верасень 1958 года.

Фота А. Дзітлава.

жам, ні золата, ні жалеза, ні каменнага вугалю, а такія багацці, як торф, вапна, крэйда, ляжаць на паверхні, дык не было вялікай патрэбы і ў кадрах па горнай справе. А тут раптам даводзіцца ўздымаць капры, будаваць шахты на глыбіню некалькіх сот метраў, пракладваць квершлагі, штрэкі на многія кіламетры... Але, як гаворыць народная прымаўка, не святыя гаршчкі лепяць. Калі пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі беларусы навучыліся варыць сталь, дык навучацца здабываць з-пад зямлі і калійную соль. І хто ведае, што яшчэ знойдуць у глыбокіх нетрах беларускай зямлі нашы непакойлівыя геолагі і буравікі!

У Беларусі было створана ўпрэспублік, яны хацелі выкарыстаць іх цяпер на сваёй радзіме.

Кіраўніцтва будаўнічага трэста № 3 размяшчалася тады ў невялічкім драўляным доміку былой машынна-трактарнай станцыі, а інжынеры і рабочыя жылі па хатах калгаснікаў. Але ў чыстым і роўным, як стол, полі ўжо быў пастаўлен атынкаваны слупок з надпісам, што тут будзе пабудаваны горад Нова-Старобінск. Крышку пазней, як толькі вакол гэтага слупка з'явіліся першыя жылыя дамы, загаварылі пра горад пад новай назвай — Салігорск.

Той, хто капаў нават самы звычайны калодзеж ці наглядаў, як гэта рабілі іншыя, добра ведае, што такое плывуны. Не паспее чалавек



Тыя, хто пачынаў будаваць першыя дамы для шахцёраў: Лідзія Барташэвіч і Алесь Клішэвіч — муляры.

выхапіць рыдлёўку вадкага пяску, як гэтае месца зноў запоўнена. Можна капаць без перадыху цэлы дзень і не застанецца ніякага следу. Будаўнікам першых беларускіх шахт раней, чым дабрацца да багатых пакладаў солі, трэба было пераадолець непадкупную і грозную сілішчу плывуноў. А дарога ў нетры была не вузенькая, як у звычайнай студні, а сем метраў у дыяметры! І такіх дарог трэба было пракладваць тры на адзін руднік! Называюцца яны шахтнымі ствaламі.

У гэтых ствалах падвешваюцца сілавыя кабелі для падачы электраэнергіі пад зямлю, тэлефонныя правады, тоўстыя трубы, каб падаваць свежае паветра, і трубы, каб адпампоўваць з глыбіняў ваду. На трывалых стальных канатах падвешваюцца жалезныя пад'ёмнікі — клеці. У іх апускаюць пад зямлю разабраныя канвееры, электраматоры скрэпераў, горнапраходчыя камбайны, выбуховыя матэрыялы, наогул усё, што патрэбна для тых, хто здабывае схаванае ў глыбокіх нетрах дабро. У клецях вывозяць на паверхню людзей, якія скончылі свой напружаны працоўны дзень, тралююць адну за адной ваганеткі з каштоўнай сыравінай альбо са звычайнай горнай пародай.

Сучасны шахтны ствол — гэта складанейшая і добра механізаваная дарога ў нетры зямлі. Дарога, якая павінна заўсёды трымацца ў самым лепшым парадку, дзейнічаць бездакорна ў любую хвіліну. І ў першую чаргу таму, што яна звязана з жыццём і лёсам занятых нялёгкай падземнай працай людзей.

Інжынерная тэхніка ведае некалькі спосабаў аховы ад шалёнага націску грозных плывуноў пры будаўніцтве тунеляў і шахт. На першых беларускіх шахтах вырашана было скаваць плывуны марозам. Для гэтага па ўсёй акружнасці будучага шахтнага ствала на пэўнай адлегласці адна ад адной заганяліся ў зямлю стальныя трубы, у якія са спецыяльнай устаноўкі падавалася адпаведная замарожвальная сумесь. Ад вельмі нізкай тэмпературы ўсё вакол труб змярзае, у тым ліку і плывуны. Так утвараўся вакол катлавана непадатны суцэльны шчыт, каля якога можна было працаваць спакойна і ўпэўнена: выбіраць пароду і манціраваць з чыгунных цюбінгаў сцены шахтнага ствала.

Будаўніцтва шахтных ствалоў у Салігорску пачалося 3 ліпеня 1959 года. Спярша брыгады, у якіх поплеч з рускімі і ўкраінскімі вопытнымі майстрамі дружна працавалі беларусы, праходзілі за дзень крыху больш за паўтара пагонныя метры ствалоў. Потым праходку павялічылі за суткі да двух метраў. Першае месца займала шахтапраходная брыгада Анатоля Селіванава.



Вуліцы і кварталы Салігорска. Ліпень 1963 года.



Першы крышталь беларускага сільвініту.

Анатоль Селіванаў, адзін з лепшых шахтапраходчыкаў нашай краіны, прыехаў на Беларусь з Падмаскоўнага басейна. Як жа было пасля такога кроку свайго сябра аставацца ў Падмаскоўі і беларусу Аляксею Антонавічу Дзялянку? Гэта ж амаль побач з яго роднай вёскай Савічамі пачалі будаваць калійны камбінат. Калі жонка Дзялянкі сабралася праведаць блізкіх на Беларусі, Аляксей Антонавіч, праводзячы яе на вакзал, яшчэ раз напомніў:

— Абавязкова пад'едзь у Салігорск і схадзі там да інжынера Гаўптмана. Намякні яму, што я хачу вярнуцца дадому, а ён ужо ведае, як рабіць далей...

Начальнік упраўлення ахвотна напісаў, каб Дзялянку адкамандзіравалі ў распараджэнне Беларускага ўпраўлення «Шахтспецбуда». Ён памятаў гэтага сціплага юнака яшчэ з суровых дзён вайны. Тады Дзялянку не прынялі ў армію. Пакрыўджаны на строгіх ваенкаматаўскіх дактароў, Аляксей з'явіўся да Гаўптмана з просьбай прыняць яго на шахту.

— А што ты ўмееш рабіць? — пацікавіўся Яфім Ісакавіч.

— Усё, што загадаюць, — шчыра адказаў Аляксей Дзялянка.

І ён сапраўды не адмаўляўся ад любой работы, якою б цяжкаю яна ні была. Ніколі ён не лічыўся са сваім часам, каб толькі даць краіне больш вугалю. Аляксей працаваў і вучыўся. У 1948 годзе ён скончыў курсы горных майстроў і вырашыў назаўсёды застацца ў Падмаскоўі, у калектыве, які яго прыняў і прыгрэў у цяжкія дні вайны.

І раптам такія навіны з Беларусі! І вось Аляксей Дзялянка з Падмаскоўя ў Салігорск едзе дадому горным майстрам, спецыялістам асобай кваліфікацыі.

Неўзабаве ў Салігорску пачала выходзіць шматтыражная газета «За камуністычную працу». Рэдакцыя завяла цікавы дзённік падзей, якія адбываліся на старобінскай зямлі.

...На адкрытай пляцоўцы адбыўся шматлюдны мітынг будаўнікоў. Прынята рашэнне прысвоіць комплекснай брыгадзе УНР-123, якую ўзначальвае Вечаслаў Марук, імя героя-партызана Івана Чуклая, а брыгадзе цесляроў, якой кіруе Іван Зяневіч, — імя партызанскага камісара Мікіты Бандараўца.

...Камсамольцы УНР-123 дружна выйшлі на нядзельнік па азеляненню Салігорска. Яны пасадзілі каля 2 тысяч пладовых дрэў.



Перад пачаткам змены на другім рудніку. Тут пакуль гаспадараць шахтапраходчыкі.

...У Салігорску пачала працаваць лазня з душавымі ўстаноўкамі.

...Здадзены ў эксплуатацыю клуб будаўнікоў.

...Мінскі мастацкі інстытут падарыў клубу барэльефы Карла Маркса і Уладзіміра Ільіча Леніна.

...Дзесяцімесячны план шахтабудаўнікі выканалі датэрмінова. За добрыя поспехі ў перадкастрычніцкім спаборніцтве імёны пяці шахтабудаўнікоў — А. Селіванава, М. Волкава, Д. Хахлова, І. Тоўсцікава і А. Чавінскага — занесены



Брыгада шахтапраходчыкаў. Яны першыя заглыбіліся ў нетры салігорскай зямлі. Звеннявы Іван Тоўсцікаў (падняў першую бодню пароды), горны майстар Павел Архіпенкаў, праходчык Аляксей Чамбараў, ветэран праходчай справы Мікалай Сундукоў, начальнік участка Яўген Кабанаў і праходчык Віктар Марыніч.

ў Кнігу гонару будаўнічага ўпраўлення.

...Па ініцыятыве камітэта камсамола ў інтэрнатах абвешчаны конкурс на лепшы пакой. Пераможцам конкурсу будуць уручаны прызы.

...Палігон завода жалезабетонных вырабаў даў першую прадукцыю — некалькі дзесяткаў пліт для цеплатрасы.

...Варвара Васільеўна Кальцова, жонка слесара шахтапраходчага ўпраўлення, нарадзіла двух хлопчыкаў-блізнят. Гэта першыя блізняты, народжаныя ў Салігорску. «Два будучыя шахцёры!»

...Заселены 16-кватэрны дом. У гэтым доме атрымалі кватэры электразваршчык, горны майстар, прараб...

...Шахтапраходчым звенням І. Пракудзіна і Д. Бухарына прысвоена званне калектываў камуністычнай працы.

...Званне ўдарнікаў камуністычнай працы прысвоена васьмі лепшым шахтабудаўнікам: Н. Герасімені, В. Сінякову, П. Пашкову, І. Зайко, М. Каранько, В. Сучкову, І. Лопецу, В. Шэху.

...У клубе будаўнікоў пачаўся рэгулярны паказ кінафільмаў. «Салдат Іван Броўкін на цаліне» — першы кінафільм, які ўбачылі салігорцы ў сваім клубе.

...Пачало працаваць аддзяленне сувязі...

...Каманда лыжнікаў УНР-122 заняла першае месца. Ёй уручаны граматы і кубак.

...Члены брыгады Івана Чабатара (УНР-122) прынялі выклік брыгады Стральцова (Нафтабуд) на сацыялістычнае спаборніцтва.

...Вуліцы Салігорска атрымалі назвы: імя Ленінскага камсамола, Будаўнічая, Чыгуначная, імя Гуляева, Чуклая, Бандараўца.

...30 красавіка 1960 года. На глыбіні 414 метраў ствала № 2 Салігорскага калійнага камбіната ўскрыты прамысловы гарызонт солі і паднята на-гара першая бодня з калійнай соллю.

Прагрымеў першы выбух, які абвясціў пачатак гарызантальных горных выпрацовак на шахтах калійнага камбіната.

Гэта звычайныя скупыя газетныя радкі пра тое, як нараджаўся новы горад беларускіх шахцёраў, як пачыналася яго працоўная слава.

Першага мая 1960 года на святочным парадзе ў Мінску салігорскія гарнякі правезлі па Цэнтральнай плошчы першую бочку старобінскай калійнай солі. Яе ружаватыя крышталі цёпла пабліскваді пад яркім веснавым сонцам. Горача сустрэла сталіца беларускіх шахцёраў і першы плён іх натхнёнай працы. Тысячы людзей на трыбунах гарачымі воплескамі віталі іх з выдатнай працоўнай перамогай.

Старобінская калійная соль пайшла на-гара менш як праз два гады!

Праўда, гэта была пакуль што спадарожная прадукцыя ўчастка горна-капітальных работ, здабытая будаўнікамі падземных праспектаў і вуліц — квершлагаў і штрэкаў. Соль гэта перамолвалася, і яе адразу ж забіралі саўгасы і калгасы.

Міналі дні і месяцы. Усё далей і далей адыходзіліся ад стваловў праходчыкі. У Салігорск прыбывалі штрэка-буравыя машыны, ці, як іх тут называюць, камбайны. Іх адразу ж запускалі ў работу. Нішто падоўгу не затрымлівалася на паверхні зямлі: шырачэзныя стальныя каўшы скрэпераў, тоўстыя тросы, электраматоры, бясконцыя пасы канвеераў, ваганеткі, доўгія трубы для падачы паветра ў забой, анкернае мацаванне шахты — усё гэта адно за адным знікала ў чорнай гарлавіне ствала. Малады руднік узбройваўся самай навейшай тэхнікай.

Камбайн за камбайнам станавіліся ў забой, каб з дня ў дзень павялічваць агульную здабычу рудніка. Разам са спрактыкаванымі майстрамі горача браліся за работу і навічкі. Партыйная арганізацыя будаўніцтва калійнага камбіната зрабіла нямала, каб стварыць і згуртаваць гарняцкі калектыў. За кароткі час у Салігорску было падрыхтавана 600 шахтапраходчыкаў. У новым горадзе адкрыўся горнахімічны тэхнікум. З Расійскай Федэрацыі і Украіны прыехалі ў Салігорск на сталую працу вопытнейшыя спецыялісты: геолагі, маркшэйдары, інжынеры-механікі. Цудоўная садружнасць людзей розных нацыянальнасцей утварылася тут.

## МОЙ ЗЯМЛЯК

Здаецца, нядаўна гэта было...

І Анатоль Селіванаў і Аляксей Дзялянка пільна ўглядаліся ў бліскучую ружаватую сцяну, якая пры святле электрычных ліхтароў адразу зажыла і задыхала цеплынёй сваіх крышталяў. Так стаялі яны, акружаныя сваімі таварышамі-праходчыкамі, нібы зачараваныя, моўчкі, адну хвіліну, другую. Потым горны майстар ступіў пару крокаў наперад, правёў шырокай далоняй ласкава па шурпатай паверхні ружовай сцяны і сказаў ціхім і нейкім няроўным голасам:

— Ну, добры дзень табе, наша соль!

— Не проста соль, Аляксей Антонавіч, — весела папраравіў майстра брыгадзір Селіванаў. — А каштоўны сільвініт, верны сябар вялікіх ураджаяў. Вы толькі зірніце, хлопцы, якое хараство! Ружовыя пласты, мутна-светлыя, зноў ружовыя. Нібы той казачны пірог!

«Пірог», пра які яны гаварылі, аказаўся, як пасведчылі геолагі, вельмі ж ужо агромністым. Неўзабаве і Селіванаў і Дзялянка былі накіраваны на праходку стваловў другога калійнага камбіната.

Хоць для надземных збудаванняў першага калійнага камбіната яшчэ трэба было зрабіць шмат, але пад зямлёю руднік ужо з дня на дзень выконваў дзяржаўныя планы. Няспынна падымаліся на-гара

(Праця́г на стар. 130).

# ЛЮБАСЦЬ ДА РОДНАГА КРАЮ

Нядаўна выстаўка работ народнага мастака БССР Віталія Канстанцінавіча Цвіркі ў Маскве была прыхільна сустрэта сталічнымі знаўцамі і аматарамі выяўленчага мастацтва. Пазней гэтая выстаўка была наладжана ў Мінску.

Любасць мастака да Беларусі, шчырая цікавасць да яе мінулага, сучаснага і будучага не могуць не кранаць, не хваляваць чалавека, нават калі раней ён і не быў знаёмы блізка з гэтым краем.

Менавіта ўлюбёнасць у свой родны край, непасрэдная і шчырая ўвага да яго лёсу робяць творчасць Цвіркі блізкай, хвалюючай, зразумелай не адным землякам мастака.

«Мікалаеўшчына»... «На рацэ Вяча»... «Мінскае мора»... «Раўбічы»... «Вёска Русакоўшчына»... Мне даводзілася бываць у многіх з тых мясцін, якія выбраў мастак для ўвасаблення ў жывапісу. Але прыглядаешся ўважлівей і пачынаеш разумець, што не толькі падабенства пейзажа хвалюе цябе. Што падабенства! Яно даступна аб'ектыву самага звычайнага аматарскага фотаапарата. А, гледзячы на карціну, адчуеш раптам тое, што адчуваў аўтар, шукаючы на сваёй палітры адпаведныя фарбы... Ён знайшоў гэтыя фарбы! І перадаў імі не толькі стан прыроды, але і стан унутраны, душэўны стан, свой настрой, свае пачуцці, якія валодалі ім у часе творчага натхнення.

Вось дзве работы, названыя амаль аднолькава: «Сакавік» і «Сакавік. Халодны дзень». Якая розніца ў настроі! Як па-рознаму чытаюцца абодва пейзажы! І там і тут — вясна. Але ў першым выпадку яна ўладарна крочыць па зямлі, што абудзілася ўжо ад доўгага зімовага сну і прагне сонца. У другім — вясна на нейкі момант прыпынілася. Яна не адступае, не! Але паўночныя вятры прымусілі яе прытуліцца да адталай зямлі. Розныя пачуцці, розныя выяўленчыя сродкі, розны каларыт.

І яшчэ дзве работы з зусім аднолькавымі назвамі: «Ля млына». Датаваны яны адным годам. І напісаны, відавочна, у адным месцы. Блізкія яны і па манеры пісьма, і па каларыту. А вось па сэнсу, па гучанню — розныя. На адным з палотнаў мы бачым проста пейзаж, які дакладна адпавядае сваёй назве. Але гэта, напэўна, не задаволіла мастака, не вычарпала да канца яго творчай задумы. І вось — другое палатно. На гэты раз аўтар увёў у сюжэт людзей.

Чалавек прыехаў на млын. Яго сустракае прыгожая мажная кабета. Яна ў чырвонай кофце і белай хустцы. Твар яе свеціцца. Яна, відаць, рада сустрэчы. А чаму ён такі пахмуры? Можа, жыццё ў яго склалася не так, як хацелася? Можа, раней яны кахалі адзін аднаго і ён сам вінаваты ў тым, што лёс раздзяліў іх...

Магчыма, аўтар і не меў гэтага на ўвазе. Але я так прачытаў абедзве работы і спадзяюся, што многія са мною згодзяцца. Ва ўсякім разе добра тое, што пейзажы В. Цвіркі амаль заўсёды прымушаюць задумацца.

Я не памылюся, калі скажу, што амаль кожны пейзаж Цвіркі гучыць, як самастойны верш. А ўсе разам яны складаюць пранікнёную і шчырую паэму высокага лірычнага гучання, паэму аб хараստве роднай зямлі, людзей, якія жывуць і працуюць на ёй.

І вось — заключны раздзел паэмы, апафеоз: «Мая Радзіма». Мастак і тут астаецца верны сабе. Ён не ўпадае ў танную рыторыку, ён далёкі ад плакатнай публіцыстыкі, не шукае крыклівых фарбаў.

Лагчына... пагорак... ельнічак... Толькі што прайшла навальніца. Прырода яшчэ не пазбавілася трывогі: ці не вернецца чорная хмара?.. А з-за пагорка ўзнімаецца сонца. Яно яшчэ толькі ўваходзіць у сілу. На яго яшчэ можна глядзець, не жмурачы вачэй... Але няма ўжо ніякага сумнення: дзень будзе ясны, сонечны. Бачыце, як ярка гараць чырвоныя кветкі? Іх адразу не заўважаеш, хоць яны і на першым плане...

Чым больш пільна разглядаеш гэтую выдатную работу, тым больш узнікае асацыяцый. «Мая Радзіма» — твор нешматслоўны, лаканічны і ў той жа час надзвычай глыбокі па сэнсу, ёмісты па думках і пачуццях. Як зноў і зноў можна перачытваць любімую кнігу, так бясконца можна разглядаць гэтае палатно і заўсёды знаходзіць нешта новае, не ўбачанае раней.

**Артур ВОЛЬСКІ.**



# ХАРАСТВО ЖЫЦЦЯ

У 1945 годзе Віталь Канстанцінавіч Цвірка напісаў карціну «Палонных вядуць». Яе змест быў навеяны падзеямі партызанскай вайны на Беларусі. Нікчэмнымі і агіднымі выглядаюць на карціне палонныя акупанты, якіх канваіруюць партызаны. Падзея адлюстравана на фоне беларускай вёскі, якую любіць і добра ведае мастак. У вёсцы Радзеева, на Гомельшчыне, у 1913 годзе ён нарадзіўся, тут настаўнічалі яго бацькі, тут прайшлі гады яго юнацтва.

Праз два гады пасля вайны В. К. Цвірка напісаў карціну «Нескароныя». Ён зноў звярнуўся да беларускай вёскі часоў фашысцкай акупацыі. На вясковай вуліцы гітлераўскія карнікі чыняць жудасную расправу. Каля слупа стаіць са звязанымі рукамі патрыёт. За два крокі ад яго — спакойныя, прывыкшыя да чалавечай крыві каты. Да месца пакарання сагнаны жыхары вёскі. Над галовамі людзей навісла цяжкае шэрае неба. Сіратліва стаяць адзінокія хаціны. З горда ўзнятай галавой, яшчэ зусім малады, але знясілены савецкі чалавек з агідай пазірае на фашысцкіх катаў.

Пабудаваная на жыццёвым вострым канфлікце карціна выклікае гнеў і абурэнне да акупантаў, нараджае светлыя пачуцці да тых савецкіх патрыётаў, што сталі насмерць.

У наступныя гады В. К. Цвірка звяртаецца да тэм мірнага жыцця народа і ўсё болей увагі аддае пейзажнаму жывапісу.

Але мастака захапляе не толькі беларуская прырода. Ён едзе на будаўніцтва Куйбышаўскай ГЭС, піша панарамныя пейзажы вялікай будоўлі, шырокія ўлонні рускай ракі. Вынікам гэтай паездкі з'явілася некалькі цікавых пейзажаў, і лепшы з іх — «Будаўніцтва Куйбышаўскай ГЭС».

Як і ў кожнага мастака-пейзажыста, у В. К. Цвіркі ёсць свае ўлюбёныя мясціны, якія яму асабліва блізкія і дарагія. Адной такою мясцінай з'яўляюцца для В. К. Цвіркі лагойскія ваколіцы з іх маляўнічымі краявідамі.

У пейзажы «Лагойск» мастак узнімаецца да абагуленага вобраза прыроды ўсёй Беларусі. Пейзаж «Лагойск» набыты для Маскоўскага ўніверсітэта на Ленінскіх гарах, і яго кожны дзень бачыць моладзь з самых далёкіх куткоў свету. Другі пейзаж В. К. Цвіркі — «Каля млына» — набыла Львоўская дзяржаўная карцінная галерэя.

У 1956 годзе мастак цэлае лета працаваў на возеры Нарач. Тут ён напісаў некалькі пейзажаў, лепшымі сярод якіх можна лічыць «Возера Нарач» і «Хата рыбака».

Для В. К. Цвіркі пейзажы, створаныя на возеры, мелі асаблівае значэнне. Мастака захапіла не толькі паэтычнае харaство Нарачанскага краю, але і яго гісторыя, у прыватнасці паўстанне нарачанскіх рыбакоў у 1935 годзе, якое было выклікана тым, што польскі ўрад забараніў сялянам лавіць у возеры рыбу, перадаўшы гэтае права толькі арандатарам.

Доўга і настойліва вырашаў В. К. Цвірка задуму сваёй карціны. Дзесяткі эскізаў і многа малюнкаў было зроблена да таго, пакуль вызначылася кампазіцыя твора. На карціне народ паказаны моцным і непахісным у сваёй барацьбе. Адзінадушна выйшлі жыхары вёсак на бераг Нарачы, каб выказаць сваё абурэнне жандарам, што прыйшлі абвясціць ганебны ўказ.

У тэматычных кампазіцыях і пейзажах В. К. Цвіркі нельга не заўважыць імкнення да шырокіх абагульненняў, да стварэння эпічных вобразаў Радзімы. Гэтае імкненне выявілася і ў вялікай кампазіцыі — трыпціху «На зямлі беларускай». Трыпціх створаны як лірычная паэма, у якой мастак імкнецца ў разгорнутых формах паказаць працаўнікоў калгасных палёў, шукае арганічнага адзінства душэўнага хараства шчаслівых людзей працы з харaством роднага краю.

Да апошняга часу В. К. Цвірка працаваў амаль поўнасцю ў галіне алейнага жывапісу. У апошніх пейзажах — «Мосцік», «Вясна прыйшла», «Паводка», «Вёска Кісялі», «Вясна», «Бярозкі» і радзе іншых з гэтай серыі — мастак паказаў сябе бліскучым майстрам акварэлі. Веснавая серыя акварэльных работ прасякнута светлымі пачуццямі. Лепшыя з пейзажаў успрымаюцца як акорды адной вялікай сімфоніі, прысвечанай беларускай вясне.

Віталь Канстанцінавіч Цвірка знаходзіцца ў поўным росквіце свайго таленту. Яго натхняе хараство шматграннага жыцця роднага народа, які паспяхова здзяйсняе велічную праграму камунізма.

**Пятро ГЕРАСІМОВІЧ.**



**Яўген Жэўжык — галоўны інжынер першага рудніка.**

ваганеткі сільвініту, якія перакульваліся ў бункеры солемлыноў.

У штрэках і забоях здзіўляе малалюднасць. Толькі па квершлагу аднекуль з далечыні ціха плыве і плыве да ваганетак бясконцая істужка транспарцёра з ружовымі кавалкамі руды. І толькі ў самай глыбіні забоя, адкуль чуваць рытмічны грукат камбайна, мільгане адна-другая постаць чалавека. Складаную машыну ў час работы абслугоўваюць тры чалавекі: машыніст, яго памочнік і скрэперыст. Метр за метрам уразаецца камбайн у ружаватую сцяну сільвініту, звальваючы яго на шырокі коўш скрэпера.

Усюды тут электраматоры. Выконваючы волю чалавека, яны круцяць бадай трохметравы цяжкі ротар камбайна з вострымі стальнымі зубамі, лябёдку скрэпера, бясконцую істужку транспарцёра, перавозяць людзей і соль, пампуюць у забой свежае паветра. Рабочы і не дакранаецца рукамі да каштоўнай солі.

Напоўнены коўш скрэпера выцягваецца стальным тросам з забоя да шырокай істужкі транспарцёра, які нясе соль бліжэй да шахтнага ствала. Тут яна згружаецца ў ваганеткі. Нагружаная ваганетка заганяецца ў пад'ёмную клець і падымаецца на паверхню.

Дзіўная справа! Ідзеш адзін у квершлагу, асабліва там, куды не даходзіць напружаны шоргат камбайнаў, і цябе не пакідае моцнае ўражанне, што ты, як тая пылінка, загубіўся ў нейкай нават няўяўнай далёкай мінуўшчыне. Каб не бясконцая шырокая істужка канвеера, якая амаль нячутна нясе на сабе калійную соль, і не падвешаныя на кранштэйнах тоўстыя жылы сілавога кабелю, не электрычныя лямпы, дык можна было б падумаць, што ты знаходзішся ў нейкім казачным сне.

Ідзеш нібы ўздоўж роўна і чыста падрэзанага хвалямі марскога берага, ярка асветленага сонцам. Бясконца цягнуцца ўнізе пласты звычайнай солі, палісківаючы халаднаватым святлом крышталяў, крышку вышэй сцяна ўжо ружаватага колеру, які, пастуова набрыняўшы мяккай і цёплай чырванню, зіхаціць ціхім і таямнічым полымем.

Там, на паверхні, калі я разам з інжынерам па тэхніцы бяспекі Яўгенам Жэўжыкам заходзіў у клець, была веснавая халепа, імжыў халодны дождж. А тут цёпла і суха. Нідзе не відаць ні кропелькі вільгаці. Вада, як вядома, вораг саляных пакладаў. Прырода, нібы разумная і свядомая ахоўніца, старанна і надзейна прыкрыла гэтае каштоўнейшае дзіва нетраў таўшчэзнымі пластамі мергелю і гліны.

За самы кароткі час простыя і сціплыя савецкія людзі, натхнёныя вялікімі планамі роднай Камуністычнай партыі, сваёй самаахвярнай працай, працарабілі шырокую дарогу да першабытных каштоўнейшых пакладаў.

Мяне пазнаёмілі з Леанідам Адамавічам Булгаком. Выявілася, што Леанід Адамавіч — мой зямляк, родам з-пад Пухавіч. Колькі давялося яму пажарыць у маленстве! Бацька памёр, калі Леаніду быў год. Падлеткам ён убачыў у сваёй роднай вёсцы банды гітлераўскіх галаварэзаў. Яны расстралялі яго





**Знатны шахцёр Леанід Булгак у кругу сваёй сям'і.**
Фота **У. Дагаева.**

маці. Пасля вызвалення Беларусі ад крывавых акупантаў Леаніда выхаваў і вывучыў дзіцячы дом. Скончыўшы рамеснае вучылішча, хлопец паступіў працаваць на аўтазавод слесарам-наладчыкам.

Калі камсамол звярнуўся з заклікам да моладзі памагчы важнейшым новабудоўлям, Леанід Булгак адным з першых з'явіўся ў райком. З камсамольскай пуцёўкай ён паехаў на шахту «Арцём-1». Працуючы там гарняком, выконваў па паўтары-дзве нормы. Булгак не вытрымаў, калі пачуў пра будаўніцтва калійнага камбіната каля Старобіна. Прыехаў у Салігорск.

Тое, што ён тут убачыў, напоўніла яго сэрца радасцю і гордасцю. Непадалёку ад ціхай і светлай палескай рэчкі Случ паўставаў новы горад.

Каб не траціць марна часу, Леанід Булгак папрасіўся слесарам на солемлын.

Нарэшце прыйшлі доўгачаканыя камбайны, і Леанід Булгак узяўся са сваімі напарнікамі за работу. Камбайн быў спушчаны пад зямлю і зманціраваны там на два дні раней вызначанага тэрміну.

Гэта быў пяты камбайн у Салігорску. Як на зло, ён прыбыў на камбінат з заводскімі дэфектамі. Адна з дэталей пярэдняй пліты была з бракам. Некаторыя прапанавалі паслаць рэкламацыю заводу. Леанід Булгак рашуча паўстаў супраць:

— Што? Рэкламацыю? Дык яны будуць там валаводзіць цэлы месяц! А навошта тады тут механічны цэх? Не, давайце паправім усё самі!

І выправілі.

У першы дзень работы камбайн, які ўключыў машыніст Піліп Шалыгін, прайшоў дванаццаць пагонных метраў.

З таго дня выпрацоўка ўсё павялічвалася і павялічвалася. Цяпер экіпаж, які ўзначальвае Леанід Булгак, праходзіць за суткі ў пласце сільвініту па 25—26 пагонных метраў замест 21 метра па норме. За адзін месяц экіпаж камбайна даў сельскай гаспадарцы тысячу дзвесце тон сільвініту звыш плана.

Людзі, што працуюць з Леанідам Булгаком, сышліся ў Салігорску з розных абласцей. Піліп Шалыгін прыехаў з Салікамска, скрэперыст Раман Кулінчык, як гавораць, тутэйшы — з Магілёўшчыны. Ну, а машыніст Леанід Перапечка, можна сказаць, і нарадзіўся і выгадаваўся над самымі салігорскімі скарбамі. Калектыў малады, але дружны, напорысты і ўважліва сочыць за тым, што робіцца і навакол Салігорска і па ўсёй нашай Радзіме.

Працоўныя першага беларускага горада шахцёраў выбралі Леаніда Адамавіча Булгака дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР.

Інжынер Яўген Жэўжык прыехаў у Салігорск з Крывога Рога. У Крывым Розе ён скончыў горны ін-

стытут, амаль тры гады працаваў на шахце «Гігант». Спярша майстрам, потым памочнікам начальніка ўчастка, начальнікам участка. У Салігорску яго выбралі сакратаром камітэта камсамола камбіната. Я ўпершыню спаткаўся з ім увесну 1962 года, калі мы разам спускаліся пад зямлю. У той час Яўген Жэўжык працаваў тут інжынерам па тэхніцы бяспекі. Вандруючы з ім па ружаватых штрэках і забоях, я распытваў Яўгена, як яму, украінцу, спадабаліся беларускія шахты, ці каштаваў ён калі нашы славутыя грушы — слуцкія бэры?

Вельмі падобны з твару на вядомага французскага акцёра Філіпа Жэрара, Яўген Жэўжык весела ўсміхнуўся:

— Вядома, каштаваў. Вы калі-небудзь былі ў Васілевічах?

— У якіх Васілевічах?

— Ну, што паміж Гомелем і Калінкавічамі. Гэта мая радзіма. Там я скончыў сярэднюю школу. Адтуль паехаў вучыцца ў Крывы Рог... А потым пачуў, што робіцца на Старобіншчыне, не так ужо далёка ад маіх родных Васілевіч, і мяне пацягнула ў сваю рэспубліку...

Вось табе і ўкраінец! Вось табе і Філіп Жэрар!

Яўген Жэўжык — адзін з многіх маладых савецкіх інжынераў, якія прагна цягнуцца да ўсяго лепшага і прагрэсіўнага ў горнай справе, у нашым грамадскім жыцці. Яго любяць і паважаюць у дружным і напорыстым шахцёрскім калектыве за вялікую чалавечую сціпласць і за непакойлівы творчы розум.

...Мне здаўна палюбіліся атуленыя зелянінай садоў ціхія вёскі Старобіншчыны, светлыя хвалі Случы, высокае неба над бязмежнымі калгаснымі палямі. Цяпер, калі там выраслі высачэзныя стальныя капры першых беларускіх шахт, беласнежныя кварталы маладога горада, старобінская зямля папрыгажэла яшчэ больш. Мінае паўгода, самае даўжэйшае год, і мне ўжо нястрымна хочацца паехаць у Салігорск, у горад юнацтва, у горад-асілак.

За час пасля апошняй сустрэчы з будаўнікамі і солездабытчыкамі ў Салігорску яшчэ сотні сем'яў справілі наваселле, яшчэ адна стальная вежа капра падпёрла блакіт неба. Два вялізных, як горы, сховішчы сільвініту заканчваюць будаўнікі. Пабольшала галерэя партрэтаў наватараў, якія самааддана працуюць і на зямлі і ў яе глыбокіх нетрах.

Пытаюся ў сустрэчных знаёмых пра аднаго, пра другога. І пра інжынера па тэхніцы бяспекі Яўгена Жэўжыка.

— Што вы, што вы! — адказваюць мне. — Інжынерам па тэхніцы бяспекі працуе новы таварыш. А Жэўжык даўно прызначаны галоўным інжынерам рудніка...

## ДЗЕ МЯЖА ДЗІВУ?

...З усіх прамысловых дзіў, якія ствараюцца ў нашай рэспубліцы па планах сямігодкі, Салігорскае, відаць, найбольшае. І галоўным чынам па сваёй свежасці.

Няхай сабе Бярозаўская электрастанцыя — самая магутнейшая з усіх, якія калі-небудзь будаваліся на Беларусі. Няхай сабе Полацкі нафтаперапрацоўчы камбінат і Светлагорскі камбінат штучнага валакна будуць не меншыя па важнасці для народнай гаспадаркі, чым, скажам, трактарны і аўтамабільны заводы, але ж гэта надземныя прадпрыемствы. А вось першыя шахты рэспублікі, іх магутныя ствалы ў глыбокія нетры зямлі, таямнічы ружовы бляск сцен квершлагаў і штрэкаў... Не, такога не было раней у краіне лясоў і балот!

І шмат людзей вельмі ахвотна едзе ў Салігорск. Прыязджаюць сюды часта артысты і мастакі, лектары і журналісты. Зрабіўшы сваю справу, многія з іх просяць у начальніка рудніка дазволу спусціцца пад зямлю паглядзець на векавечнае дзіва старобінскіх нетраў. Начальнік рудніка часам моршчыцца ад такіх досыць частых просьбаў. А спусціць у шахту і пасля падняць на паверхню чалавека, ці нават цэлую групу цікаўных старонніх людзей — гэта значыць на некалькі ваганетак недавыканаць план змены. Бо ў клець з ваганеткай пускаць чалавека, як спадарожніка, не дазваляецца. Даводзіцца тады гаспадарам рудніка адкладваць падарожжы частых гасцей на пачатак адной і канец другой змен шахцёраў, на так званую перазменку.





Хораша на рэчцы Случ і дарослым — будаўнікам з брыгады, якой кіруе Васіль Нікіценка...

Каб клеці не хадзілі туды-сюды без карыснай нагрузкі, апрача начальніка рудніка, зацікаўлены і работнікі пад'ёму. Усё ў іх разлічана не на хвіліны, а на секунды. Было падлічана, што цыкл пад'ёму клеці пры выдачы сільвініту на-гара складае 161 секунду. Змена пад'ёму, якую ўзначальвае таварыш Мартынаў, і змена руднага двара, дзе гаспадар таварыш Пунтус, сэканоміла на кожным цыкле 59 секунд. Таму на-гара было выдадзена за змену дадаткова 40 ваганетак сільвініту.

Вось чаму начальнік рудніка часам задумваецца, калі ў яго просяць дазволу паглядзець на падземнае дзіва. Вядома, прыемна пасля слухаць розныя добрыя словы, шчырую падзяку за азнаямленне з квершлагамі, штрэкамі, забоямі, камбайнамі і людзьмі на рабочых месцах. Прыемна адказваць усмешкай на ўсмешку...

З многіх соцень людзей, якія спускаліся летась пад зямлю, адзін толькі чалавек не ўсміхаўся начальніку рудніка. Наадварот, глядзеў на яго холадна, нават непрыязна. І выгляд у яго быў вельмі незалежны, вельмі строгі.

— Я, Уладзімір Пятровіч, як вам вядома, інспектар па ахове працы, — пачаў панура гэты чалавек. — Мяне проста здзіўляе, што вы, такая адказная асоба, вопытны інжынер, так спакойна парушаеце



...і асабліва дзецям.

нашы дзяржаўныя законы. Я гэтага ад вас не чакаў...

Яшчэ нічога не разумеючы, Уладзімір Пятровіч здзіўлена глядзеў на разгневаны твар інспектара.

— Гаварыце канкрэтна, што здарылася?

— Вы яшчэ пытаецеся, што здарылася! — усхапіўся з крэсла

інспектар. — А жанчына пад зямлёю?

— Якая жанчына?

— Як бы вы не ведаеце! Тая, што загадвае кладовай.

— Ну і што? Даражэнькі чалавек! Яна сама папрасілася на гэтую работу. Што ж тут благога?

— А тое, што наш закон стаіць на варце інтарэсаў жанчыны. Ёй нельга працаваць на падземных работах, якія б добрыя ўмовы там ні былі створаны. Майце гэта на ўвазе. Тут, на паверхні, калі ласка, вы можаце даць ёй якую хочаце пасаду... Інакш я вымушаны буду прыцягнуць вас да строгай адказнасці!

Дарэмна начальнік рудніка даводзіў, што гэтая адзіная жанчына ў шахце вельмі любіць сваю работу, што ёй не вельмі ўжо весела будзе з ёю расставацца.

Інспектар застаўся непахісны.

...Любяць свой горад салігорцы. І, відаць, не праменяюць яго на ніякі іншы. Прыгожыя тут вясновыя і летнія раніцы і не менш прыгожыя вечары. Паветра тут чыстае і цёплае, і далёка відаць з акон бяскрайнія далячыні. Было нямала выпадкаў, што людзі прыязджалі ў Салігорск, як гаворыцца, толькі ў разведку, у агледзіны, ды так і заставаліся тут назаўсёды. Спадабалася ім вельмі мясцовасць, людзі, вялікія іх справы. Добрага чалавека тут заўсёды прымаюць са шчырай душою, падтрымаюць яго і ў дырэкцыі калійнага камбіната, і ў партыйным камітэце. Толькі, калі ласка, працуй добрасумленна, праяўляй, як здолееш, свае лепшыя якасці, трымайся ў калектыве і ў сям'і палюдску. Усюды табе пашана і павага.



Раўеснікі Салігорска. Можа давядзецца і ім кіраваць горнымі камбайнамі.

У Салігорску ствараюцца не толькі добрыя ўмовы для працы чалавека пад зямлёю і на яе паверхні, але і шмат ужо зроблена для адпачынку. Гэта добраўпарадкаваныя кватэры і інтэрнаты, клуб будаўнікоў, выдатны шырокаэкранны кінатэатр. У бібліятэцы можна знайсці патрэбную табе кнігу. Многія салігорцы пасля работы наведваюць вячэрнія школы.

Нямала ёсць сярод шахцёраў ахвотнікаў павандраваць у вольную хвіліну са стрэльбай па суседніх палетках, каб хораша падзівіцца, як хітра пятляюць перад сваім аснежаным лёжышчам касавокія зайцы. Няхай не заўсёды ты вяртаешся са здабычай, але гэта вельмі здорава падыхаць свежым паветрам, паслухаць ласкавыя шэпты першай парошы пад нагамі.

Рыбаловаў-аматараў, як і ўсюды, у Салігорску, вядома, больш, чым паляўнічых. Калі ласка, пабач рака Случ. А ў ёй вусатыя ракі, шустрыя плоткі, заўсёды прагавітыя акуні і граза вадзяных нетраў — драпежныя шчупакі, якія хапаюць усё — начэпленага на кручок чарвяка, плотку, з дзікаю прагнасцю накідваюцца на бліскучую блешню спінінга.

І зусім не страшна, калі выцягнеш кілаграмовага драпежніка, а пасля пачнеш выхваляцца, што ён важыў пяць кіло і шэсцьсот пяцьдзесят грамаў...

Ну, а як быць з тымі, хто не займаецца ў вольную хвіліну ні кнігамі, ні кіно, ні рыбалкай, а стараецца не мінуць ніводнай зручнай чаркі?

Падышлааднойчы да клеці чарговая змена шахцёраў. Усе людзі ў спецвопратцы, з электрычнымі ліхтарамі. Чакаюць, калі можна будзе зайсці ў клець, ажыўлена гамоняць, хто як правёў свой выхадны дзень. Адзін таксама раскрыў рот, каб нешта сказаць. І ўся група шахцёраў раптам сціхла і насцераглася. Бо ў першую чаргу пачулі не чалавечыя словы, а ўедлівы смурод гарэлкі. Шахцёры адхіснуліся ўбок і прапанавалі аматару выпіўкі зараз жа ісці дадому. Такім пад зямлёю няма чаго рабіць.

Клець рушыла ў цёмныя нетры ствала без аднаго гэтага чалавека.

Ён, аднак, палічыў, што таварышы па працы залішне да яго чапляюцца. Праз некалькі хвілін ён вельмі жвава ўзбег на эстакаду і патаемна ад рабочых пад'ёму ўскочыў у клець з парожняй ваганеткай. Гэта значыць, зрабіў тое, што сурова забараняецца правіламі бяспекі. Бо калі, напрыклад, клець з людзьмі апускаюць з хуткасцю звычайнага ліфта, дык клець з ваганеткай ляціць на ніз, як камень...

Усе ўнізе спярша жахнуліся, калі следам за ваганеткай вельмі бадзёранька і з хітрай усмешачкай на твары з клеці паказаўся чалавек. Яго, вядома, затрымалі і паведамілі пра гэта начальніку змены пад'ёму. У той жа дзень злоснаму парушальніку ўсіх строгіх шахцёрскіх норм і правіл давялося развітацца з пачэснай гарняцкай лямпачкай.

Як і ў лепшых гарадах нашай краіны, у Салігорску нагляд за парадкам на вуліцах, у клубе, кіно вядуць найбольш актыўныя прадстаўнікі дружнага рабочага калектыву і працоўнай інтэлігенцыі. А іх, вядома, значна больш, чым людзей у міліцэйскай форме!

* * *

Гавораць, што стары камуніст Дагура, вялікі летуценнік, ужо на пенсіі. Збылася яго мара аб дзівоснай солі. Эшалон за эшалонам ідзе яна цяпер з першага шахцёрскага горада Беларусі на палі рэспублікі.

У поўным разгары будаўніцтва другога калійнага камбіната.

Запланаваны і трэці. Дзівоснай солі ў нетрах старобінскай зямлі столькі, што яе хопіць на доўгія гады і для сябе, і для прыбалтыйскіх рэспублік, і для суседніх сацыялістычных краін.



Будаўніцтва не спыняецца і сёння ні на хвіліну.
Фота А. Дзітлава.

Калісьці шведы выхваляліся, што ўвесь свет круціцца на іх падшыпніках. Яшчэ, здаецца, не так даўно нямецкія манапалісты калійнай прамысловасці моцна трымалі ў сваіх драпежных лапах лёс ураджаяў ледзь не ўсіх краін нашай планеты. І царская Расія вымушана была спальваць горы сланечнікавага цыбулля, каб мець хоць аптэкарскія дозы свайго калію.

Але даўно і назаўсёды мінуліся тыя часы.

І сёння ўпоравень з такімі гігантамі савецкай хімічнай прамысловасці, як Беразнікі і Салікамск, становіцца Салігорск, узняты вялікай творчай воляй нашай камуністычнай партыі для служэння людзям.

Ці ўсё ўжо выяўлена нашымі

геолагамі, нашымі буравікамі ў нетрах Беларусі?

Здаецца, што не ўсё. Здаецца, што гэта толькі пачатак.

Сусветны акіян, як вядома, упадабаў не адну толькі Старобіншчыну. Акіянскае дно ніколі не было роўненькае, як стол. Пад вадою, як і на сухазем'і, былі і ўзгоркі, горы, даўжэзныя ланцугі гор. Адступаючы калісьці з тэрыторыі сучаснай Беларусі, мора пакідала пасля сябе большыя і меншыя азёры насычанай рознымі солямі вады, якая паступова выпарвалася. Расол гусцеў, соль, як гавораць геолагі, выпадала з яго, асядала на дно. Так утварыліся магутныя паклады натрыевай солі, адкрытыя перад Вялікай Айчыннай вайною каля вёскі Давыдаўка. Так утварыліся і рэдкія паклады калійнай солі на Старобіншчыне.

Але яшчэ рана гаварыць, што салігорскія паклады асноўная, галоўная кладоўка нашых падземных скарбаў. Магчыма, гэта толькі акраец, толькі невялічкая часцінка таго, што нам пакінуў у спадчыну сусветны акіян.

Пошукі галоўных пакладаў калійнай солі вядуцца далей. Ужо, кажуць, здабыты першыя керны са шмат багацейшых пластоў, чым салігорскія.

Што ж, ад прыбытку галава не баліць!

## ПАЛЕСКАЯ НАВІНА

У кожнага свая рамантыка: адзін бачыць сябе ў шлеме лётчыка-касманаўта, другі — уладаром марскіх глыбінь, трэці — даследчык сонечнай плазмы... Аб чым не марыш, калі табе чатырнаццаць гадоў! А ў Івана Ганчара з саўгаса «10 год БССР», што на Любаншчыне, была свая мара, не касмічная, а блізкая, зямная, ды, можа, не меней прывабная.



Яшчэ вучнем, падрыхтаваўшы ўрокі, часта спяшаўся ён на ферму, дзе працавала даяркай яго маці. Іван прыглядаўся, як яна даіла кароў, іншы раз сам браўся памагчы...

Пасля заканчэння восьмага класа Іван сказаў:

— Пайду працаваць, мама. Табе памагаць буду: адной жа цяжка.

Яго спачатку не ўзялі, бо лічылі, што яшчэ малы. А летась узялі ды прызначылі падменным даяром.

Гэта першы прыклад, калі хлопец узяўся, здавалася, не за мужчынскую работу. У тыя дні я не раз быў на ферме, назіраў, як упраўляўся ля кароў новы даяр: падносіў корм, мыў посуд... Адразу бачна, што работа яму падабалася.

— Хачу цябе, Іван, сфатаграфаваць, — прапанаваў я.

— А нашто гэта? — запытаўся Іван. І ніякія ўгаворы, ні мае, ні ўсіх даярак, ні нават маці, не памаглі.

Мінуў год. Іван атрымаў групу кароў, або, як жывёлаводы жартуюць, уласны штат. За першыя месяцы ён надаіў па 625 кілаграмаў малака ад кожнай каровы. Сярод лепшых даярак і даяроў Мінскай вобласці яго прозвішча занесена на абласную Дошку гонару.

... Неяк на пачатку лета я зноў быў у Івана Ганчара.

— Цяпер не будзеш пярэчыць? — прыгадаў я леташнюю размову пра фатаграфаванне.

Іван усміхаецца. Бачу, што згодзен.

— Працаваць не цяжка?

— Калі падабаецца, ніякая работа не цяжкая, — адказвае даяр. — Ды цяпер жа ў нас даільныя апараты — падключыў і толькі назірай, як малако цячэ праз кантрольную трубку.

**Алесь ВЕРАМЕЙЧЫК.**

Фота аўтара.

# ЗАЎТРАШНІ ГОРАД

**З блакнотам і фотаапаратам на дыспуце**

Будучыня! Мы думаем пра яе кожны дзень з таго часу, як толькі ўзнікае ў нас патрэба ўсвядомленай мары.

Не толькі думаем, марым, а і жывём камуністычнай будучыняй. Больш таго, ствараем яе ўжо сёння. Ствараем сваёй штодзённай працай. У будзённых справах, часта не вялікіх, але карысных, у грамадскай дзейнасці, у калектыве выхоўваецца новы чалавек — пра гэта ішла гаворка на чэрвеньскім Пленуме ЦК КПСС.

І як не дзіўна, але атрымалася шчаслівае супадзенне. У тыя ж дні, калі партыя абмяркоўвала розныя бакі выхавання чалавека камуністычнага заўтра, маладыя архітэктары і інжынеры буйнейшага ў рэспубліцы праектнага інстытута «Белдзяржпраекту» таксама глядзелі ў заўтра.

Праўда, праекціроўшчыкі заўсёды жывуць заўтрашнім днём. Але на гэты раз камітэт камсамола і савет маладых спецыялістаў парашылі зазірнуць далёка наперад, у год 2000-ы. Свой цікавы і змястоўны дыспут яны так і назвалі **«Горад будучыні».**




Рыхтаваліся доўга, сур'ёзна. Парашылі ўцягнуць у гаворку як мага больш членаў свайго дружнага калектыву. Вызначылі прыкладнае кола пытанняў і ўручылі кожнаму запрашэнне: падумай, прыйдзі, выступі.

Паклікалі і гасцей — з суседняй Літвы, з Валгаграда, з абласных цэнтраў рэспублікі.

Дыспут пачалі з экскурсіі па Мінску. Трэба ж глянуць на тое, што ўжо збудавана або будуецца сёння. Глянуць прыдзірлівым вокам спецыяліста, праверыць сваё чалавечае стаўленне да праблемы сучаснага жыцця ў горадзе.

«У нас...» «А ў нас!..» — гэтыя воклічы толькі і чуліся ў аўтобусе, які пабываў і ў раёнах новай забудовы Мінска (Арлоўская, Валгаградская вуліцы, пасёлак падшыпнікавага завода), і на прадпрыемствах, дзе задумы архітэктараў і інжынераў становяцца гатовымі элементамі дамоў. Кожны госць параўноўваў Мінск са сваім горадам. Не скупіўся на пахвалу, але не абмінаў выпадку і пакрытыкаваць.

Валгаградцы прыйшлі да аднаго вываду: у Мінску мала садоў, паркаў, сквераў, мала свежага паветра. Госці з Вільнюса заўважылі аднастайнасць забудовы жылых раёнаў, невыразнасць сілуэту горада. У мінчан не адчувалася асаблівага энтузіязму пярэчыць гэтым слушным заўвагам. Самакрытычнасць брала верх над выхваленнем.

### КАЛЫСКА БУДУЧЫХ ВУЛІЦ

Так называюць Мінскі домабудаўнічы камбінат. Тут кожны тыдзень нараджаецца пяціпавярховы жылы дом.

Прасторныя, светлыя, ціхія цэхі. Пралёт за пралётам застаўлены вялізнымі мета-



Мінск сёння...



лічнымі формамі. З бетоннага месіва і сплеценага ў карункі металу нараджаюцца сцены і іншыя часткі жылога дома: панелі перакрыццяў, лесвічныя пляцоўкі, санітарна-тэхнічныя кабіны... Сценавыя панелі — з вокнамі і дзвярамі. Кран пагружае іх на панелевоз і — на будаўнічую пляцоўку. А там не сустрэнеш сёння ні муляра, ні бетоншчыка, ні цесляра, там гаспадараць мантажнікі — кранаўшчыкі, зваршчыкі, сантэхнікі, электрыкі, маляры. І расце што ні дзень — паверх, што ні тыдзень — дом, што ні месяц — цэлы квартал.

Завод жалезабетонных вырабаў № 5. Тут дзейнічае эксперыментальны цэх аб'ёмных канструкцый. З бетону штампуюцца гатовыя пакоі. Іх вязуць на пляцоўку, і там складаюць з іх (як дзеці з кубікаў) дом. Куды хутчэй, чым з панеляў! У адзін такі дом на пасёлку падшыпнікавага завода і завіталі экскурсанты. «Прыгожа, зручна, моцна» — такую ацэнку пачулі яны з вуснаў навасельцаў.

Жывых назіранняў назбіралася больш чым дастаткова. Пара пачынаць дыспут. За сталом заняла месца ініцыятыўная тройка: Уладзімір Цямноў (старшыня савета маладых спецыялістаў), Раман Вігдорчык (сакратар камітэта камсамола) і Дзіма Емяльянаў (намеснік сакратара).

## ВЯРНУЦЬ ПРЫРОДУ Ў ГОРАД

Нехта з удзельнікаў дыспуту прывёў словы Юліуса Фучыка пра тое, што «архітэктар павінен жыць стагоддзем». І гэта афарыстычна выказаная думка стала як бы лейтматывам усёй гаворкі. Архітэктары, інжынеры глядзелі далёка наперад, зазіралі з гаспадарскай трывогай — а што скажуць пра іх работу наступныя пакаленні, ці не давядзецца ім ламаць і перабудоўваць тое, што мы будуем сёння.

Прапаноўваліся розныя схемы планіроўкі. (Іх, наспех накіданыя на аркушах паперы, вывешвалі перад прысутнымі.) І ў кожнай з іх пераважаў зялёны колер — колер жыцця. «Вярнуць прыроду ў горад» — такі заклік гучаў з вуснаў усіх удзельнікаў дыспуту. Горад будучыні павінен быць горадам-садам. Чалавеку ў горадзе павінна дыхацца гэтак жа лёгка і свабодна, як на ўзлессі, у полі, у садзе.

**Яраслаў Лінявіч** разгарнуў накіданую ім схему планіроўкі такога горада і сказаў:

— Жылы комплекс мне ўяўляецца як асобныя групы жылля ў зеляніне паркаў і садоў, а недзе паблізу вынесеныя на прыроду дзіцячы гарадок (дзеці там павінны знаходзіцца ад ясельнага ўзросту і да атэстата сталасці), спартыўны гарадок. Побач з жылым комплексам—грамадска-гандлёвы цэнтр (у ніжняй частцы яго — склады, а значыць—і пад'язныя шляхі да іх, а ў верхняй — магазіны і толькі пешаходны рух). У гэтым жа цэнтры — культурна-асветныя, навучальныя і навуковыя ўстановы. Некаторыя з гэтых устаноў могуць быць і ў прамысловай зоне, побач з вытворчасцю. А вытворчасць за ахоўным зялёным поясам — 4—5 км ад жылля. Што датычыць прыгараднай зоны адпачынку (санаторыі, дамы адпачынку, катэджы-дачы), дык яна павінна быць уклінена ў сельскагаспадарчыя ўгоддзі. Адпачынак мусіць быць актыўным, спалучаным з працай на зямлі. Такі горад мне ўяўляецца на 250 тысяч насельніцтва.








У падтрымку свайго калегі выступае **Уладзімір Сакалоўскі**. «Правільна. Навошта шматнаселены горад». І тут жа ўступае ў спрэчку:

— Прамысловую зону трэба размяшчаць не бліжэй як за 20 кіламетраў ад жылля. А навошта культурна-бытавыя ўстановы ў прамысловай зоне? Рабочы дзень стане кароткі, адпрацаваў — і дамоў. Там чалавек будзе праводзіць большую частку дня і ночы. Горад трэба праектаваць з цэлай сістэмы невялікіх самастойных жылых гарадкоў, абароненых шырокай паласой зялёных насаджэнняў, дзе размесцяцца вакзалы, аэрапорт. Паміж жылымі гарадкамі можна прадугледзець плошчу пад калектыўныя сады і гароды. Такія гарадкі будуць узнікаць разам з расшырэннем прамысловай зоны, у якой варта мець рэзервныя плошчы пад забудову новых цэхаў.

Галіна Трушнікава пачынае сваё выступленне з папроку:

— Уявіць сабе аблічча горада будучыні, яго сацыяльны змест нам мала памагаюць пісьменнікі і філосафы. Яны неяк баяцца зазірнуць далёка наперад, пафантазіраваць, палетуценіць, абгрунтаваць усё гэта псіхалагічна і сацыялагічна.

Праўда, і сярод архітэктараў знайшліся ўжо людзі, дастаткова падрыхтаваныя з сацыялагічнага боку. У гэтым лёгка пераканаліся прысутныя, слухаючы **Юрыя Шпіта** — начальніка эксперыментальнай майстэрні.



— Архітэктар не можа не быць сацыёлагам, бо яго перш за ўсё павінна хваляваць, як будуць жыць людзі заўтра. Сёння гаворка можа ісці не канкрэтна пра жыллё 2000-га года, а толькі аб яго праобразе, прататыпе. Жыццё ўнясе свае змены. Адно застанецца непахісным — жыллё ёсць і будзе найпершым клопатам чалавека. Жыллё заўтрашняга — комплекс усіх выгод і зручнасцей. Яно павінна быць разнастайнае, патрафляць розным густам чалавека.

Якую ж схему прапануе **Галіна Трушнікава!**

— Жылы комплекс у будучым горадзе павінен складацца з трох зон. Першая — шчыльна населеная з павышанай павярховасцю — для маладых людзей і маладажонаў, потым — чатырох-, пяціпавярховыя дамы для сямейных людзей і, нарэшце, для жыхароў пажылога веку аднапавярховыя дамы з прысядзібнымі ўчасткамі. (Меркаванні Галіны выклікаюць адразу ж рэплікі нязгоды. Даводзіцца ўмяшацца старшыні, каб усталявался цішыня.) Дзеці — асобна ад бацькоў. Пры школах збудаваць жылыя карпусы, каб можна было пакідаць дзяцей, калі бацька ці маці едуць у камандзіроўку, на адпачынак, у падарожжа. Трэба мець на ўвазе, што ў людзей будзе шмат вольнага часу, яны будуць імкнуцца да пазнання свету, захочуць падарожнічаць, стануць больш актыўныя.

## А ЯК З ПРАМЫСЛОВАСЦЮ?

Праблема «Прамысловасць у горадзе» не менш важная, чым арганізацыя быту людзей. Абмеркаванне гэтай праблемы пачынае архітэктар **Валеры Чэпік:**

— Прамысловасць не варта раскідаць. Яна павінна быць згрупавана кампактна. Лягчэй абслужыць транспартам, сувяззю, энергіяй. Я не згодзен з думкай: адпрацаваў чалавек свае 4 гадзіны — і бывай завод. А як з навукай, павышэннем свайго майстэрства, з тэхнічнай творчасцю? Усё гэта будзе весціся не ў адрыве ад вытворчасці. Значыць, варта падумаць, каб прамысловая зона была азелянёна, каб тут было, дзе паесці, адпачыць. Нельга падыходзіць агулам. Калі прамысловасць, дык «загнаць» яе за 25—30 кіламетраў ад жылля. Не ўсякая ж вытворчасць шкодная, тым больш вытворчасць заўтрашняя, якая будзе заснавана на электроніцы, кібернетыцы і іншых дасягненнях навукі.

Маладога архітэктара падтрымлівае спрактыкаваны праекціроўшчык гарадоў **Максім Дзям'янавіч Штанько.**

— Сапраўды ж, мусіць, навука будзе скіравана на тое, каб звесці да мінімуму шкоднасць на вытворчасці. І можа стацца так, што прамысловыя і жылыя зоны зліюцца ў адно. Нельга разважаць пра горад будучыні, адрываючыся ад таго, што ёсць сёння. А сёння закладзены ўжо трывалыя пачаткі заўтрашняга дня.



## ЦІ ПУСЦІМ АЎТАМАБІЛЬ У ГОРАД? ТРАНСПАРТ ІНДЫВІДУАЛЬНЫ ЦІ ГРАМАДСКІ? ЦІ ПАТРЭБЕН ПАВЕТРАНЫ ТРАНСПАРТ У ГОРАДЗЕ?



Гэтае кола пытанняў узяў на сябе малады інжынер **Алег Носаў-Белякоў.**

Алег пачаў гаварыць, і адчулася, што ён жыве сваёй праблемай, як кажуць, удзень і ўночы, сочыць за тым, як вырашаюць гэтыя пытанні ў іншых краінах, спрабуе падысці да праблемы з усіх пунктаў гледжання — чалавечага, інжынернага, эканамічнага.

— Хуткасць сучаснага транспарту расце, а магчымасць скарыстаць гэтую хуткасць меншае, асабліва ў цэнтры горада. Зарубежныя архітэктары прапануюць шмат схем вырашэння транспартнай праблемы. Англічане думаюць над тым, каб будаваць дамы ў адну суцэльную лінію і па дахах пускаць аўтамашыны, а зямлю пакінуць для пешаходаў. Венгерскія архітэктары задумалі горад-дом (2—3 кіламетры даўжынёй). Ніжні паверх для аўтамабіляў, а верхні і сярэдні — для пешаходаў. У Бразіліі будуюць дамы на калонах, каб не чыніць перашкод транспарту.

На што ж арыентавацца? На транспарт будучыні — з электрычнымі і «халоднымі» рухавікамі, з аўтаномным сілкаваннем, на верталёты. Знікнуць рэйкі, не патрэбны будуць кантактныя правады, забудуць людзі пах бензіну, саляркі. Гарадскім транспартам будуць кіравацьз дапамогай кібернетычных установак. Ліфты, рухомыя дарожкі складуць 80—90 працэнтаў гарадскога транспарту.

— Выгнаць аўтамабіль з горада, — рашуча заяўляе **Леў Бяздзежскі.** — Грамадскі транспарт павінен узяць на сябе ўсе перавозкі ў межах горада, а легкавы, маламесны — для падарожжаў за горадам, між гарадамі.



Ад разважанняў пра будучыню ён пераходзіць да каштоўнай прапановы сённяшняга дня:

— Такі горад, як Магілёў, дае падставы ўжо сёння заняцца эксперыментаваннем горада будучыні, бо там склалася цяпер ярка выяўленая канцэнтрацыя прамыслоавасці ў асобныя групы.

Яго думку прадаўжае **Уладзімір Фядотаў:**



— Пераход ад горада, які існуе сёння, да горада заўтрашняга, ці не гэта павінна скласці асноўны змест нашага дыспуту? Ужо цяпер варта сказаць рашучае «не» тым, хто дамагаецца забудовы хоць невялічкага шматка плошчы, але ў цэнтры. Участкі, што выслабаняюцца ад старых будынкаў, — зялёнаму госцю, плошчам. У горадзе трэба больш паветра і ў прамым і ў пераносным значэнні гэтага слова.

Што датычыць транспарту, дык тут трэба ўлічваць адно — час. У горадзе павінны быць кальцавыя хуткасныя магістралі.



Гаворка пра транспарт зацікавіла і гасцей, бо з хуткім ростам насельніцтва ён становіцца галоўнай праблемай і для невялікага горада, якую не так і лёгка вырашыць. Слова бярэ архітэктар з Віцебска **Уладзімір Брэдзіс:**

— Калі клапаціцца пра чалавека, а без гэтага нельга ўявіць сабе заўтрашняга дня, дык у аснову праектавання будучага горада трэба класці пешаходную даступнасць да ўсіх будынкаў. Горад будучыні ў сваім унутраным змесце — пешаходны горад.

Спрэчкі становяцца ўсё гарачэйшыя, і ці з гэтай прычыны, ці ад таго, што на вуліцы па-летняму прыпякае сонейка, ці таму, што ў зале людна (з 700 чалавек, што працуюць у інстытуце, большасць складае моладзь, і гэтая большасць уся прыйшла на дыспут) — даводзіцца адчыняць вокны, дзверы.

А наступны ўдзельнік дыспуту інжынер **Яўген Стойка** ўжо закранае новую тэму —

## СІЛКАВАННЕ ГОРАДА



— Чалавек будучыні будзе натурай творчай, і трэба прадугледзець усё, каб як мага менш часу траціў ён на абслугоўванне самога сябе. Варта ўлічваць таксама і тую акалічнасць, што індывідуальны быт павінен саступаць месца быту грамадскаму. Навошта машына для мыцця бялізны кожнай сям'і? Дамовыя, квартальныя пральні — вось наш шлях. Навошта ў кожнай кватэры пыласос? Ці не лепш мець на лесвіцы ў спецыяльнай шафцы грамадскі пыласос?

Мы цешымся сёння тым, што ў кватэрах ёсць газ, але забываемся, як атручвае ён пры згаранні паветра. Газу не павінна быць месца ў горадзе будучыні. Электрычнае атапленне, электрычнае асвятленне, электрычнасць скрозь у побыце — вось наш шлях.

— Штучны клімат у жылым доме і штучны клімат ва ўсім горадзе, — так смела марыць **Леў Кірзнер,** маючы на ўвазе адно: каб чалавеку жылося заўтра яшчэ зручней. — Кандыцыяванне паветра ў кватэры — не раскоша, а мінімальная надзённая патрэба. Ды не так ужо фантастычна выглядаюць і магутныя кандыцыйныя ўстаноўкі, збудаваныя ў сасновых барах вакол горада, каб падаваць свежае паветра на яго вуліцы.



У дыспуце, завадатарамі якога была моладзь, прымае ўдзел і старэйшае пакаленне. Смелыя мары, дзёрзкія прапановы, палымянасць спрэчак не могуць пакінуць нікога абыякавым, асабліва, калі гаворка перайшла на самую канкрэтнасць.

## КВАТЭРА БУДУЧЫНІ

Слова бярэ кандыдат архітэктуры **Ігар Канстанцінавіч Елісееў** (Інстытут будаўніцтва і архітэктуры АН БССР).

— Я не згодзен з прапановай Галіны Трушнікавай рассяляць узросты па зонах. Няправільна адлучаць дзяцей і моладзь ад бацькоў. Старэйшае пакаленне, якое мае багаты жыццёвы вопыт, фарміруе сёння і будзе фарміраваць заўтра аблічча маладога чалавека. Родны дом заўсёды застанецца родным домам, і ён запамінаецца на ўсё жыццё.

Дзеці павінны выхоўвацца па-за сям'ёй — кажуць адны. Але ж дзеці — гэта бачная

любоў, яны робяць дарослага больш чалавечным — кажуць другія. Праўда і адно, і другое. Значыць, варта думаць аб разумным спалучэнні выхавання дзіцяці ў сям'і і па-за сям'ёй. Такі падыход вымагае пабудовы шматпавярховых жылых дамоў гасцінічнага тыпу з даволі прасторнай плошчай агульнага карыстання, якую трэба ствараць за кошт плошчы індывідуальных пакояў.

Архітэктар прапануе распрацаваны ў іхнім інстытуце адзінаццаціпавярховы дом з планам у выглядзе трохлістніка. Калідоры жылых кватэр (адна- і двухпакаёвых) сходзяцца да цэнтра, які вырашаецца ў выглядзе залы на кожным паверсе. Гэтыя залы скарыстоўваюцца пад бібліятэку-чытальню, пад пакой для тэлевізара і хатняга кіно, пад танцавальную пляцоўку, пад зімовы сад, пад дзіцячы пакой і г. д. Грамадскае трэба як мага набліжаць да індывідуальнага. Гэта будзе адпавядаць нормам камуністычнага заўтра.



## З ЧАГО БУДАВАЦЬ! ЯК БУДАВАЦЬ!



Такія былі апошнія пытанні, якімі завяршыўся дыспут. Канструктыўнае вырашэнне будучага жылля — пра гэта гаварыў інжынер **Дзмітры Міхайлоўскі.**

— Бетон з яго трываласцю, даўгавечнасцю, тэхналагічнасцю застанецца яшчэ доўга асноўным будаўнічым матэрыялам. А побач — алюміній, сталь, шкло, пластмасы. Асабліваая перспектыва ў пластмас, якім адразу можна надаваць гатовы прыгожы выгляд.

Зборнасць — асноўны прынцып канструявання будынкаў. Застанецца каркасная сістэма, але ўсё ж верх павінны ўзяць аб'ёмна-прасторавыя канструкцыі, з якіх лёгка і зручна можна манціраваць самыя розныя тыпы дамоў. А такія дамы лёгка разбіраць, пераносіць на новыя месцы.



І адразу гучыць нязгода. Устае інжынер **Аляксандр Целеш.**

— Панельныя канструкцыі больш мабільныя, чым аб'ёмна-прасторавыя. Мы павінны думаць пра павышаную паверхавасць жылых дамоў у заўтрашніх гарадах. А панельныя канструкцыі больш устойлівыя, менш металаёмістыя, больш манеўраныя, каб рабіць разнастайнай унутраную планіроўку.

Спрэчка, што разгарэлася паміж двума канструктарамі перад аўдыторыяй, ішла потым яшчэ доўга ў час перапынку і пасля дыспуту. У Сашы яшчэ адзін даволі моцны козыр — зманціраваныя з панеляў на пляцоўцы паверхі зручней узнімаць угару, а такая тэхналогія зборнага будаўніцтва — рабіць усё на зямлі, а не на вышыні — самая прагрэсіўная і перспектыўная. Але і Дзіма не адступае ад свайго — відаць, што ён апантаны аб'ёмна-прасторавымі канструкцыямі.



Госці з Вільнюса Люцыюс Рашкаўскас і Мікалай Калінін шчыра рэагуюць на выступленні сваіх мінскіх калег.



## ЧАС ПАДВЕСЦІ ВЫНІКІ

Гэта ўзяў на сябе галоўны архітэктар «Белдзяржпраекту» **Віктар Іванавіч Анікін.**

— Загадваць дом 2 000-га года няма сэнсу, а думаць пра яго варта, бо гэта трэба для нашай сённяшняй практыкі. І на гэтым перш за ўсё грунтуецца плённасць дыспуту, які вялі мы два дні. Дыспуты, спрэчкі, дыскусіі касуюць у чалавеку інертнасць, абыякавасць і прымушаюць яго актыўна думаць, дзейнічаць, перспектыўна бачыць, а без гэтых якасцей цяжка ўявіць сабе праекціроўшчыка.

Удзельнікі дыспуту правільна падыходзілі ў адстойванні сваіх думак з сацыяльнага пункту гледжання, калі мелі на ўвазе розніцу паміж горадам капіталістычнага грамадства і горадам камуністычным, які мы ствараем ужо сёння. Горад у буржуазных краінах стаў люстэркам невырашальных супярэчнасцей паміж тэхнікай і чалавекам, ён ператварыўся там у хаатычнае скепішча тэхнікі, якая прыдушыла чалавека.

Наш горад будучыні, як пра гэта ў адно слова гаварылі ўдзельнікі дыспуту, горад-сад. Прырода павінна быць вернута гораду, а тэхніку трэба прымусіць цалкам працаваць на чалавека: на вытворчасці, у дарозе, дома. Слушна гавораць тыя, хто ўзнімае свой голас супраць гарадоў з вялікай шчыльнасцю засялення, хто выказваецца за развіццё малых гарадоў. Для нашай рэспублікі надзённая задача — брацца за праектаванне гарадоў па 200—300 тысяч жыхароў. Трэба памятаць пра спецыялізацыю селішчаў, адным з шляхоў якой варта лічыць стварэнне аграгарадоў. Не варта забывацца на магчымасць адпачкоўвання гарадоў-спадарожнікаў каля буйных прамысловых цэнтраў, як гэта робіцца цяпер вакол Масквы, Ленінграда, Кіева, Свярдлоўска і іншых.

Прамысловасць мэтазгодна размяшчаць паблізу жылля, але ізаляваць ад яго магутнымі зялёнымі заслонамі. Шкодную вытворчасць, як правільна гаварылі тут, выносіць не бліжэй чым за 5 км ад жылой зоны.

Што датычыць жылля, дык трэба падыходзіць да канструявання яго гістарычна. Для кожнага пакалення былі і будуць свае вырашэнні. Дамы, якія мы сёння будуем, вядома ж, маральна ўстарэюць. Новае пакаленне захоча памяняць іх выгляд. Вось чаму і не трэба рабіць іх манументальнымі, як гэта прынята для грамадскіх будынкаў — своеасаблівых архітэктурных помнікаў эпохі.

Варта ўлічваць маральнае старэнне і кватэры. Значыць, зазіраючы наперад, варта ўжо сёння думаць пра такія дамы, якія лёгка можна дэманціраваць і перабудоўваць адпаведна патрабаванням часу. Пры камунізме як ніколі шырока будуць улічвацца густы чалавека: адзін захоча жыць у адным вялікім пакоі, а другі — у трох меншых, але асобных. Сям'я не будзе трымацца за аднойчы прадастаўленую ёй кватэру, бо сям'я ўвесь час мяняецца. Адпаведна гэтым пераменам у сям'і павінна быць забяспечана магчымасць дыферэнцыяванага засялення, шырокага выбару і лёгкай замены жылля.

* * *

Два дні спрачаліся архітэктары, інжынеры, вучоныя, каб выявіць свае адносіны да праблемы «Горад будучыні». Спрачаліся адны з запалам, другія больш стрымана, але ўсё роўна адчувалася, як кожны малады спецыяліст повен гарэння, няспынных пошукаў, імкнення выказаць свой самастойны погляд. Было на дыспуце і імкненне калектыўна вызначыць найбольш правільныя шляхі творчых пошукаў, сумесна дагаварыцца аб плённасці іх.

Гаворка была зацікаўленая, руплівая, прынцыповая. Ну, а пасля гаворкі грамадскасць чакае ад архітэктараў новых смелых рашэнняў, адпаведных часу, у які мы жывём.

**Уладзімір ЮРЭВІЧ.**
**Фота А. ДЗІТЛАВА.**

Мінск заўтра. Канцэртна-спартыўная зала на 6 000 месц. Аўтары праекта С. Філімонаў, В. Малышаў, В. Каржэўскі.



Гары, камсамольскі аганёк!

# СТАЛІ ЮНЫЯ НА ПАРОЗЕ

## ЯКІЯ ЯНЫ, АДЗІНАЦЦАЦІКЛАСНІКІ?

Сапраўды, якія? Пра гэта я думала па дарозе ў школу, таму спачатку і не адважвалася ўвайсці ў клас. Заўтра яны пішуць сачыненне — трымаюць першы экзамен на атэстат сталасці, а сёння сабраліся на кансультацыю. Стоячы ў калідоры, я бачыла, як яны прайшлі ў клас — такія дарослыя!

Размовы на гэты раз у нас не атрымалася. Яны жартавалі, іранізавалі, а мне было вельмі важна даведацца, што яны збіраюцца рабіць пасля школы, пра што думаюць, аб чым мараць. Хацелася прыдумаць якое-небудзь такое пытанне, каб разварушыць вучняў. А яно не прыходзіла ў галаву. Мусіць, яны проста не лічаць мяне за дарослую.

Падсела да дзяўчынак. Напэўна, у вачах маіх была разгубленасць, таму што яны раптам прапанавалі:

— А вы прыходзьце да нас дамоў. Там неяк прасцей...

На самай справе, гэта ідэя! Рыхтуюцца яны да экзаменаў, збіраючыся групамі. Вельмі зручна. Магчыма, па-за школай яны не будуць такія недаступныя.

Запісваю некалькі адрасоў. Дамаўляюся аб сустрэчы. З хлопчыкамі таксама. Дзяўчынкі сядзяць на адным радзе. Сядзяць ціха. Слухаюць, але маўчаць. Хлопцы — за партамі, ля акна. Нібы



Празвінеў апошні званок для адзінаццацікласнікаў першай школы ў г. Брэсце. Фота У. Германа. (Фотахроніка БЕЛТА).

ўзвод навабранцаў. Рослыя, дужыя, нястрымныя і калючыя. Успамінаю выказванні некаторых літаратараў аб пакаленні «цяжкім і скептычным». Напэўна, гэта не зусім так. Ва ўсякім выпадку, з гэтым адзінаццатым класам варта пазнаёміцца бліжэй...

## ЦЯЖКІ КЛАС

На тым, што адзінаццаты клас належыць да гэтай, вядомай у педагогіцы катэгорыі, сыходзяцца ўсе выкладчыкі школы. Ніна Георгіеўна Літвінава, дырэктар, сцвярджае, што ёй цяжка прыпомніць больш розных па характару і разам з тым такіх па-свойму аднолькавых выхаванцаў. А «цяжкасць» іх, напэўна, у той жа няўрымслівасці — хутчэй даведацца, хутчэй зразумець, хутчэй мець пра ўсё сваю думку, хутчэй зрабіць усё сваімі рукамі. А ярыстасць — гэта нічога! Гэта ад узросту. Ды і прывыкаеш да яе хутка.

Размова з Нінай Георгіеўнай, вопытным педагогам, была вельмі цікавая. А наступныя гутаркі з выкладчыцай літаратуры Равекай Яўсееўнай Коцінай і класным кіраўніком Палінай Іванаўнай Мядзведскай яшчэ больш пераканалі мяне, што я не дарма выбрала іменна гэты клас, калі парашыла напісаць пра выпускнікоў 1-й Брэсцкай школы-адзінаццацігодкі.

Неяк у апошнія дні заняткаў група вучняў — Сярожа Бакуновіч, Віця Ярашэнка, Таня Краўцова, Федзя Елісееў, Галя Барбакова і Сяргей Лебедзеў — адправілася на Белае возера. Настаўнікі і бацькі перапалохаліся. Уяўляеце, усю суботу там былі і нядзелю! Потым з імі ўсімі была сур'ёзная размова. Гэта і зразумела — столькі з-за іх хваляваліся. А хлопцы і дзяўчаты задаволены. Дзіва што — так здорава ўсё было: і песні спявалі ля кастра і купаліся ў возеры! А галоўнае, так добра вершы складаліся ноччу: пра школу, пра тое, што ўжо развітаюцца яны з ёю, пра мноства дарог у жыцці...

У асаблівай сімпатыі настаўнікаў да адзінаццацікласнікаў я пераканалася на наступны дзень, калі яны пісалі сачыненне па рускай літаратуры. У школе яшчэ ішлі заняткі. І ў многіх педагогаў у раскладзе стаялі ўрокі. Але яны ўсё ж выкройвалі некалькі хвілін і цікавіліся, як яны тут — іх выхаванцы. Было ў гэтых клопатах штосьці хвалюючае і светлае.

## ШАСНАЦЦАЦЬ МІНУС АДЗІН

Дом схаваны ў зеляніне саду. Ён стаіць на адной з ускраінных вуліц. У гэтай частцы горада жыве так званая граеўская група вучняў з адзінаццатага класа. Калісьці ўсе яны вучыліся тут жа, у васьмігодцы. А потым перайшлі ў адзінаццацігодку.

У маленькім чыстым пакойчыку мяне чакаюць. Дзяўчаты не падманулі, сабраліся. На стале — падручнікі па гісторыі, грамадазнаўству. На падрыхтоўку ўсяго тры дні. Гаворым пра ўсё. Дзяўчынак маіх не пазнаць. Расказваюць ахвотна і, як мне здаецца, шчыра. Сачыненне? Не, яны яшчэ не ведаюць адзнак. Экзаменаў, вядома,



Букет рамонкаў — як выражэнне любві і павагі да класнага кіраўніка Паліны Іванаўны Мядзведскай.

баяцца. Планы на будучыню? Што ж, яны ў многіх зусім канкрэтныя.

— У нас амаль усе хочуць вучыцца, — гаворыць Ліда Галяка. — Толькі гэта не абавязкова адразу пасля школы. Многія пойдуць працаваць на фабрыку. На швейную. А потым...

— Ведаеце, так хочацца паехаць куды-небудзь далёка-далёка. На вялікую будоўлю. Там здорава! — раптам прызнаецца Вера Катлярова. Але тут жа яе папраўляе Люба Вішчык:

— Далёка... На вялікую будоўлю... А па-мойму, гэта зусім і не так важна, дзе працаваць. Важна добра працаваць і сумленным ча-



Люба Вішчык атрымала атэстат сталасці і спецыяльнасць швачкі.



Такарны станок больш не тоіць ніякіх сакрэтаў для Лілі Асташонак.

лавекам быць. Калі ўсе на вялікія будоўлі паедуць, хто ж тут звычайную работу будзе рабіць? Нельга так глядзець на справы, мы дарослыя і павінны гэта разумець...

Ведаю, што ім трэба займацца. Але пакідаць іх не хочацца. Такія яны слаўныя дзяўчаты, аказваецца. І з якім захапленнем расказваюць пра тое, што атрымалі спецыяльнасці. Сапраўды, гэта вельмі здорава! Цяпер яны заканчваюць школу і разам з атэстатам сталасці атрымаюць пасведчанне аб набытай вытворчай спецыяльнасці швачак-матарыстак.

А справа была так. У пачатку дзевятага класа з вучнямі, якія займаліся па праграме школ-адзінаццацігодак, правялі сход. Настаўнікі хацелі даведацца, да якой справы больш за ўсё схільны іх выхаванцы. Не, план вытворчага навучання ўжо быў. Але і думку вучняў цікава ведаць. Хлопчыкаў, тых, зразумела, да тэхнікі цягнула. Вырашана было, што яны пройдуць практыку ў вагонным дэпо. А вось дзяўчынкі доўга не маглі вырашыць. Адным хацелася навучыцца добра гатаваць стравы, другім — шыць. Урэшце ўсе сышліся на тым, што навучыцца шыць вельмі карысна.

У дзевятым класе на працягу ўсяго года авалодвалі самымі простымі элементамі сваёй будучай спецыяльнасці, шылі дзіцячыя трусікі, нарукаўнікі. Вядома, не ўсё было гладка. Некаторыя дзяўчынкі, яшчэ не прывыкшы да вытворчай дысцыпліны, прапускалі заняткі, спазняліся. Інструктар па навучанню Надзея Іванаўна Васільева вельмі строга з такімі размаўляла.

Патрабавальнасць Надзеі Іванаўны ацанілі пазней, калі ўжо ў наступныя гады пачалі шыць дзіцячыя сукеначкі. Тут усе «азы» па-сапраўднаму спатрэбіліся.

Праграма дзесятага і адзінаццатага класаў патрабавала ўжо, каб вучні авалодалі кроем, умелі канструяваць мадэлі. Цяпер дзяўчаты проста не маглі дачакацца вытворчай практыкі. Два разы на тыдзень, у аўторак і пятніцу, яны з задавальненнем працавалі па шэсць гадзін на фабрыцы. Ганарыліся, што іх вучнёўскі цэх выконвае сапраўдны заказ — шые дзіцячыя касцюмчыкі.

У маі пятнаццаці выпускніцам былі прысвоены вытворчыя разрады — другі і трэці. У класе ж усяго шаснаццаць дзяўчат. Нічога страшнага не здарылася і з шаснаццатай. Проста Ліля Асташонак вучылася на токара. Разам з хлопчыкамі. Вось і атрымалася такая арыфметыка: шаснаццаць мінус адзін.

Я бачыла на дзяўчатах сукенкі і блузкі, пашытыя імі. Паверце мне — у некаторых атэлье так яшчэ не ўмеюць шыць! Але самае галоўнае — гэта тое, што дзяўчатам знаёма радасць працы. У іх словах няма ні пазёрства, ні фальшу, калі яны гавораць пра тое, што пасля школы пойдуць на вытворчасць.

Вось радкі з сачынення на атэстат сталасці: «Я павінна выбраць дарогу ў жыцці, — піша Люба Вішчык. — У школе нас падрыхтавалі да гэтага. Я атрымала прафесію швачкі. Мне яна вельмі падабаецца. І я пайду працаваць на нашу швейную фабрыку. Там многа добрых людзей, яны памогуць мне яшчэ лепш авалодаць прафесіяй...» Ала Ляшчова прадаўжае гэтую думку: «Можна ж сумяшчаць работу з завочнай вучобай у інстытуце. Трэба толькі быць настойлівай, мець сілу, волю, вытрымку».

І я ўпэўнена, што хопіць у дзяўчат і настойлівасці, і вытрымкі, каб здзейсніць свае мары і жаданні.

## СТРЭЛКІ НА ШТАНАХ

Хлопцы ахнулі: «Вось гэта дык дзіва! Сярожка — сапраўдны піжон...» А дзяўчаты пачалі адразу пра нешта шушукацца. Ці пакрыўдзіўся Сяргей Бакуновіч на сваіх аднакласнікаў? Зусім не! Па-першае, з многімі не бачыўся цэлых два месяцы, засумаваў, а па-другое, касцюм, які выклікаў гэтулькі размоў... Між іншым, лепш расказаць усё па парадку.

Пятнаццаць хлопцаў разам з Ліляй Асташонак навучаліся рабочым прафесіям у вагонным дэпо. Авалодвалі самымі рознымі спецыяльнасцямі — слесара, токара, фрэзероўшчыка, стругальшчыка. А вось Сяргея Бакуновіча прыставілі да бляхара дзядзі Вані. Ён што... Ён не пярэчыў. Бляхаром дык бляхаром. Скажам — вёдры можна навучыцца рабіць. І ён навучыўся. Нездарма дзядзя Ваня лічыцца майстрам сваёй справы. Праз год пад яго кіраўніцтвам Сяргей якія хочаш заказы выконваў. А вось на другі год, гэта значыць ужо ў дзесятым класе, пачаў сумаваць. Прыйдзе да хлопцаў, што ля станкоў працуюць, і, здаецца, не адыходзіў бы. Цікава і зайздросна. Вунь Юрка Сямёнаў як здорава ля фрэзернага завіхаецца. Або Віктар Сілакоў — ля такарнага. Нават Ліля, дзяўчына, і тая ля станка, як за партай, сябе адчувае. А ён, Сяргей, усё са сваімі вёдрамі.

І вырашыў аднойчы Бакуновіч... Пайшоў да Рыгора Іванавіча Кацёлкіна, майстра па вытворчаму навучанню, і расказаў усё. І той зразумеў. Добры ён чалавек, вельмі душэўны. Спачатку навучыў хлопца такарнай справе, а потым Сяргей і зусім на станок перайшоў. Ды так у яго выдатна справа пайшла, што неўзабаве хлопцы толькі дзівіліся.

Пасля дзесятага класа, летам, вучні раз'ехаліся хто куды. А Сярожа застаўся ў горадзе: вырашыў папрацаваць у дэпо. Кацёлкін узрадаваўся: летам рабочых рук заўсёды не хапае. Працаваў Сяргей, як сапраўдны токар. Ад рабочых не адставаў, а ў канцы месяца зарплату атрымаў — больш як семдзесят рублёў. Вось тады і купіў гэты касцюм. Ён яму чамусьці больш за ўсё спадабаўся. Колер такі прыгожы — шэры, і штаны з такой арыгінальнай стрэлкай. І яшчэ — ён пра гэта нікому не гаварыў — такі ж касцюм быў у майстра Кацёлкіна, а Сяргею надта хацелася быць падобным на гэтага чалавека.



Сяргей Бакуновіч — рабочы хлопец.

Такая гісторыя з касцюмам. А што датычыць аднакласнікаў, то яны тады проста не ведалі яе. Між іншым, усе ў класе вельмі любілі і паважалі Бакуновіча — і хлопцы, і дзяўчаты. Так што, калі і жартавалі наконт стрэлак на штанах, дык гэта так проста. Без злосці.

## ПРА ПОВАРА І ПАЗЁРСТВА

Неяк узімку клас пісаў сачыненне па беларускай літаратуры на тэму «Мая мара». Коля Багроў напісаў вялікі трактат аб тым, што ён хоча быць поварам. І ўсё было б добра, калі б... Мікалай сапраўды марыў аб прафесіі повара. А выйшла, што ў сваім сачыненні, выводзячы прыгожыя словы аб сціплай працы чалавека, ён іранізаваў, проста смяяўся з вельмі важных і вельмі сур'ёзных рэчаў. Багрова зразумелі і вучні, і настаўнікі. Праўда, зразумелі не так, як ён хацеў. І хоць двойкі за сачыненне ён не атрымаў, задумаўся пасля надоўга.

Мне не выпадкова ўспомнілася сачыненне Багрова. Пры ўсім тым добрым, сумленным, што сустрэнеш у вучнёўскіх работах, ёсць у некаторых з іх гэткае праціўнае пазёрства, гэткі танненькі скептыцызм.

Віктар Ярашэнка таксама харошы хлопец. Сумленны, разумны. Магчыма, нават таленавіты. Зачытваецца вершамі і сам іх піша. А вось як пачне разумнічаць, асабліва на ўроках, сябры не пазнаюць яго і злуюцца. Вядома, не ўсе, а тыя, хто больш сталы і думае самастойна. А іншыя? За Віктарам цягнуцца, стараюцца быць падоб-



Віктар Ярашэнка, як заўсёды, з кнігай.

ныя на яго. А ён і рады. Вы, маўляў, нічога не разумееце, вашы думкі ўстарэлі...

Можа, не варта было б пра гэта столькі гаварыць. Але мне надта няёмка было чытаць іранічныя разважанні Багрова пра повара...

## «ПРАЦУЙ, ЖЫВІ І ВУЧЫСЯ ДЛЯ НАРОДА»

Так называлася адна з тэм сачынення на атэстат сталасці, прапанаваная маім адзінаццацікласнікам. Я кажу маім, таму што прывыкла да іх. І ўжо кожны дзень хаджу ў школу зусім не дзеля таго, каб «вывудзіць» ад іх штонебудзь, а каб «пахварэць» за іх, калі яны здаюць чарговы экзамен.

Ведаеце, калі б мне давялося цяпер пісаць сачыненне на такую тэму (яе пісала большасць класа), эпіграфам да яго я паставіла б словы паэта:

Нет, не к морю
хочу я,
Не к югу,
А хочу я уйти босиком
В синий край
есть холодную клюкву,
Чуть покрытую хрупким ледком.

Яны былі прыведзены ў сачыненні Тані Краўцовай, але думка апынуцца ў краі рамантычных будняў блізкая ўсім вучням. «Я думаю пасля заканчэння школы пайсці працаваць, каб праверыць свае сілы... Але, ва ўсякім выпадку, мы павінны ўвесь час вучыцца: вучыцца ў школе, вучыцца працаваць, вучыцца жыць, вучыцца будаваць камунізм», — піша Віктар Сілакоў.

Зусім правільна ацэньваючы патрабаванні часу, выпускнікі ў кожным выпадку — намерваюцца яны вучыцца ці працаваць — не хочуць адставаць ад жыцця. Расці маральна і духоўна, вучыцца, быць сапраўдным чалавекам — вось тыя асноўныя палажэнні, тая праграма жыцця, якую вызначаюць сабе юнакі і дзяўчаты ў сачыненнях.

Лена Сіротава яшчэ не ведае, дзе яе сапраўднае прызванне. То ёй здаецца, што яе месца сярод будаўнікоў, і яна збіраецца ў архітэктурны інстытут. А потым яна пачынае думаць аб тым, што ўсётакі спачатку лепш пайсці папрацаваць. Адно для яе зусім ясна: «...кім бы я ні была, я буду імкнуцца, каб ад мяне што-небудзь засталося іншым, каб пражыць вялікае, прыгожае жыццё, спазнаць радасць, гора, шчасце...»

Віктар Ярашэнка хоча стаць журналістам. І вось, калі ён зробіць так, як піша ў сачыненні, то, відаць, стане журналістам. А піша ён аб тым, што хоча спачатку спазнаць жыццё, хоча «знайсці сваю дарогу, а не трапіць выпадкова на чужую...»

Нельзя молодости
Жить, как водоросли,
Внизу под ряской,
Не зная тряски, —

гэтыя словы паэта Кірсанава паставіла эпіграфам да свайго сачынення Таня Краўцова. Потым, развіваючы думку, яна пісала: «Я не баюся водарасцей. Я хачу, каб лепш жылі людзі. І заўсёды буду любіць вершы, восень, жыццё. Я буду пісаць для людзей, пісаць пра космас і пра зямлю — такую вялікую і такую ласкавую...»

Пра вялікую і такую патрэбную ім зямлю, пра Радзіму, пра любімую работу на вытворчасці выказалася на старонках сваіх сачыненняў большасць адзінаццацікласнікаў. Выказалася з захапленнем, з пачуццём нецярплівасці і чакання. І гэта нічога, што многія будуць спрабаваць сёлета ж паступаць у інстытуты. Галоўнае, няма ў іх пачуцця няўпэўненасці. Яны ведаюць, што школа дала ім веды, навучыла іх працаваць. І яны шчаслівыя, што смела выходзяць у жыццё. Ведаеце, як сказана ў паэта:

Сталі юныя
на парозе,
У пачатку пуці...
Перад імі дарогі,
дарогі,
Якімі ісці па
жыцці...



Атрыман атэстат сталасці. Першае віншаванне — ад дырэктара школы Ніны Георгіеўны Літвінавай.

Я не ведаю, як складзецца жыццё ў гэтых юнакоў і дзяўчат. Трыццаць адзін чалавек — трыццаць адзін лёс. Магчыма, усё будзе і не зусім так, як яны пішуць у сваіх сачыненнях. Магчыма, планы многіх выправіць само жыццё. Што ж, гэта і не страшна. Але як бы там ні было, вельмі верыцца, што дарога ў іх будзе чыстая і пройдуць яны па ёй сапраўднымі людзьмі.

**Жана КУБЕКАВА.**

# БІЯГРАФІЯ СЛОВА

Так. Не здзіўляйцеся. І слова мае сваю «біяграфію». Цікава ведаць, дзе, як і калі ўзнікла самае звычайнае, якое мы вымаўляем штодзень, слова. Ну хоць бы

## ЦЫБУЛЯ

Яшчэ старажытныя збіральнікі пладоў, карэнняў і іншых дарункаў зямлі заўважылі цыбулю як вельмі карысную расліну, якая павышае апетыт, ачышчае рот ад узбуджальнікаў розных хвароб, умацоўвае зубы і дзёсны.

Людзі каменнага веку, якія не толькі збіралі дзікую цыбулю, але і вырошчвалі яе, мелі і пэўную назву для гэтай расліны. Як жа была прыдумана нашымі далёкімі продкамі гэтая назва?

У вядомым «Этымалагічным слоўніку рускай мовы» А. Прэабражэнскага напісана:

«ЦЫБУЛЯ — лук зелёный і репчатый. Диалект южный и западный. С украинского и белорусского (кстати, распространенного мало). В польском и других со средневерхненемецкого *zibolle, zebulle*, нижненемецкого *zwiebel* — лук. У германских с латинского *cepulla*, уменшительного да *cepa* (*caepa*)».

Такое «тлумачэнне» было дадзена яшчэ ў мінулым стагоддзі нямецкімі славістамі — Бернэкерам і Міклошычам, а Прэабражэнскі некрытычна перанёс яго ў свой слоўнік. Ад немцаў рускія і іх суседзі маглі запазычыць рэстаранную назву стравы цвібель-клопс (бітае мяса з цыбуляй), але ж назву цыбулі і славяне, і германцы маглі атрымаць толькі ад сваіх агульных продкаў, якім гэтая назва была вядома яшчэ да з'яўлення пісьменнасці ў лацінаў і грэкаў.

Лаціны называлі цыбулю падвойным, як відаць, двумоўным словам *allium cepa*. У батаніцы захавалася родавая назва ўсіх цыбуль і часнакоў — *allium*. Паходжанне гэтага слова высвятляецца не лацінскай, а партугальскай і французскай мовамі, параўнаннем вельмі старажытных слоў: партугальскае *olho* (ольо) і французскае *oeil* (*aj*) — значыць вока; партугальскае *alho* (альо) і французскае *ail* (эль) — значыць часнок.

Сувязь назвы часнака з назвай вока зразумелая, калі ўлічыць, што часнок дзейнічае на слізістую абалонку вока.

Паходжанне ж лацінскага *cepa* — цыбуля зусім немагчыма высветліць лацінскай мовай, бо яно пазычана лацінамі ад абарыгенаў, больш даўніх насельнікаў Італіі. Непасрэднымі патомкамі старажытных збіральнікаў з'яўляюцца славяне. Таму паходжанне слова *cepa* трэба шукаць у славян, продкі якіх у пасляледніковы перыяд адышлі ў горы і лясы кантынентальнай Еўропы.

У славян гэтае слова *cepa* атрымала такія формы: чэшскае *cibule*, славацкае *cibula*, польскае *cebula*, украінскае *цибуля*, беларускае *цыбуля*. Сходныя назвы засталіся ў іспанцаў *cebolla* (себолля), італьянцаў *cipolla* (чиполя) і ў латышоў *sibols*. Немцы ж атрымалі гэтае слова як спадчыну ад палабскіх славян і змянілі яго да *zwiebel* (цвібель).

А ці не больш правільна будзе вытлумачыць паходжанне назвы расліны ад таго ўздзеяння, якое гэтая расліна робіць на органы смаку і нюху? Першае ўражанне першага чалавека, які паспрабаваў цыбулю на смак, было, мабыць, пачуццё пякоты, шчыпанне на языку. «Шчыпле» — вось які сэнс мела назва цыбулі. Дзеясловы, з якіх узнікла слова цыбуля — шчыпуля, мы і цяпер сустракаем ва ўсіх славянскіх мовах, а таксама ў некаторых угра-фінскіх. Пачатковая назва цыбулі — *серра* (чэпа) атрымала далейшае развіццё пад уплывам другога семантычнага (сэнсаадрознівальнага) пучка паняццяў. У продкаў славян быў гукападражальны выклічнік буль-буль, ад якога ўзнік дзеяслоў булькаць. Адсюль лацінскае *bulla* або французскае *bulle* — пухір (вадзяны) і іспана-партугальскае *bola* — шар. У рускіх гэтае слова змянілася ў пуля, а ў беларусаў, украінцаў і палякаў — у куля, што азначае шар.

Так, відаць, і ўтварылася складанае слова *шчэп + боля*, якое лёгка перараскладалася ў *ce+bola* альбо ў цэ+буля з сэнсам «гэта — шар». (Параўнаем іспана-партугальскае *cebola* і ўкраінскае *цибуля*.)

Славянскае цыбуля мае збіральны сэнс, і пайшло яно ад слоў з пачатковым сэнсам «шчыпле», да якога далучыўся пазнейшы сэнс «кругляк» (калі земляробы вывелі цыбулю-рэпку). Каб адасобіць тэрмін ад слоў з агульным значэннем, кожны народ стварыў свой варыянт гэтага слова.

Развіццё назвы ў адной часткі славян і іх паўднёвых суседзяў спынілася на варыянтах слова «цыбуля», а ў другой часткі славян гэтае развіццё пайшло іншым шляхам, праз асэнсаванне таго дзеяння, якое выклікае ўжыванне цыбулі — «шчыпле вочы». Старадаўняя форма гэтай назвы засталася ў латышоў, у якіх *kiploki* азначае часнок. Каб адысці ад слова «шчыплока-шчыплук» з агульным шырокім значэннем «тое, што шчыпле», славяне адсеклі пачатак слова і пакінулі яго канец — «лук».

Латышы таксама адсеклі слова *kiploki*, пакінуўшы *loki*, што азначае — зялёная цыбуля.

Серба-харваты называюць цыбулю *црни лук* (чорная цыбуля), а часнок — *бели лук*, як і балгары, у якіх ёсць яшчэ і назва — *чеснов лук*. Такім чынам, у рускіх замацавалася паўднёва-славянская назва цыбулі — *лук*.

Тая акалічнасць, што гэтая назва супадае з назвай цыбулі ва ўсіх скандынаўскіх мовах, не можа, аднак, служыць доказам запазычання яе ад германскіх моў. Справа ў тым, што паўночны захад Еўропы быў заселены толькі ў VII тысячагоддзі да н. э., пасля таяння ледніка. Каланісты, якія засялілі ўзбярэжжа Балтыкі, праходзілі туды па рэках Усходняй і Цэнтральнай Еўропы і на сваім шляху сутыкаліся з продкамі славян з узаемным абменам слоў.

Так, з поўдня было прынесена сюды і слова «лук».

У нямецкай мове ўтварылася *knoblauch* — назва часнаку, што па сэнсу азначае «шчыпле вочы» (*kneif + auge* = шчып+вока). А адсюль немцы вылучылі ў самастойнае *«lauch»*, што з'яўляецца сінонімам слова *«zwiebel»* — цыбуля.

Як бачыце, біяграфія самага звычайнага слова «цыбуля» вельмі цікавая і даволі змястоўная.

**А. БІРЫЛА.**

# Спорт

## НА НОВЫЯ РУБЯЖЫ



Першае месца па кіданню кап'я заваявала гродзенская школьніца Ларыса Новакрашчэнава.

Фота Ф. Чаховіча.

Перад фіналам трэцяй Спартакіяды народаў СССР у Маскве хочацца акінуць позіркам пройдзенае, расказаць пра тыя радасныя змены, што адбыліся ў жыцці фізкультурнай арганізацыі рэспублікі.

Беларуская фізкультурная арганізацыя па выніках работы за 1961 і 1962 гады выйшла ў лік перадавых у краіне і двойчы заваявала пераходны Чырвоны сцяг Цэнтральнага савета Саюза спартыўных таварыстваў і арганізацый СССР.

Цікава прывесці некаторыя лічбы і факты нашага росту. За тры гады армія беларускіх фізкультурнікаў павялічылася амаль на 400 тысяч чалавек. У фізкультурных арганізацыях рэспублікі вырасла 600 новых майстроў спорту, каля шасці тысяч спартсменаў першага разраду — гэта больш, чым за ўсе пасляваенныя гады.

Ужо ў гэтым годзе мы маем 117 новых майстроў спорту, якія ўпрыгожылі вянок беларускай спартыўнай славы. Калі напярэдадні другой Спартакіяды народаў СССР у склад зборных каманд краіны ўваходзіла 57 беларускіх спартсменаў, то летась іх стала ў два разы больш. Летась 58 нашых спартсменаў заваявалі званні чэмпіёнаў і прызёраў усесаюзных першынстваў. Прадстаўнікі Беларусі цяпер рэгулярна прымаюць удзел у буйнейшых міжнародных спаборніцтвах.

Побач з вядомымі ўжо Марыяй Іткінай, Алегам Караваевым, Міколам Мілігулам, Тацянай Пятрэнка, Арнольдам Чарнушэвічам, якія не аднойчы выходзілі пераможцамі на міжнародных спаборніцтвах, з'явіліся маладыя таленавітыя спартсмены — надзейныя змагары за прызавыя месцы на ўсесаюзных і міжнародных першынствах. Гэта—двойчы чэмпіён свету па вольнай барацьбе Аляксандр Мядзведзь, весляры Леанід Гейштар і Сяргей Макаранка — пераможцы Алімпійскіх гульняў, лёгкаатлеты Аляксей Балтоўскі, Уладзімір Гараеў, Віктар Баліхін, гімнасты Алена Валчэцкая і Тамара Аляксеева, фехтавальшчыкі Дыяна Нiканчыкава, Аляўціна Лабоўкіна, Аляксандр Паўлоўскі, Юры Смалякоў, барцы Мікалай Чучалаў, Віталі Жыцянёў, Мікалай Аксёнаў, Уладзімір Лятун і Віктар Маклакоў, стралкі Ігар Баканаў, Эдуард Яраш і Віталь Паўлаў. Гэты пералік прозвішчаў ужо сёння можна было прадоўжыць, а заўтра іх будзе яшчэ больш.

Многія фізкультурныя калектывы пад кіраўніцтвам партыйных і камсамольскіх

арганізацый сталі сапраўднымі арганізатарамі фізкультурна-спартыўнай работы. Сярод тых, хто ў баявой спартыўнай форме выйшаў на старты спаборніцтваў перад трэцяй Спартакіядай народаў СССР, — фізкультурныя калектывы мазырскага завода меліярацыйных машын, віцебскага завода радыёдэталей, мінскіх трактарнага і аўтамабільнага заводаў, аршанскага завода швейных машын, брэсцкага дывановага камбіната, гомельскага і пінскага фанера-запалкавых камбінатаў і многіх іншых прадпрыемстваў. У нас сёння ёсць добрыя фізкультурныя калектывы на Брэстчыне, Гродзеншчыне, у калгасах і саўгасах Гомельскай, Магілёўскай абласцей, дзе праведзены спаборніцтвы, кросы, масавая здача норм на комплекс ГПА.

Ужо ў чэрвені ў большасці калектываў фізкультуры прайшлі свае спартакіяды. У іх прыняло ўдзел каля двух мільёнаў фізкультурнікаў. Гэта значна больш, чым удзельнічала ў спаборніцтвах перад другой Спартакіядай народаў СССР. 73.500 спартсменаў паказалі разрадныя вынікі. Зарэгістравана 342 гарадскія і раённыя рэкорды, 49 абласных і 3 рэспубліканскія рэкорды.

У 17-ы раз праведзена ў Беларусі Рэспубліканская спартакіяда школьнікаў. У яе праграму было ўключана 14 відаў спорту. Сёлета ўпершыню ў фінальных спаборніцтвах Спартакіяды народаў СССР разам з дарослымі спартсменамі ўдзельнічаюць зборныя калектывы школьнікаў з саюзных рэспублік. У беларускай зборнай — лепшыя школьныя спартсмены-пераможцы Рэспубліканскай школьнай спартакіяды.

Радуюць першыя вынікі фінальных спаборніцтваў трэцяй Усебеларускай спартакіяды. Перш за ўсё трэба адзначыць, што прыкметна ўзрасло спартыўнае майстэрства яе ўдзельнікаў. У спаборніцтвах па цяжкай атлетыцы ўдзельнічала 126 спартсменаў. Вось іх вынікі. Нарматыў майстроў спорту выканалі 12 спартсменаў і нарматыў першага разраду — 44 спартсмены. Гэта ў той час, калі ў выніку спаборніцтваў цяжкаатлетаў 1959 года паявіліся толькі тры майстры спорту і 15 першаразраднікаў. Цяжкаатлеты ўстанавілі 12 новых рэспубліканскіх рэкордаў, а ў 1959 годзе быў толькі адзін рэкордны вынік.

У спаборніцтвах па кулявой стральбе прынялі ўдзел 144 лепшыя спартсмены. Нарматыў майстра спорту паказалі 26 стралкоў. Установлены адзін усесаюзны і тры рэспубліканскія рэкорды. Тры стралкі ўпершыню сталі майстрамі спорту. Лепшыя з майстроў трапнага агню будуць абараняць спартыўны гонар рэспублікі на фінальных спаборніцтвах у Маскве.

Значна лепш, чым на папярэдняй спартакіядзе, выступаюць нашы коннікі. У 1959 годзе па коннаму спорту спаборніцтвы праводзіліся толькі на асабістае першынство і ў іх удзельнічала ўсяго 13 чалавек. Сёлета змагаліся паміж сабою каманды з трох абласцей — 40 коннікаў. Двое сталі майстрамі спорту. Між іншым, беларускія коннікі нядрэнна выступілі летась на спаборніцтвах рэспублік Прыбалтыкі і Беларусі. Яны занялі першае месца.

Добра прайшлі спаборніцтвы па асобных відах спорту. У змаганні паміж веслярамі на байдарках і каноэ ўдзельнічалі каманды з пяці абласцей. Брэстаўчане і гамяльчане спаборнічалі па акадэмічнаму веславанню. Паявіліся новыя майстры спорту, разраднікі. Ёсць усе падставы сцвярджаць, што водны спорт у Беларусі, нарэшце, зойме тое месца, якое яму належыць па праву, бо для гэтага ў нас неабмежаваныя магчымасці.

Наперад у спаборніцтве тэнісістак выйшла каманда мінчанак: Лена Сініцына, Валя Літвіненка, Валя Стафанінкава і Жэня Смірнова.



Каму ж выпаў гонар абараняць дасягненні беларускага спорту ў Маскве, на фінальных спаборніцтвах трэцяй Спартакіяды народаў СССР? У зборных камандах — 670 лепшых спартсменаў. З іх 282 маюць званне майстроў спорту і 388 спартсменаў першага разраду.

Варта адзначыць, што каманды па вольнай і класічнай барацьбе, фехтаванню, гімнастыцы, веласпорту, цяжкай атлетыцы, кулявой стральбе, боксу поўнасцю ўкамплектаваны з майстроў спорту. У камандах па плаванню, скачках у ваду, настольнаму тэнісу, жаночаму баскетболу, конным спорце, як і ў іншых камандах, большасць — маладыя спартсмены, якія толькі што заваявалі сабе славу мацнейшых. Напрыклад, сярод баскетбалістак толькі двое ветэранаў удзельнікаў другой Спартакіяды — С. Ясюкевіч і Р. Пышнік. У складзе скакуноў у ваду з ветэранаў засталася толькі адна Валянціна Гардзеева. Усім астатнім спартсменам па васемнаццаць-дзевятнаццаць год.

З Масквы нашы пасланцы прывязуць новыя рэкорды, новыя медалі. На гэта спадзяемся, у гэта верым!

На нарадзе рэспубліканскага актыву зусім слушна адзначалася, што нашы сённяшнія поспехі — толькі подступы, толькі патэнцыяльныя магчымасці ў вырашэнні вялікіх і адказных задач, пастаўленых партыяй перад фізкультурнай арганізацыяй рэспублікі.

Было б вельмі добра, каб наш слаўны камсамол — шчыры сябар фізкультуры і спорту,— выкарыстоўваючы той уздым, які выклікала Спартакіяда народаў СССР, яшчэ з большым запалам узяўся за далейшы ўздым фізкультуры і спорту ў горадзе і на вёсцы.

Дэвізам нашага фізкультурнага руху, як гаварыў у сваім дакладзе на чэрвеньскім Пленуме ЦК КПСС Л. Ф. Ільічоў, павінна быць — масавасць і спартыўнае майстэрства.

**В. ЛІВЕНЦАЎ,**
**старшыня савета Саюза спартыўных таварыстваў і арганізацый БССР.**



**Аляксеў Казлоў (Віцебск) бярэ вышыню.**
Фота **Я. Брахунова.**



**Майстар спорту гімнастка Люда Рабкова (Гродна).**
Фота **Д. Церахава.**

# ШАХМАТЫ

под рэдакцыяй
міжнароднага майстра
А. СУЭЦІНА

# СЯБРОЎСКІЯ СУСТРЭЧЫ

Шахматныя сустрэчы паміж мацнейшымі камандамі свету — СССР і Югаславіі, — гаворачы на мове нашых сяброў, сталі «добрай традыцыяй». Сёмы матч дружбы, якая пачалася сем гадоў таму назад, адбыўся ў буйнейшым прыморскім горадзе Югаславіі Рыека.

Рыека — надзвычай маляўнічы горад, скалістыя берагі якога абмываюцца блакітным Адрыятычным морам. На самым высокім месцы горада раскінулася старадаўняя сярэдневяковая крэпасць. Але галоўнае — гэта сам порт. Вялізныя акіянскія лайнеры заўсёды прываблiваюць увагу і цікаўнасць насельніцтва Рыекі.

Адрыятычнае мора тут на дзіва прыгожае і спакойнае. І першае, што мы зрабілі, прыехаўшы ў Рыеку, гэта адзелі купальныя касцюмы і кінуліся на пляж. Ну, як тут утрымацца, каб не заплыць за «буёк»! Але югаслаўскі гросмайстар Светазар Глігарыч, які прыязна суправаджаў нас, раптам пачаў энергічна махаць рукой: «Далей няможна! Вярніцеся! Там рыбы, якія глытаюць людзей!»

Акулы і сапраўды частыя госці прыбярэжжа Рыекі. Яны прыходзяць услед за караблямі і шныраюць уздоўж берагоў. Бываюць і няшчасныя выпадкі... Ціхая роўнядзь Адрыятыкі часам вельмі падманлівая. Нямала клопатаў купальшчыку дастаўляе мора. У Адрыятыцы, відаць, вялікі працэнт солей, якія апякаюць слізістую абалонку вачэй. Але ўсё гэта, як маленькія шыпы прыгожай ружы, якой, безумоўна, з'яўляюцца цудоўныя, празрыстыя глыбіні мора.

Рыека. У гэтым будынку сучаснай архітэктуры праходзіў паядынак сяброўшахматыстаў.

* * *

*Як бы ні падабалася нам Адрыятычнае мора, вельмі хутка* высветлілася, што ў Рыецы нам менш за ўсё давядзецца купацца і грэцца на сонейку. Напорадзе быў напружаны і жорсткі па рэгламенту шахматны матч.

Трэба сказаць, што перад пачаткам гэтага матча югаслаўскі шахматны друк быў настроены вельмі аптымістычна. Праўда, да гэтага часу заўсёды перамагалі савецкія шахматысты, але на гэты раз у камандзе СССР не было ні Ц. Петрасяна, ні М. Батвінніка, ні М. Таля, ні В. Смыслова, ні некаторых іншых гросмайстраў. А югаславы выставілі сваіх лепшых ігракоў на чале з тройкай «мушкецёраў» — С. Глігарычам, Б. Іўкавым, А. Матанавічам. Вялікія надзеі яны ўскладалі на свайго самага маладога гросмайстра (і дарэчы аднаго з самых юных «гросаў» свету) дваццацігадовага Бруна Парма.

Каманды складаліся з трох звенняў: 8 мужчын (6 асноўных і 2 рэзерв), 3 жанчыны (1 рэзерв) і 3 «юніёры» (таксама 1 рэзерв). Шахматная грамадскасць Югаславіі лічыла, што найлепшыя шансы ў яе камандзе маюць мужчыны — падставай для гэтага, мусіць, былі гросмайстарскія «тытулы».

Забягаючы наперад, заўважым, што, як часта бывае, прагнозы не апраўдаліся... І на сёмы раз савецкія шахматысты атрымалі рашучую перамогу — 35,5 : 24,5. Асабліва вялікай перавагі дасягнулі нашы мужчыны — сем ачкоў! Толькі ў жанчын сілы і сапраўды аказаліся роўныя — 6 : 6.

Перш чым аналізаваць вынікі сустрэчы, нельга не спыніцца на некаторых яркіх эпізодах цікавых шахматных баёў.

Барацьба была на дзіва жорсткая. Часамі вынік ігры быў няясны да самага апошняга моманту. Асабіста я на падставе вопыту, скептычна стаўлюся да «няўдач» у шахматнай гульні. За недарэчнымі выпадковасцямі, як правіла, тояцца глыбокія псіхалагічныя фактары. І ўсё ж такі нам даволі часта выпадала ўдача. Узяць хоць бы партыі нашага лідэра, чэмпіёна Савецкага Саюза Віктара Карчнога. Літаральна ўсе шэсць сустрэч ён правёў «з агеньчыкам». На мяжы пройгрышу ён быў у партыях з Іўкавым, Матанавічам і Пармай, але набраў 2,5 ачка з трох!

Вядома, не абыходзілася і без гумару.

Цікавы эпізод быў у партыі Баннік — Іўкаў. Савецкі майстар, які гуляў белымі, здавалася, пасляхова дэбютаваў у міжнародным спаборніцтве. Ён атрымаў вялікую перавагу ў дэбюце і начыста абыграў свайго партнёра. Наступная пазіцыя не выклікае сумненняў.

Белыя (Баннік): Крg1, Фb6, Се3; пп: a5, c2, c3, d4, f2, g4, h5 (10).

Чорныя (Іўкаў): Кра8, Фе7, Ке6; пп: a6, b7, c4, d5, h7 (8).



У гэтым становішчы чорныя згулялі: 1. h6, і тут белыя дарэмна спакусіліся пешкай. 2. С : h6? адбылося нечаканае 2. Кf4!! 3. С : f4 Фе1 + 4. Крg2 Фh1 +!!

Гром сярод яснага неба! Вось у чым заключаўся скрыты намер чорных. У іх «шалёны» ферзь — рэдкая з'ява для шахматнай партыі. 5. Крg3 Фh3+! Пат! Гэта здарылася на 37 ходзе, калі сцяжок чорных безнадзейна падняўся. Яшчэ імгненне, і яны не ўлажыліся б у часе. Пат жа гарантуе нічыю.

Здзіўляючы цуда-фінал у гульні майстроў!

Другі цікавы эпізод здарыўся ў трэцім туры. Мая партыя з гросмайстрам Б. Іўкавым працякала вельмі востра. Часу на цыферблатах гадзіннікаў заставалася зусім мала, і нечакана Іўкаў прапанаваў нічыю. Не бачачы патрэбы гуляць на выйгрыш, я згадзіўся. Толькі мы спынілі гадзіннікі і падпісалі бланкі, як падышоў суддзя матча Даразіл і, паказваючы на бланкі, пачаў нешта гаварыць майму партнёру. Потым — жэст суддзі, і вывешаныя «палавінкі» былі зняты... Хутка на дэманстрацыйнай

дошцы нашай партыі з'явіліся... два нулі. «У чым справа?» — спытаў я. Суддзя Даразіл адказаў: «Вы згадзіліся на нічыю на 29 ходзе, а згодна новых правіл ФІДЕ, якія прыняты месяц назад (тут ён паказаў мне інструкцыю на нямецкай мове), да 30 хода нельга згаджацца на нічыю! Вось ваша «пара» і аштрафавана. Дарэчы, — усміхнуўся ён, — вы першыя падвергліся такому штрафу!» «Гэта вельмі «пахвальна», — адказаў я, — але згадзіцеся, з-за палавіны ходу траціць цэлых паўачка, ці не вельмі строга?..» Між іншым, тут жа па два нулі «схапілі» А. Баннік і Б. Парма. Яны згадзіліся на нічыю на ... 27 ходзе. Вось табе і новыя правілы ФІДЕ!

Назаўтра мы прачыталі ў газетах: «Судак (суддзя — **А. С.**) Даразіл чатырох удзельнікаў аштрафаваў па нулю!» І тут жа ніжэй: «Судак перагледзеў сваё рашэнне: на першы раз удзельнікі памілаваны». Згодна этыкету ўсе «віноўнікі» былі выкліканы да суддзі. Перш за ўсё ён спытаў: «Вы паранейшаму згодны на нічыю?» «Квартэт» дружна кіўнуў галовамі. Наступнае пытанне было: «А ці будзеце далей так рабіць?» І зноў зладжаны, але на гэты раз адмоўны ківок. «Ну, вось і добра», — з палёгкай уздыхнуў суддзя.

Далей «мір» заключалі больш памяркоўна, і «штрафаў» больш не было.

* * *

У выхадны дзень мы ўсёй кампаніяй пайшлі на футбольны матч паміж камандай горада Рыека і вядомай белградскай камандай «Чырвена звезда», якія выступалі па класу «А». Калі пачалася гульня, мы хутка пераканаліся, што шахматныя суддзі ў Югаславіі куды больш строгія, чым футбольныя. Гульня была на дзіва рэзкая, а часам і проста грубая.

Магчыма, гэты матч быў важны ў спартыўных адносінах, бо ажыятаж на трыбунах быў вышэйшы за меркаванні. Гэта падбадзёрвала гаспадароў поля. Пры такой падтрымцы нельга было не выйграць. Ні багаты вопыт, ні такі карыфей нападзення, як вядомы форвард Косціч, не маглі выратаваць «Чырвену звезду» ад паражэння. Косцічу асабліва даставалася ад рыекцаў. Варта было яму выйсці на мяч, як раздаваліся воклічы: «Косціча на пенсію!»

Стадыён у Рыецы надзвычай маляўнічы. Галоўная трыбуна размешчана проста ўздоўж марскога берага, меншая — ля падножжа крутога схілу. Аднак энтузіясты футболу туліліся і на скалістым схіле, і на дрэвах, карэнні якіх ужо дзесяткі год як ураслі ў камяністы грунт.

Адносіны да футболу ў Югаславіі прыкладна такія ж, як і ў нас — як да любімага, хоць і не надта паслухмянага дзіцяці: яго вельмі любяць, хоць больш даводзіцца ўшчуваць, чым хваліць.

* * *

Чацвёрты раз, пачынаючы з 1956 года, зборная савецкіх шахматыстаў гасцявала ў Югаславіі. Тры разы матчы праходзілі ў нашай краіне. І па ўстаноўленай традыцыі кожны раз пасля заканчэння афіцыйных сустрэч нашы гросмайстры і майстры станавіліся ў поўным сэнсе слова турыстамі, праўда, на адзін-два дні. Удзельнікі нашай каманды раз'ехаліся ў розныя гарады краіны для выступлення з сеансамі адначасовай гульні.

Згодна праграмы, мне давялося паехаць па Адрыятыцы на маленькі востраў Раб. Было ўжо каля дзевяці гадзін вечара, калі змрок густа ўхутаў зямлю. Трэба было даць сеанс на 30 дошках і да раніцы вярнуцца ў Рыеку.



На Адрыятыцы.

Востраў Раб цягнецца ў даўжыню на 22,5 км., а ў шырыню ён 3 км. Мясцовага насельніцтва тут усяго 8 000 чалавек, 800 жыве ў галоўным і адзіным горадзе, які носіць назву вострава.

Зала была перапоўнена. Як высветлілася, гэта быў першы ў гісторыі горада Раба (дарэчы, гораду 2 000 гадоў) сеанс адначасовай гульні ў шахматы.

Мяне, як сведку матча паміж Батвіннікам і Петрасянам, папрасілі расказаць пра паядынак мацнейшых, пра новага чэмпіёна свету. Дзеля гэтага з суседняга вострава прыбыў перакладчык, які на працягу цэлай гадзіны добрасумленна «інтрадуктаваў» мае ўражанні. Асабліва ажыўлена стала ў зале, калі я сказаў, што адзін з балельшчыкаў Петрасяна ў Арменіі ў знак перамогі свайго земляка назваў тройню сваіх блізнят, якія нарадзіліся ў час матча, — Цігран, Вартан і Пятрас.

Звычайна ў Югаславіі ўдзельнікі сеансаў — даволі вопытныя шахматысты. Але тут здарыўся канфуз. Я так пастараўся, што выйграў усе 30 партый, чым прынёс адны расчараванні і ўдзельнікам і арганізатарам матча.

«Як гэта вы не «здагадаліся» звесці хоць адну нічыю, да нас жа больш не будуць запрашаць майстроў!» — гаварылі жартам мясцовыя энтузіясты шахмат. На гэта я толькі развёў рукамі і пажадаў ім «засесці» за тэорыю.

Але вынікі гульні ніякім чынам не адбіліся на нашых цёплых, прыязных адносінах. «Ну, хто ж так хутка пакідае нас? — дзівіліся мае партнёры. — Застаньцеся хоць на некалькі дзён адпачыць. Мы дадзім вам медыцынскае пасведчанне аб «хваробе».

Ладныя стронгі! Як тут не папазіраваць перад фотааб'ектывам.



— У наступны раз абавязкова! — жартам паабяцаў я.

Жыхары справядліва называюць свой востраў «райскім кутком». Надзвычай добры клімат, маляўнічыя берагі, старажытная крэпасць. За летні сезон тут адпачывае ў сярэднім каля пяці тысяч турыстаў. Між іншым, многія турысты жадалі згуляць у сеансе, але арганізатары справядліва прадаставілі гэтую магчымасць толькі сваім жыхарам.

Мне вельмі хацелася, як кажуць, хоць адным вокам паглядзець на востраў. Дзеля гэтага прыйшлося скараціць і без таго кароткі сон. Сеанс закончыўся амаль у дзве гадзіны ночы, да прыбыцця парахода заставалася менш дзвюх гадзін, і я парашыў падняцца з першым промнем сонца. Нягледзячы на такі ранні час, жыццё ўжо вірыла ўсюды. Задавалі тон, вядома, рыбакі — на востраве амаль што самы пашыраны від «спорту». Прадаўцы ягад, зеляніны, сувеніраў спяшаліся не спазніцца да парахода з турыстамі.

Прыродай Югаславіі можна доўга любавацца. Нехта справядліва заўважыў, што ў мініятуры яна нагадвае цудоўную разнастайную прыроду нашай краіны.

Але яшчэ болей запомніцца тая сардэчная цеплыня да нас, савецкіх людзей, якую мы ўвесь час адчувалі з боку гэтага мужнага і добрага народа.

Мы развіталіся, як даўнія сябры.

# Гумар і сатыра

Мікола **МАЛЯЎКА**

## ПАПЫ

Нядзелямі на званіцы
Выпрошвалі кужаль званы
Багародзіцам на спадніцы,
Архангелам на штаны.
Папы не хадзілі з касою,
Не грэлі ляйчыну ў руцэ, —
А падпяразваліся каўбасою,
Купаліся ў малацэ.
Трашчалі кашулі —
са збору
Папоўскі жывот, як капа.
На дзесяць грэшнікаў здору
Хапіла б з аднаго папа.
Пакайся —
і поп урачыста
Без мыльнага парашку
Адмые грахі ў каністры
Саракаградуснага першаку.
Другога не ўломіш за чарку,
Натураю просіць з душы,
Таргуецца, як гандлярка
Дзе-небудзь на кірмашы.
Вось толькі пад коўдрай змятай
Не спіцца папам уначы:
Плююцца нябожчыкі,
з матам
Паляпваюць іх па плячы.

★

Было шмат —
Над лістамі пацелі —
Маладых, абяцаючых, здольных,
Што, апарыўшыся, не ўзляцелі
Вышэй першых дэбютаў кантрольных.
Захапленне крытыкаў лысых
Затуманіла розум нясталы —
І экс-геніі падняліся
На кардонныя п'едэсталы.
Гаварылі пра дождж і дарогі,
А ім дождж на галовы не капаў.
Заляглі ў кватэры-бярлогі
І высмоктвалі зборнікі з лапаў.





Абкураныя фіміямам
Апладысментаў на плошчы,
Пацяжэць да двухста кілаграмаў
Камандзіраваліся к цёшчы.
Не прыходзіць натхненне —
далёка
Заблудзілася недзе ў сінечы.
І ўчарашнія іх прарокі
Адварочваюцца пры сустрэчы.

## ПАШТОВЫЯ ПЕРАВОДЫ

Багатыя мы і бедныя.
Паўмесяца на каўбасах —
І павышаных стыпендый
Падводзяць баланс у касах.
Вячэрай сухімі цытатамі —
Ні малака, ні варэння.
А добра было б з дзяўчатамі
Адзначыць дзень нараджэння!
Не выручаць хлопцы зборамі
На танныя піва-воды —
Прыходзяць,
радуюць здорава
Паштовыя пераводы.
Да хрусту выцягваеш шыю,
Вылазіш з прасторнай кашулі,
Пад ногі пусці —
не прашыецца
Яшчарка ў вестыбюлі.
Ад маці харошых, ласкавых
У час прылятаюць заўсёды
Зімовыя нашы ластаўкі —
Паштовыя пераводы.



## РАЁННЫЯ КЛАСІКІ

Рознага ўзросту і звання —
Інжынеры, калгаснікі —
З'язджаюцца на літаб'яднанне
Раённыя класікі.



— Перабралі меру,
Прычым тут,
скажыце,
куры?..
Усыпалі пенсіянеру
За лірычныя мініяцюры.
— Пра яблыкі і шпакоўні,
Не сказана пра сучасніка... —
Сінеюць пад вейкамі
поўні
Стрыжанага пяцікласніка.
— Арыгінальна! Празрыста!
А колькі,
таварышы,
цвёрдасці... —
Залысіны гумарыста
Пацеюць ад гордасці.
Астынуць крытыкі ясныя
І сухары-моваведы, —
Выводзяць машыны ўласныя,
Сціплыя веласіпеды.
Радасна ўсхваляваныя,
На заводы і пасекі
Раз'язджаюцца
не прызнаныя
Ў вобласці класікі.

## У НАСТУПНЫМ НУМАРЫ:

**Аповесць Лідзіі АРАБЕЙ «ЭКЗАМЕН».**

**Вершы Сяргея ГРАХОЎСКАГА, Петруся МАКАЛЯ,**

**Аўгінні КАВАЛЮК, Пятра СУШКО.**

**Апавяданні Міхася СТРАЛЬЦОВА.**

Мастацкі рэдактар І. Раманоўскі. Тэхрэдактар І. Краўчанка. Карэктар Л. Таўлай.

**«Молодость»**
Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал Центрального Комитета ЛКСМ Белоруссии и Союза писателей БССР.

Рукапісы не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вуліца Карла Маркса, д. 40. Тэлефон—93-854.

Фармат паперы 70×108¹/₁₆. Фізіч. друк. арк. 10. Умоўн. друк арк. 13,7. Вуч-выд. арк. 14,5. Тыраж 7445. Цана 40 кап.
АТ 09985. Здадзена ў набор 1.VII.63 г. Падпісана да друку 27.VII.63 г. Зак. 370.

Друкарня выдавецтва «Звязда», Мінск, Ленінскі праспект, 79.